4/2005



# ПОЛЫМЯ

Леанід Левановіч
ПАЛЫНОВЫ ВЕЦЕР
Раман /заканчэнне/

Уладзімір Скарынкін
Уладзімір Марук
Уладзімір Мазго
Вершы

Гамер. АДЫСЕЯ
Урывак з паэмы
Пераклад Анатоля Клышкі

Леанід Галубовіч
РЫЦАР ПАЭЗІІ
/Рэцэнзія на кнігу
Алеся Пісьмянкова/

## ПІМЕН ПАНЧАНКА

### ГЕРОЙ

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту.
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

Не ён, а другія ішлі ў атаку,
Гранаты кідалі ў бліндажы,
Калолі фрыцаў, палілі танкі
І сцяг перамогі ўзнімалі ранкам
На заваёваным рубяжы.

А ён свае косці з іржавых калючак
Сваімі рукамі без стогну аддзёр,
Зваліўся на травы, і стала балюча
І травам, і росам, і ветрам гаючым,
Што прыляцелі з валдайскіх азёр.

***1943***



60-годдзе
**ПЕРАМОГІ**

# ПОЛЫМЯ

4

(906)

2005

красавік

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2005

## ЗМЕСТ





ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.



## Уладзімір МАРУК

* * *

Раным-раненька хочацца выйсці
За абсягі таго,
што прадбачу,
Не таму,
што прадбачыў калісьці,
А таму —
што па гэтым не плачу.

Проста ўранні —
усё яшчэ рана
Запыняць сябе ў нейкім спадзеве,
Што не ўсё на зямлі паяднана,
Як атожылкі
й лісце на дрэве.

* * *

Вось стаю каля скрыпкі смычком,
Каля самай астатняе ноты,
Нават меншы,
чым выгнаны гном,
Трохі большы,
чым згадка самоты.

Нехта дасць мне напою глыток,
Што настоены толькі на цнотах...
Нібы я ўжо зусім не смычок
І зайграць не магу як па нотах.

---

***Марук Уладзімір Антонавіч*** *нарадзіўся 6 студзеня 1954 года ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1972) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1980). Працаваў у газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у выдавецтвах «Юнацтва», «Белфакс», «Мастацкая літаратура». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».*

*Аўтар кніг паэзіі «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне», «Інкрустацыя голасам» і інш.*

## ТАПОЛЯ

У макротнай даліне,
дзе сонца ніколі
Не заходзіла разам з сівым чалавекам,
Паміралі так доўга маруды-таполі,
Каб не ведаць,
што нехта быў іх дрывасекам.

У дажджлівай даліне,
дзе я прачынаўся,
Каб ізноў заставацца сваім у наўколлі,
Для кагосьці
калісьці
і свет пачынаўся
Вось з-пад гэткае самай
маруды-таполі.

* * *

Як квакаюць жабы, —
ці хочуць сурочыць? —
Ад самага рання да самага рання, —
Дык гэтак і лепшыя людзі не хочуць
Прызнацца,
што могуць прызнацца ў каханні.

І ўсё ж —
а куды я хоць трохі ні збочу, —
У траўнасць,
пад дрэвы, што моўчкі паснулі, —
Там
квакаюць жабы
да самага схочу,
Нібыта мяне аніколі не чулі.

* * *

Вы,
заступнікі-сны,
не манілі ніколі так ветліва,
Не хлусілі так стоена,
быццам хацелі забраць
Цёмны голас начы
ад яшчэ не пражытага светлага,
А каб я не даведаўся, —
так жа,
бы ў снах,
пакараць.

Але як вы,
манюкі,
маглі абхітрыць падманутага —
Гэтак спраўна лагодзіць
і соладка ўранні спяваць, —
Бо душа не бывае,
а хоць бы і ў сне,
некранутаю,
І на светлай душы
нават светлыя плямы відаць.

* * *

У сціплай кузуркі
і ціхай мурашкі
Няма насалоды найбольшай,
як воля, —
Любімыя людзі
і верныя пташкі...
І тое,
што будзе...
А можа — ніколі...

## У БАЛЬНІЦЫ

Снег у снах.
А ў вокнах завіруха —
Як адна балючая зямля...
Дастае дзядок сівы з-за вуха
Цыгарэтку.
Смаліць спакваля.

У вакно глядзім, як недарэкі,
Пазірае кожны ў свой абшар,
На свае аблокі,
дрэвы,
рэкі,
Дзе ты быў «ні госць, ні гаспадар»*.

Ну а дзень знябыўся да хвіліны,
І на волю молімся паспець,
Быццам гэты дзень і ёсць адзіны,
Здолеем які мы зразумець.

---

* Назва твора Лукаша Калюгі.

* * *

Снег памкнецца за мной,
зазіраючы ў вочы,
Але я азірацца не буду бясконца,
Каб яго не злякаць,
і хоць чым не сурочыць,
Ды наклікаць на ранні
сляплівае сонца.

Снег памкнецца за мной.
След няроўны прысыпле,
Але й сам таго следу назаўтра не ўбачыць,
Але й сам не пакліча,
таемна не рыпне...
Снег растане.
І я па сабе не заплачу.

* * *

І сягоння вецер —
госць часовы.
Адзвіняць пад вечар каласы.
Выкрадаюць з гэтай ночы совы
Колеры, агні і галасы.

Ані зоркі ў небе,
толькі хмары,
А наўкола цемрадзь,
як сцяна.
І туман аблізвае на твары
Слізкі пацалунак кажана.

І захочаш моўчкі затаіцца
Сярод гэтых дрэў,
што не відны...
Тут у соваў
не інакш — сталіца
І здавён балююць кажаны.

Ды на гэтым пракаветным свяце,
Што гады не здольна паяднаць,
Ты стаіш,
як новае распяцце,
На якім нікога не пазнаць.

* * *

Светлы агонь
у вакне ў Вельзевула.
І неадольная зорная неруш.

Памяць аціхла,
і літасць заснула.
І,
як нікому,
сабе ўжо не верыш.

Вецер з бясконцага
дзікага поля
Пераварочвае ў небе каменне...
Вольнаму —
сіла,
а дужаму —
воля,
Ды ані сілы,
ні волі не вернеш.

* * *

Сівею,
як тыя нябёсы,
Дзе ўкралі ад вечнай сінечы...
Ды, брыдкі,
няўдалы
і босы,
Чакаю з сабою сустрэчы.

Сівею так доўга-зацята,
Ажно сівізны не хапае,
Ажно адвярнулася хата,
На ўсе свае вокны сляпая.

Ды пташчыны вочы напроці
Глядзяць у мае
гэтак смела,
Што грэх мне саромецца плоці,
Калі ўжо й душа пасівела.

## АТАВА

Гэта цень мае скроні крануў,
Як апошні на свеце прашатай,
Калі я непрытомна заснуў,
Счараваны ўтрапёнай Гекатай.

Казытала мой твар асака,
Што адвеку пяе над ракою,
І Гекаты халоднай рука
Не была незямною рукою.

А падвялай атавы цяпло
Сагравала,
бы дома падушка,
І пра ўсё,
што са мной не было,
Цэлы свет мне нашэптваў на вушка.

* * *

А зумкія-зумкія дзікія пчолы
Не хочуць сягоння ані зразумець,
Што я,
як яны,
і забыты, й вясёлы,
Не думаю —
можна ці не́ памудрэць.

Сную ў вольных марах
між траваў і зёлак,
Дзе нельга нікога пра вечнасць спытаць,
Ды веру,
што самы старэнькі анёлак
Мне дасць свае крылы
хоць раз палятаць.

* * *

Пахне мелісай
і золкаю мятай
Нават у скверыку гэтым абрыдлым,
Дзе летуценні над хвояй крылатай
Склалі свае
хутаранскія скрыдлы.

Холадна ў мятна-мелісавым скверы,
Моцы няма перад ветрам сагнуцца...
Вечнае дрэва,
рыпучыя дзверы...
Можна зайсці...
А ці можна вярнуцца?..

* * *

Убачыць хоць раз на дасвецці
Твае паімкнуўся сляды, —
Дзе бегалі босыя дзеці
Ў свае залатыя гады.

Ды там —
ані кволага следу,
Адно —
мурава ды мурог...

І верас, —
каб я і не ведаў, —
Узяў ды й надоўга прысох.

* * *

Ты застанься,
калі застанешся
Хоць на самую кволую хвілю, —
Будзе нешта вялікае з Нешта:
Пах вяргіні —
амброзаю крылаў.

А на пах дабраноўны
ды ранні
Азірніся,
бы ты й гаспадарыў,
Папрасі,
каб сустрэцца з расстаннем,
У якім не відаць твайго твару.

* * *

У горле пачую твае адгалоскі,
А потым у мроях,
а потым...
нідзе...
Ляцяць у прадонне кахання пялёсткі,
Ды нават і Парка
з іх лёс не спрадзе.

* * *

Пастарайся глядзець без жалю
На мае смяшлівыя вусны,
Я паглядам калі і ўджалю —
Па-бальнічнаму,
не распусна.

А калі і скажу хоць слова,
У якім не мае дыханне, —
Ты задумайся,
ці гатова
Піць маё і сваё адхланне.

А калі замоўкну наўпрэкі
І ў вачах захлюпоча слота, —
Не палохайся —
гэта не здзекі.
І не я.
А мая істота.

* * *

Я люблю сваю сталасць,
                    як страсць,
Ад якой не адвернецца храм.
Ад яе адкаснуцца не дасць
Аніхто...
          Калі толькі не сам...

Гэту страсць,
               як сабе ні кажы,
Я чакаў,
          як з адверглым зліцця,
Хоць мяжа ёсць...
                    Ды гэтай мяжы
Не было
          і не будзе ў жыцця.







ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ

# ПАЛЫНОВЫ ВЕЦЕР

*Раман**

## VII

Ужо другі месяц Андрэй Сахута быў беспрацоўны. Ён раптам займеў гэтулькі вольнага часу! Свайго лецішча не нажыў і машыны ўласнай не прыдбаў. Самы што ні на ёсць пралетарый. Нават горш, бо бедны пралетарый звычайна меў сталую працу. Хай заробак малы, але атрымліваў яго штомесяц: спярша — аванс, а потым — канчатковы разлік, бывала, і прагрэсіўку меў, а потым і трынаццатую зарплату. На хлеб, на кефір, на «чарніла», а то і на пляшку «белай» хапала. А ў яго, Сахуты, нічога. Вольны казак!

Ада на першым часе супакойвала: не перажывай, адпачні, ёй нават падабалася, што муж нарэшце дома і ўранні, і ўвечары, можа схадзіць у магазін, пагуляць з унукам. Але што б ён ні рабіў, чым бы ні займаўся, у галаве, нібы ржавы цвік, сядзела думка: што далей? Як жыць? Дзе знайсці работу?

Першыя дні яму было сорамна выйсці на вуліцу, нікога не хацелася бачыць. Калі ішоў у магазін, здавалася, што з усіх вокнаў з прыхаванай радасцю пазіраюць суседзі: ага, камуняка, цяпер зведаеш, як людзі жывуць, замест каньяку папіваеш кефірчык. Раней ты бачыў жыццё з акна машыны, з абкамаўскага кабінета ды з прэзідыума горда пазіраў у залу...

Аднойчы Сахута, упершыню ў жыцці, пайшоў у сваю раённую паліклініку да ўчастковага тэрапеўта: даймае ціск, бяссонне мучыць. Пайшоў пешкі, бо на тралейбусе ехаць, дык трэба прабіваць талончык, а талончык трэба купіць, а ён, Сахута, грошай не зарабляе, ён — беспрацоўны. І на кожным кроку жыццё паказвала яму дулю, нібы здзекавалася: а, ты не душыўся ў гарадскім транспарце, цяпер паспрабуеш, паціскаюць цябе, галубочка...

Новы сяміпавярховы будынак паліклінікі Сахута добра ведаў: часта праязджаў міма на машыне, але ніколі ў яго не заходзіў. Цяпер падышоў, прыстоіўся перад прыступкамі высокага ганка: мільганула думка, што будоўляй гэтай паліклінікі, як і ўсім жыццём, кіравалі камуністы. І ён, Андрэй Сахута, калі быў першым сакратаром райкама, і потым у абкаме — заўсёды думаў пра людзей. Дык чаму ж цяпер розныя гарлапаны панавешвалі сабак на партыю? А значыць і на яго, Андрэя Сахуту, чэснага, сумленнага, адданага працаўніка. Чаму зламалі ягоны лёс, ягоную кар'еру?

Але варухнулася ў глыбіні душы іншая думка: вось няма райкама, абкама і ЦК, а жыццё не спынілася, і паліклініка працуе, і трамваі, тралейбусы ходзяць, у магазінах ёсць хлеб і малако, і нават чэргі паменелі,

* Заканчэнне. Пачатак у № 3, 2005 г.

але не таму, што паболела харчоў і тавараў, не, проста ў людзей паменела грошай.

У даволі прасторным, цемнаватым вестыбюлі — Сахута адразу адзначыў, што нізкаватая столь будыніны прыгнятае чалавека, — ён адшукаў акенца рэгістратуры, спытаўся, ці ёсць талончыкі да ўчастковага тэрапеўта.

— Да ўчастковага можна без талончыка, — буркнула стомленая хударлявая кабета. — Заказвайце картку, і ўсё...

Картку... Яе ж трэба мець. Так, у яго была картка ў лечкамісіі. І ўчастковы доктар, дзябёлая, пышнагрудая ўсмешлівая Зінаіда Іванаўна. О, як часта яна тэлефанавала, клапацілася пра здароўе высокага партыйнага функцыянера. «Андрэй Мацвеевіч, вы пра нас зусім забыліся. Трэба прайсці агляд. Аналізы здаць. Флюараграфію», — лагодным голасам буркавала ў слухаўку персанальная дактарка. Сахута даўным-даўно забыўся на чаргу ў паліклініцы.

Андрэй наблізіўся да акенца, разгубіўся, не ведаючы, з чаго пачаць.

— Што вам, малады чалавек? — зірнула на яго кабета ў акулярах. — Гаварыце хутчэй.

— Мне трэба завесці картку. Іду да ўчастковага тэрапеўта.

Ён падаў у акенца пашпарт. Кабета пагартала дакумент, здзіўлена прамовіла:

— Даўно тут жывяце. А картку дасюль не завялі.

— Не было калі хварэць.

— А некаторым дык падабаецца хварэць. Дзе вы працуеце?

— Беларускае тэлебачанне... Старшы інжынер, — схлусіў ён.

Схлусіць вырашыў яшчэ ідучы ў паліклініку, бо прызнацца, што беспрацоўны, язык не павярнуўся б. А тэлебачанне ён ведае, бываў там, сябра працуе. Ведае, з якой павагаю некаторыя людзі ставяцца да блакітнага экрана: ён сябра сям'і, галоўны дарадчык і суразмоўнік. Андрэй адчуваў, што вушы ягоныя ўспыхнулі чырванню, як у нашкодзіўшага першакласніка, але кабета гэтага не заўважыла, яна таропка выпісвала картку, бо чарга да акенца імгненна падрасла.

— Ідзіце на трэці паверх. Картку перададзім, — жанчына назвала нумар кабінета, у якім прымае ўчастковы тэрапеўт. — А гэта талончык на флюараграфію. Пастарайцеся сёння зрабіць. Гэта тут, на першым паверсе.

Андрэй шчыра дзякаваў рэгістратарцы, якая даволі ветліва ўсё яму растлумачыла, і між іншым усыпала камунякам, а значыць і яму, былому сакратару абкама.

Ля дзвярэй кабінета флюараграфіі, стаяла доўгая чарга. Андрэй прыткнуўся ў канцы яе, міжволі ўздыхнуў. Пажылая жанчына, якая стаяла перад ім, павярнулася, зразумела ягоны ўздых, супакоіла:

— Тут хутка. Зрабіць здымак — мінутнае дзела. Запускае адразу па чатыры чалавекі. А вы да якога доктара?

— Да ўчастковага.

— Гэта доўга. Вы і там займіце чаргу, а тады сюды. Я скажу, што вы за мною...

Андрэй паслухаўся мудрай парады, пакіраваў на трэці паверх. У паўцёмным калідоры на вузкіх тапчанах паўз сцены сядзела шмат людзей. Знайшоў патрэбны кабінет, спытаўся, хто апошні.

— Я! — ускінуў руку, нібы пачухаў за вухам, даволі малады вусаты мужчына.

— І гэта ўсе сюды? — здзівіўся Андрэй, бо налічыў ажно сем чалавек.

— Ну так, усе, — змрочна адказаў вусаты.

— А хто перад вамі? — вусаты тыцнуў рукою на жанчыну ў чырвонай кофце. — Будзьце дабры... Ну, скажыце, што я за вамі. Трэба здымак зрабіць. Флюараграфію прайсці.

— Добра, ідзіце. Тут надоўга. Можаце і піўка выпіць, — павесялелым голасам адказаў вусаты мужчына.

Андрэй адчуў, што яму зрабілася горача, патыліца налівалася свінцовым цяжарам, хоць уранні ён каўтнуў таблетку адэльфану. Адчуў, як зашчымела, сціснула за грудзінаю, намацаў у кішэні валідол, павольна пасунуўся на першы паверх. Чарга там паменела, неўзабаве Андрэй апынуўся ў паўцёмным калідорчыку.

— Распранайцеся. Вешайце на крэсла... Майку можна не здымаць, — камандаваў жаночы голас. — Заходзьце ў кабіначку. Рукі ўбок. Падбародачак вышэй. Так, не дыхаць і не варушыцца. Усё, гатова.

Хоць бы на якія сухоты не захварэць, варухнулася трывожная думка, бо апошнім часам дужа змрочна ў яго на душы, а невясёлы настрой нікому здароўя не прыдае.

Амаль праз тры гадзіны Андрэй Сахута вяртаўся з палiклінікі. Адчуваў сябе зусім пагана. Стаміўся ў чарзе перад дзвярыма ўчастковага доктара, а ў ягоным кабінеце быў зусім нядоўга. Той коратка выслухаў скаргі хворага, памераў ціск — таномeтр «націскаў» сто семдзесят на дзевяноста. Доктар спытаўся, які рабочы ціск. «Сто сорак на восемдзесят». Навыпісваў розных таблетак, параіў часцей выязджаць за горад, болей ха-дзіць, раней класціся спаць, карацей, весці здаровы лад жыцця.

Апошнім часам Андрэй рана ўставаў. Калі ўдавалася заснуць з вечара, дык чуўся лепей, а бывала, што цалюткую ноч качаўся без сну. Тады ўвесь дзень балела галава, у якой біўся рой неадчэпных думак: як жыць далей, што рабіць, дзе знайсці работу. А найперш мучыла балючае пытанне: чаму ўсё так раптоўна абрынулася? Чаму рухнула гэткая магутная звышдзяржава? Чаму рассыпалася гэткая маналітная, ідэйна згуртаваная шматмільённая камуністычная партыя?..

Адказу не знаходзіў. Але ўсё болей пераконваўся, што развал не быў раптоўны, усё наспявала даўно. Гады тры таму ён пачаў прыкмячаць, што ў краіне нешта робіцца не так, што распачатая перабудова не спрыяе ўмацаванню, а наадварот — разбурае эканоміку, падрывае ідэалагічныя апоры грамадства. Па радыё і тэлебачанні ўсё болей гаварылася пра агульначалавечыя каштоўнасці і ўсё меней пра камунізм, пра ідэалагічную работу. Гаварыць пра ідэалогію саромеліся нават самі ідэолагі. І гэты подых, гэты вецер дзьмуў з Усходу, з самой белакаменнай. А потым у ЦК КПБ кінуліся мяняць назву ідэалагічнага аддзела на гуманітарны, інструктары яго ў адзін момант зрабіліся кансультантамі. І ў абкаме на Андрэя Сахуту пазіралі як на чалавека, які нічога не робіць: ні прамысловасць, ні сельскую гаспадарку ён не курыруе, кадры не падбірае, адно займаецца балбатнёй. А ў сучасным грамадстве, якое на ўсіх ветразях імчыць у дэмакратыю, месца для артадаксальных дэмагогаў няма.

Яшчэ вастрэй ён адчуў перамены, калі жонка аднойчы сказала:

— Шукай ты сабе іншую работу. Нікому не патрэбная твая ідэалогія. Балбатня гэта ўсім абрыдла...

— Ты сама да гэтага дадумалася? Ці з чужога голасу спяваеш?

— У мяне свая думка. І людзі пра гэта кажуць... І пішуць у газетах. Пачытай «Камсамолку». Там адкрытым тэкстам сказана... Ну, не так у лоб. Але сэнс такі, як кажу...

Пасля паражэння на выбарах Андрэй Сахута ўсё часцей думаў пра сваю будучыню і перспектывы будаўніцтва камунізму. І ягоная будучыня, і перспектывы камунізму рабіліся ўсё болей туманнымі і расплывістымі. І ён стаў усё радзей усміхацца, вакол вачэй з кожным днём гусцела сетка дробных зморшчынак, ад носа да куточкаў вуснаў усё глыбей праразалася зморшчына-падкова, глыбокая і скрушная.

Ішоў час. Штодня тэлефанаваў Андрэй былым калегам, таварышам, ці ёсць у каго на прыкмеце вакансія, дзе б льга было ўладкавацца. Яму спачувалі, супакойвалі, абяцалі пашукаць, але канкрэтных прапаноў не было. Нібы абухом па галаве ўдарыла вестка аб смерці адказнага супрацоўніка ЦК КПБ Сямёна Міхнюка, які некалі вадзіў Сахуту на гутарку да Ціхана Кісялёва, тагачаснага першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі. Сахуту тады абралі першым сакратаром райкама. Сямён Міхнюк не дажыў два гады да пенсіі, зваліў адданага партыйца інфаркт. «Мусіць, і мяне чакае гэткі лёс», — са скрухаю і абыякавасцю падумаў Андрэй, бо з кожным днём адчуваў сябе горш. Ада кожны вечар наладжвала допыт: каму тэлефанаваў, хто што абяцае. І амаль кожны вечар усчынаўся скандал: я табе даўно гаварыла, каб шукаў работу, а ты ўсё нечага чакаў, вось і дачакаўся. Апынуўся ля разбітага карыта...

Балюча перажываў Андрэй з-за адсутнасці маральнай падтрымкі дзяцей, яны сталі радзей заходзіць да іх. Сын Дзяніс зрэдку званіў, суцяшаў, маўляў, не перажывай, бацька, усё ўладзіцца, але ні разу не прапанаваў грошай, нават не спытаўся, можа, дапамагчы. Надзя сама жыла цяжкавата, адна гадавала дзіця.

Упершыню ў жыцці, маючы гэтулькі вольнага часу, Андрэй узяўся за кнігі. Чытаў розныя, а найперш пацягнула да беларускай літаратуры. Перачытаў Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», нанава адкрыў для сябе Купалу. Чытаў яго вершы, паэмы, публіцыстычныя артыкулы пра незалежнасць, самастойнасць Беларусі і дзівіўся, як надзённа яны гучаць зараз. Неяк сказаў пра гэта сябру Пятру Махавікову, той ажно ўзрадаваўся:

— Ага, дайшло да цябе! Ну што ж, лепш пазней, чым ніколі...

Пятро тэлефанаваў часта, вечарамі заязджаў, заўсёды браў з сабою пляшку гарэлкі, а то і каньяку, яблыкі ці лімоны. Доўга гутарылі, спрачаліся.

Неяк увечары патэлефанаваў Мікола Шандабыла з Магілёва. Пагаварылі пра жыццё-быццё, ён і раней тэлефанаваў, супакойваў, каб дужа не браў да галавы, праца знойдзецца.

— Колькі тваёй Браніславаўне да пенсіі?

— Два гады. А мне цэлых сем.

— Так, табе яшчэ, як меднаму кацялку. Ну, дык гэта ж добра! Малады мужык. Яшчэ напрацуешся. Толькі не бядуй. А то... На днях мы тут пахавалі аднаго сакратара райкама. Сорак гадоў чалавеку. Інфаркт. Жонка, сцерва, пілаваць узялася... Даканала. Яму і без яе было мутарна. Кошкі ду-

шу скрэблі.. Слухай, а з'ездзі ты дамоў. Я чуў, Марына з Бравусавым жывуць прыпяваючы. У Лабанаўцы намячаецца вакансія. Галоўны ляснічы лясгаса збіраецца на пенсію. Магу сасватаць цябе. А з пасады галоўнага ляснічага можна і ў Мінск сігануць, у міністэрства... У Лабанаўцы старшынёй выканкама зараз Толя Раковіч. Зрабілі мы фінт. Ранейшага старшыню забралі ў Магілёў. У яго пенсія на носе. Даўно прасіўся... А Раковіч малады, талковы хлопец. Хай кіруе. Гаварылі з ім пра цябе. Падтрымка будзе. Надумаеш ехаць, звякні яму. Машыну падашле к поезду. Што табе па начы цягацца...

Андрэй падзякаваў земляку, сказаў, што абдумае прапанову.

Доўга думаць не было часу. Ён схапіўся за гэтую прапанову, як тапелец за саломінку. Збіраўся паехаць на радзіму раней, але жонка адгаварыла, маўляў, што ты там выседзіш у радыяцыйнай вёсцы. Цяпер ён вырашыў не адкладваць і дні праз два выбраўся ў дарогу.

Білет Андрэй узяў у плацкартны вагон: усё-ткі трохі танней, ды і меней шанцаў сустрэць каго са знаёмых, бо начальнікі ездзяць звычайна ў купэйных вагонах. Людзей набілася, як семак у гарбуз. Праз гадзіну-дзве пасажыры пачалі выходзіць. Андрэй ні з кім не пачынаў размоў, чытаў газету, разгадаў амаль усю крыжаванку.

У Магілёве мелася быць сустрэча з земляком Міколам Шандабылам. Цвёрда зямляк не абяцаў, бо ў той дзень праводзілася нарада, якая магла зацягнуцца. У душы Андрэю вельмі хацелася пабачыцца з сябрам, бо цяпер, як ніколі раней, яму патрэбна была падтрымка, сяброўская парада: зямля як захісталася пад ягонымі нагамі ў дні ГКЧП, так і не меў ён цвёрдасці, пэўнасці ў сваім становішчы беспрацоўнага партыйнага функцыянера. Падлівала смалы ў агонь і жонка, якая дужа нецярпліва чакала, калі ён знойдзе работу. Дапякала, што не пагадзіўся з прапановай Гарошкі — пайсці ў ягоную фірму намеснікам па збыце і забеспячэнні, кіраўніком службы маркетынгу.

Гарошка здзівіў. Андрэй лічыў, што былы другі сакратар райкама затаіў крыўду, калі яго, Андрэя, абралі першым, бо на гэтую пасаду прэтэндаваў Гарошка. Раней іх звязвалі нармальныя, таварыскія стасункі: Андрэй Сахута — старшыня райвыканкама, Гарошка — другі сакратар, іх яднала агульная справа. А тут сітуацыя памянялася: Гарошка зрабіўся падначаленым, падкрэслена ўгодлівым і паслухмяным. Сахута стараўся нічым не пакрыўдзіць таварыша па партыі. Гады два яны працавалі разам, даволі дружна і зладжана, але ранейшай цеплыні і таварыскасці ў іх не было. Потым Гарошка перайшоў у гаркам на пасаду загадчыка аддзела. На пачатку дзевяноста першага, калі адчуў, што ў паветры запахла смажаным, на імя жонкі, інжынера па адукацыі, зарэгістраваў фірму, якая пачала вырабляць лічыльнікі гарачай і халоднай вады. Прадукцыя патрэбная, фірма набірала сілу. Гарошка расправіў плечы. Пасля ГКЧП ён і патэлефанаваў Андрэю: падаў руку дапамогі. Ада ўхапілася за гэтую прапанову: «Згаджайся, твая лясная прафесія ў горадзе мала дзе патрэбна». Праўда, яму абяцалі пасаду ў Міністэрстве лясной гаспадаркі — міністра ён даўно ведаў. Гэта была адна з прычын нежадання ісці да Гарошкі. А другая была іншага кшталту: Андрэй у глыбіні душы баяўся, што былы ягоны падначалены хоча пацешыць сваё самалюбства: «Ты некалі камандаваў мною, а цяпер я пакамандую, ды так, як захачу, бо ніякі прафсаюз, не тое, што партбюро, цябе не абароніць».

Але на вакантную пасаду ў міністэрства ўзялі чалавека з ЦК. Жонка як дачулася пра гэта, учыніла скандал: Андрэй і Ада ўпершыню моцна пасварыліся. Ён пашкадаваў, што не мае «запаснога аэрадрома» — палюбоўніцы, да якой можна было б пайсці.

У Магілёў цягнік прылескатаў надвячоркам. Стаяў ён тут ажно дваццаць хвілін, таму і дамовіліся сустрэцца з Міколам Шандабылам. Услед за пасажырамі Андрэй выйшаў з вагона і адразу ўбачыў земляка, які валюхаўся насустрач. Высокі, мажны, чырванатвары, у шыкоўным светла-шэрым касцюме, але без гальштука — каўнер ружаватай кашулі быў расшпілены. Кашуля ружаватага колеру невыпадковая: каб не так у вочы кідалася чырвань твару. Гэтая чырвань, гладкасць і шырыня, а таксама круглае чэрава, што выпірала з-пад пінжака, яскрава сведчылі, што намеснік старшыні аблвыканкама па чарнобыльскіх праблемах з поспехам перамагае радыяцыю. Сваім выглядам ён пераконваў: «Вось я, матаюся па зоне, амаль кожны дзень бываю ў камандзіроўках, у адселеных вёсках — днюю і начую на забруджанай тэрыторыі, а мяне і чорт не бярэ».

Хіба можна было пазнаць у ім таго адчайна хвацкага танцора і гарманіста, зграбнага, лёгкага і з касою на сенажаці, і на вечарынцы ў скоках? Землякі абняліся. Мікалай Арцёмавіч паляпаў Андрэя па плячы, пільна зірнуў у вочы, быццам шукаў прыкметы суму і душэўных згрызот у беспрацоўнага абкамаўца. І вядома ж, знайшоў іх, бо Андрэй пахудзеў за апошні час, і плечы неяк па-старэчы апусціліся. Але прамовіў зямляк знарочыста весела:

— Ну, выглядаеш бадзёра. Малайцом! Не бядуй! Усё ўтрасецца. Ліха перамелецца, і зноў добра будзе.

— Ой, мусіць, доўга ліха будзе гаспадарыць, — міжволі ўздыхнуў Андрэй.

— Дарагі мой, ніхто гэтага не ведае. Вось уладкуешся на працу. Падтрымку гарантую. Ты пазваніў Раковічу?

— Не знайшоў я яго, — схлусіў Андрэй, бо і не шукаў — пасароме́ўся. — Недзе на раёне быў...

— Дарэмна... Ну, я зараз на кватэру патэлефаную.

Развіталіся без абдымкаў. Міколу было няёмка, што не запрашае Сахуту ў госці, не шукае для яго вакансіі ў абласным цэнтры. Але ён і сам чуўся на сваёй пасадзе няпэўна, бо і так ужо тры гады пасля пенсіі працуе. Сёй-той з былых абкамаўцаў і гарадскіх партыйных дзеячаў не супраць заняць яго крэсла, праўда, з насцярогаю, бо ездзіць у зону нікому дужа не карціць.

Далей Андрэй ехаў адзін у купэ. Углядаўся ў акно, нібы прыліп да яго. Пачаўся лес. Дрэвы то адбягаліся на якую вярсту ад чыгункі, то зноў абступалі рэйкі з абодвух бакоў. Лес быў найбольш змешаны: бярозы, асіны, старыя таўшчэзныя вольхі раскашавалі, як пані.

Зрэдку на ўскрайку высіліся дубы. Яны злёгку зачырванеліся, яшчэ не хацелі паддавацца павевам восені. Затое асіны ўжо ўспыхнулі барвовым полымем, зажаўцеліся бярозы. Пачыналася залатое бабіна лета. Зыркае вечаровае сонца, нібы пражэктар, высвятляла і паваленыя дрэвы, і лаўжы — не прыбранае, не спаленае голле. Вочы не хацелі гэта прыкмячаць, яны любаваліся хараством верхняга ярусу лесу.

Андрэй Сахута любіў час бабінага лета. Любіў празрыстасць паветра, чысціню высокага неба, шматколернае восеньскае ўбранне і нейкую сцішанасць у прыродзе, якая перадавалася і чалавеку. Лёгкі сум апаноўваў душу: адляцела ў вырай разам з птушкамі яшчэ адно лета, наперадзе доўгая зіма, але пасля яе абавязкова надыдзе вясна, усё жывое расцвіце, акрыяе душою і целам чалавек. Вясною ніхто не хоча паміраць. Жыць, красаваць і радавацца імкнецца ўсё жывое.

Але на гэты раз бабіна лета мала радавала Андрэя. І на душы не было таго ўзнёслага адчування, таго хвалявання, якое ахоплівала, калі ехаў на сваю малую радзіму. Тады заўсёды здавалася: чым бліжэй родная вёска, тым болей у паветры кіслароду. Цяпер на душы было маркотна, трывога, невядомасць і няпэўнасць псавалі настрой, тачылі сэрца.

На станцыю Андрэй Сахута прыехаў пасля поўначы. Каля дзесятка чалавек выйшлі з вагона, ён ступіў на перон апошні, адразу адчуў подых вільготнага пругкага ветру.

— Андрэй Мацвеевіч! Добры вечар. З прыездам, — перад ім стаяў высокі плячысты мужчына ў цёмным плашчы. — Пазналі? Раковіч.

— Анатоль Мікалаевіч! Добры вечар! Дзякуй за сустрэчу. Прызнацца, не чакаў... — пацісnуў працягнутую руку, нават захацелася абняць земляка, але стрымаўся: яны ўсё-ткі малазнаёмыя.

Мабыць, Раковіч адчуў гэты душэўны парыў госця, бо ён далікатна абняў Сахуту за плечы і павёў да машыны. Вадзіцеля не было, Раковіч сам сеў за руль «Волгі».

— А памятаеце, Андрэй Мацвеевіч, як выцягваў трактарам ваш «газон». Вы тады агітбрыгаду прывозілі на адкрыццё клуба...

— Памятаю. Незабыўная была паездка. І вечар такі вясёлы... Канцэрт. Як ваш бацька маецца?

— За семдзесят пераваліла. На пенсіі. Яшчэ тупае па гаспадарцы. Пчол трымае. А прыязджалі вы... Здаецца, гэта быў шэсцьдзесят першы год. Я скончыў школу. Паступаў у інстытут механізацыі. Заваліў. Бацька адмацюкаў. Пасадзіў на трактар. Вось, кажа, паўкалваеш зіму, вясну, дык захочаш вучыцца. Так яно і было. На другі год паступіў... І вось ужо трыццаць прамільгнула...

Андрэй Сахута яскрава ўзгадаў той далёкі восеньскі вечар. Як ехалі ў перапоўненым райкамаўскім «газіку», ён быў за рулём, як забуксавалі, пайшлі па гразі пехатою, як сустракалі іх вяскоўцы. Потым канцэрт, пачастунак, вясёлыя скокі, асабліва вылучаўся шчаслівы старшыня калгаса Мікалай Раковіч. Згадаў Сахута і незабыўны пацалунак дзяўчыны-камсорга, яе прызнанне, што першы раз сама цалавала хлопца, свайго начальніка — ён быў тады першым сакратаром райкама камсамола — ды яшчэ жанатага.

— Там была ў вас камсоргам дзяўчына. Здаецца, Палінаю звалі... Аграномам працавала. Не ведаеце, дзе яна?

— Чаму ж не? Ведаю. Яна цяпер дырэктар школы ў Лабанаўцы. Не пашчасціла ёй. Летась памёр муж. Гады тры да пенсіі заставалася. Не хварэў. І ў чарку дужа не ўлягаў. Ён быў начальнікам энергасетак. Так сказаць, галоўны электрык раёна. Лёг спаць і не прачнуўся. Інфаркт... А Паліне Максімаўне мінулаю вясной споўнілася пяцьдзесят... Шумна, весела адзначылі залаты юбілей... І вось засталася адна...

Раковіч апавядаў пра яе дзяцей. Андрэй слухаў няўважліва, у яго адразу мільганула думка, што трэба з ёй сустрэцца... Цікава, якая яна цяпер?

Уваччу паўстала весялуха з цёмна-карымі вачыма і з пушыстаю тоўстай касой. Увесь вечар ён скакаў з ёй, горача пацалаваўся — потым дакараў сябе: хіба можна цалаваць другую, калі маеш жонку, маладую, прыгожую, каханую, адзіную... Згадаў, як сядзелі за сталом пасля канцэрта: Поля прыціскалася да ягонай нагі гарачым каленам... І вось ужо, як адзначыў Раковіч, прамільгнула тры дзесяцігоддзі. Як ляціць час!

— Месцаў у гасцініцы няма. Пераначуеце ў мяне. На цэмзаводзе збудавалі гасцініцу. Але не давялі да ладу. І завод меліся пусціць сёлета. Мабыць, не ўдасца. Пастаўкі абсталявання зрываюцца. Грошай няма. Акапян, дырэктар завода, ад перажыванняў злёг у бальніцу. Некалі ягоны бацька быў тут першым сакратаром райкама партыі...

Назаўтра ў кабінеце Раковіча Сахута знаёміўся са сваім будучым шэфам — дырэктарам лясгаса. Невысокі, шчуплаваты, пад тонкім дзюбаватым носам цямнеліся кароткія вусы.

— Капуцкі Іосіф Францавіч, — падаў вузкую цвёрдую далонь.

Андрэй Сахута назваў сябе, шчыра паціснуў дырэктараву руку, быццам гаварыў: хачу, каб у нас былі таварыскія стасункі, я не прыехаў цябе падседжваць, хоць і мясцовае начальства, і вышэйшае — мае сябры і землякі. У круглых цёмных вачах дырэктара убачыў прыхаваную насцярожанасць: чаго прыляцела сюды гэтая сталічная птаха? Ён ведаў пра Сахуту куды болей, чым Сахута пра яго.

Хітры Раковіч сказаў, што яму трэба на хвілінку адлучыцца, выйшаў з кабінета, каб калегі-лесаводы знаёміліся без яго. Неўзабаве Сахута ведаў, што Капуцкі родам з Ашмян, прыехаў сюды пасля інстытута, працаваў памочнікам ляснічага, потым падняўся па службовай прыступцы — стаў ляснічым. На гэтай пасадзе адрабіў сем гадоў, затым прызначылі яго галоўным ляснічым, і вось ужо чацвёрты год працуе дырэктарам лясгаса.

— А я пасля тэхнікума пачаў свой жыццёвы шлях памочнікам ляснічага ў Лясковічах. Месяцы тры адпрацаваў — узялі ў армію. Вярнуўся са службы. Можа, з паўгода адрабіў, абралі сакратаром райкама камсамола. А потым — абкам камсамола, ЦК, у Мінску — райвыканкам, райкам, абкам... Ну, а тут вядомыя вам падзеі. І застаўся я пры сваіх...

— Я чуў пра вас. Нічога, неяк ўсё ўтрасецца. Лес шуміць... Працы нам хопіць, — разважліва сказаў Капуцкі.

Знешне Капуцкі быў вельмі спакойны, але ў ягонай галаве мітусіўся рой думак. З аднаго боку яго задавальняў такі паварот падзей: будзе новы галоўны ляснічы, прафесійна чалавек адсталы, але жыццёвы вопыт мае, сувязі ў вобласці і ў сталіцы таксама. Дырэктарам яго пакуль што не паставяць, ды і ці захоча ён тут асесці? Кар'еру лясную рабіць яму пазнавата — пераваліла за паўсотню. А вось яму, Іосіфу Капуцкаму, самы час уцячы адсюль, з радыяцыйнай зоны. Лясгас лічыцца адным з перадавых у вобласці. За год Сахута абкатаецца тут, а ён будзе рыхтаваць сабе глебу. А раптам жонка Сахуты ўпрэцца? Пэўна, ёй не захочацца са сталіцы ехаць сюды. А мо дзеці выпхнуць, ім заўсёды мала месца.

Пытанняў у галаве Капуцкага было болей, чым адказаў. І таму ён далікатна распытаў пра сям'ю, пра жонку. Тое, што ёй усяго два гады да пенсіі, што яна тут некалі працавала, што яны тут пазнаёміліся, пабраліся шлюбам — абнадзейвала.

— Гэта ж вы родам з Хатынічаў?

— Так, мая старэйшая сястра жыве там і зараз. У адселенай вёсцы. Хачу пад'ехаць да яе. Можа, Раковіч дасць машыну.

— Можна сёння з'ездзіць. У мяне ёсць транспарт. І ў лясніцтва заскочым. Там памочнік выконвае абавязкі ляснічага. Малады хлопец. Яшчэ халасцяк. Уцякаць хоча ад радыяцыі. Ляснічы вырваўся, як птушка з клеткі. Двое малых дзяцей. Грэх трымаць было.

Андрэй слухаў і раптам яго апякла думка: а што калі пачаць працу з лясніцтва? Раз ёсць вакансія. Там некалі працаваў... Марына блізка жыве... Ада, канешне, будзе супраць. Затое не трэба вяртацца ў абрыдлы горад, бачыць спачувальныя позіркі, чакаць званкоў... Прасіць у жонкі грошай нават на піва...

— А ведаеце, Іосіф Францавіч, у мяне крамольная думка паявілася. Яшчэ і сам з ёю не абвыкся... А можа, уладкавацца пакуль што ляснічым? Раз ёсць вакансія.

— Выдатная мысля! Да першага снежня яшчэ болей як два месяцы. А чакаць і даганяць — кепская справа. Зараз едзем у лясгас. Напішаце заяву і катанём на агледзіны.

Увайшоў Раковіч.

— Прабачце, мужыкі, я з намеснікам вырашаў адну справу. Затрымаўся. Вы трохі пазнаёміліся?

— Мы хараша пагаманілі. З сённяшняга дня Андрэй Мацвеевіч заступае на працу, — з непрыхаванай радасцю паведаміў Капуцкі, маўляў, во, які я дыпламат.

— Вы што, жартуеце? На якую пасаду? — здзівіўся Раковіч.

— Ляснічым на сваёй радзіме. Дзе некалі пачынаў сваю...

Сахута шукаў патрэбнае слова і нібы спатыкнуўся. Напрошваліся варыянты: сваю біяграфію ці жыццёвую дарогу, ці дзейнасць. Але ўсе варыянты падаліся занадта пафаснымі: выходзіць, што ён за трыццаць гадоў падняўся на адну прыступку — вырас ад памочніка да ляснічага!

Раковіч, мусіць, зразумеў перажыванні, душэўны стан мінскага госця, бо паспяшаўся падбадзёрыць:

— Андрэй Мацвеевіч, у вас ёсць шанц за два-тры гады прайсці шлях ад ляснічага да міністра. Гэта варта адзначыць.

Гаспадар кабінета дастаў з сейфа пляшку каньяку «Белый аист», заказаў сакратарцы тры кубкі кавы.

Анатоль Раковіч не чакаў такога павароту і быў сапраўды рады, што высокі сталічны госць не пабаяўся радыяцыі, кідае сталіцу, каб пачаць працу на сваёй радзіме. Задаволенасць была і на твары Іосіфа Капуцкага, але ў глыбіні яго цёмных круглых вачэй затаілася нязгода са словамі старшыні райвыканкама: ён, дырэктар лясгаса, павінен ісці на павышэнне, бо ўжо наеўся радыенуклідаў, ягоная дачка хварэе на шчытавідную залозу. У душы Іосіфа Францавіча памацнела надзея, што ён вырвецца адсюль. Але зробіць гэта з годнасцю — падымецца ўгору па кар'ернай лесвіцы.

**Хроніка БЕЛТА, іншых агенцтваў свету, 1991 г.**

**3 кастрычніка.** *Пінск, Брэсцкая вобласць. Сесія гарадскога Савета вырашыла вярнуць Пінску герб, нададзены яму па Магдэбургскім праве 1 студзеня 1581 года — у перыяд кіравання Стэфана Баторыя.*

***4 кастрычніка.*** *Берлін. Германія адзначыла першую гадавіну ўз'яднання краіны. Дзень 3 кастрычніка аб'яўлены дзяржаўным святам.*

***11 кастрычніка.*** *Вільнюс. 10 кастрычніка на віленскіх могілках Панерай пахавана старэйшая беларуская пісьменніца Зоська Верас. Яе светлае жыццё пачалося 30 верасня 1892 года.*

## VIII

Першы дзень пасля адпачынку ўразіў Пятра Махавікова. І перш за ўсё — незвычайнай цішынёй на студыі. Ціха было ў павільёнах, ціха ў калідорах, маўчалі тэлефоны. За цалюткі дзень яму не пазваніў ніхто з начальства. Сказаў пра сваё ўражанне намесніку Яўгену. Той рагатнуў:

— Начальству ўсё да лампадкі. Усе кінуліся будаваць катэджы. Грызуцца за надзелы зямлі, за льготныя крэдыты. І смелыя ўсе зрабіліся. Ведаюць, што на бюро райкама не пацягнуць. У ЦК не паклічуць. Цішыня. Між іншым, цэнзарку нашу адправілі на спачын. А то ж дурнотай займалася. Памятаеш, які гвалт узняла з гэтым фільмам? Ну, дзе пра Свіслач былі кадры, а далей штаб БВА. Грэзіла табе ўляпіць страгача. А на паштоўках гэты пейзаж ва ўсю тыражавалі.

Пятро ўзгадаў тую гісторыю, калі цэнзарка гразілася зняць з эфіру перадачу. А гэта ўжо ЧП! Вялікія непрыемнасці, і перш за ўсё для галоўнага рэдактара. Куды глядзеў? Тады ён, так бы мовіць, узяў адказнасць на сябе.

— Я ў свой журнал запісала, што вас папярэдзіла. Калі хто заўважыць, будзеце адказваць, — скрыпела пільная бабуся ў тэлефонную трубку.

На шчасце, ніхто не звярнуў увагі на той кадр. Усё тады абышлося. А цяпер будзе яшчэ лепей, бо паменее валтузні вакол перадач. Хацелася верыць, што працаваць стане цікавей, вальней.

Дзень канчаўся. Пятро падсунуў бліжэй каляндар, зірнуў на свае занатоўкі: ці ўсё зрабіў? Над лічбай 30, круглай, самавітай, прыпіска драбнейшым шрыфтом: імяніны Веры, Любові, Надзеі.

З гэтай тройцы найбольш яго грэла Надзея. Веры не было, Любоў прытупілася: узрост, што ні кажы, за паўсотню пераваліла, ужо «няма таго, што раньш было...» А вось Надзея — яна памірае апошняй.

Надзея на тое, што ўсё перамелецца, перетрэцца, пераходзіцца, як цеста ў дзежцы, і жыццё ўвойдзе ў свае спрадвечныя берагі, пакоціцца звыклым ходам. Як бы ні было неспакойна, скрутна на белым свеце, жыццё не спыняецца. Пасля грому надыходзіць заціша, пасля буры-ўрагану на моры жыццёвым пануе штыль. Пятру захацелася занатаваць гэтыя развагі, дастаў кандуіт, па звычцы адгарнуў некалькі старонак назад з мэтай прачытаць іх, каб лепей пісалася далей, пра дзень сённяшні.

**4 верасня, серада.** *Раніца была цудоўная, светлая, вельмі ціхая, нейкая зажураная. А па абедзе ўзняўся вецер — значыць, будзе перамена надвор'я. У прыродзе цішыні доўга не бывае. На душы неспакойна. У Маскве на з'ездзе дэпутатаў Гарбачоў не дае нікому сказаць ні слова: аб'яўляе перапынкі — да 15 гадзін, потым да 17. Дэпутат Віктар Алкcніс параўнаў сітуацыю з 1918 годам, з разгонам «Учредительного собрания». Аб'явілі, што ў Кітай драпанулі тысячы партработнікаў і чэкістаў. На-*

*шым туды далёка, а то сыпанулі б... Зямляк Андрэй Сахута, былы сакратар абкама партыі, без працы ходзіць. Яшчэ факт: пісьменнікі Расіі дзяжураць начамі каля свайго будынка — баяцца, што яго захопіць іншая групоўка пісакаў. Дажыліся!*

**10 верасня, аўторак.** *Які туман! Здаецца, што дрэвы, хаты — усё абкладзена ватаю. Але памалу туман пачаў развейвацца, выбліснула зыркае і яшчэ даволі цёплае сонейка. І ўсё наваколле засвяцілася тонкімі ніткамі павуціння — першая прыкмета бабінага лета. Праз чатыры дні яго каляндарны пачатак. Люблю гэты час у прыродзе!*

*На мой адпачынак выпала багата гаспадарчых спраў: канчаю лазню, аббіваю сцены прымыльніка вагонкаю — азартная справа! Трэба шукаць печку, рамы на балконе трэба ўстанавіць. Кругом клопат...*

**13 верасня.** *Пасля моцнага пацяплення — пазаўчора было плюс 23° — зноў захаладала. Восень бярэ сваё. Затое ўчора прывёз два кашы апенькаў. Цудоўныя грыбы! Не было ўлетку грыбоў, можа, восень аддзячыць за цярпенне. А якая асалода збіраць апенькі! Знойдзеш пень, а ён увесь аблеплены грыбамі. Зверху яны стаяць, нібы раскрытыя парасонікі,— чыстыя, бялюткія, здаровыя, а ніжэй малыя, быццам рудавата-белыя шарыкі. Даводзіцца зразаць толькі «галоўкі» — яны самыя смачныя. Абрэжаш пень, застаюцца белыя карані, нібы працягнутыя рукі; уражанне, што пень крычыць, моліць: «Аддай мае грыбы, маё багацце!»*

**16 верасня, панядзелак.** *У выхадныя ездзілі з Евай на лецішча. Збіралі апенькі, брусніцы. Прыемны занятак. Адпачылі з карысцю. Надыхаліся паветрам, настоеным на ядлоўцы, на верасе. Ёсць у лясным паветры водар жывіцы і таямнічы, гаркава-сумны пах жоўтага бярозавага лісця.*

*Трывожыць становішча ў свеце. Заўтра пачнецца сесія нашага Вярхоўнага Савета. Каго выберуць старшынёй? Мабыць, Шушкевіча? Ці Кебіча? Будзе прэтэндаваць і доктар навук Карпенка. Мала ведаю яго. Наўрад, каб ён прайшоў. Ды і Пазняк не пройдзе.*

Пятро ўзяўся чытаць апошні запіс за 27 верасня, але перапыніў тэлефонны званок. У трубцы пачуўся басавіты голас Валодзі Клімчука, былога тэлевізійнага калегі, ён шмат гадоў працаваў галоўным рэдактарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі, а цяпер — дырэктар выдавецтва.

— Прывітанне, стары! Ты так позна сядзіш на працы? Ну і стаханавец! Засумаваў па студыі за час адпачынку? Як адпачыў?

— Нармалёва. І грыбы збіраў, і лазню будаваў, і зямлю капаў.

— Значыць, сілы і моцы набраўся. Самы час пераходзіць да мяне.

— Як гэта — да цябе?

— Я ж табе не раз казаў. Мой галоўны рэдактар — пенсіянер... І што я хачу перацягнуць цябе на гэтую пасаду. Ты аграном па адукацыі. А наша выдавецтва мае сельскагаспадарчы профіль. Дык вось, галоўны падаў заяву. Ну, яму сказалі: «Пара, браце...» Рыхтуюць месца для былога цэкоўца. Ведаю яго. Дуб дубам... Старшыня Дзяржкамдруку ў ад'ездзе. Неўзабаве вернецца. І тады будзе позна. Ягоны намеснік, наш куратар, супраць таго цэкоўца. Гэта ён мне сказаў, а старшыні ён так не скажа. Дарагі мой дружа, я табе раю. Проста прашу... Зрабі рашучы крок...

— Валодзя, так нечакана. Трэба падумаць. З жонкай параіцца...

— Жонцы скажы толькі адно. Будзеш атрымліваць удвая болей... Чакаю цябе заўтра раніцай. Пагамонім. Я з васьмі ўжо на працы. Можаш

а палове дзевятай пад'ехаць. Ну, дык што? Чакаць? Ці шукаць каго іншага? Часу ў мяне мала.

— Добра. Чакай, — рашуча сказаў Пятро.

Жаданне нешта запісаць у дзённік адразу знікла: тут думаць трэба! Гэта ж не жартачкі — такая прапанова. Тэлебачанню аддаў амаль дваццаць гадоў. Абвёў вачыма свой кабінет. Адчуў: шкада яго пакідаць — болей за дзесяць гадоў адседзеў тут. Усё знаёмае да кожнай шчылінкі, звыклае, а там усё новае: людзі, справы, праблемы. Апошнім часам быў незадаволены сваёй работай, не падабалася новае кіраўніцтва. Здавалася, што гатовы развітацца з блакітным экранам, бо ўсё, што там адбываецца, што паказвае экран, гэта імітацыя жыцця. Ён усё болей пераконваўся, тэлевізар — скрынка для лайдакоў і дурняў, бо перадачы, якія даюць нешта розуму і сэрцу, — рэдкасць.

Трэба адважыцца. Учора здзівіў зямляк Андрэй Сахута. Патэлефанаваў Пятро яму на кватэру, трубку зняла Ада і пачала, што называецца «рвать и метать»: такі ідэаліст муж, паехаў у радыектыўную зону і пачаў працаваць шараговым ляснічым! Кінуў усё, сям'ю, сяброў. Пятро не верыў сваім вушам: сакратар абкама партыі — і раптам ляснічы ў радыеактыўнай зоне. Потым яна дадала, што нібыта праз тры месяцы яго прызначаць галоўным ляснічым у райцэнтры. Але ж зачуханая Лабанаўка, нашпігаваная радыенуклідамі, не сталіца. Ды могуць і не прызначыць. Так і будзе там сядзець да пенсіі. Калі дажыве...

Ада гаварыла сумбурна, усхвалявана, у голасе чуліся раздражненне, крыўда, злосць, што не параіўся, не паслухаўся яе. Пятру здавалася, што ў сябра добрая сям'я, і раптам гэткія лютасць і злосць.

Паспяшаўся Андрэй, падумалася Пятру, мог бы пайсці ў выдавецтва, хаця туды не ўзялі б, раз адбіваюцца ад цэкоўскага кадра, а вось на сваё месца на тэлебачанне мог бы прапанаваць...

Думкі, думкі клубіліся ў галаве Пятра Махавікова. Трэба хутчэй дамоў. Што скажа Ева? Ён прадчуваў, што яна скажа. Калі пачула, што аклад там большы, параіла:

— Ну, то, можа, варта, ісці... А як туды дабірацца? Гэта ж далёка. Праспект Машэрава...

Яны пачалі абмяркоўваць, як туды лепей даехаць. Былі розныя варыянты: аўтобусам, тралейбусам да прыпынку «Няміга» або трамваем да метро. Перасадка, затое хутка.

Пятро быў удзячны Еве за спагаду, спакойную разважлівасць і памяркоўнасць. «Якое гэта шчасце мець добрую жонку!» — падумаў ён. Згадаў учарашнюю размову з Адай, зразумеў, што між Сахутамі стасункі абвастрыліся. Мабыць, яна добра дапякла мужу, што доўга ходзіць без работы. Таму Андрэй і кінуў Мінск, можа ўсё скончыцца разводам.

Раніцай Пятро Махавікоў быў на праспекце Машэрава. Ішоў нетаропка, прыглядаўся да будынкаў, быццам хацеў усё добра запомніць, бо, магчыма, па гэтым маршруце давядзецца хадзіць аж да пенсіі.

Вось і Дом кнігі. Груваскі дванаццаціпавярховы гмах тарцовай сцяною туліўся да шырокага праспекта. Пятро міжволі падумаў, што так даўно жыве ў Мінску, а ў гэтым доме не быў. Праўда, кнігарню «Светач», якая месцілася збоч, наведваў шмат разоў. І вось цяпер ён будзе хадзіць тут штодня. Учора ўранні пра гэта і думаць не думаў. Цікавае жыццё сваімі па-

варотамі! У ім выспявала рашучасць прыняць сяброву прапанову. Рыкашэтам развал КПСС паўплываў і на яго лёс — раней мог бы ўмяшацца ЦК і не адпусціць яго, трэ было б здымацца з уліку ў адным райкаме, станавіцца на ўлік у іншым. Жыццё ўпрасцілася. А мо ўскладнілася? Болей будзе бедламу? Чыноўніцкага самадурства?

Роўна а палове дзевятай Пятро Махавікоў пераступіў парог выдавецкай прыёмнай. У невялічкім пакойчыку за масіўным сталом сядзела смуглявая дзяўчына ў акулярах і друкавала на машынцы. На светла-рудых дзвярах справа кінулася ў вочы шыльда «Дырэктар», а злева на такіх жа дзвярах было напісана — «Галоўны рэдактар». Значыць, кабінет за гэтымі дзвярыма можа быць маім, падумаў Пятро, павітаўся і назваў сябе. У гэты момант дзверы расчыніліся. Уладзімір Клімчук, высокі, мажны, у акулярах на шырокім твары, басавітым голасам прамовіў:

— Заходзь, Пятро. Распранешся ў мяне.

Не марнуючы часу, ён дастаў аркуш паперы, падаў госцю.

— Ну што, будзем працаваць? Тады пішы заяву. На маё імя... Як жонка? Падтрымала?

— Ты маеш рацыю, — усміхнуўся Пятро. — Як сказаў, буду зарабляць болей, адразу згадзілася... Хоць яна і без таго не пярэчыла б. Мы добра жывём. Я рады, што знайшоў яе...

— Табе можна пазайздросціць. Пра гэта іншым разам. Сядай, можа, за гэты стол, — Клічук паказаў на доўгі стол паўз сцяны даволі вялікага кабінета. — Да мяне будуць заходзіць людзі. А табе трэба напісаць заяву, запоўніць лісток уліку кадраў. Аўтабіяграфію. Кароткую, лішне не расцягвай. І пойдзем да начальніка ўпраўлення кадраў. Я ўчора з ім перагаварыў. Пойдзем знаёміцца...

У той дзень, як звычайна па аўторках, а другой гадзіне дня ў намесніка старшыні Дзяржтэлерадыё Івана Кузьміча праводзілася планёрка, на прафесійнай мове яна называлася — «задзел». Іван Кузьміч, які меў мянушку «Більярдны шар», бо сваю круглую галаву звычайна галіў пад нуль, доўгі час працаваў дырэктарам праграм, апошнія гадоў пяць з'яўляўся намеснікам старшыні, куратарам тэлебачання. Раней з яго пасміхаліся, калі ён прамаўляў «стенарии». Цяпер сцэнарыі ён чытаў рэдка, то і гэтае слова ад яго чулі яшчэ радзей, маладыя супрацоўнікі нават і не ведалі, пра каго кажуць калегі: галоўны чытач «стенариев». У свой час Іван Кузьміч працаваў у аддзеле прапаганды ЦК партыі, адтуль яго спусцілі дырэктарам праграм тэлебачання, меў ён двух намеснікаў, персанальную чорную «Волгу» і з цёмнага да цёмнага сядзеў у невялікім пракураным кабінецiку на старой тэлестудыі, што месцілася на беразе Свіслачы. Цяпер ён займеў шыкоўны кабінет у новым высачэзным гмаху тэлестудыі.

Планёркі-задзелы, абмеркаванне праграм тэлебачання на тыдзень Іван Кузьміч праводзіў, як сам любіў гаварыць, у тэмпе. Так было і на гэты раз. У Пятра Махавікова было дзіўнае адчуванне: няўжо сёння апошняя планёрка для яго? Ну, могуць тыдзень-два патрымаць, хоць маюць права тармазнуць і на месяц, але ён спадзяваўся, што адпусцяць. Раз чалавек цвёрда вырашыў перайсці на іншую работу, няма чаго вадзіць яго за нос.

У канцы кожнай планёркі шэф тэлебачання дазваляў сабе кароткі маналог: «азадачыць» падначаленых, настроіць на творчую, а галоўнае, дыс-

цыплінаваную зладжаную работу, бо іхнія агрэхі адразу відаць усяму беларускаму народу. Маналогі гэтыя былі падобныя, як два більярдныя шары, але Іван Кузьміч не мог уявіць планёрку без гэтага фінальнага акорда. Планёрка без заключнага маналога нагадвала выпіўку без тоста.

— Ну што, усё абгаварылі. Дзякуй за работу. Усе свабодныя, — закончыў свой маналог Іван Кузьміч.

Часам каго-небудзь з галоўных рэдактараў ён прасіў затрымацца, каб вырашыць нейкае пытанне. На гэты раз у кабінеце застаўся без запрашэння галоўны рэдактар навукова-папулярнай рэдакцыі Махавікоў.

— Што, Пётр Захаравіч, ёсць праблемы? — гаспадар кабінета зірнуў на гадзіннік: значыць, некуды спяшаўся.

— Ёсць вось такая папера, — Пятро паклаў перад ім заяву.

Іван Кузьміч прачытаў раз, другі, падняў стомленыя вочы:

— Ты што? Гэта сур'ёзна? І куды вырашыў рвануць?

— Я б не хацеў пакуль гаварыць...

— Ну, што за сакрэты? А я адкрыю табе свой сакрэт. Іншым разам думаў... Вось у будучым годзе адзначу юбілей. І папрашуся ў адстаўку. Хоць на рыбалку паезджу. І на сваё месца прапаную цябе. У гэтым крэсле павінен сядзець толькі прафесіянал. Сам разумееш, агрэхі нашай службы адразу ўсім відаць. А ты, браток, у кусты. Падводзіш мяне. Хаця я разумею сітуацыю... Дык куды ўсё-ткі? Не хочаш прызнацца? Старшыня пакліча цябе. І мне трэба з ім перагаварыць. Так што, трэба параіцца.

Пятро мог сказаць, што праз год яму будзе пяцьдзесят чатыры, а калі Іван Кузьміч пажадае яшчэ болей «паруліць» тэлебачаннем і затрымаецца на год-два пасля юбілею, то вылучаць Пятра будзе позна. Але ён бачыў, што шэф сапраўды недзе спяшаецца, таму сказаў:

— У мяне ёсць намеснік. Чалавек вопытны, неблагі арганізатар.

— Добра. З якога ты хочаш?

— Я гатовы хоць з сённяшняга...

— Ну, браце хуткі ты. Як стронга. Ты ж ведаеш, маем права патрымаць месяц. Ну, але сілком мілы не будеш. Ды і парткома няма. І ЦК сплыў у нябыт. Карацей, тыдзень на роздум. Я пазнюся ўжо.

— Да пабачэння. Спадзяюся на вашу падтрымку.

— Добра, — шумна ўздыхнуў Іван Кузьміч.

Праз дзесяць дзён Пятро Махавікоў быў прызначаны на пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва. Напярэдадні сабраў сваіх студыйных калег, падзякаваў усім: і прыхільнікам, і апанентам, і зайздроснікам. А гэта ёсць у любым калектыве, асабліва творчым. І, мусіць, заўсёды будзе. У любога кіраўніка, які мае нават паўтузіна падначаленых, будуць любімчыкі, будзе сама мала тры групоўкі.

Пятро ведаў, што падрыхтаваны загад аб прызначэнні былога намесніка на пасаду галоўнага, менавіта ён і рэкамендаваў яго, але пакуль старшыня не падпісаў, гаварыць пра гэта няварта. Прафсаюзны лідэр, сталага веку кабета-рэдактар, сказала даволі доўгую прамову, у якой дзякавала ўжо сваёй былому галоўнаму «ад усяго калектыву і ад сябе асабіста» за цярплівасць, за строгасць, патрабавальнасць, але перш-наперш за тое, што быў спагадлівы і добры. Сімпатычная дзяўчына, якая нядаўна пачала працаваць рэжысёрам, уручыла букет кветак. Пятро цмокнуў яе ў шчаку, згледзеў ухмылкі на некаторых тварах, зразумеў, што да чаго... Каб заахвоціць, падбадзёрыць маладога рэжысёра, ён часцяком падхвальваў ейныя

перадачы, і жанчыны, а можа, і некаторыя мужчыны вырашылі: галоўны ўпадабаў дзяўчыну, магчыма, каму здавалася, што ён пазірае на прыгажуню, бы кот на сала. А ён часам і сапраўды любаваўся ёй...

А Пятра Махавікова чакала новая справа, новы калектыў, у якім былі, вядома ж, і прыгожыя дзяўчаты. Асабліва іх шмат было на суседнім, дзевятым, паверсе, дзе месцілася магутнае на той час выдавецтва «Мастацкая літаратура». Гэткіх прыганужнь, якіх можна было сустрэць тут, Пятро не бачыў і на тэлестудыі. Але ў гэтым ён пераканаецца пазней.

На першай планёрцы Клімчук прадставіў новага галоўнага рэдактара. Як і належыць, дырэктар сядзеў у тарцы стала, а праваруч ад яго — традыцыйнае месца галоўнага рэдактара. За гэтым сталом кожны ўдзельнік нарады меў сваё пэўнае месца. Леваруч ад шэфа гарбаціўся сутулаваты, брывасты намеснік дырэктара Віктар Сідаровіч, поплеч з ім сядзела сінявокая смуглявая прыгажуня Галіна Казіміраўна — загадчыца вытворчага аддзела. Менавіта ёй даў слова дырэктар. Пачала яна гучным, прыемным голасам — мусіць, у кампаніі добра спявае, падумаў Пятро, уважліва слухаючы прамоўцу. Для яго ўсё было новым і не заўсёды зразумелым, поўным таямнічага сэнсу.

— У ліпені і жніўні мы спрацавалі кепска. Але ў гэтым вінавата друкарня. Людзі былі ў адпачынках. Астатнія друкавалі падручнікі для школ. Нашы заказы напалову выкрэсліваліся. У верасні мы план выканалі, — Галіна Казіміраўна перадыхнула, паправіла акуляры, падсунула свае паперы бліжэй. — На кастрычнік прынята ажно сем рукапісаў. Ужо ёсць два сігналы...

Усе службы дакладвалі аб сваіх праблемах. Загадчыца карэктарскай, адкінуўшы за спіну тоўстую русявую касу, чытала з нататніка: якія рукапісы ў рабоце, якія паступілі першыя карэктуры, якія падпісныя, пабедавала, што захварэла падчытчыца, трэба, каб рэдакцыі па чарзе выдзялялі па адным чалавеку для падчыткі. Намеснік дырэктара гаварыў, што падрасла цана паперы, далёкі Сыктыўкар затрымлівае пастаўкі, што папяровая ўдаўка можа прыдушыць выдавецтва.

— Трэба паслаць чалавека ў камандзіроўку. Хай возьме некалькі рускамоўных кніг, пару пляшак «Белавежскай», — зазначыў дырэктар.

Старшыня прафкама сказала, што ў падшэфны саўгас трэба адправіць трох чалавек на ўборку капусты — гэта апошні заезд.

— Застанецеся пасля планёркі. Памяркуем, — Клімчук зірнуў на гадзіннік. — Ну што, будзем закругляцца?

Пятро прыкмячаў свежым вокам усё, што адбывалася ў гэтым кабінеце: хто што гаварыў, як сябе паводзіў. Клімчук некаторыя пытанні вырашаў па ходзе планёркі, але не абышлося без маналога. Прыкладна тое самае рабіў пасля лятучкі і Пятро: падсумоўваў вынікі, «азадачваў» калектыў. Дырэктар сказаў, што трэба думаць пра тэматычны план 1993 года — а на двары стаяў кастрычнік дзевяноста першага, пісаць заключэнні на рукапісы, заказваць аўтарам рукапісы, варушыць тых, з кім заключаны дамовы, аддаваць рукапісы на рэцэнзію сур'ёзным навукоўцам. Пятро злавіў сябе на думцы, што ягоныя сувязі з вучонымі могуць быць вельмі дарэчы.

— І самая надзённая праблема — выданне кніг «Памяць». Нядаўна прынята вельмі сур'ёзная пастанова ўрада. Неўзабаве запатрабуюць справаздачу, — Клімчук зірнуў на Пятра, і той адразу зразумеў, што

пісаць тую справаздачу давядзецца яму. — Вы, Пятро Захаравіч, будзеце персанальна курыраваць гэтыя выданні. Дарэчы, мы з табой, — Клімчук перайшоўшы на «ты», — былі на першай нарадзе ў ЦК. Яшчэ пры Машэраве. Гэта яго задума... Грандыёзная задума — выдаць сто трыццаць кніг «Памяці».

— Я быў у тым першым дэсанце ў Шумілінскі раён. На Віцебшчыну. Мы рабілі першую кнігу «памяці», — падаў голас Пятро.

— Ну дык ты — чалавек вопытны. Я ведаў, каго сватаў, — задаволена ўсміхнуўся Клічук, і амаль усе прысутныя заўсміхаліся.

— А я ведаў, куды ішоў, — сказаў павесялелы Пятро.

У яго праклюнуўся парастак надзеі, што ён справіцца з новай работай, урасце ў новы калектыў.

— У «Мастацкай літаратуры» створана група «Памяць» з трох чалавек. А я адзін, яко перст, — азваўся Сяргей Рудзянок.

— Затое ж ты ў нас плечавень, — падвесяліў прысутных і намеснік дырэктара Сідаровіч.

— Дадзім табе, Сяргей Дзмітравіч, талковага карэктара. З перспектывай, каб стала рэдактарам. Памяркуем, каго...

— О, там прыгожых дзяўчат хапае. Яго толькі пусці туды, бы казла ў агарод, — спадабалася жартаваць Сідаровічу.

— Дамо толькі адну ахвяру, — смяяўся і дырэктар. — А ў наступным дабавім яшчэ аднаго чалавека. І вас будзе трое. Выданне кніг «Памяці» — справа сур'ёзная, адказная і грашавітая. Дзяржава выдзяляе кругленькія сумы раёнам. А раёны добрасумленна пералічваюць грошыкі выдавецтвам. Вядома, не за прыгожыя вочы, а за работу.

Планёрка Пятру спадабалася. Тут не было нервовай напругі, якая ўладарыла на тэлебачанні. А найбольш уразіў вясёлы, аптымістычны настрой дырэктара, яго бліжэйшых памочнікаў. Цэнзуры няма, партбюро няма, узгадаліся словы Клімчука, што самі з вусамі, але трэба выдаваць толькі тое, што дасць навар.

**Хроніка БЕЛТА, іншых агенцтваў свету, 1991 г.**

**16 кастрычніка.** *Мінск. Сесія Вярхоўнага Савета прыняла Закон «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь».*

**17 кастрычніка.** *Пекін. Далікатэсныя рэптыліі для прыгатавання рэдкіх страў кітайскай кухні з'явіліся на рынках Пекіна.*

**19 кастрычніка.** *Ерэван. Першы Прэзідэнт Арменіі Тэр-Петрасян пачаў сваю палітычную дзейнасць са стварэння камітэта «Карабах».*

**22 кастрычніка.** *Вашынгтон. Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка выступіў на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у дыскусіі па дакладзе МАГАТЭ.*

## IX

Бралася на вечар, калі Андрэй Сахута вярнуўся з райцэнтра. Ездзіў разам са старшынёй калгаса Зінкевічам на ягоным «газіку». Збіралі там раённы актыў на нараду для абмеркавання пераадолення наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, вучылі, як змагацца з мірным атамам, які вы-

рваўся на волю. Нічым асаблівым нарада не ўразіла Андрэя, сядзеў, слухаў, сёе-тое занатоўваў па даўняй звычцы: занатоўкі ён рабіў нават седзячы ў высокіх прэзідыумах. Суседзі ягоныя ў зале нічога не запісвалі, перамаўляліся між сабою, той-сёй драмаў.

А сёння пасля нарады, дзелавітай, спакойнай, пасля замочкі новай формы і першай лесніхоўскай зарплаты — здавалася, што грошы грэюць кішэню, хоць і няшмат іх, няўжо і грошы тут радыеактыўныя? Не, радыяцыя зараз меней за ўсё хвалявала Андрэя Сахуту.

Андрэй пашкадаваў, што ніхто зараз не бачыць яго ў навюткай форме, ні былыя калегі-абкамаўцы, ні жонка, ні дзеці. Раптам злавіў сябе на грэшнай думцы-жаданні: захацелася, каб яго ўбачыла Паліна Максімаўна. Тая гарачая камсамолка-аграномка, з якой ён цалаваўся на адкрыцці клуба ў Бяседавічах. Ён узгадаў пра яе, калі слухаў даклад, пазіраў на Анатоля Раковіча, старшыню райвыканкама, таго Толіка, які выцягнуў райкамаўскі «газік» з глыбокай лужыны. Аж не верылася, што было гэта трыццаць гадоў таму!

Ён не ведаў, што Паліна таксама запрошана на паседжанне, угледзела яго. Калі Андрэй апранаў плашч і разам са старшынёй калгаса Іванам Зінкевічам ішоў да выхаду, пачуў:

— Андрэй Мацвеевіч! Хвілінку пачакайце, — да яго наблізілася вельмі ж знаёмая аблічча жанчына з прыгожым, адкрытым тварам. З-пад акуляраў зірнулі вялікія цёмна-карыя вочы, бы спелыя вішні пасля дажджу. — Не пазнаяце? А памятаеце Паліну-камсорга з Бяседавіч? Адкрыццё клуба...

— Канешне, помню. Хоць і даўно было.

— Я разумею, тут не месца для ўспамінаў. Ёсць просьба... Ці можна выпісаць у вас дроў? Вы, можа, чулі пра маё гора? Цяпер самой і пра дровы трэба клапаціцца. Паблізу райцэнтра ўсё павысякалі.

Андрэй выказаў ёй спачуванне. Зінкевіч тым часам гукнуў ад дзвярэй, што пачакае на вуліцы. Яны з Палінай адышліся ўбок. Андрэй коратка расказаў пра сваю сям'ю, Паліна трохі пра сябе. Дамовіліся, што заўтра ці паслязаўтра яна прыедзе з сынам у лясніцтва.

Неяк уранні трывожна зазваніў тэлефон. Андрэй зняў трубку, пачуў незнаёмы басавіты голас:

— Андрэй Мацвеевіч? Добрай раніцы! Гэта пракурор гаворыць. Асабіста мы незнаёмыя, але трэба абмеркаваць адну справу. Лясніцтва наша далёка ад райцэнтра. Вырашылі не выклікаць...

Андрэй адразу насцярожыўся: размова з пракурорам, пэўна, не для чужых вушэй:

— Прашу прабачэння, адну хвілінку, — выйшаў у першы пакой, сказаў Аляксею: «Паклічце, калі ласка, брыгадзіра з піларамы». — «Там яшчэ нікога няма». — «Схадзіце, дык будзем ведаць дакладна. Каб потым спытаць за спазненне». Аляксей неахвотна пасунуўся за парог. Сахута кінуўся да тэлефона:

— Слухаю вас уважліва...

— На тэрыторыі вашага лясніцтва на днях затрымалі браканьераў. Лася завалілі. Здзіралі скуру, калі іх накрыла інспекцыя. Склалі акт. Наш следчы займаўся гэтай справай. Браканьераў вы ведаеце. Усе трое родам з Хатынічаў. Іван Сырадоеў, былы старшыня сельсавета, конюх Сямён

Чукіла, загадваў магазінам у Хатынічах, і брыгадзір Канстанцін Воронін, таксама ваш аднавяскоўец. Ведаеце іх?

— Ведаю, але даўно не бачыў.

— Як не бачылі? Яны кажуць, што пыталіся ў вас дазволу...

— Гэта хлусня. У лясніцтва прыязджаў Сырадоеў выпісаць дроў. Між іншым спытаўся, ці можна купіць ліцэнзію на лася. Я адказаў, што паляўнічы сезон на капытных яшчэ не адкрыты. І што я не ў курсе, ці маем мы права прадаваць ліцэнзіі, што мне трэба разабрацца... Які можа быць дазвол?! Што вы?!

— Карацей, справу перадаём у суд. Я пастараюся, каб ваша прозвішча не фігуравала. Чалавек вы новы. Мы ўсё ўлічылі. Гэта вам інфармацыя для роздуму.

Пракурор развітаўся. Андрэй асцярожна паклаў трубку, зірнуў у суседні пакой — бухгалтара на месцы не было. Уздыхнуў з палёгкаю: гэты віж не падслухаў. Адчуў, як у скронях пульсуе кроў. Ён сумна пазіраў на аголеныя дрэвы старога саду, на шэрае нізкае неба. Адразу няўтульна зрабілася ў кабінеце-катуху, маркотна і скрушна на душы. Міжволі мільганула думка, што праўду казала Паліна: адсюль можна трапіць не толькі на павышэнне, але і ў турму, за краты, бо могуць падвесці пад дурнога хату.

## X

Адгарэла восень залаціста-чырвонымі барвамі. Абляцела жоўта-бурае лісце асін, бяроз і клёнаў. Яшчэ ніжэй схілілася і пабурэла трава прыбяседскай поймы каля Хатынічаў — звону касы яна так і не дачакалася. Вільготны, пругкі норд-вест прынёс свінцова-шэрыя балтыйскія хмары. Некалькі дзён амаль без перадыху сыпаў дробны золкі дождж.

А потым, на пачатку лістапада, выбліснула зыркае сонца, ласкавае, але не гарачае, быццам позняе каханне. Сонца высвеціла ўсё наваколле: голую дуброву каля Бабінай гары, цёмна-зялёныя, густакосыя, бы нявесты перад шлюбам, елкі, пяшчотна-зялёныя непралазныя, купчастыя хвойнікі. У маладым хваёвым лесе любяць расці казлякі — іх там высыпае гэтулькі, што хоць касу закладай, але нічыя рука не збірала бліскуча-карычневыя, знізу жоўта-белыя, як сыр, грыбы: менавіта яны, казлякі-масляты, найбольш назапашваюць радыенукліды. Набіраліся гэтых клятых нуклідаў і іншыя дарункі лесу.

Пётр Мамута і Юзя добра ведалі пра гэта і ўсё ж выбраліся ў грыбы. Паехалі на падводзе, каня даў Бравусаў, бо даглядалі яго цяпер разам: тыдзень пасвіў адзін гаспадар, тыдзень — другі. Паехалі на кані, таму што варта забрацца як мага далей на ўсход, у чысты лес, ды і цераз Бесядзь перабрацца лепей на падводзе, бо ні парома, ні кладкі не было. Пераходзіць жа ўброд раку ўжо холадна.

Паездка аказалася ўдалай. Нарэзалі два кашы з коптарам маладзенькіх казлячкоў, крамяных жаўтлявых гусак — так у Хатынічах называлі зялёнкі. Траплялiся ў траве на ўзлессі белавата-ружовыя рыжыкі, знайшлі некалькі баравікоў, ужо не цёмна-карычневых, як у жніўні, а светлых, з далікатным загарам, на кароткіх тоўстых ножках — галаву грыбы ўжо надта не задзіралі, бо халадэча прыціскала да зямлі, прымушала хавацца пад мохам, прыкрывацца шыгаллем.

Пашанцавала натрапіць на апенькі. Пад высачэзнымі елкамі знайшлі некалькі пнёў, абсыпаных грыбамі. Але верхнія пастарэлі, пабурэлі, пакрыліся белым налётам плесені — не дачакаліся, бедалагі, каб хто іх зрэзаў. Затое знізу падпіралі маладзейшыя, іхнія капялюшыкі нагадвалі пятакі, а былі і меншыя з капялюшыкамі-гарошынамі. Вось гэткай малечы і нарэзалі хатыніцкія грыбавікі. Асабліва радавалася нядаўняя гараджанка Юзя: гэтулькі грыбоў не даводзілася збіраць ніколі.

Два дні яны парадкавалі грыбы: салілі, марынавалі, смажылі на патэльні з салам і цыбуляй. Увечары, стомленыя, елі смажаныя грыбы з бульбай. Пётр Еўдакімавіч наліваў па чарцы гарэлкі, настоенай на ядлоўцавых ягадках. Выпівалі не толькі дзеля апетыту, дзеля радасці, а і дзеля прафілактыкі: між чарнобыльцаў хадзілі ўпартыя чуткі, што гарэлка спрыяе ачышчэнню ад радыеактыўных шлакаў. Так гэта ці не так, дакладна ніхто не мог сказаць, але за пяцігодку пасля аварыі на атамнай станцыі шмат хто з жыхароў зоны дачасна пайшоў на той свет.

Стары настаўнік Пётр Еўдакімавіч Мамута хацеў жыць і кахаць сваю новую жонку Юзю. Ад іхняга кароткага пасляваеннага кахання ўжо сталы сын, падпалкоўнік, ладная ўнучка... Юзя неяк прызналася, што хацела б яшчэ нарадзіць дзіця — зноў жа насуперак Чарнобылю, але, мусіць, позна ўжо... Засталося толькі горача — кожны раз, як апошні раз, — абдымаць і цалаваць свайго доўгачаканага, цяпер законнага мужа.

Парадкуючы грыбы, даглядаючы гаспадарку, Пётр Еўдакімавіч часта пазіраў на неба, прыслухоўваўся да прагнозаў сіноптыкаў: ён чакаў ціхага, пагодлівага дня, каб уцяпліць на зіму пчол. І вось, на пачатку лістапада, неба, мусіць, стамілася плакаць, вецер разагнаў шэрыя, кудзелістыя хмары, выбліснула сонца. Вымытая ад пылу і бруду прырода заззяла нейкай сарамлівай, сцішанай прыгажосцю. Такія дні — гэта развітальная ўсмешка позняга бабінага лета. І ўсмешка вельмі кароткая, скупая — дватры пагодлівыя дзянькі, а потым зноў напаўзуць шэрыя хмары, у настылым паветры могуць закружыцца белыя мухі. А за імі едуць маразы. Тады ўсё аціхае, супакойваецца, пчолы збіраюцца ў клубок, ды іхняе жыццё не спыняецца. Пакрываецца лядовым панцырам-дахам Бесядзь, але і пад лёдам жыццё ідзе сваім спрадвечным парадкам.

Нарэшце выдаўся пагодлівы дзянёк. Пётр з Юзяю ўзяліся за работу. Пчаліныя гнёзды ў вуллях ён сабраў напрыканцы лета, калі пачынаў падкормку. Збольшага ўцяпліў, цяпер гэта трэба зрабіць больш грунтоўна. Тады ў моцных сем'ях пакідаў па дзесяць рамак, у самых моцных — па адзінаццаць, цяпер даставаў па адной, а то і па дзве мядовыя рамкі — вясною падставіць, а ўзімку пчолкам будзе цяплей. Паверх рамак клаў падушкі, набітыя мяккаю атаваю. Юзя вымыла наўлечкі, кужалёвыя накрыўкі. Пятру падабалася ейная ахайнасць. Пчолы — вялікія акурацісты, за чысціню заўсёды аддзячаць гаспадару багатаю духмянаю данінаю.

Трымаючы ў руках кужалёвыя накрыўкі-настольнікі, з цеплынёю згадваў Таццяну — яна ткала пасля вайны палатно, адбельвала на кургане ля Бесядзі. Варухнулася пачуццё віны, але тут жа выплыла апраўданне: не крыўдзіў яе, усяляк аберагаў, усім забяспечваў, ды ці ж толькі ён застаўся ўдаўцом у старасці? Мог і Чарнобыль прычыніцца і паскорыць сумны фінал. Але ж паміралі людзі і раней, іхнія бацькі даўно спяць вечным сном

на кладзішчы. Пражыла Тацяна амаль шэсцьдзесят пяць — не так і мала, хоць і не сказаць, каб дужа багата — да сотні далёка.

Юзя пыхкала куралём, падавала калі што трэ было. Яна ўжо зрабілася спрактыкаванай пчаляркай. Не баялася пчол, пасля укусаў цела не апухала, мядок любіла, а галоўнае — моцна пакахала пчаляра.

Апоўдні сонца нават пачало прыграваць, пчолы дружна сыпанулі на аблёт. Мамута слухаў вясёлы звон, і ягонае сэрца спявала: позні аблёт — радасць для пчаляра, бо нараджае надзею на шчаслівую зімоўку.

— Ета здараецца рэдка, каб у лістападзе пчолы вылятали на аблёт. Ачысцяцца, і лягчэй ім будзе зімаваць.

Мамута і Юзя ўжо канчалі сваю справу, калі па завулку пратарахцеў матацыкл і спыніўся ля іхняй хаты. У двары адчайна забрахаў сабака.

— Нехта да нас прыехаў. Пойдзем. Засталося толькі паставіць на лёткі металічныя рашоткі. Каб мышы не ўлезлі. Ета можна зрабіць і заўтра, — Пётр Еўдакімавіч зняў сетку, што захутвала твар, якую надзяваў па звычцы, бо пчолы яго джалілі рэдка.

Мамута прыжмурыў дальназоркія старэчыя вочы і здаля пазнаў свайго любімага вучня: ля коўратаў стаяў Андрэй Сахута.

— Прыехаў мой любімы вучань. Былы сакратар абкама партыі.

— Ого, вялікі начальнік! — здзівілася Юзя. — І без чорнай «Волгі»? Адкуль ён узяўся?

— Пайшлі сустракаць госця. Усё раскажа.

Пётр Еўдакімавіч ужо чуў ад Бравусава, што былы вучань працуе ў лясніцтве. Вельмі здзівіўся, што Андрэй Сахута кінуў сталіцу, магчыма, гэта ненадоўга, каб перачакаць раздрай, а там, хто ведае, што будзе заўтра?

Андрэй Сахута ішоў насустрач па разоры, не баючыся нешта патаптаць, бо зямля ляжала голая, адно далей, на краі сядзібы, ярка зелянеў лапік руні. Настаўнік і вучань моцна абняліся. Юзі госць пацалаваў руку, кабета ажно расчырванелася, бо хоць і была некалі ў сталіцы, ейныя знаёмцы гэтага не рабілі.

Юзя бачыла Андрэя Сахуту ўпершыню, таму цішком пільнага разглядала яго, быццам ёй конча трэ было запомніць усё надоўга.

А яшчэ падумала Юзя, што ў сталіцы такога начальніка не бачыла, а ў глухой радыяцыйнай вёсцы сустрэла. Значыць, нешта вельмі перамянілася ў жыцці, калі былы партыйны начальнік ездзіць на матацыкле ў кірзавых ботах. Юзя ўважліва агаледзела адзенне Сахуты: цёмны, далёка не новы плашч, тоўсты шэры світэр пад ім. Ведама, на матацыкле цяпер ехаць — дубарына, на лбе прыкмеціла чырвоны рубец — націснуў шлем. Яна зразумела, што трэба накрываць на стол, бо час ужо абедаць, ды і госць паявіўся. Любімы вучань мужа, сімпатычны чалавек. І начальнік, хай сабе і былы. Для Юзі ляснічы таксама быў начальнікам, вельмі патрэбным чалавекам.

Пакуль мужчыны гаманілі на двары — Сахута не спяшаўся ў хату, Юзя збірала на стол. Былі і грыбы, а вось ці ставіць бульбяны суп з фасоляй, яна не ведала. Вырашыла спытаць, калі мужчыны вып'юць па чарцы. Салёныя гурочкі, грыбы, сала з цыбуляй — хіба гэта кепская закусь?

Гаспадар выставіў ядлаўцоўку. Сахута сказаў, што ён за рулём, піць яму нельга, хіба што для прычэлля. Юзя ўпершыню пачула гэтае слова ў Хатынічах ад старых жанчын.

— Маё пітво не пахне сівухай. Можна смела выпіць. Дакладней — палячыцца. У зоне людзі не п'юць, лечацца, — гаспадар наліў чаркі да паловы — Юзі падабалася, што новы муж ніколі не налівае сабе поўную чарку, жартам часам кажа: люблю палову чаркі і палову падушкі, а калі буду куляць па поўнай чарцы, то і палова падушкі, а значыць, і жонка не спатрэбіцца.

Сахуту хацелася расказаць, што ў апошнія гады ён адкрыў для сябе Уладзіміра Караткевіча, а сёлетні беларускі каляндар прымусіў ацаніць па-новаму, не па-шкалярску, геніяльнага Максіма Багдановіча. Але часу бракавала: трэ было ехаць да сястры, і не столькі з ёй рупіла пабачыцца — карцела пагаварыць з Бравусавым, можа, той ведае што пра свата Сырадоева, мо суд ужо адбыўся.

Андрэй шчыра дзякаваў гаспадарам за цеплыню і гасціннасць. А гаспадары дзякавалі яму.

— Ой, дзякуй, Андрэй Мацвеевіч, што зазірнуў да нас. А то я ўжо збіраўся пайсці ў лясніцтва. А як ты ехаў? Цераз Бялынкавічы? — пацікавіўся Мамута.

— Не. Па новым мосце. Цераз Саковічы. Такі велізарны мост збудавалі. А ездзіць няма каму. Зона...

— Вайскоўцы будавалі. Кажуць, еты мост мае стратэгічнае значэнне, — выказаў дасведчанасць Мамута.

Андрэй пачаў развітвацца. Юзя запрашала яшчэ чаго з'есці, выпіць на дарожку.

— Не, усё. Дзякуй вялікі. За рулём нельга.

— Ну, ніхто ў вас руль не адбярэ. Маглі б аглаблёвую чарачку кульнуць, — выказвала сваю гасціннасць Юзя.

Калі выйшлі на вуліцу, Андрэй спытаўся ў Мамуты, ці праедзе паўз агароды, дзе некалі была загуменная дарожка.

— Ёсць дарога. Была саўсім зарасла. Ды Бравусаў пратарыў. На кані ездзіць да мяне. І я калі праеду.

Старэнькі «ИЖ» з люлькаю затарахцеў маторам і павольна пакаціў па пясчанай дарозе. Цяпер па ёй рэдка хто ездзіў. Міжволі прыгадалася вясна 1961-га. Ён, Андрэй Сахута, другі сакратар райкама камсамола, прыехаў у Хатынічы упаўнаважаным на вясеннюю сяўбу. На старым «газоне» каціў па гэтай дарозе разам са старшынёй калгаса Макарам Казакевічам. Узгадалася, як ледзь не забуксаваў у Бярозавым балоце. У той дзень хатыньчане пачалі сеяць авёс. Косцік Варонін на старым гусенічным трактары выехаў у поле. Быў у полі і галоўны аграном калгаса Мікола Шандабыла.

Андрэй здзівіўся, што памятае ўсё да драбніц, нібы тое было зусім нядаўна. Макар Казакевіч стаяў на адной назе, як бусел, побач высіўся раздабрэлы Мікола і малады ўпаўнаважаны Сахута. Па курганістым полі, быццам шэра-блакітны жук, поўз трактар. Калі ён наблізіўся, Казакевіч памахаў трактарысту, каб ён падышоў. Косцік Варонін, сын былога паліцэйскага, не глушачы матора, подбегам прымчаў да іх. Высокі, танклявы, з перапэцканымі далонямі, далажыў, што ўсё ідзе добра. У той год ён збіраўся ісці ў войска.

І вось праляцелі трыццаць гадоў. Лепшы механізатар, а потым брыгадзір Кастусь Варонін стаў п'янтосам і браканьерам, старшыня калгаса

Макар Казакевіч пайшоў у лепшы свет, Мікола Шандабыла вырашае чарнобыльскія праблемы ў маштабах вобласці, рыхтуецца да заслужанага адпачынку. А былы сакратар абкама партыі стаў шараговым ляснічым, з персанальнай шыкоўнай «Волгі», якая вазіла яго па сталічных вуліцах, перасеў на службовы старэнькі матацыкл, на якім калясіць па зоне, глытаючы радыеактыўны пыл.

Сахута задумаўся і ледзь не праскочыў паваротку на загуменную дарогу, бо яна густа парасла мурагом і была ледзьве прыкметная. Зірнуў у бок Бярозавага балота: хацеў убачыць старую кашлатую сасну, на якую ўлетку садзілася сонца, — так здавалася Андрэйку ў маленстве.

Старая сасна стаяла, як і раней. Дрэва жыцця не паддавалася ні часу, ні чарнобыльскай віхуры.

Матацыкл калываўся па няроўнай калдобістай дарожцы, справаруч цямнелі маўклівыя хаты, шарэлі сядзібы, парослыя бур'янам, стаялі голыя крывыя яблыні. І нідзе не было відаць ніводнай жывой душы. Сахуту зрабілася аж вусцішна, нібы ехаў па мёртвай зямлі. Яшчэ мацней смылела душа, бо гэта была родная зямля, якую палівалі потам яго прашчуры.

Вось і выган, на якім ён, басаногі хлапчук, пасвіў цялят. Нага ў кірзавым боце быццам сама сабою націснула на тормаз. Андрэй злез з матацыкла, выпрастаўся — апошнім часам балела спіна. Зноў зірнуў на сасну ў Бярозавым балоце — адсюль яна была як на далоні.

Вочы слізганулі па голым шэрым полі, упёрліся ў цёмныя макаўкі алешын — там была вялікая балоцвіна, якая называлася Кандрашы. Колькі ён пахадзіў туды з бацькам! Напрыканцы лета выбівалі з кустоўя траву для рагулі, а позняй восенню секлі алешнік на дровы. А трохі бліжэй раскінулася меншае балотца Юрлівец. Некалі там з Васькам і Колем — старэйшымі братамі, смажылі жытнёвыя каласкі — рабілі пражмо. Якія смачныя былі тыя зярняткі недаспелага жыта! А вось тут, метраў за дзвесце да гэтай зарослай дарожкі, пасля вайны збудавалі велізарнае гумно, стаяла еўня, дзе сушылі снапы, грукатала малатарня, меўся тут і конны прывад. Як любілі хлапчукі пасядзець на ягоных бярвенцах-крылах, калі пасвілі ранкам цялят.

Гумно, ток і еўня служылі калгасу гадоў дваццаць, а потым ля Канчанскага ручая збудавалі механізаваны двор, склад, сушыльню — гэтыя пабудовы стаялі і зараз. Але Чарнобыль спыніў іхнюю дзейнасць. Няўжо назаўсёды?

Уразіла, што ад вялізнага гумна, току і еўні не засталося і знаку. Узгадаў Андрэй, як некалі бацька паказваў, дзе стаяў чый хутар пасля Сталыпінскай рэформы. У той дзень яны пасвілі кароў. Андрэй ужо скончыў сем класаў, бацька гутарыў з ім, як з дарослым, болей за яго адукаваным чалавекам. Андрэй слухаў і дзівіўся: ад тых хутароў не засталося нічога — ну, там-сям два-тры вялікія камяні. Зямля забірае ўсё ў сваё нутро, што пакідае пасля сябе чалавек, асабліва, зробленае з дрэва. Забірае і грэшныя парэшткі самога чалавека, калі ён завяршае свой жыццёвы шлях.

Андрэй з сумам і скрухаю пазіраў на маўклівыя пустыя хаты, пахілыя стрэхі хлеўчукоў, нібы развітваўся з імі, бо праміне пяць-дзесяць галоў і яны згніюць, урастуць у зямлю, крапіва і чорны палын будуць раскашаваць на былых котлішчах, дзе некалі бруіла жыццё. Нара-

джаліся дзеці, гучалі песні, уранні над хатамі быццам стаялі ружаватыя слупкі дыму.

Сахута адчуў, што памацнеў вецер, прадзімае наскрозь. Дзьмуў вецер з Бабінай гары — значыць, чарнобыльскі, значыць, прынясе холад, можа і марозік выскачыць. Ён завёў матацыкл і праз некалькі хвілін быў ля бацькоўскай хаты. Тармазнуў перад варотамі, згледзеў каля палісадніка веласіпед, падобны на той, на якім прыязджаў у лясніцтва Іван Сырадоеў. На лаўца і звер бяжыць, падумаў Андрэй, спадзеючыся на сустрэчу з былым фінагентам.

З хаты выйшла Марына, узрадавалася брату, абняла. Была яна ў старой, але не завэдзганай кухвайцы, на галаве шэрая цёплая хустка. Андрэй з радасцю адзначыў, што Марыніны вочы не пазіраюць на свет з ранейшым невыказным сумам старой дзевы, падалося, што і зморшчынкі-лапкі пад вачыма разгладзіліся, — значыць, хоць на схіле жыцця не абмінула старэйшую сястру жаночае шчасце.

— От, добра, што прыехаў. А то я ўсё думаю, як ты там. Адзін, як воўк. Пайшлі за стол.

За сталом сядзелі ўжо на добрым падпітку Бравусаў і ягоны сват Іван Сырадоеў. Яны таксама выказалі шумную радасць, убачыўшы Андрэя. Гаспадыня прынесла талерку і чарку, Бравусаў наліў яе да самых беражкоў, як любілі гаварыць у Хатынічах. Андрэй прыгубіў чарку і адсунуў убок. Усе пачалі ўгаворваць, каб выпіў да дна.

— Не, браткі, дзякуй. Я за рулём. Трэба завідна даехаць.

Даведаўшыся, што ён ехаў праз новы мост у Саковічах, Бравусаў упэўнена зазначыў:

— Ніякіх даішнікаў тут няма. Пост міліцэйскі толькі за Белай Гарой. А ў зоне — гуляй, Вася. Хвакцічаскі, едзь куды хочаш. І гарэлкі пі, колькі ўлезе. Трэба ж выводзіць шлакі радыеактыўныя... Гарэлка, хвакцічаскі, памагае. Расчапляе етыя праклятыя нукліды. Таму і жывём у зоне. Хвакцічаскі, п'ём, гуляем. І нікуды не ўцякаем.

Андрэю не хацелася слухаць п'яную балбатню, але і спытаць адразу пра тое няўдалае паляванне не выпадала.

Сырадоеў пачаў гаворку сам.

— Уліп я, Мацвеевіч, на старасці гадоў. Уліп у непрыемную гісторыю. Ды, здаецца, выкруціўся.

Вось што зразумеў Сахута з яго блытанага аповеда.

Лася яны ўпалявалі пад Бялынкавічамі, каля вёскі Белы Камень. Першы стрэліў Сырадоеў, рагач бег далей, хоць і пачаў кульгаць. А потым лупянуў дуплетам Косця Варонін, і вялізны рагач грымнуўся на зямлю як падкошаны. Прывёз паляўнічых у лес Сямён-крамнік. Апошнім часам ён працуе вартаўніком на канюшні, яму прасцей было ўзяць каня. І Сямён меў стрэльбу-аднастволку, ды не паспеў з яе пальнуць. Яны ўзяліся здымаць скуру з трафея, і тут іх накрыла інспекцыя з міліцыяй. Ратуючы сябе, Косцік Варонін заявіў, што ляснічы Сахута дазволіў ім паляванне. «Вось чаму тэлефанаваў пракурор», — зразумеў Андрэй.

А потым быў суд. Сырадоеў і Сямён угаварылі Косцю ўзяць віну на сябе, абяцалі дапамагчы сплаціць штраф, кляліся, прасілі, малілі, колькі дзён паілі самагонам, каб Косця выручыў іх, каб не сароміць сябе на старасці, сваіх дзяцей не ганьбіць. Косця заявіў на судзе, што ён быў ініцыя-

тарам палявання, што сам дуплетам застрэліў лася і ўсю віну бярэ на сябе. Прысуд быў такі: выплаціць тысячу чатырыста семдзесят рублёў штрафу за нанесеную шкоду лясной гаспадарцы. Грошы немалыя, бо зарабляў Косця каля сотні ў месяц. Прыкладна такую ж суму атрымліваў пенсіянер Іван Сырадоеў, яшчэ меншую пенсію меў Сямён. Нездарма кажуць людзі, што лёгка пазычаць грошы: бярэш чужыя і на нейкі час, аддаеш жа свае і назаўсёды. Лёгка было хаўруснікам-браканьерам абяцаць, даваць клятвы — абяцанне рот не раздзярэ, а плаціць грошы ўсё роўна, як адрываць ад сэрца.

— Дзе ўзяць етыя грошы, халера іх ведае. Але неяк разбяромся, — закончыў свой аповед былы фінагент.

Андрэй Сахута выведаў усё, што яго цікавіла, і пачаў збірацца ў дарогу. Але Марына і Бравусаў узяліся дружна ўгаворваць, каб застаўся начаваць у іх.

— Ну, хто там цябе чакае? Будзеш сядзець адзін, як сыч. Мы даўно не бачыліся. Хоць пагаворым. Пераначуеш у нас. А раніцай паедзеш. Заставайся, — упрошвала Марына.

— Хвакцічаскі, Мацвеевіч, сястра твая разважае правільна. Заганяй свайго каня на двор. І яшчэ можам узяць па чарцы.

Расчырванелы Бравусаў абняў за плечы госця, дыхнуў яму ў твар перагарам. Андрэй вызваліўся з абдымкаў, але нярэзка, спакойна, каб не пакрыўдзіць новага сваяка. Марыніны вочы прасілі стрымацца, даравацъ зяцю задужа навязлівую дружбу.

— Ну вы сабе як хочаце, а я паеду, — Іван Сырадоеў выйшаў з-за стала. — Ніякае ГАІ мяне не затрымае. Лісапета мая хуткасць не перавысіць. Пакуль даеду, дык і ацямнее.

— На дарожку, хвакцічаскі, палагаецца па чарцы. Ну, ета, як яе? Аглаблёвая! — Бравусаў спрытна наліў усім, на гэты раз і Андрэю аж цераз край.

— Ну, ты ўжо не разлівай. Заліў вочы і краёў не бачыш, — упікнула Марына.

— Ат, бывае. Не пераЖывай. Дзе п'юць, там і льюць. А мы, хвакцічаскі, не п'ём, а лечымся, — ухмыльнуўся Бравусаў.

Андрэй міжволі падумаў: у якім бы застоллі ні быў у зоне, заўсёды нехта прамаўляў гэтае выслоўе, яно лунала тут над кожным бяседным сталом і замяняла традыцыйнае: «Ну, будзем здаровы!»

Апошнім часам Андрэй Сахута адчуваў вялікую раздвоенасць у душы, у ім нібы жылі, спрачаліся штодня і бунтавалі два чалавекі. І пачалася гэтая раздвоенасць з ГКЧП: адзін чалавек быў катэгарычна супраць, а другі жадаў «гэкачэпістам» поспеху. Калі Гарошка запрасіў на працу ў сваю фірму, адзін чалавек угаворваў: ідзі, не ўпірайся, трэба выжыць, лепшай прапановы можа не быць. А другі, той самы, якога ўсе ведалі, які насіў у кішэні партыйны білет, заўпарціўся, закусіў цуглі і не пайшоў.

Падобны ж раздрай у душы перажыў Сахута і перад паездкай на радзіму. Унутраны голас крычаў, маліў: што ты робіш? Усе ўцякаюць ад радыяцыі, кідаюць усё нажытае, а ты лезеш туды, як у пельку, кідаеш жонку, дзяцей. Унутраны голас не даваў спакою ні ўдзень, ні ўночы, супакойваўся, аціхаў, калі гаспадар заліваў яго гарэлкай: лячыўся, як і ўсе ў зоне.

## XI

З гадамі Пятра Махавікова ўсё мацней здзіўляла хуткаплыннасць часу. Яму нават здавалася, што з кожным днём час набірае разгон, паскарае свой бег. У маленстве, ды і ў маладосці, гэткія вялікія дні, цягнуцца як год. І так багата было іх у будучыні. Цэлае жыццё, поўнае надзей і спадзяванняў, чакала наперадзе. А цяпер усё часцей Пятро азіраўся назад, і было адно жаданне — дацягнуць да пенсіі. Аб тым, што перайшоў у выдавецтва, пакуль што ні разу не пашкадаваў. Чытаць даводзілася шмат. Дырэктар Клімчук супакойваў: потым будзеш чытаць меней, гэта абкатка, каб засвоіць сутнасць выдавецкай справы, пазнаёмішся з рэдактарамі, зразумееш, хто як рэдагуе рукапісы, каму і наколькі можна давяраць, каго трэба болей правяраць. Зрэшты, любая новая справа не адразу раскрывае свае сакрэты і таямніцы. Шэф не прыспешваў, даваў магчымасць спакойна ўрасці ў калектыў. Суцяшала, што заробак тут куды больш важкі, чым на тэлебачанні, а тузаніны меней. Ева, падлічыўшы аванс і канчатковы разлік за месяц, узрадавалася болей за Пятра.

— Ну, Пецечка, добра, што ты адважыўся... І я не адгаворвала. Хоць прызнацца, у душы пабойвалася. Такі скрутны, ненадзейны наш час... І такая вакол дарагоўля! Ну, але, можа, як-небудзь перажывём усё.

— Перажывём, мая любая, — абдымаў Пятро сваю сапраўды любую жонку. — Дачакаліся ўнукаў. Цяпер задача — дачакацца праўнукаў.

Калі ў сям'і чалавек мае радасць, паразуменне і цеплыню, яму хочацца жыць і працаваць, тады і розныя клопаты, асабліва на працы, вырашаюцца лягчэй: калі моцны тыл — можна смялей ісці ў наступ, наперад.

Пятро часта думаў пра сябра дзяцінства Андрэя Сахуту, іншы раз тэлефанаваў яму ў далёкі лес на іхняй радзіме. Лес, прысыпаны нябачнай, але смертаноснай радыяцыяй. Пятро быў удзячны сябру за паркет — пабяцаў чалавек і выканаў сваё абяцанне. Ішла машына на Мінск, то і паркет прытарабаніў, пасобіў разгрузіць, а на чатыры пакоі і кухню багата цяжкіх пачак дубовых дошчачак давялося перанесці. Асабліва ацаніў паслугу сябра, калі праз пару дзён Ева сказала, што яе сяброўка набыла ў Мінску паркет і заплаціла па сорак тры рублі за квадратны метр. «Мы зэканомілі амаль тысячу рублёў, — радавалася Ева. — Пазвані Андрэю і яшчэ раз падзякуй...»

Ева падганяла мужа хутчэй узяцца за ўкладку, садраць нарэшце абрыдлы лінолеум. Пятро ўгаворваў не спяшацца, хай паркет яшчэ лепей высахне, трэба купіць клею-эмульсіі, ды і майстар, з якім ён папярэдне дамовіўся, яшчэ заняты, ён патэлефануе, калі вызваліцца. Ева не згаджалася:

— Я сама чула, як Андрэй казаў: паркет сухі, рабілі ўлетку. Вылежаўся ў іх не адзін месяц. Няма чаго цягнуць. Ты паглядзі, уся кватэра завалена. І ў калідоры, і пад ложкамі, і пад сталом пачак паркету. Ні памыць, ні прыбраць.

— Зробім. Не падганяй. У мяне зараз у выдавецтве дужа багата клопату. Апошні квартал года. Хоць разарвіся.

— Дык майстар будзе рабіць. Што над ім стаяць? Я вазьму колькі адгулаў на працы. Буду памагаць. А то з калідора могуць паркет украсці. Тады не дакупішся...

— Да чаго ўпарты народ, гэтыя жонкі, — пасміхнуўся Пятро. — Не дзіва, што Андрэй збег ад сваёй ажно ў радыяцыйную зону.

— Ён шукаў работу, а не ад жонкі ўцякаў. Мне здаецца, ён уцякаў ад былых сяброў, якія ў цяжкі час не памаглі.

Пятро не ўступаў у дыскусію, бо разумеў, што пераканаць жонку не ўдасца. Ды яна і не памылялася... Урэшце, ён здаўся, узброіўся металічным ломам і пачаў зрываць з падлогі лінолеум. Ніколі не думаў, што гэта надзвычай цяжкая праца, месцамі лінолеум быў прыклееены намертва да бетоннай падлогі. Абліваючыся потам, вечарамі дзёр Пятро хімічнае пакрывала-ўцяпленне, скручваў у цяжкія рулоны. Кватэра нагадвала мэблевы склад, каб забяспечыць «фронт работ», з пакоя даводзілася выносіць усё. Цяпер толькі ў выдавецтве, у невялікім кабінеціку Пятро Махавікоў меў спачын і спакой.

Пятро зірнуў на гадзіннік — бралася на шостую гадзіну. Па звычцы патэлефанаваў Еве, каб спытаць, ці трэба што купіць. Але тэлефон не адказваў. Вырашыў адразу ехаць дамоў. Міжволі мільганула думка: якое гэта шчасце, калі чалавек ахвотна ідзе ўранку на працу і ахвотна вяртаецца дамоў!

Банальна, але лепшай формулы шчасця чалавецтва не прыдумала.

**Хроніка БЕЛТА, іншых агенцтваў свету, 1991 г.**

**16 лістапада.** *Масква. Прэзідэнт Б. Ельцын пагадзіўся з рашэннем Расійскага парламента аб адмене надзвычайнага становішча ў Чачэна-Інгушэціі.*

**17 лістапада. Віцебск.** *Тут адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 830-годдзю стварэння Лазарам Богшам крыжа Ефрасінні Полацкай.*

## XII

Кароткі снежаньскі дзень доўга і цяжка вылузваецца з учэпістых абдымкаў цёмнай ночы. Калі выбліснe сонца, а яно ў снежні нізкае, зыркае, свеціць, нібы велізарны пражэктар, тады і дзень светлы, яркі. А калі сонца няма, снегу няма, цёмна-шэрая зямля ляжыць галашчокам, кароткі дзень мала адрозніваецца ад начы. Гэта — вечар года, амаль цэлыя суткі ўладарыць сутонне.

Але гэтую змрочную часіну — вечар года — здаўна любяць працавітыя вяскоўцы. Нарэшце можна адаспацца, наесціся дранікаў са шкваркамі. Паесці свежыны, а не якога-небудзь ёлкага, пажаўцелага сала.

З маленства любіў гэты час Анатоль Раковіч. І самае моцнае ўражанне засталося ад смалення вепручка. Бацька абкладваў тушу саломай, падпальваў, поўсць кабанчыка з трэскам ўспыхвала, потым даўгім нажом сашкрабаў нагар, гэта, так бы мовіць, першасная апрацоўка, чарнавы варыянт. Затым бацька браў пук саломы, падпальваў яго і ўжо смаліў старанна. Малы Толік памагаў — мог прыўзняць нагу, а бацька выпальваў рудую поўсць. На ўсё жыццё ўрэзалася ў памяць — Толік тады быў яшчэ дашкольнікам, — бацька абсмаліў вепручкова вуха, адхапіў нажом ладны шмат духмянай свежыны і падаў сыну: «Еш, будзеш здаровы і дужы». Малы адкусіў саладкаватага цёплага сала, якое ажно раставала ў роце. Невыказная смаката.

Анатоль Раковіч, ужо будучы першым сакратаром райкама партыі, двух-трох парсючкоў гадаваў штогод. Іншыя раённыя начальнікі, асабліва былы старшыня райвыканкама, казаў: «Анатоль Мікалаевіч, навошта табе гэткі клопат? Жонку пашкадуй...» — «Сваё смачнейшае», — жартаваў Раковіч, а калі старшыні калгасаў прапаноўвалі то баранчыка на шашлык, то кумпячок, ён дзякаваў і казаў: «Не трэба. Сваю жыўнасць маю». Затое на бюро райкама ён смела здымаў стружку з любога старшыні калгаса за дапушчаную правіннасць, бо нікому нічога не быў вінаваты.

А яшчэ Анатоль Раковіч любіў познюю восень і пачатак зімы таму, што гэта быў кароткі перыяд адноснага зацішша. Вышэйшае начальства меней скубла, і адпаведна і ён меней шпыняў падначаленых, бо фронт работ — так любіла гаварыць вышэйшае кіраўніцтва — звужаўся. Народ жыў у чаканні Новага года і Калядаў, каб разгавецца на ўсю поўніцу, хоць ён і раней не дужа пасціўся.

Але гэтая восень для Анатоля Раковіча мела і сваю адметнасць: ён адчуў сябе паўнапраўным і адзіным гаспадаром раёна. Вядома, у яго хапала ўлады, калі сядзеў у крэсле першага сакратара, але не мог не разумець, што абраны ён кучкай партыйных функцыянераў, і выбраны без выбару. Звычайна прадстаўнік абкама гаварыў: «Есть мнение избрать товарища...» І гэтае «мнение» ўсё вырашала, бо іншых не было. А старшыню райвыканкама выбіралі дэпутаты, як бы там ні было, абраннікі народа. І таму Раковіч, як і ўсе ягоныя калегі — партыйныя лідэры, дзяліўся часткай улады са старшынёй райвыканкама, асабліва ў гаспадарчых справах, затое падбор і расстаноўка кадраў — гэта была вотчына райкама.

Цяпер жа Раковіч зноў вярнуўся ў кабінет старшыні выканкама — кіраўніка савецкай улады і адчуў, што дзяліць уладу няма з кім. Раней былі тры сакратары райкама партыі. Аўтарытэтныя, вядомыя, важныя — без фігі не да носа, — а цяпер ён адзін. За ўсё адказвае ён, Анатоль Раковіч, народ даверыў яму вяршыць суд і справядлівасць, караць і мілаваць. І ніхто не паскардзіцца ні ў абкам, ні ў Цэнтральны камітэт.

Была і яшчэ адна асаблівасць ягонага становішча. Ён вырас і ўзгадаваўся ў гэтым раёне. А гэта мела свае плюсы і мінусы. Галоўны плюс: ён ведаў людзей, усе вёскі, дзе якая зямля. А мінусам было тое, што ён знаходзіўся быццам пад штодзённым рэнтгенам: яго і ягоных бацькоў ведалі ў раёне, сачылі, хто калі з ягоных сваякоў ці аднавяскоўцаў завітаў у кабінет земляка-начальніка, чаго прасіў і што яму ўдалося выпрасіць. Тут Анатолю заўсёды дапамагаў сваімі парадамі бацька: ён прайшоў і мясцовыя, і раённыя калідоры ўлады, чалавек бывалы — з сямі печаў хлеб еў. Пасля вайны быў старшынёй сельсавета, потым намеснікам старшыні райвыканкама, у часы Хрушчова адчуў, што яго могуць турнуць з пасады, бо дыплома не меў, апярэдзіў начальства і сам папрасіўся ў родны калгас, падняў калгас на ногі, вывеў у пяцёрку лепшых.

Калі сына абралі першым сакратаром райкама партыі, Мікалай Раковіч радаваўся болей за ўсіх, нават болей за самога новаспечанага партыйнага важака. Пасля Чарнобыля стары Раковіч устрывожыўся, але не так за сына, як за малых унукаў. Ён добра памятаў анекдот, які некалі расказаў Даўгалёў пасля бюро райкама. Прыйшла да парторга жонка партыйца, расплакалася: муж яе крыўдзіць, не спіць з ёй, відаць, займеў палюбоўніцу. Парторг выклікае свайго камуніста: «Ты чаму жонку крыўдзіш? Не спіш з ёй? Палюбоўніцу завёў. Пазорыш званне камуніста». Мужчына

яшчэ не стары, гадоў на паўсотню, кажа: «Я не магу з ёй спаць. Я імпатэнт». — «Ты перш-наперш камуніст. А потым ужо імпатэнт. Каб жонка болей не скардзілася».

Тады мужыкі-партыйцы дружна рагаталі, бо самі маглі любіць жанок, маглі рабіць сваю мужчынскую справу, маглі жыць і радавацца. Дык вось стары Раковіч не столькі за здароўе сына перажываў, той загартаваны, абкатаны, чарку-другую шандарахне, і ўранні, свежы, як «агурчык». Шчымела сэрца старога Раковіча за ўнукаў. Калі выбухнуў Чарнобыль, старэйшаму Максіму споўнілася сем гадоў, малодшаму Міколку, якога назвалі ў гонар дзеда, — пяць. Вось іхняе здароўе і клапаціла Мікалая Раковіча. Штолета, а таксама на зімовыя канікулы ён забіраў унукаў да сябе, у Бяседавічы, якія лічыліся чыстымі ад радыяцыі, забяспечваў сынаву сям'ю малаком, усялякай гароднінай. Франтавік Мікалай Раковіч, тройчы паранены і кантужаны, які ўжо амаль паўвека пражыў з прабітым плячом, як птушка з параненым крылом, хацеў дачакацца праўнукаў.

...Планёрка пачалася, як звычайна. Толькі на гэты раз у паўцёмнай актавай зале, дзе сабралася каля паўсотні мясцовых кіраўнікоў, было халадней звычайнага. Таму планёрку старшыня райвыканкама пачаў з даклада шэфа камунальнай службы. Невысокі каржакаваты мужчына ў скуранай куртцы з мноствам замкоў-маланак падняўся, абхапіў шырокімі далонямі спінку вольнага крэсла перад ім, быццам баяўся пахіснуцца, прагундосіў:

— За выхадныя выстыла. Мароз выскачыў. Сянні дваццаць адзін градус. Праз пару гадзін падымем ціск. Нагрэем, Анатоль Мікалаевіч.

— Ета з Белавежскай пушчы дыхнула холадам, — пачуўся нечы хрыплаваты бас.

Зала ажывілася, усе пачалі дружна перамаўляцца між сабою.

— Вазьміце пад кантроль школы, бальніцу, дзіцячыя садкі. Дарэчы, мароз не першы дзень. Сіноптыкі папярэджвалі. Трэба не спаць у шапку. Вы ж не першую зіму працуеце, — гаварыў Раковіч, а сам думаў, як там, у Белавежскай пушчы, усё адбылося? Як ім удалося абхітрыць уладу, чаму праспалі спецслужбы? Што сказаць, калі зададуць пытанне?

Раковіч падняў начальніка раённага сельгасупраўлення, а сядзеў ён за сталом прэзідыума, недалёка ад вядучага планёркі. За гэтым сталом на сцэне сядзелі намеснікі старшыні, загадчыкі аддзелаў. Сядзеў тут раней і дырэктар цэментнага завода — на правах кіраўніка самай вялікай у раёне будоўлі, але цяпер яго месца пуставала, бо ён ужо месяц лячыўся ў абласной бальніцы.

— Як ідзе зімоўка на фермах?

Начальнік упраўлення, вядома ж, падрыхтаваўся, гучным голасам пачаў дакладваць: якія надоі ў калгасах, дзе ёсць прыбаўка, колькі кароў ацялілася. Раковічу хацелася перапыніць яго: тут не месца для справаздачы, ты скажы, якія ёсць праблемы, якія недахопы, што зрабіць, каб іх ліквідаваць.

— Гэта ўсё вядома. А вось чаму ў суботу, пазаўчора, у калгасы не даставілі брагу? Кароў на сухі паёк паставілі?

Выступоўца пачаў сумбурна тлумачыць, што ў суботу на спіртзаводзе адбылася нейкая паломка, таму і брагі не было, але сёння завод працуе, фермы будуць забяспечаны «бардою».

— А дырэктар спіртзавода ёсць?

— Ён у адпачынку. Галоўны інжынер замяшчае. А ён чамусьці не прыехаў на планёрку, — патлумачыў першы намеснік старшыні.

— Разбярыцеся, што ў іх там здарылася.

Раковіч меркаваў правесці планёрку аператыўна, без цягамоціны. Але тут паднялася дзябёлая русявая кабета, начальнік раённай племяннай станцыі:

— Анатоль Мікалаевіч, ёсць праблема. Не ўсе калгасы закончылі выбракоўку хворых на лейкоз кароў...

Тут падхапіўся галоўны ветурач раёна, пачаў тлумачыць сітуацыю. Яму ўзяўся пярэчыць галоўны заатэхнік. Нарэшце з гэтым пытаннем разабраліся: вызначылі хто і калі павінен далажыць старшыні аб прынятых мерах. Затым начальнік міліцыі і пракурор усчалі спрэчку. А сутнасць вось у чым: некаторыя кааператары хочуць гандляваць у вялікіх вёсках, а участковыя інспектары міліцыі іх праганяюць.

— Хай набываюць ліцэнзіі і гандлююць. Нікога не трэба ганяць, — рашуча сказаў Раковіч.

У гэты час азваўся тэлефон, які стаяў справа ад Раковіча. Тэлефанаваў Мікалай Шандабыла з Магілёва.

— У цябе планёрка? Закончыш, пазвані мне. Ёсць справа.

Як толькі старшыня паклаў трубку, нехта выгукнуў з залы:

— Можа, наконт пушчы? Як ваша думка, Анатоль Мікалаевіч? Што там адбылося? Што етыя тры зубры вырабілі? Дзе мы цяпер жывём?

— Мы жывём у незалежнай Беларусі. Ну, а дружыць будзем з усімі. Таму і створана Садружнасць Незалежных Дзяржаў. А ўвогуле, у мяне такая ж інфармацыя, як і ў вас. Пачуў уранні кароткае паведамленне. Будуць надрукаваны матэрыялы... Глядзіце сёння тэлевізар. Павінны і паказаць, і сказаць. Справа — вельмі сур'ёзная. Ну, а наша справа — выконваць свае абавязкі, — пасля кароткай паўзы Раковіч дадаў: — Даіць кароў трэба пры любой уладзе. Пячы хлеб і абаграваць кватэры. На гэтым усё. Дзякуй. Да пабачэння!

Разыходзіліся нетаропка. Раковіч чуў: усе гаварылі пра «белавежскіх зуброў». У кожнага была свая думка, выказваліся цяпер смела, як тое й належала грамадзянам незалежнай краіны.

Да Раковіча падышоў дырэктар лясгаса, сказаў, што ў яго вакансія галоўнага ляснічага адкрываецца з дзесятага, значыць, з заўтрашняга дня, ці можна афармляць Сахуту?

— Канешне, можна. Калі аформіш, зайдзеш з ім да мяне.

У кабінеце набраў нумар Шандабылы і пачуў знаёмы глухаваты густы барытон.

— Што ты доўга засядаеш?

— Так, розныя праблемы. Хаця пыталіся і пра гэта. А я ведаю тое, што і яны. Можа, у вас болей інфармацыі?

Абласны начальнік распавёў далей, што ў суботу ездзіў да Акапяна ў бальніцу, пагаварылі, выглядаў ён няблага, збіраўся выпісвацца. Уранні пачуў паведамленне з Белавежскай пушчы. Акапян з суседам, адстаўным палкоўнікам, выйшаў у калідор, раптам схапіўся за сэрца і асеў на падлогу. Паклікалі доктара, зрабілі ўкол. Але ўжо не выратавалі.

— Стварыце раённую камісію. Пахаванне арганізуйце як след. Інфармуйце мяне. Калі ўдасца, прыеду.

На гэтым Мікалай Арцёмавіч развітаўся. Раковіч сядзеў, бы ў здранцвенні. Ён ведаў, што Акапян сур'ёзна хворы, але пра ягоную смерць і думкі не дапускаў. У яго было столькі энергіі, столькі жадання закончыць будаўніцтва цэментнага завода. Усплывала ў памяці вячэра на Бесядзі. Акапяну тады зрабілася блага, напалохаў ён усю кампанію. А ў Маскве ў той вечар арыштавалі кіраўнікоў ГКЧП. А вось цяпер Белавежскія пагадненні, скананне Савецкага Саюза.

Смерць сваёй вялікай краіны сын армяніна і рускай жанчыны, муж беларускай кабеты, савецкі чалавек і сапраўдны інтэрнацыяналіст — Георгій Сяргеевіч Акапян перажыць не змог.

Раённая жалобная камісія рабіла захады, каб годна правесці ў апошні шлях дырэктара завода, але сям'я Акапяна вырашыла пахаваць яго ў Магілёве, побач з бацькам. Раковіч нават ціха ўзрадаваўся: усё ж меней клопату, накіраваў у Магілёў свайго намесніка, дэлегацыю ад цэментнага завода.

Клопату Анатоль Раковіч пазбыўся, але думкі пра Акапяна не пакідалі яго і на другі дзень, і на трэці. Спярша ўздыхнуў з палёгкаю: не давядзецца быць на пахаванні, не прыедзе Мікалай Шандабыла, а ягоны прыезд заўсёды канчаўся моцнай п'янкай. Абласны чарнобыльскі начальнік любіў гаварыць: аптымізм, добры настрой і добрая чарка перамогуць радыяцыю. Вось чым гэта скончылася для Георгія Акапяна. Мабыць, генетычна ягонае нутро было запраграмавана на вінаграднае віно, а не на саракаградусны напой. Ды Акапян і спіртам не грэбаваў: моцным пітвом ён здымаў стрэс і расчапляў радыенукліды. Апошнім часам, да ягонай хваробы, Акапян і Раковіч сустракаліся амаль штодня. Будоўля завода, бясконцыя праблемы моцна зблізілі іх, не раз напрыканцы дня здымалі разам стрэс.

І вось Акапяна ўжо няма. Ніякі стрэс, ніякія клопаты для яго не існуюць, бо няма яго самога. Халоднае цела, спакутаванае ад цяжкой хваробы, маральных пакутаў знайшло вечны супакой у беларускай зямлі, якую некалі вызваляў ад немцаў, а потым адраджаў спаленыя вёскі, здратаваныя танкамі палі, няўрымслівы, апантаны Георгіеў бацька — Сяргей Хачатуравіч Акапян, партыйны лідэр раёна.

— Гэта ж яму да пенсіі, да заслужанага адпачынку, заставалася сем гадоў, — падумаў Раковіч. А мне да пенсіі, як да неба. Ажно трынаццаць гадоў. Няўжо дацягну? Бацька ж вунь жыве, хоць яму пераваліла за семдзесят. Вайну прайшоў, плячо перабітае. Але ж яшчэ хвост трымае пісталетам. Неяк пасля чаркі прызнаўся, што яшчэ і жонку не крыўдзіць, можа прылашчыць, маўляў, вучыся, сынок, жыць на ўсю поўніцу, каб і пасля пенсіі пораху хапала. А тут і зараз ужо няма цягі: то ціск падскочыць, аж патыліца разломваецца, то за грудзінаю сціснe — ні дыхнуць, ні выдыхнуць. Трэба мяняць лад жыцця. Болей хадзіць, а то ўсё на машыне. А мо паспрабаваць раніцой бегаць? Уранні цёмна, мала хто бачыць будзе. А калі і ўбачыць, дык хіба гэта кепска? Наадварот, добры прыклад падначаленым. І як мага меней піць. Калі зусім завязаць — начальства не зразумее, адразу спішуць у архіў: стаміўся — на ўзбочыну. Тут законы бязлітасныя і правілы гульні суровыя: не можаш цягнуць воз, саступі дарогу маладзейшаму. А цяпер гэтулькі маладых партыйных функцыянераў яшчэ не ўладкаваных, прагных уздымацца па кар'ернай лесвіцы. Вось патрэбны новы дырэктар цэментнага завода. Вядома, шукаць кандыдатуру на ва-

кантную пасаду — клопат міністэрства, але ж і з кіраўніцтвам раёна павінны параіцца абавязкова.

Думкі перапыніў тэлефон, пачуўся голас дырэктара лясгаса, той спытаўся, ці можна на аўдыенцыю.

— Добра. Пад'язджайце, — зірнуў на гадзіннік — пачалася шостая гадзіна.

З палёгкаю падумаў: рабочы дзень канчаецца, можна пасядзець, пагаманіць, абмеркаваць вестку з Белавежскай пушчы, кульнуць кілішак за новую пасаду земляка, памянуць Георгія Акапяна, а таксама памянуць былую вялікую краіну. Раковіч здзівіўся, што падумаў пра гэта — пра скананне Савецкага Саюза — даволі спакойна, без эмоцый і хвалявання, нібы гэта павінна было здарыцца. А жыццё ідзе сваім ходам. Былы сакратар абкама партыі пачынае новы кар'ерны рост, і ён, Анатоль Раковіч, памятае Сахуту з таго далёкага вечара, калі выцягваў з лужыны заляпаны гразёю «газон» камсамольскага лідэра. Маладзенькі трактарыст Толік Раковіч тады глядзеў на першага сакратара райкама камсамола Сахуту як на вялікага і важнага начальніка, да якога і ягоны бацька ставіўся з павагай і пашанай.

Раковіч падняўся, адчыніў сейф, нібы хацеў пераканацца, што пачатая пляшка каньяку стаіць на месцы. Ён разумеў, што госці прыедуць не з пустымі рукамі, але раптам не здагадаюцца ці пасаромеюцца прыхапіць нешта з сабою, дык у яго ёсць «рэзерв галоўнага камандавання». Папярэдзіў сакратарку, каб адразу прапусціла дырэктара лясгаса, згатавала каву на трох, і можа быць вольнаю. Сакратарка ўгодліва кіўнула і зноў схілілася над пішучай машынкай.

Дырэктар лясгаса Іосіф Капуцкі і новы галоўны ляснічы Андрэй Сахута ўвайшлі ў кабінет Раковіча. Абодва ў форменных кіцелях, расчырванелыя, падвяселеныя, дырэктар трымаў у руках важкі дыпламат. Раковіч зразумеў, што госці ўжо замачылі новую пасаду, але і да яго прыбылі не з пустымі рукамі. Ён асабліва пільна зірнуў на Сахуту: што адчувае гэты чалавек, які пачаў узыходжанне з лясніцтва, дзе некалі працаваў пасля тэхнікума, і праз трыццаць гадоў мусіў туды вярнуцца. А сёння ён падняўся на прыступку вышэй, у пятліцы форменнага кіцеля заблішчэла новая, чацвёртая, зорачка.

Але твар новаспечанага галоўнага ляснічага не выказваў асаблівай радасці, вочы былі сур'ёзныя, нават стомленыя, хоць трохі і паблісквалі ад выпітай чаркі, ад неспадзяваных абдымкаў і пацалункаў, пра якія ведалі толькі Ён і Яна. «Умее трымацца былы партыйны ідэолаг, — падумаў Раковіч. — Абкатку прайшоў грунтоўную». І раптам яго нібы апякло: Георгій Акапян і Андрэй Сахута — аднагодкі! Гэты выкараскваецца з ямы, куды спіхнулі абставіны жыцця, а той пайшоў у яму назаўсёды. Але як ні караскайся, усе там будзем, хто раней, хто пазней. Аднак лепей усё-ткі апынуцца там пазней. Раковіч адчуў, як зноў зашчымела сэрца.

— Ну што, Андрэй Мацвеевіч, віншую! Дай Божа дарасці вам да міністра. Прычым гэтак жа хутка.

— Дзякуй, Анатоль Мікалаевіч! Дзякуй за падтрымку. А наконт міністра... Позна. Мой цягнік ужо адляскатаў.

— Ну да намесніка ж рэальна! Чатыры зорачкі... Гэта вы, як генерал арміі, так?

— Цяпер і ў генерала арміі адна зорка. Вялікая, — удакладніў Іосіф Капуцкі.

Раковіч спытаўся, як успрыняла жонка гэтую вестку — пра новую пасаду. Андрэй сказаў, што яна яшчэ не ведае, тэлефанаваў з лясгаса, але яе не было дома.

— Вось тэлефон. Калі ласка, званіце, а мы перакурым.

Раковіч пакіраваў да дзярэй, за ім пасунуўся і Капуцкі.

Андрэй набраў нумар. У трубцы пачуўся глухаваты, стомлены жончын голас. Ці то ад выпітай чаркі аржанушкі-весялушкі, ці то ад разумення, што ягонае ўзыходжанне ідзе паспяхова, ці то ад адчування віны, а ён сёння неспадзявана правініўся, але яму захацелася павітацца з жонкаю, як у маладыя гады:

— Дзень добры, мая радасць!

— Дзень добры! Я ўжо зачакалася. Даўно не званіў. Чую, у цябе добры настрой.

Жончын голас адразу пацяплеў, але ў ім чуліся трывога, як ён там, і радасць, што патэлефанаваў, жывы-здаровы, што яна для яго — па-ранейшаму радасць.

— З сённяшняга дня прызначаны галоўным ляснічым. Дык во, замачылі. Узялі па кроплі.

— Віншую, мой любы. Жадаю табе поспеў і чакаю сустрэчы.

Такой ласкавай размовы ў іх не было даўно. Словы «мой любы» Андрэй не чуў ад жонкі ўжо некалькі гадоў. Ды і ён апошнім часам рэдка гаварыў жонцы ласкавыя словы. А як страціў высокую пасаду і стаў беспрацоўным іхнія адносіны з кожным днём ускладняліся, нацягваліся, нібы струна. Вядома, ён не забыў, як даймала жонка: чаму сядзіш? Чаму не шукаеш работу? Але сёння інстынктыўна сказаў: «мая радасць...», дадаў усяго тры літары да жончынага імя, бо ў пашпарце яна — Рада.

Андрэй Сахута быў вельмі задаволены размовай з жонкай. Але сказаў ёй не ўсю праўду. Калі яна спыталася, дзе ён будзе жыць, адказаў, што пакуль спыніўся ў аднавяскоўца, інжынера-сувязіста, што на выхадныя прыедзе і ўсё раскажа. Так, аднавясковец, інжынер-сувязіст, сапраўды жыве ў райцэнтры, але спыніўся Андрэй не ў яго. Гаспадыня кватэры — сімпатычная ўдава, якая ведае яго з часоў камсамольскага юнацтва. І сёння ён з ёю горача цалаваўся...

Рада была задаволена размоваю. У яе душы, як трава праз асфальт, пачала прабівацца надзея, што з новай пасады Андрэй зможа вярнуцца ў Мінск, і яны зноў будуць жыць разам. Службовы раман, які пачаўся ў яе з калегам-фінансістам ад самотнасці і нават ад жадання адпомсціць мужу, што не паслухаўся яе, кінуўся, бы ў вір, у радыяцыйную зону, яна гатова скончыць у любы момант. Гэты «раман» пераканаў яе, што Андрэй куды лепшы, і што яна не аддасць яго нікому і гатова ехаць за ім нават у радыяцыйную зону. З ім пражыта амаль цэлае жыццё, выгадавалі дзяцей, дачакаліся ўнукаў.

Не маглі ведаць тады муж і жонка Сахуты, якія выпрабаванні чакаюць іхні сямейны човен на вірлівай плыні жыццёвага мора.

## XIII

Пасля няўдалага палявання жыццё Косці Вароніна пайшло пад адхон, нібы снег са страхі вясною — шух, і аб'ехаў долу. А яму сёлета споўнілася ўсяго толькі пяцьдзесят гадоў. Залаты юбілей. Жыць бы яшчэ ды жыць.

Але з усіх бакоў сыпаліся непрыемнасці, як з сеялкі сыплецца зерне ў свежую раллю. Дык зерне давала ўсходы, поле каласавала, красавала, дыхала цёплым водарам хлеба, радавала вока. Давала чалавеку жыццёвую сілу.

Косця ж, наадварот, з кожным днём усё мацней адчуваў, як стома заволодвае ім, злосць на людзей, на суседзяў, на жонку, і асабліва на хаўруснікаў па няўдалым паляванні перапаўняла яго душу. Хаўруснікі-браканьеры — Іван Сырадоеў і Сямён Чукіла — угаварылі яго ўзяць усю віну на сябе, маўляў, менавіта твой дуплет зваліў лася. Сырадоеў параніў, а можа, і не трапіў зусім, бо лось бег далей. Сямён не страляў зусім. Хаўруснікі кляліся сплаціць штраф: на трох раскінем гэтыя няпоўныя паўтары тысячы, мы — па пяцьсот, а табе — астатнія чатырыста семдзесят рублёў. Косця слова стрымаў: заявіў на судзе, што ён адзін застрэліў лася, што ўгаварыў Івана Сырадоева і Сямёна Чукілу паехаць на паляванне, што яны — старыя, нямоглыя пенсіянеры. А цяпер яны адмаўляюцца плаціць грошы: маўляў, табе прысудзілі, ты і выкручвайся, карову прадай, гарэлку меней пі... Адным словам, як хочаш і чым хочаш расплачвайся. А менавіта ж Іван Сырадоеў быў закапёршчыкам палявання: хацеў ласяціны да свайго юбілею...

Злосць, бездапаможнасць раз'ядалі Косцева сэрца. Нічога не хацелася рабіць, яшчэ мацней цягнула да гарэлкі — адно пасля чаркі ён засынаў. У сне часта плакаў, трызніў і скрыгатаў зубамі. Потым прачынаўся, соваўся па хаце, як здань. Жонка сярдзіта бурчэла: «П'янтос няшчасны, дай хоць хвіліну спакою. Мне ўставаць рана. Каровы ісці даіць. А ты будзеш дрыхнуць». Косця агрызаўся, ускідваў на плечы кухвайку, сунуўся на двор курыць. І ўсё думаў, думаў, размотваў клубок свайго нялёгкага і няпростага жыцця.

Бацьку Косця зусім не памятаў. Яму споўнілася два гады з нечым, калі бацька пацалаваў яго, соннага, — цёплы, расслаблены камячок, — праглынуў даўкі камяк, што засеў у горле, назаўсёды развітаўся з дачкою Нінай, ёй ужо было пяць гадкоў, тройчы пацалаваў жонку Просю і разам з немцамі падаўся на захад. Старшы паліцэйскі Сцяпан Варонін не мог чакаць літасці ад савецкай улады, бо аддана служыў фюрэру. Улетку сорак трэцяга партызаны паранілі яго, застрэлілі каня, той грымнуўся на беразе Бесядзі. Варонін кульнуўся з яго, пераплыўшы раку, схаваўся ў кустах лазняку. Хутка ацямнела, і партызаны не знайшлі яго. Просю з дзецьмі гразіліся паставіць да сценкі і расстраляць. Асабліва лютаваў малады камандзір узвода Валодзька Бравусаў. Старэйшыя адгаварылі яго, пашкадавалі малых дзяцей.

Пра гэтае здарэнне Косця даведаўся шмат пазней. А вось той дзень, калі да іх завіталі старшыня сельсавета Свідэрскі, участковы Бравусаў і фінагент Сырадоеў, урэзаўся ў памяць на ўсё жыццё.

Маці ўзяла даёнку і пакіравала ў сенцы. Косцік здагадаўся, што яна пайшла даіць карову, і неўзабаве ён будзе піць цёплы і смачны сырадой. Раптам у акне мільганулі цені, на двары пачуліся галасы. Нінка і Косцік кінуліся да акна. Малы пазнаў дзядзьку Рамана Свідэрскага, які жыў недалёка ад іх, заўсёды хадзіў у жоўтым шынялі і чырвоных гумовых ботах. Другі мужчына быў у сіняй прыгожай фуражцы, на ягоных плячах блішчэлі жоўтыя пагоны. Трэці — у цёмна-зялёным шынялі з блішчастымі гузікамі. Мужчыны гучна гаварылі, размахвалі рукамі.

— Бяжым ратаваць мамку!

Нінка ўхапіла малога брата за руку і пацягнула за парог. На двары дзеці абступілі матку з бакоў. Косцік ухапіў яе за спадніцу, а маці прыхінула яго за плечукі.

— Калі выплаціш грошы на пазыку? Яшчэ раз пытаюся! — крычаў чалавек у жоўтым шынялі.

— Няма цяперыцька грошай. Сотню яек здала. Малака за дзвесце літраў ужо вынесла. Падрасце цялё — здам на мяса.

Пачуўшы пра любімага бычка, якога здадуць на мяса, Косцік захныкаў. Маці ласкава пагладзіла ягоную галаву шурпатаю пяшчотнаю рукою.

— А воўну хто будзе здаваць? — насядаў, бы каршун, начальнік у жоўтым шынялі.

— Авечка здохла яшчэ ўвосень.

— Брэшаш! Авечу ты прырэзала. Аўчыну не здала.

— Няма ў мяне аўчыны. І воўны няма. Не расцець... Толькі ў адным месцы...

— Ах ты, сцерва паліцэйская! — узвіўся чалавек у жоўтым шынялі. — Самагонку гоніш. А яшчэ прыбядняешся, кулацкае адроддзе. Пайшлі за мной!

Праз нейкі час Косцік пачуў стрэлы з лазні. Неўзабаве мужчыны пайшлі, а матка плакала ўвесь вечар.

А назаўтра прыйшла цётка Галя, гаварыла пра нейкі акт, участковы павёз яго ў раён. І цётка, і матка плакалі ўдзвюх.

А праз нейкі час, адвячоркам, зноў прыехаў міліцыянер у прыгожай фуражцы. На гэты раз ён не крычаў, пагладзіў Косціка па галаве, даў цукерку яму і Нінцы. Матка яго частавала, гаварыла з ім ласкава. Косцік нічога не мог зразумець.

Міліцыянер заязджаў да іх усё часцей, Косцік прывык да яго і не баяўся. Ён усё чакаў, калі вернецца бацька. Матка казала яму і Нінцы, што бацьку забілі немцы. І дзе ён пахаваны, яна не ведае. Косцік чуў ад суседзяў, што некаторым паштарка прыносіла «пахаванкі», а людзі потым вярталіся. Косцік чакаў бацьку. Раз магілка яго невядомая, значыць, жывы.

У школе хлапчукі не хацелі сябраваць з Косцікам, хоць ён стараўся добра вучыцца, нікога не крыўдзіў. Затое яго крыўдзілі часта. Ён тады кідаўся біцца і часта вяртаўся дамоў з разбітым носам. І ў піянеры Косціка не прынялі. У сёмым класе ўсе ўступілі ў камсамол, а Косціка не ўзялі. Ад крыўды хацелася плакаць, даўкі камяк засеў у горле, калі адзін вяртаўся дамоў. Усе засталіся на сход. У левай кішэньцы, каля сэрца, замест камсамольскага білета Косцік насіў маленькую фотакартку бацькі — у гімнасцёрцы з пагонамі, з густым чубам. І ў Косціка чуб гэткі ж густы, як у бацькі.

Маці расказала, што бацьку захапілі ў палон немцы, марылі голадам, прымушалі на іх служыць. Каб не памерці з галадухі, бацька згадзіўся. І не толькі голад прымусіў. Ён не любіў савецкую ўладу, бо яна загубіла ягонага бацьку, Косцікавага дзеда Восіпа. Дзед быў працавіты, майстравіты, меў тройку коней, пяць кароў. Яго раскулачылі, выслалі ў Сібір, дзе ён і загінуў.

Пасля школы Косця Варонін паступіў у вучылішча механізацыі. Там у яго ніхто не пытаўся пра бацьку, яго хвалілі за стараннасць, працавітасць. Вучылішча ён скончыў паспяхова. Вярнуўся дамоў, далі яму

старэнькі гусенічны трактар «НАЦІ». Ён перабраў яго, адрамантаваў, старшыня калгаса Макар Казакевіч вельмі хваліў Косціка.

А ягоныя лепшыя гады жыцця — гэта служба ў арміі. Добра апрануты, заўсёды накормлены. Усё своечасова. Служыў у танкавых войсках. Нампаліт спытаўся аднойчы, чаму ён не ўступаў у камсамол. Косця прыдумаў гісторыю: бацька быў партызанскім сувязным, каб здабываць звесткі, падтрымліваў сувязь з немцамі і паліцаямі. Партызаны з іншага атрада не разабраліся і расстралялі яго як здрадніка. І па вёсках пусцілі такую пагалоску. І Косцю ў камсамол не ўзялі... Ужо дзьмуў іншы вецер, панавала хрушчоўская адліга, яфрэйтара Косцю Вароніна прынялі ў камсамол, прысвоілі званне малодшага сяржанта. На вучэннях Косця лепей за ўсіх адстраляўся, камандзір палка даў яму дзесяць сутак водпуску.

Ніколі не забудзе Косця, як радавалася маці яго прыезду! Такой шчаслівай ён не бачыў яе за ўсё ранейшае жыццё. На танцах у клубе, калі аб'яўлялі «дамскі вальс», дзяўчаты навыперадкі імчалі, каб запрасіць Косцю на танец. А ён танчыў толькі з Ксеняй. Жанчыны, што сядзелі на лаўках паўз сцены, як галкі, у чорных плюшаўках, любаваліся гэтай парай: абое высокія, зграбныя, светлавокія. Пасля арміі Косця вярнуўся дамоў, зноў сеў на трактар. Неўзабаве згулялі з Ксеняй вяселле. Жылі маладыя добра, калгас дапамог збудаваць звонкую пяцісценку са смаловых бёрнаў прыбясёдскага лесу.

Асабліва радавалася Прося. Яна, удава, якую часта абзывалі «паліцэйскай шкурай», падняла на ногі гэткіх відных, працавітых, паважаных у вёсцы дзяцей. Нінка выйшла замуж за Данілу Баханькова, які цяпер брыгадзірыў у Хатынічах. А яна — лепшая даярка. Нявестку Ксеню Прося палюбіла, як родную дачку, ганарылася, што Ксенін брат, Мікалай Арцёмавіч, галоўны аграном калгаса, вядомы чалавек у раёне. Адно засмучала Просю, што нявестка ніяк не падорыць ёй унука ці ўнучку.

Зачакалася дзяцей і маладая пара. Тое, што жонка не можа зацяжарыць, засмучала і Косцю. Была і яшчэ ў яго адна крыўда, глыбока затоеная ў душы. Да вяселля Ксеня не згаджалася з ім пераспаць: распішамся — тады ўсё будзе. Цяжка было трываць маладому здароваму хлопцу. І любоўю ён займаўся адно ў сне. Ён не ведаў, што гэта нармальная з'ява, якой медыкі далі свой тэрмін.

У ноч пасля вяселля ў іх усё адбылося. І хоць Косця быў хлопец нявопытны, падалося, што ягоная нявеста ўжо «нячэсная». Тады ён нічога нікому не сказаў, а неяк пасля спрэчкі, калі пражылі ўжо тры гады, упікнуў Ксеню. Тая расплакалася, абазвала яго дурнем, які нічога ў жыцці не разумее. Вядома ж, пра абдымкі з Вольчыным Пецькам у капе сена ля Бесядзі яна не прызналася. Мусіць, і Пецька не выдаў іхнюю таямніцу, бо ніхто ў вёсцы не мог сказаць пра Ксеню благога слова. Але Косця меў падазрэнне на Пецьку, бо ведаў, што некалі ён заляцаўся да Ксені. Але зараз у яго свая сям'я, растуць дачка і сын.

Ішлі гады. Дзяцей у Косці і Ксені так і не было. Хадора вадзіла дачку да шаптух, ездзіла Ксеня ў раённую бальніцу, у абласную, піла розныя таблеткі, усялякія зёлкі. Прымусіла праверыцца і Косцю: у яго ўсё было ў парадку. Маўчала звонкая новая хата, не чула яна дзіцячага смеху і плачу.

Як лепшага механізатара старшыня калгаса захацеў прызначыць Косцю брыгадзірам трактарнай брыгады. Але для такой пасады пажадана было мець у кішэні партыйны білет. Іван Сырадоеў, які тады загадваў фер-

май, напісаў Косцю рэкамендацыю, яшчэ дзве далі інжынер і ветэрынарны ўрач. І Косцю аднагалосна прынялі ў партыю. Пра бацьку ніхто не ўзгадаў, ды і даўно тое было...

Цяпер, успамінаючы той партыйны сход, Косця ажно калаціўся ад злосці і нянавісці да Сырадоева: камуніст, франтавік, аказаўся гэткай падлюкай... Прыгадаўся ён у форме фінагента. Як прыходзіў да іх, раскрываў скураную сумку, што целяпалася каля боку, і пачынаў: «Ты што сабе думаеш, Прося? Калі будзеш плаціць падаткі?»

А тады, калі прызначылі брыгадзірам, Косця адчуў сябе на кані. Вяскоўцы, старэйшыя за яго мужчыны, і асабліва кабеты, здаля віталіся з ім. Косця заўсёды быў акуратна апрануты, нават камбінезон на ім быў чысцейшы, чым у іншых. Завялася і капейчына ў кішэні. І Ксеня пачала болей зарабляць. Купілі тэлевізар, мэблевы гарнітур, а потым матацыкл з каляскаю. Гэта была даўняя Косцева мара мець матацыкл: жонку — на сядзенне ззаду, сына ці дачку ў каляску і гайда ў лес — па грыбы ці ў ягады. І яны ездзілі, але ў калясцы сядзела цешча...

Ксеня даўно марыла прыдбаць шыкоўны дыван і павесіць у спальні на ўсю сцяну, каб і прыгожа было, і спаць цёпла. Дыван купілі, але хата заставалася халоднаю.

У вёсцы бяздзетная сям'я пачувае сябе вельмі няўтульна, асабліва — жанчына: яна не мае права быць ні кумою, ні павітухаю, ні хроснай маткаю. Розныя шаптухі-знахаркі раілі Аксенні пасадзіць сваімі рукамі ў хаце фікус, насіць на шыі пялёсткі ружы ў маленькім мяшэчку, есці арэхі або слівы спарышы, давялося прасіць цяжарную жанчыну, каб тая цераз плот перадала кавалачак хлеба з рота ў рот... Усё Аксення рабіла, але дзяцей не было. З гадамі Косця ўсё больш пераконваўся, што няма ў іх дзяцей праз жончын грэх, але аднойчы ён пачуў іншае...

Неяк ён набраў у краме поўную сетку — хлеб, селядцы, цукеркі для жонкі — і паўлітэрку ўзяў. Калі купляў, ля прылаўка тоўпіліся жанчыны, зайздросна пазіралі на яго. Косця выйшаў за дзверы, прыстоіў на ганку і пачуў голас Шкурдзюковай Палажкі:

— Усяго ў іх хапаець. І хлеба, і гарэлкі. А дзяцей Бог не дае. Праклялі людзі Сцяпана, Косцевага бацьку. Таму і род на ім скончыцца.

У Косці аж уваччу пацямнела, хацелася вярнуцца, узяць Палажку за каўнер: «Брэшаш! Бацька мой не вінаваты...»

Аднойчы пасля жніва Косця атрымаў цэлы жмут грошай. Вырашылі мужчыны замачыць дажынкі, бо працавалі, абліваліся потам па дванаццаць гадзін. Ураджай выдаўся неблагі, то і грошай механізатары зарабілі дабравата. Ну і разгавеліся... Прыйшоў Косця дамоў позна і на добрым падпітку. Ксеня ўзялася ўшчуваць. Ён са злосцю выдыхнуў:

— А для каго грошы збіраць? Каму перадам? Дываны купляць, каб моль ела? На той свет нічога не возьмеш. На вечку труны багажніка няма, — ён прываліўся да стала, заікаючыся, гундосіў: — Каб жа быў сын ці дачушка... Я ж бы на руках насіў і дзіця, і цябе. Жыў бы, як чалавек. Ета ўсё праз твой грэх. Не дачакалася... Давалка дужа свярбела...

Ксеня праз слёзы крыкнула:

— Гэта цябе праклялі за бацьку. Ён страляў і старых, і малых... Вось і праклялі людзі. А ты на мяне плявузгаеш. Нажлукціўся гарэлкі. Набраўся, як жаба гразі.

Косця не стрываў і з кулакамі кінуўся на жонку. Яна баранілася і да крыві паабдзірала яму рукі. Гэта яшчэ болей раззлавала Косцю, і ён моцна пабіў Ксеню. Назаўтра ейны твар быў у сіняках.

— Ідзі даіць кароў. Яны, як і я, ні ў чым не вінаватыя, — прастагнала Ксеня.

І Косця, як пабіты сабака, пацягнуўся на ферму... Даяркі, вядома ж, прыкмецілі чырвоныя пісягі на Косцевых руках:

— Што й та за кошка ў цябе такая? Мабыць, сіямская? Кажуць, яна дужа лютая... — з'едліва пасміхаліся жанчыны.

Косця агрызаўся, як зацкаваны воўк. Галава была цяжкая, падрапаныя рукі смылелі, не слухаліся яго. Даіць кароў ён умеў, некалі маці моцна праступдзілася, захварэла на запаленне лёгкіх, адвезлі яе ў бальніцу, то ён з Нінкай гаспадарыў. Тады і карову даіць навучыўся. Здаралася, і Ксені пасабляў на ферме.

На дварэ стаяў верасень, малака рагулі давалі небагата. Даяркі, падаіўшы сваіх кароў, дапамагалі і Косцю. Выйшаў ён з фермы, калі толькі пачало віднець. У роце ўсё перасохла, язык нібы распух. Дамоў ісці не хацелася, і на машынны двор з падрапанымі рукамі, у завэздганай кухвайцы сорамна паказацца. Ногі самі панеслі яго да Бесядзі. Там ён памыў рукі, спаласнуў твар. Вада была халодная, пахла водарасцямі і... каравяком, бо з фермы, якую «прывязалі» раённыя начальнікі на ўзгор'і, часцяком, калі перапаўняліся адстойнікі, смярдзючая жыжа цякла ў Шамаўскі ручай, а далей у Бесядзь.

Пакрысе віднела, мацнеў вецер. Халодны, вільготны, пругкі, ён працінаў да касцей, бо старая кухвайка грэла слаба. Ды і ногі ў гумовіках пачалі мерзнуць. Куды падзецца? Агледзеў каржакаватыя альховыя кусты на беразе ракі, зірнуў на цёмную сцяну лесу. І яго пацягнула туды: там будзе цяплей, зацішней, пакуль дойдзе да Лясковічаў, адчыніцца крама, можна пахмяліцца. На работу вырашыў не ісці — куды ў такім выглядзе пойдзеш?

Шырокія падрапаныя Косцевы далоні ўчапіліся за халодны, настылы трос, цяжкі, набрынялы паром неахвотна зрушыўся з месца, памалу пачаў аддаляцца ад берага.

Да лесу дайшоў хутка. Вецер, здаецца, выдзьмуў хмель з галавы, Косця ўздыхнуў вальней. Дарогаю трапляліся на вочы баравікі. У кішэні знайшоўся цэлафанавы пакет, сцізорык, і Косця ўзяўся збіраць грыбы. Зразаў самыя маладыя, крамяныя, на тоўсценькіх ножках. І так захапіўся, што забыўся на ўсе свае беды і няшчасці, і цяжкія думкі паступова знікалі з галавы. За ўсё лета ён ні разу не схадзіў у грыбы — не было калі, а тут гэтулькі баравікоў! І самае дзіўнае — іх было шмат паўз дарогі, з абодвух бакоў. Дзятва пайшла ў школу, дарослым не да гэтага, вось і высыпалі грыбы, хоць касою касі.

Пакуль дайшоў да вёскі, назбіраў амаль поўны пакет, схаваў яго пад елачкай, пашыбаваў да крамы. Здаля ўбачыў адчыненыя дзверы, узрадаваўся, аж на душы пасвятлела: зараз «атаварыцца», возьме пляшку, чагонебудзь на зуб, уладкуецца ў лесе... Але ні віна, ні гарэлкі ў краме не было — учора ўсё падчысцілі. Згледзеў круглыя флакончыкі трайнога адэкалону, узяў два і пачак пячэння. Знайшоў у лесе свой пакет з грыбамі, тут жа пад елачкай, першы раз у жыцці, каўтнуў з флакона. Тонкі пякучы струменьчык разліваўся ўнутры і быццам спальваў усё на сваім шляху. Пася-

дзеў троху на пні, але было холадна, і Косця памалу, нага за нагу, пацягнуўся дамоў.

Зноў цяжкія думкі апанавалі яго. І здавалася, што праз усё жыццё не меў ён радасці — адны пакуты, халадэча, галадуха, цяжкая праца без выхадных. Светлы ўспамін застаўся ад службы ў войску і ад першага года сямейнага жыцця. Гэта быў шчаслівы год, сапраўды мядовы, поўны пяшчоты і ласкі. Год канчаўся, прыкметаў цяжарнасці не было. Косцевы падазрэнні, што Ксеня грашыла да яго, мацнелі. Але пачутае ад Палажкі Шкурдзюковай прымусіла думаць і пра людскі праклён. Гэтыя думкі не прыбавілі шчасця ў Косцевым жыцці, наадварот зрабілі яго маўклівым і пахмурным.

...Вецер нарэшце пашкуматаў попельна-шэрыя хмары, выбліснула зыркае восеньскае сонца, але Косцеў настрой не палепшыўся. Хмуры, засяты, сярдзіты на жонку, на сябе, і нават на ўвесь свет, пераступіў ён парог сваёй хаты.

Ксеня, як і раней, ляжала ў ложку. Павярнулася да сцяны, калі ён увайшоў у хату. Нічога не кажучы, Косця ўзяўся парадкаваць грыбы. Перабраў, абрэзаў карэньчыкі, старанна вымыў, большыя парэзаў драбней. Падпаліў у пліце, ускінуў на патэльню сала, потым нарэзаў цыбулі. Грыбы тым часам варыліся ў чыгунку. Калі яны пакіпелі, зліў ваду, грыбы высыпаў на патэльню. Яна зашыпела, засквірчэла, уся хата напоўнілася звабліва-смачным водарам. Косця адчуў, што моцна прагаладаўся.

І тут расчыніліся дзверы, уляцела раззлаваная цешча Хадора са слязьмі на вачах. Раскрыла рот, каб абрынуць на зяця-п'янтоса цэлы вадаспад праклёнаў, але ўбачыла яго каля пліты, дзе ён лыжкаю памешваў грыбы, удыхнула казытлівы іхні пах і застыла з адкрытым ротам. Косця разумеў, што абвастраць сітуацыю ніяк нельга, трэба шукаць шлях да міру і згоды. Ён спакойна памешваў грыбы, левую, моцна падрапаную руку, схаваў за спіну. Як можна спакайней прамовіў:

— Праходзьце, мама, сядайце. Грыбы хутка будуць гатовыя.

Пачуў, як за шырмаю заварушылася Ксеня. Пачула гэты рух і Хадора, патэпала туды. Неўзабаве з-за шырмы пачулася галашэнне:

— А мая ж ты дачушка! Што ж ён з табою зрабіў?! Трэба ў міліцыю заявіць. Пайду ў кантору, пазваню. Ах ты, паліцэйскі выблядак...

Косця сціснуў зубы, кусаў язык, каб не адмацюкаць цешчу, не ўзяць яе за каўнер і не выкінуць з хаты. Ён моўчкі паставіў грыбы на стол, закапцелы чайнік на пліту і крутнуўся за парог. Куды ісці? Да каго? Да сваіх сябрукоў-сабутыльнікаў, з якімі ўчора піў? З рукамі, падрапанымі да крыві, куды пойдзеш?

Яго пачалі біць дрыжыкі, бо выскачыў нават без шапкі. Намацаў у кішэні кухвайкі круглы флакон, таксама халодны, настылы, дрыжачымі рукамі адкаркаваў, каўтануў пякучай вадкасці, схаваў флакон каля вугла пад дрывамі і пайшоў у хату. У жываце пякло, хацелася нечым заесці.

У хаце было ціха. Жанчыны спакойна, сцішана перамаўляліся. «Значыць, участковага не пабегла клікаць. І не пабяжыць. Сыну-начальніку будзе сорамна. Ды і я — не апошні чалавек. Брыгадзір...» Косця сеў за стол і ўзяўся есці грыбы. Высунулася з-за шырмы Хадора.

— Смачныя грыбкі. Паспрабуйце, мама, — нечакана для сябе ціха прамовіў Косця.

І не паверыў сваім вачам: Хадора села за стол, узяла лыжку, падчапіла маленькі баравічок, доўга шамкала бяззубым ротам.

— Ай, праўда, нічога... Можна есці.

— Каб яшчэ сто грамаў — душу прывязаць... Міравую выпіць. Ну, вінаваты я. Сам сябе ненавіджу за ўчарашняе. Але ж за бацьку.... Ці ж я вінаваты, што ён пайшоў у паліцыю? А куды яму было дзецца? На той свет? Дык мы ж Нінкай былі малыя. Ён жа дзеля нас рабіў... Каб пайшоў у партызаны, немцы б з паліцаямі ўкакошылі. Такі вузел тугі жыццё завязала. Куды ні кінь, усюды клін. Я ж бацьку саўсім не помню. Матка казала: пацалаваў мяне соннага...

Косця раптам змоўк, бо адчуў даўкі камяк у горле, з вачэй раптам пасыпаліся буйныя гарачыя слёзы. Заплакала і Хадора. Глухі, здушаны плач пачуўся і з-за шырмы.

— Дачушка, ці ёсць у цябе кропля гарэлкі? А можа, я схаджу двору? Прынясу.

— Ёсць. Сычас.

Ксеня ўскінула на плечы халат, выйшла ў сенцы, вярнулася з паўлітэркай.

Яна сядзелі ўтраіх за сталом, пілі самагонку, закусвалі маладымі баравічкамі. Косця хаваў рукі з чырвонымі пісягамі, Ксеня не падымала галавы, каб не свяціць свежымі барвова-сінімі ліхтарамі. Пасля чаркі Косця пакляўся, што болей і ў рот не возьме. І жонка, і цешча паверылі яму.

І Косця мусіў трымацца. Праз тыдзень яго выклікалі на партбюро і ўляпілі суровую вымову — за прагул, за п'янку. Асабліва распякаў яго старшыня сельсавета Іван Сырадоеў. На тое меліся дзве прычыны: Сырадоеў даваў Косцю рэкамендацыю і таму нёс маральную адказнасць за свайго «хрэсніка». А па-другое, патэлефанаваў старшыня райвыканкама Мікола Шандабыла: маці Хадора пажалілася на зяця — напіўся, збіў Ксеню, сястру Мікалая. Таму Сырадоеў сурова сказаў Косцю: «Яшчэ раз пакрыўдзіш жонку, упяку ў турму, згнієш там».

Месяцы тры Косця не піў. А пад Новы год разгавеўся: упаляваў з мужыкамі дзіка і замачылі свежыну. Стрэльбу ён атрымаў у якасці прэміі за сумленную працу. І паляванне Косця ўпадабаў. Дома па гаспадарцы зімою клопату мала, дзеці не плачуць — вольны казак. Двухстволку на плячо — і пайшоў. Часцяком прыносіў зайцоў. Ксеня навучылася гатаваць зайчаціну: тушыла яе з бурачкамі, дадавала сала, бо адно заечае мяса даўкае і задужа любовае. Ліцэнзій ніхто з вясковых паляўнічых не купляў.

Цяпер, калі Косця прыходзіў дамоў п'яны, Аксеня маўчала, затое назаўтра ўжо ўядала, як магла. Косця бажыўся-маліўся, што болей не будзе піць, і тыдзень-другі трымаўся, а потым зноў набіраўся, як свіння гразі. Болей за ўсіх угаворваў яго Даніла Баханькоў, старшыня калгаса. А яго ўпрошвала жонка Ніна, яна і Косцю, роднага і адзінага брата, прасіла трымацца. Косця абяцаў, але слова стрымаць не мог. І ўрэшце старшыня мусіў зняць Косцю з брыгадзірства. Даў яму стары, дабіты трактар: не хацеў кіраваць, будзеш рамантаваць. Трактар Косця давёў да ладу, вясною болей за ўсіх узлупіў ворыва, на жніве болей за ўсіх намалаціў збожжа, але на ранейшую пасаду шлях быў закрыты.

Так і дажыў Косця Варонін да красавіка 1986, калі выбухнуў чарнобыльскі рэактар. Хатынічы не падлягалі абавязковаму адсяленню. Потым

пачалі перасяляцца сем'і з малымі дзецьмі, а тады ў суседнюю вёску Белую Гару пацягнуліся спецыялісты, механізатары, даяркі. Перасяліўся і Косця з Ксеняй. І вось ужо прамільгнула пяць вёснаў пасля Чарнобыля. Калі б не гэтае няўдалае паляванне, можна было б трываць і далей, цягнуць жыццёвы воз без асаблівай радасці.

Чым болей Косця думаў, аналізаваў сваё становішча, шукаючы з яго выйсце, тым мацней злаваў на Івана Сырадоева. Так угаворваў перад судом, маўляў, раскінем штраф на трох і выплацім, толькі вазьмі віну на сябе, бо менавіта ад твайго дуплета лось зваліўся. Цяпер Косцю здавалася, што менавіта Іван Сырадоеў, былы фінагент, загадчык фермы, старшыня сельсавета — віноўнік усіх няшчасцяў і бед у ягоным жыцці. Савецкая ўлада раскулачыла Косцевага дзеда Восіпа, праз гэта бацька пайшоў служыць у паліцыю — помсціў саветам. Праз гэта Косця рос сіратою, пакутаваў у маленстве, праз усё жыццё нясе кляймо «паліцэйскага выблядка».

Крыўда, нянавісць, уласная бездапаможнасць, зацкаванасць штурхалі Косцю Вароніна на помсту. Гэтае жаданне мацнела, прагай помсты налівалася Косцева душа, як гусцее, клубіцца чорная навальнічная хмара гарачым летнім днём.

## XIV

Падзеі ў Белавежскай пушчы ўразілі Андрэя Сахуту сваёй нечаканасцю. А падаліся яны нечаканымі можа таму, што апошнім часам радзей чытаў газеты, яшчэ радзей глядзеў тэлевізар. Але цяпер, аналізуючы ўсё, што здарылася, ён пераконваўся: нічога нечаканага не адбылося, усё даўно наспела. Пасля развалу КПСС усе канструкцыі Савецкага Саюза захісталіся, заскрыпелі, як нямазаныя калёсы.

Думкі, думкі... Часу ў Андрэя на роздум хапала. Кароткія восеньскія дні дагаралі, акурат свечкі на ветры. Доўгімі восеньскімі вечарамі ён варочаўся на мулкім ложку, а сон не браў. Праз тонкую перагародку чуў маладое сакавітае пахрапванне суседа Віктара. Калі ўвечары распівалі паўлітэрку, Андрэй засынаў хутчэй, затое рана прачынаўся. І зноў думкі расціралі галаву.

Іншым разам, у добрае надвор'е, ускідваў на плячо стрэльбу і выходзіў з дому яшчэ цёмначы. Крочыў па лясной дарозе да Бесядзі, на ўзлеску паварочваў управа на Бабіну гару і там сустракаў світанак. З высокай гары пазіраў на родную вёску ў цёмных прысадах. Лічыў рэдкія слупкі дыму над хатамі, вочы самі адшуквалі гэткі ж слупок, нібы сцежку ў неба, над іхняй хатаю. Значыць, Марына ўжо не спіць, гатуе сняданак, Бравусаў тупае па двары, даглядае гаспадарку. Зрэшты, не ўсё так блага, не ўсё безнадзейна. Вось Марына хоць на схіле жыцця знайшла сваё шчасце. Дружна, душа ў душу, жывуць настаўнік Мамута і Юзя.

Згадка пра іх грэла Сахуту: Юзя таксама кінула Мінск і прыехала ў зону дзеля свайго кахання. А ён? Наадварот — уцёк ад сям'і. Міжволі ўзгадалася Паліна. Хоць бы паклікалі ў раён на якую-небудзь нараду, ці самому знайсці нагоду для паездкі. Але ў лягсас паказвацца няёмка. Дырэктар падумае: не можа Сахута дачакацца павышэння, прывык даваць указанні.

Сахута спусціўся да ракі. Беражніцы замерзлі, па вадзе плыў шарэш — ледзяная каша, рака дымілася параю. На паваротцы, дзе плынь білася ў бераг, падмывала яго, лёду не было, адно прыбівала сюды шарэш.

Андрэй разгроб ледзяную кашу, памыўся. Халодная, аж калола ў пальцы, вада была мяккая, пахла водарасцямі, рыбінаю луской і яшчэ нечым таямнічым і з маленства родным.

Настрой трохі палепшаў, на душы пасвятлела, захацелася далей цягнуць жыццёвы воз і спадзявацца на лепшае. Назад ішоў весялей, аглядаўся па баках, свежых пнёў, слядоў браканьерскіх «парубак», не заўважаў, ды і не было каму красці лес на дровы ці будоўлю. Прывезці адсюль дроў, значыць, ператварыць уласную печ у хатні рэактар.

У лесе ўжо зусім развіднела, калі Сахуту дагнаў Косця Варонін, узрадаваўся, саскочыў з веласіпеда.

— Добрай вам раніцы, Андрэй Мацвеевіч! — Косця з насцярогаю працягнуў шырокую халаднаватую далонь, а раптам Сахута не падасць яму, браканьеру, руку. Але той шчыра пацiснуў працягнутую далонь — спрацавала звычка камсамольскага і партыйнага функцыянера. — Вы так рана ўжо на пасце? Ці на паляванне хадзілі? Дык жа без трафеяў...

— Якое там паляванне? Захацелася прайсціся. Дзеля ранішняй зарадкі.

Косця моўчкі вёў веласіпед, гучна шлэпаў вялізнымі гумовікамі. На правым боце, бліжнім ад Сахуты, ён згледзеў заклееную дзірку, акурат вышэй шчыкалатак, дзе звычайна хутчэй зношваюцца боты. Дарога была пясчаная, да таго ж пачынаўся пад'ём, удалечыні ўжо прасвечвалася поле, а там і лясніцтва. Косця разумеў, што тут самы час пачынаць гаворку, бо ніхто не падслухае, ніхто іх не ўбачыць. Але не ведаў, з чаго пачаць, язык нібы прысох у роце, цяжка вымавіць хоць адно слова. А трэба ж параіцца, дзеля чаго і выбраўся яшчэ прыцемкам у дарогу. І калі ўбачыў Сахуту на лясной дарозе, ажно ўзрадаваўся: можа, і пашанцуе яму, можа, гэты чалавек падкажа яму выйсце з жыццёвага тупіка.

Нарэшце Косця сумбурна, блытана пачаў апавядаць пра паляванне на лася, як іх накрыла інспекцыя. Як потым праходзіў суд, як Іван Сырадоеў і Сямён Чукіла ўгаварылі яго ўзяць віну на сябе, каб ім не ведаць «пазора», бо ў Сырадоева зяць — дырэктар школы, а Сямёнава дачка — завуч гэтай жа школы, аўтарытэтныя ў Белай Гары людзі.

— Я паслухаўся. Выгарадзіў сваіх хаўруснікаў, хоць мяне падахвоціў ісці на паляванне Сырадоеў. Ласяціны яму захацелася на юбілей. Суд уляпіў мне штрап. Ледзь не паўтары тысячы рублікаў. І Сырадоеў, і Сямён кляліся, бажыліся... Падсобім, выплацім...

Андрэй прыцішыў хаду, бо лес ужо канчаўся, а гэтая гутарка не для чужых вушэй.

— А цяперыцька яны ў кусты! — гарачыўся Косця. — Табе далі штрап, ты і плаці. От нахабнікі. Ні стыда, ні совесці. А некалі Іван Сырадоеў мяне ў партыю рэкамендаваў. Павучаў, каб заўсягды чэсны быў і справядлівы. А сам? Падлюка. Прасціця, што я так гавару. У мяне ўсярэдку ўсё кіпіць. Дзе ж я вазьму столькі грошай? Што мне, карову прадаваць апошнюю? Ды не аддасць жа Ксеня. Ну, за веласіпед, можа, хто паўсотні дасць. За стрэльбу сотню. А трэба ж 1470 рублёў. Як лёду. Да Сырадоева Івана разы тры заходзіў, прасіў: ты ж абяцаў, кляўся, давай грошы. А ён сваё: няма ў мяне грошай. Ты лася забіў, ты і плаці. Неяк выпіўшы быў, узяў яго загрудкі. Валя, жонка, падляцела. Выштурхнулі мяне з хаты. На днях я вяртаўся дамоў. Цямнелася ўжо. Ну, трохі пад мухай. Яны падсцераглі мяне. Ну, Сырадоеў і Бравусаў. Павалілі, заламалі рукі за спіну.

Сырадоеў распетушыўся. Крычыць: «Будзеш да мяне чапіцца, са свету зжыву». І мацюкаўся брыдка. Я б пасаромеўся такое гаварыць... — Косця раптоўна змоўк, нібы спатыкнуўся на нейкай фразе.

— Ну, што ты ўжо так? Малады, здаровы... Напішы ў абласную газету. Прасі, каб перагледзелі справу.

— Не ведаю, ці атрымаецца ў мяне? Паспрабую...

...Ляснічы Сахута паставіў задачу падначаленым: рыхтаваць лесасеку, памячаць сякераю дрэвы, якія трэба зваліць, бо калі выпадзе снег, тады надта не патопчашся, ды і рабіць гэта трэба загадзя. Памочнік, майстры і рабочыя пакіравалі ў лес. А Сахута — на пілараму, паглядзеў, што там робіцца, паўшчуваў рабочых за маруднасць, наперадзе зіма, маразы будуць яшчэ мацнейшыя і снег глыбейшы, працаваць у гэткіх умовах яшчэ цяжэй. Сам вярнуўся ў свой кабінет, інтуітыўна адчуваў: могуць патэлефанаваць з раёна, гэткія падзеі ў свеце. Па абедзе сапраўды пазваніў дырэктар лясгаса.

— Як настрой, Андрэй Мацвеевіч?

— Звычайны. Рабочы.

— Не перадумалі? Ну, каб папрацаваць у лясгасе? На адказнай пасадзе...

— Як раней гаварылі: я — салдат партыі.

Дырэктар гучна і весела зарагатаў:

— Тады вось што. Заўтра раніцай прышлю машыну. Дзесьці а палове дзявятай. Прыедзеце, афармім усе паперы. Загад падпішам. А пад канец дня пойдзем у райвыканкам. З візітам ветлівасці. Згода?

— Згода.

Вестка ўзрадавала Сахуту. Узрадавала, што раённыя кіраўнікі трымаюць слова — гэтую рысу характара ён вельмі цаніў і паважаў. Мімволі падумаў пра Івана Сырадоева: кляўся, бажыўся, а слова не стрымаў, падвёў хаўрусніка Косцю пад дурнога хату. А яшчэ Сахута парадаваўся, што ягоныя прадчуванні спраўдзіліся, што ён не развучыўся аналізаваць сітуацыю, прадбачыць падзеі. Але тут жа апанавалі новыя клопаты, і галоўны — дзе жыць? Мільганула думка: можа, прапануюць які пакойчык? Але наўрад... На колькі дзён можна спыніцца ў аднавяскоўца інжынера-сувязіста, неяк з ім бачыўся, той запрашаў у госці, дзеці жывуць асобна, а ён з жонкай. Праўда, ад ягонай кватэры далёка дабірацца да лясгаса, аўтобусы тут ходзяць вельмі кепска. А вось Паліна жыве блізка. Можа, пакуль у яе спыніцца? Абяцаў жа завітаць у госці.

Перад вачыма нібы паўстала Паліна: у чырвонай кофце і цёмнай спадніцы, у цёмнай хусцінцы. Акурат восеньская вяргіня. Успамін слізгануў далей у той восеньскі вечар, калі адкрывалі новы клуб у Бяседавічах. Нечаканы пацалунак Паліны. Згадаліся ўсе абставіны той далёкай вечарыны: як малады трактарыст Толік Раковіч, сын старшыні калгаса, выцягваў райкамаўскі «газік» з лужыны, а ягоны бацька, франтавік з перабітым плячом, гарэзліва круціў сваю партнёрку ў танцы падыспань. Заўтра ён, Андрэй Сахута, тагачасны камсамольскі важак раёна, убачыцца з Палінай Максімаўнай, удавой, дырэктарам школы, сустрэнецца з Анатолем Мікалаевічам Раковічам, тым колішнім трактарыстам, а цяпер кіраўніком раённай улады. Цікавыя павароты бываюць у жыцці!

Яшчэ было цёмна, калі на двары завуркатаў матор легкавіка. Андрэй ужо быў гатовы, апрануты, свае няхітрыя рэчы пакуль што не браў, адно прыхапіў лёгкі партфель.

Калі падпісваў, «візіраваў» загад аб сваім прызначэнні на пасаду галоўнага ляснічага, міжволі падумаў: адно слова «галоўны» не толькі цешыць самалюбства, яно абяцае пачатак новага жыцця, новага ўзыходжання па кар'ернай лесвіцы. Праз нейкі час ён можа апынуцца ў Мінску — шанс ёсць: новага міністра лясной гаспадаркі ўзялі ў сталіцу з пасады дырэктара лясгаса на Палессі. Значыць, яго могуць узяць намеснікам міністра ці начальнікам якога ўпраўлення, даваць новую кватэру ў сталіцы не трэба — свая ёсць і жонка тут.

Падумалася і пра іншае: можна на гэтай пасадзе дарабіць да пенсіі, збудаваць сабе на Бесядзі новы дом, а мо і сям'ю новую — Паліна-вяргіня з галавы не выходзіла. Могуць прызначыць дырэктарам лясгаса — гэта рэальна, бо Капуцкі даўно марыць пра іншую пасаду, пра іншы горад, далей ад радыяцыі. Андрэй пажыў у зоне, радыенукліды яго мала палохалі, тым болей райцэнтр, тыя ж Бялынкавічы, лічыліся чыстымі. Ён разумеў, што «чысціня» гэтая адносная, і ўсё ж узровень радыяцыі тут невысокі. Да таго ж, яго моцна ўразіла прызнанне дзеда ў Саковічах: мае аднагодкі, якія перасяліліся ў чыстую зону, усе паўміралі...

Андрэй думаў і дзівіўся: колькі жыццёвых варыянтаў адкрывае перад ім адно слова «галоўны», а не проста шараговы ляснічы, хоць і гэтая пасада вельмі важная і адказная. Ад яго, ляснічага, перш-наперш залежыць здароўе лесу, а значыць, здароўе і дабрабыт беларуса. Бо няма ў нас нафты і газу, затое ёсць зялёнае золата, яго Вялікасць Бацюхна-Лес.

Збоч ад зялёных уваходных дзвярэй бялелася кнопка званка, якая нагадала Андрэю пра гарадскія выгоды: ліфт, ванну, цёплы клазет. Націснуў кнопку, пачуў, што дзесьці ў пакоі забрынькаў званок. Пачуліся цяжкія крокі, дзверы адчыніліся — перад ім стаяла прысадзістая, мажная жанчына ў цёплай цёмна-шэрай кофце і белай блузцы. З-пад акуляраў на яго прыветна пазіралі цёмна-карыя вочы.

— Заходзьце, калі ласка, распранайцеся...

Потым яны сядзелі за сталом, пілі шампанскае, гаварылі пра белавежскія пагадненні, пра школьныя справы, пра новую пасаду Сахуты.

— Пасля Новага года мне могуць выдзеліць кватэру. Ну, хоць бы аднапакаёўку. А пакуль недзе трэба знайсці прытулак, — сказаў Андрэй.

— Калі хочаце, заставайцеся ў нас. Сын зараз у Магілёве. Яго хочуць перавесці ў трэст на сталую працу. Нявестка — настаўніца. У яе другая змена. Унук таксама ў школе. Я бываю позна на рабоце. Сёння прыйшла раней. Як чула маё сэрца...

— Давайце вып'ем за тое, каб сэрца ваша не падманвала, — Андрэй падняў бакал.

Выпілі не чокаючыся, бо ў гэтым доме год таму быў нябожчык. І за яго светлую памяць выпілі... Памалу шыракаваты твар Паліны заружавеўся, яна расшпіліла гузікі кофты. У вялікім доме панавала цішыня, на сцяне рытмічна, размерана матляўся жоўты маятнік пад шклом вялікага гадзінніка. Андрэй зірнуў на гадзіннік, потым на свой, нібы звяраў час.

— Калі вам трэба ў райвыканкам? — спыталася Паліна.

— Да пяці гадзін я вольны. А потым паедзем.

— О, яшчэ багата часу! — усклікнула гаспадыня дома. — Я мераю час школьнымі ўрокамі. Гадзіна — гэта вельмі шмат. Налівайце. Вып'ем яшчэ раз за вашы поспехі.

— За нас, — коратка выдыхнуў Андрэй.

Паліна зразумела тост па-свойму і зрабіла крок насустрач першай, як і трыццаць гадоў таму... Толькі цяпер справа пацалункам не скончылася, наадварот — з яго ўсё пачалося. Андрэй і Паліна доўга пасціліся і, як у вір галавой, кінуліся ў каханне.

Потым, ужо апранутыя, яны стаялі ў паўцёмным калідоры і не маглі развітацца. Андрэй Сахута быў літаральна аглушаны тым, што адбылося. ¨н думаў раней пра Паліну, чакаў сустрэчы, яму хацелася блізкасці з ёй, але сёння на гэта не спадзяваўся. Мабыць, тое ж самае адчувала і Паліна, бо ціха сказала:

— Праўду кажуць, усё лепшае — нечаканае. Хоць я думала пра цябе даўно. Ну, як убачыліся на той нарадзе. Я шукала сустрэчы. Таму і па дровы прыехала. І вось... Значыць, лёсам наканавана...

— Цяпер мне трэба шукаць іншую кватэру. Бо шыла ў мяшку не схаваеш. Нявестка здагадаецца. Суседзі пачнуць пляткарыць.

— Ну і што? Пагавораць і перастануць. На чужы раток не накінеш платок. На бюро райкама не пацягнуць. Разводу я ад цябе не патрабую. Пажывём хоць да Новага года. І то мне гэтага хопіць надоўга. Я не дужа была шчаслівая. Муж вельмі раўнаваў. Дакараў часта, што на першым плане ў мяне работа, школа, а потым ужо сям'я. Пасля Чарнобыля пачаў моцна піць. Гарэлка яго і даканала. Тут ужо было не да любові. Колькі часу?

— Пачатак пятай. Тут блізка. Але трэба трохі раней... Каб не ўпрытык прыйсці.

Андрэй хацеў да ад'езду патэлефанаваць жонцы: яна працуе да пяці. Зрэшты, можна будзе пазваніць дамоў з райвыканкама, супакоіў сябе, але ўнутраны голас дакараў яго, не даваў спакою: ты — грэшнік, Сахута, і трапіш у пекла, і будуць чэрці вазіць на табе смалу...

— Не хачу цябе адпускаць... — Паліна прыхінулася да Андрэя, ён абняў яе за плечы.

Яна моцна пацалавала Андрэя, і ён адчуў, што яму не хочацца нікуды ісці, нікога бачыць, нікому тэлефанаваць. Але ісці трэба, бо жыццё — гэта не толькі пацалункі і абдымкі. Гэта яшчэ цэлы воз клопатаў, абавязкаў, вялікіх і малых спраў. І ўсім гэтым яно і цікавае, адзінае і непаўторнае чалавечае жыццё.

## XV

Косця Варонін напісаў ліст у рэдакцыю абласной газеты, адаслаў і адразу пачаў чакаць карэспандэнта. Той прыедзе і дапаможа выкараскацца з ямы, у якую загнала яго жыццё. Сябе ён мала вінаваціў. Ну, і праўда, хіба ён вінаваты, што бацька вымушаны быў служыць немцам? Яму, Косціку, тады было два гады. Сын за бацьку не адказвае. Хіба ён не хацеў займець дзіцёнка, і жонка гэтага вельмі хацела, але Бог не даў ім гэткага шчасця. І не па сваёй ахвоце ён кінуў брыгадзірскую пасаду — яго звольнілі за п'янку. Дык хіба ён адзін піў? Колькі ён выжлукціў гарэлкі разам з Данілам Баханьковым! Дык Даніла і зараз у сваім дырэктарскім крэсле, а Косцю звольніў менавіта ён.

А потым гэтае паляванне. Хіба ж Косця вінаваты, што іх накрыла інспекцыя? Што хаўруснікі спіхнулі ўсю віну на яго, абяцаючы супольна выплаціць штраф. А цяпер адхінуліся ад яго. Злосць, крыўда і нянавісць раз'ядалі Косцеву душу, быццам ракавыя метастазы. І найбольшая крыўда была на Івана Сырадоева, і нянавісць выспявала найперш на яго. З маленства памятаў, як Сырадоеў заходзіў да іх у форменным, колеру балотнай жабы шынялі і такога ж колеру фуражцы, крычаў на матку: чаму не плаціш падаткі, страхоўку, самаабкладанне, пазыку? Нянавісць набухала, як цеста ў дзежцы, калі згадваў, як распякаў яго, Косцю, старшыня сельсавета Іван Сырадоеў на партыйных сходах за п'янку.

І выходзіла, што галоўны віноўнік Косцевага няшчасця, гэта ён — старшыня сельсавета Іван Сырадоеў, хай сабе ўжо былы, але ж віну за няўдалае паляванне, ці, як усе гавораць, за браканьерства, узяць на сябе ўгаварыў менавіта ён, абяцаючы выплаціць штаф. А цяпер ад сваіх слоў адмаўляецца: мая хата з краю, нічога не знаю.

Лютая нянавісць успыхнула пасля таго, як Сырадоеў і Бравусаў пабілі Косцю, пужалі, каб пра іх нідзе не ўспамінаў, каб нікому не жаліўся. І ў Косцевай душы выспявала помста.

На працу Косця не заходзіў, ды і работы асаблівай не было: поле ляжала пад снегам, рамонт тэхнікі не пачыналі, бо не прывезлі запчастак. Зрэдку ён паяўляўся ў гаражы, змрочны, як здань. Хлопцы чапляліся да яго: «Косця, што ты надзьмуты, як мыш на крупы? Чаму маўчыш, як жабоцьку праглынуў? Лася шкадуеш? Дык іх у лесе багата. На днях рагач прыходзіў да стога сена...»

Косця зацята агрызаўся, брудна мацюкаўся, былыя сябрукі-выпівохі ўсё радзей загаворвалі з ім. Вярнуўшыся з гаража, Косця ўскідваў на плячо стрэльбу, у кішэню акрайчык хлеба і кіраваўся ў лес. Вяртаўся прыцемкамі, без трафеяў. Аднойчы памкнуўся быў стрэліць у вялізную жаўну — чорнага дзятла, але рука са стрэльбаю сама апусцілася: навошта? Чорны дзяцел не вінаваты, што ў Косці чорныя думкі на душы. Жаўна моўчкі сноўдала па ствале тоўстай сасны, па яе рубчастай, заскарузла-шэрай кары. Вышэй кара святлела, рабілася медна-жоўтай. Мусіць, у рубцах кары жаўна знаходзіла сабе нейкі наедак. Косця ўзгадаў, што бачыў жаўну, калі пад гэтай вялізнай сасною стаяў з Андрэем Сахутам. І пярэсты дзятлік тады таксама малаціў па сухастойцы.

Штодня Косця чакаў карэспандэнта ці нейкай весткі з рэдакцыі. Сахута адбаярыўся парадаю, сам пайшоў на павышэнне. Свой свайго цягне ўгору. Косця прыслухаўся да дзятлавага пошчаку — той малаціў дзюбаю, аж рэха кацілася па лесе. Іншых гукаў не было чуваць. Змрочны, насуплены, прыцярушаны снегам, лес быццам драмаў і чакаў Новага года. Пасля яго сонца пачне хадзіць вышэй, снегавыя падушкі з галінак зваляцца, лес уздыхне вальней, устрапянецца і будзе чакаць вясны.

Косцю Вароніну Новы год не абяцаў нічога добрага. Судовы выканаўца прыедзе з участковым, апішуць маёмасць, забяруць карову. Ксеня будзе галасіць на ўсю вёску. А што рабіць Косцю? З сякерай ці са стрэльбаю бараніць свой набытак. А дзеля каго? Дзяцей няма. Каханне да жонкі даўно развеялася, як дым. Не, у турму Косцю не хацелася. Але і жыць таксама не было жадання. Душа не мела свабоды і волі. Мацней за ўсё было ў ім жаданне адпомсціць, а там, што будзе, тое і будзе. Адзін патрон ён пакіне для сябе...

Блукаючы па лесе, Косця выношваў план помсты. Дзе можна перастрэць Сырадоева? Куды ён ходзіць? Дзе бывае? От, каб ён выправіўся ў лес, але адзін ён не ходзіць. Падпільнаваць, калі будзе ісці па вёсцы. Людзі ўбачаць. Гэтага не баяўся, адно, каб не перашкодзілі здзейсніць задуманае. Ён павінен адпомсціць. А там — Бог-бацька...

Па абедзе ён выбраўся ў краму. Каля яе тоўпіліся падвяселеныя мужчыны. Быў між іх і Сырадоеў, таксама расчырванелы, ён пра нешта апавядаў, размахваючы рукамі. Мужчыны слухалі, рагаталі. Злосць і нянавісць з новай сілай успыхнулі ў Косцевай душы, ажно ўваччу пацямнела. Адчуў, як мацней затахкала сэрца, рукі сутаргава сціскаліся ў кулакі. Косця даў «дзеньдобры», прайшоў міма. «Прыхапі фауста і на нашу долю, Косця!» — крыкнуў нехта.

Косця купіў два боханы хлеба, пляшку віна і хуценька выкуліўся з крамы. Мужчыны зноў нешта крычалі яму, але ён не азірнуўся, нібыта і не чуў. Білася адна думка: «Ты сянні ў мяне парагочаш! Толькі б паспець. Толькі б ніхто не перашкодзіў...»

Дома Косця паклаў боханы на стол, як і нёс у чырвонай сетцы, адкаркаваў віно, каўтнуў некалькі глыткоў, потым ускінуў на плечы двухстволку, паверх кухвайкі ўсцягнуў цёмны плашч, каб схаваць стрэльбу. У кішэню ўкінуў чатыры набоі, кулявыя, як на лася, у другую запхнуў недапітую пляшку і па загуменні рушыў да крамы. Драўляны будынак яе стаяў нібы на раздарожжы: з левага боку ўпіралася ў краму вуліца, а дакладней, дарога з райцэнтра, паабапал якой стаялі хаты. Вясковая вуліца, нібы перпендыкуляр, упіралася амаль што ў дзверы, а праваруч бегла дарога на Саковічы. Метраў за сто ад крамы бялеўся цагляны павільён на аўтобусным прыпынку. Паабапал Саковіцкага гасцінца стаялі старыя тоўстыя вербы, за адной з іх і схаваўся Косця.

У снежні цямнее рана, асабліва калі неба хмарнае, шэрае, тады нават удзень усё вакол шэрае — і дрэвы, і хаты, і дарога. Ля крамы яшчэ чулася гучная, вясёлая гамана, вокны яе ярка свяціліся. Косця прыгнуўшыся, крадком, падбег бліжэй, бо Сырадоеў мог пайсці і па вуліцы, якая ўпіралася ў будынак крамы, а потым павярнуць направа да свайго дома — вялікай новай пяцісценкі. Гэты шлях далейшы, чым па гасцінцы паўз аўтобусны прыпынак.

Сутонне гусцела, як гусцее малако, калі скісае ці збягаецца на агні, але мужчыны яшчэ стаялі. Зырка ўспыхвалі іхнія папяросы — цыгарэтаў у краме на той час не было, таму ўсё дымілі альбо «Беламорам», альбо сваім самасадам. Гамана радзела, зніклі зыркія кропкі-светлякі папярос. Мусіць, самыя зацятыя выпівохі пайшлі дабіраць да кандыцыі, а старэйшыя, меней стойкія, разыходзіліся па хатах. Косця выцягнуў з-пад плашча двухстволку, заклаў набоі, два запасныя муляліся ў кішэні кухвайкі.

Вакол было ціха, адно шумеў пругкі халодны вецер у бязлістых кронах вербаў. Браўся марозік. Ад парываў калючага ветру Косцю засцерагаў тоўсты шурпаты камель дрэва. Раптам ён пачуў крокі, рыпенне снегу. Ад крамы сунуліся тры постаці. Сэрца ёкнула: нават калі між іх Ён, ягоны крыўднік, нічога не атрымаецца, бо можна параніць нявіннага. Мужчыны развіталіся. Двое павярнулі налева, адна постаць сунулася да аўтобуснага прыпынку. Косця наструнецца: не памыліцца, пераканацца, што гэта Ён.

Постаць набліжалася. Ішоў чалавек нетаропка, накульгваючы. Значыць Ён! У апошнія гады Іван Сырадоеў пачаў трохі кульгаць, бо шмат давялося пахадзіць па вёсках былому фінагенту. Косця падрыхтаваў стрэльбу, саўгануў наперад шурпаты язычок засцерагальніка. Напружыўся ўвесь, бы струна напятая. Пра сябе, што будзе з ім пасля стрэлу, не думаў. Галоўнае — адпомсціць крыўдніку. Праз хмары выбіўся краёк месяца, а потым вылузнулася ва ўсёй першароднай красе жаўтлява-белая поўня. Пры святле месяца Косця пераканаўся — гэта Сырадоеў. Пачуў, як шуміць, пульсуе ў скронях кроў, мацней прыхінуўся да вярбы, каб яго загадзя не згледзеў крыўднік. Сырадоеў прамінуў вярбу, тады нечакана пачуў:

— Іван Ягоравіч! Пачакай, — нягучна прамовіў Косця і сам не пазнаў свайго голасу. І падалося яму, што крыкнуў на ўсю вёску.

Сырадоеў рэзка, спалохана павярнуўся, памкнуўся быў схавацца за дрэва, але Косця апярэдзіў — бабахнуў стрэл, за ім другі.

— Вось табе за лася. За падман. За ўсё астатняе. Мой прысуд!

Сырадоеў, мабыць, ужо не пачуў гэтых слоў. Ён скурчыўся, застагнаў і асеў долу.

Косця кінуўся бегчы, пятляючы, нібы заяц, між дрэў. Азірнуўся — на аўтобусным прыпынку і на дарозе нікога не было. Ён выбег на сцежку, якая праставала праз сад на Хатыніцкі бальшак... Бег, пакуль не пачаў задыхацца. Звярнуў у сад, стары, яшчэ панскі, сям-там раслі і маладыя дрэўцы. Косця прыхінуўся плячамі да старой крывой яблыні. У святле поўні ейны голы ствол здаваўся матава-белым, як валавяны. Аддыхаўся, супакоіўся, выцягнуў пляшку віна — узрадаваўся, што не згубілася. Дрыжачай рукою адкаркаваў, паднёс да вуснаў. Сяк-так прыладзіўся, каўтнуў раз, другі. Перадыхнуў, агледзеўся — нідзе нікога, прыслухаўся — ні гуку. Дапіў віно. Шпурнуў пустую бутэльку, яна ўпала тарчма. У месячным святле шкляное рыльца паблісквала, як руля стрэльбы.

У Косцевай душы пачыналася бура. Куды бегчы? Можа, павярнуць дамоў? Ніхто не бачыў, як ён страляў. А раптам Сырадоеў выжыве, выдасць яго. Дык усе і так зразумеюць, зробяць экспертызу: з двухстволкі нядаўна стралялі, калібр падыходзіць. Пачнецца следства, суд і... вышка. Прыплюсуюць браканьерства. Не, дамоў вяртацца не выпадала. Хіба што развітацца з Ксеняй, павініцца за грахі, што руку падымаў на яе па п'яні. Пачне галасіць на ўсю вёску. Ісці да маці? І ёй пакуты прынясе. Вось каб дакументы меў, даляры, катануў бы ў Аргенціну да бацькі. І таму лішнія клопаты. Куды дзяваць сына-алкаша? Ну, з гарэлкай можна завязаць. І працаваць Косця ўмее. Але не бачыць яму Аргенціны, як сваіх вушэй.

Ён стаяў, абняўшы старую яблыню, усё мацней чуў у нагах вялікую стому і слабасць, сэрца цяжка тахкала за грудзінаю. Холад дабіраўся да ўзмакрэлай спіны — успацеў, калі бег ад вёскі. Косця перазарадзіў стрэльбу, заклаў два набоі — руля клацнула, зацiснуўшы патроны, нібы ўзрадавалася новай порцыі смяротнага грузу. «Мне хопіць аднаго, — варухнулася думка. — А другі, можа, для Бравусава? Каб рук болей нікому не ламаў. Не, хай жыве». Чуў ад Ксені, што Марына Сахута знайшла з ім шчасце. Усплыло ў памяці, як частаваў Бравусаў малога Косціка цукеркамі. Калі стаў дарослым, Косця зразумеў, што ўчастковы ездзіць да іх не так сабе. Аднойчы ён падгледзеў, як маці цалавалася з Бравусавым. Заляцанні ўча-

стковага не падабаліся Косцю, але маці пра гэта ён ніколі не сказаў ні слова.

І ўсё ж Косця пасунуўся ў бок Хатынічаў. Спярша крочыў па дарозе — тут пасля Чарнобыля паклалі асфальт, а потым павярнуў улева, да фермы. Але і туды заходзіць яму не хацелася. Стаяць ці сядзець не мог, нават карцела легчы. Ён узгадаў, што за фермаю на лузе, каля Бургаўцовага кургана, стаіць стог сена. Каля Хатынічаў траву не касілі: лічылася, што там павышаная радыяцыя, хоць кароў пасвілі, бо трава была высокая, густая. Каровы ахвотна скублі яе. Малако ад гэтых рагуляў змешвалі з прадукцыяй іншай фермы, што за Белаю Гарой. Неяк па вясне жонка паказвала яму Бургаўцоў курган — яго макаўка тырчала на спрэс залітай вадою пойме Бесядзі.

Ён абышоў ферму злева, далей ад вёскі. Тут рос малады, густы, як шчотка, хвойнік, быў неглыбокі, разложысты раўчук. Вясною тут бурліла талая вада, улетку раскашавала густая, як воўна, трава.

Тым часам ён дацягнуўся да стажка сена. Зайшоў з тарцовага боку, ад Бесядзі, найбольш асветленага поўняй. Выскуб зляжалага сена, адчуў пах чабору ці то рамонкаў, зняў з пляча стрэльбу, прымасціў яе з правага боку, нібы асцерагаўся нейкага нападу, ці збіраўся паляваць на зайцоў, якія часцяком прыбягаюць да стагоў сена. Сеў, выцягнуў стомленыя ногі, заплюшчыў вочы. Прыслухаўся — нідзе ні гуку. Быццам усё ў прыродзе здранцвела пад мёртва-жоўтым месяцовым святлом. Але раптам вуха ўлавіла далёкі сабачы брэх — мусіць, у Хатынічах якатаў малы сабачка. Ад Бесядзі пачуліся іншыя гукі, нейкі прыглушаны шум. Дакладна Косця не мог вызначыць: ці шуміць дзесьці на перакаце вада, ці шуміць у яго-ных вушах, бо адчуваў, што галава цяжкая, патыліца нібы налілася свінцом. Адчуў, што галава пачынае кружыцца, здавалася, ён падымецца і адразу ўпадзе. Паварушыўся, пакруціў галавой, сена зашамацела, у нос патыхнула водарам лугавых зёлак. А яшчэ падалося, што сена дыхае летняй цеплынёй.

«Як хораша пахне сена, — падумаў Косця, мусіць, мая апошняя прыемнасць. Але ж і ў гэтым духмяным сене — смяртэльныя нукліды...» Мільганула думка пра Ксеню. Неяк на падпітку Вольчын Пецька-байструк пахваліўся, што ў капе сена сапсаваў Хадорыну Ксеню. Дайшла пагалоска і да Косцевых вушэй.

Цяпер, седзячы ў стажку, пазіраючы на вялізную поўню, ранейшыя трывогі і клопаты падаліся Косцю дробязнымі, нікчэмнымі. Ён толькі што пазбавіў жыцця чалавека. Паважанага, заслужанага, былога франтавіка. І цяпер ён, Косця, павінен вырашыць і свой лёс. У адным ён усё мацней пераконваўся: жыць яму не хочацца. У думках падзівіўся жывучасці бацькі, які ў далёкай Аргенціне зноў пусціў карані, звіў сваё гняздо, мае жонку, дзяцей і ўнукаў. А ў Косці ёсць толькі прага напіцца, каб забыцца пра ўсё на свеце. Зрэшты, у яго застаўся адзіны клопат: як пазбавіць сябе жыцця. Адказ і на гэтае пытанне заставаўся: побач пад рукою двухстволка, у якой прытаіліся дзве кулі з тупымі дзюбамі. Яны чакаюць свайго часу.

Раптам Косця пачуў дзіўныя гукі з лесу. Нейкі прыглушаны кліч: угу-ух! угу-гу-гух! Праз нейкі час яму нехта адгукнуўся: угу-ух! Яму зрабілася вусцішна, адчуў, што аж валасы заварушыліся пад шапкаю. «Няўжо гэта мяне кліча нехта? — у Косці заледзянела ўсё ўнутры ад гэтай думкі.—

Можа, душа Сырадоева кліча? Значыць, пара. Трэба сцягнуць правы бот. Пацалаваць рулю стрэльбы...» Косця яшчэ прыслухаўся і да яго дайшло, што гэта перагукваюцца сычы дзесьці за Бабінай гарою. Але цяплей на душы ад гэтай здагадкі не зрабілася. Холад нібы ледзянымі абручамі сціскаў яго цела. Косця падняўся, ускінуў на плячо стрэльбу і пачаў тупаць вакол стога. Зрабіўшы круг, спыняўся, пазіраў на поўню. Здавалася, быццам вялізны матава-белы рубель застыў на небе, але заместа герба дзяржавы, былой вялікай і магутнай, на ім бледна-шэры сілуэт: акурат нехта трымае некага на руках. Гэты сілуэт быццам прыцягваў Косцю: некалі ў маленстве маці казала яму, што гэта брат забіў брата, таму Бог прымусіў забойцу насіць нябожчыка на руках.

Косця Варонін углядаўся ў неба, як ніколі ў жыцці, бо разумеў: гэтая ноч для яго апошняя. І думаў ён пра гэта спакойна, як пра даўно вырашаную справу, даўно зроблены выбар. Зоркі праглядваліся слаба — поўня забівала іх сваім святлом. Якое вялікае неба, высокае, бязмежнае. Яно дае дождж і снег, улетку на ім часам успыхвае казачна прыгожая вясёлка — Косця ў маленстве любіў пазіраць на вясёлку над Бесяддзю. А што чалавек дае небу? Дым, копаць, смурод. Вось і ён, Косця Варонін, паўсотні гадоў капціў неба. Але ўсё мае свой пачатак і свой канец. Жыццё, каханне, любая справа... Ну што, трэба сцягваць правы бот...

Але зрабіць гэта ён яшчэ не быў гатовы. Згадаў, як мінулую ноччу цалаваўся з Ксеняй. Падалося, што было гэта даўным-даўно. Тады ён і не думаў, што цалуе жонку апошні раз. Пэўна, і яна пра гэта думаць не магла. Бедная, застанецца адна, затое вольная. Можа, яшчэ знойдзецца хто. Ёсць брат, высокі начальнік, швагру адмовіўся памагчы, але родную сястру не пакіне без увагі.

Косця тэпаў круга стажка, як у зачараваным коле...

Знайшлі цела Косці Вароніна праз два дні, надвячоркам. Адшукала міліцыя са службовымі сабакамі.

Івана Сырадоева праводзілі ў апошні шлях сотні людзей — сышліся з усіх вёсак сельсавета. Старшакласнікі мясцовай школы неслі вянкі, на чырвоных падушачках баявыя ўзнагароды. Дзень быў хмарны, падалі рэдкія бухматыя сняжынкі, яны траплялі на васкова-бледны твар нябожчыка і не раставалі.

Над магілаю Косці Вароніна галасілі тры жанчыны: маці, сястра і жонка.

На другі дзень пасля пахавання ўдава Ксеня атрымала ліст з рэдакцыі абласной газеты. У ім паведамлялася, што копію Косцевага ліста адаслалі ў пракуратуру раёна з просьбай перагледзець справу, вызначыць віну кожнага ўдзельніка палявання і адпаведна размеркаваць суму штрафу.

У той жа дзень Ніна, Косцева сястра, атрымала паштовы перавод на сто долараў, яе запрашалі ў раённае аддзяленне ашчаднага банка. Ніна Сцяпанаўна ўглядалася ў бледна-жоўты квадрацік казённай паперы і гарачыя слёзы каціліся з ейных вачэй. Сэрца разрывалася ад жалю: чаму гэты перавод не прыйшоў на тыдзень раней?!

## XVI

Няўхільна набліжаўся Новы год. Ада Сахута чакала яго з вялікім нецярпеннем. У яе было адчуванне, нібы ёй хочацца пачаць жыццё нанава.

У душы выспявала пачуццё віны перад Андрэем: не падтрымала ў цяжкую хвіліну, часта дакарала, што нічога не выслужыў у партыі, абразліва называла ўсю ягоную дзейнасць балбатнёй. Яна сама адштурхнула яго ад сябе, прымусіла ехаць у зону. Але ён не зламаўся, выстаяў, пачаў новае ўзыходжанне па кар'ернай лесвіцы. Яе ўсё мацней забірала трывога, што ён знойдзе там сабе іншую жанчыну. Галоўны ляснічы, відны мужчына. Любая свабодная кабета, а то і замужняя кінецца на шыю, абы толькі захацеў.

Ёй карцела паехаць да мужа, але пад канец года было вельмі напружана на рабоце. Заставалася два гады да пенсіі, трэба трымацца абедзвюма за сваё крэсла. А што потым? Іншы раз у думках яна гатова была паехаць да Андрэя ў райцэнтр, дзе некалі яны сышліся, стварылі сям'ю. І ўсё гэта рабілі па любові. У іх было сапраўднае каханне. Яе бацькі не маглі даць ніякага пасагу, Андрэй пра гэта ніколі не гаварыў, бо ніякіх меркантыльных разлікаў не меў. А вось яна, Ада, разлічвала разам з мужам узляцець высока, дабрацца да сталіцы, што ўрэшце і адбылося. О, як яна радавалася, ганарылася, калі яны атрымалі ў Мінску кватэру!

Ада ганарылася дзецьмі, а яны адчувалі павагу, а часцей прыхаваную зайздрасць аднакласнікаў, а потым інстытуцкіх сяброў. Пасля інстытута Надзя і Дзяніс засталіся ў Мінску. Займелі свае сем'і, сваё жытло. І ўсё гэта дзякуючы клопатам бацькі. А потым здарылася так, што сам бацька змушаны быў кінуць сталіцу, цёплую, утульную кватэру, паехаць у радыяцыйную зону. Якая несправядлівасць! Так думала Ада Браніславаўна. Напачатку яна лаяла мужа, што не змог уладкавацца ў Мінску, але паступова яе злосць, раздражнёнасць праходзілі. А цяпер, як яго прызначылі галоўным лясчічым, яна пачала думаць інакш: можа, і правільна ён зрабіў. І ўсё болей дакарала сябе, а не яго.

Ада хацела сустрэць Новы год са сваёй сям'ёй, каб абавязкова былі дзеці, бо яны засумавалі па бацьку. Яна разумела, што Андрэй даўно не бачыўся з сябрамі, але яна вырашыла запрасіць толькі сям'ю Махавіковых. З Евай апошнім часам яна зблізілася асабліва, адчувала, што тая ставіцца да яе па-ранейшаму, а мо нават з большай прыязнасцю. Але спачатку Ада параілася з Андрэем, неяк патэлефанавала яму з работы, узрадавалася, што застала на месцы. Расказала пра свае справы, пра дзяцей, пацікавілася, як ён сябе пачувае, якія клопаты даймаюць. Яна добра ведала Андрэеву звычку: па тэлефоне ніводнага лішняга слова, ягоныя тэлефонныя размовы нагадвалі тэлеграмы.

— Наконт гасцей не пярэчу. Даўно не бачыліся. Ну што, усё?

— Усё. Чакаем!

— Цалую ўсіх! Да сустрэчы.

Іншым разам Ада магла б пакрыўдзіцца, палічыць гэта за нетактоўнасць: яна патэлефанавала, а муж, якога даўно не бачыла, нецярпліва перапыняе размову. Цяпер жа яна лічыла гэта разумным, бо неўзабаве ўбачацца, тады і нагаворацца, а тэлефонныя размовы падаражэлі, яна, фінансістка, як ніхто іншы, павінна гэта разумець. Затое ўвечары адвяла душу з Евай — амаль паўгадзіны прагаварылі па тэлефоне. Ева ахвотна прыняла запрашэнне, абмеркавалі, хто што згатуе, дамовіліся не ўскладняць жыццё падарункамі, не ламаць над гэтым галаву. Набыць што-небудзь людскае проста немагчыма.

— Найлепшым падарункам для нас з Андрэем будзеце вы самі, — сказала на развітанне Ада.

І яна сапраўды так думала. І не было крывадушша ў гэтых словах. Ада потым упікнула сябе: ці не занадта настойліва запрашала ў госці Махавіковых, каб Ева не падумала, што сям'я Сахутаў жыве ў поўнай ізаляцыі. Але доўга не дакарала: што сказана, тое сказана, і няма чаго перажываць.

А неўзабаве Аду здзівілі дзеці. Надзя і Дзяніс, аказваецца, таксама рыхтаваліся да Новага года. І сказаў пра гэта Дзяніс:

— Мама, Ірынка Махавікова запрашае нас. Ну, каб сустрэць Новы год разам.

— Каго гэта вас?

— Надзею з Ігарком. Ну, і мяне з сямейкай. Будзе іхні Косця са сваім выводкам. Бацьку мы сустрэнем. Увечары пабудзем у нас. А гадзін у дзесяць паедзем... А назаўтра будзем дома. У Ірынкі намячаецца вяселле. Яна будзе з кавалерам. Хоча пазнаёміць нас.

Ада Браніславаўна зразумела, што ўсё ўжо спланавана, абдумана, пярэчыць тут ніяк не выпадае. Ды і ўвогуле — дарослымі дзецьмі не пакамандуеш, хоць бы і хацеў. Мільганула думка: Надзя пабудзе ў кампаніі, а то ўсё адна дома. Сын быццам адгадаў ейныя думкі, бо шматзначна дадаў:

— Будзе мой калега. Хоча пазнаёміцца з Надзяй. Халасцяк. Яму ўжо за трыццаць. Даўно хоча ажаніцца, ды ўсё нешта не атрымліваецца.

— А што ён за чалавек? Кім працуе?

— Мой калега. Пакуль што болей нічога. Хай гэта будзе сюрпрыз.

— Любіце вы сюрпрызы, — нязлосна прабурчала Ада, у душы ўдзячная сыну, што клапоціцца пра лёс сястры.

Андрэй і Ада балюча перажывалі раптоўны развод Надзі з мужам. Разрыў, мабыць, наспяваў даўно. Халодная, падкрэсленая ветлівасць зяця насцярожыла Аду Браніславаўну. Дачка расказала, што прыходзіць ён дамоў позна. Адгаворка адна: «Бізнес — справа сур'ёзная. Багата клопатаў». Пачаў вельмі часта ездзіць у камандзіроўкі, найбольш у Маскву. Тлумачыў, што іхнія партнёры гандлёвыя ўсе там, у Расіі. Аднойчы Надзя прызналася праз слёзы, што ўжо два месяцы яны не жывуць як муж і жонка, што знайшоў ён сам сабе прысуху-партнёрку ў Маскве. А неўзабаве зяць сабраў свае чамаданы і цішком, як злодзей, пакінуў сям'ю. Нават не развітаўся з жонкай і сынам.

Андрэй Сахута палічыў гэта здрадай не толькі сям'і, жонцы, малому сыну, а і яму, цесцю, бо ў свой час праз сакратара райкама паспрыяў, каб яго павысілі па службе, зрабілі старшым інжынерам, прынялі ў партыю. Сяброўскія адносіны з зяцем вельмі радавалі Сахуту. Але як толькі перасталі існаваць райкамы, абкамы, Сахута апынуўся без работы, першым здрадзіў зяць. Тады Андрэй увесь вольны час аддаваў унуку. Гэта была яго адзіная радасць. Толіку ішоў пяты гадок. Ён вяртаўся з садка і чытаў дзеду вершыкі на беларускай мове.

Пра ўсё гэта згадваў галоўны ляснічы Андрэй Сахута, бо ён таксама рыхтаваўся да Новага года. Снегу было вобмаль, усюды льга праехаць, таму на абшарпаным лясгасаўскім «газіку» Сахута штодня калясіў па раёне, знаёміўся з кадрамі лесаводаў. Ён разумеў, што гэта лепей рабіць не на шматлюдных нарадах, а на месцы, у канкрэтных абставінах. Пагава-

рыць сам-насам, каб ведаць, хто чым дыхае, і вывучыць справы трэба глыбока, каб не думалі пра яго, што ён залётная птушка на адзін сезон. Напрыканцы дня часцяком адчуваў металічны прысмак у роце, калі вяртаўся з лясніцтваў, размешчаных у зоне. Як правіла, на развітанне яго частавалі.

Сахута пачуваўся няёмка: адмовіцца — значыць, пакрыўдзіць падначаленых, а не дай Бог выпіць лішнюю чарку — услед можа паляцець данос-ананімка. Таму піў ён вельмі асцярожна, а вось на закусь налягаў смялей, бо ў самога халасцяцкі побыт. Вядома, Паліна заўсёды прапаноўвала паесці, увечары — чай, а пад чай і чарку налівала. І ўсё гэта бачыла нявестка. Няпэўнасць становішча прыгнятала Андрэя, таму ён з нецярпеннем чакаў сваёй кватэры, хай сабе невялікай аднапакаёўкі. Але здача новага дома адкладвалася: не хапала грошай, будаўнічых матэрыялаў. Ён расказаў пра свае думкі Паліне.

— Трэба падшукаць іншую кватэру. А то пачнуць нас языкамі абмываць.

— Ёсць варыянт. На суседняй вуліцы жыве мая сяброўка. Яна старэйшая за мяне. Некалі разам працавалі ў школе. Ты, можа, ведаеш яе? Дар'я Трафімаўна Азарава. Пасля вайны яна была сакратаром райкама партыі.

— Канешне, ведаю. Прычым вельмі даўно. Са школьных гадоў.

Убачыўшы здзіўленне на твары Паліны, Андрэй расказаў, як аднойчы Азарава выступала ў Хатыніцкім клубе. Яго вельмі ўразіла, што яна доўга гаварыла і ні ў якія паперы не заглядвала. А гаварыла яна пра міжнароднае становішча, кляйміла амерыканскіх імперыялістаў.

— Здаецца, мы з табой успаміналі яе грэшнае каханне? Некалі яна была закаханая ў вашага хатыніцкага старшыню калгаса Макара Казакевіча.

— Так, памятаю. Калі я працаваў у камсамоле, мы сустракаліся.

— Дык вось цяпер жыве Дар'я Трафімаўна адна. Сын працуе на цэментным заводзе. Мае сваю кватэру. Гаспадыня — вялікая акуратніца. А кветак у яе мора! Ты будзеш, як у аранжарэі. Заўтра схаджу да яе. Тэлефон на кватэры ёсць, — Паліна прыцішыла голас, хоць у доме не было нікога апрача іх. — У сераду ці ў які іншы дзень яна будзе ездзіць да ўнукаў. А мы можам пабачыцца. У які дзень табе зручней?

Андрэю хацелася сказаць: «Давай не будзем сустракацца. У мяне ж ёсць жонка». Але замест гэтых слоў ён прамовіў зусім іншыя:

— Добра. Хай будзе серада. А калі выскачыць якая неспадзяванка, перанясём на другі дзень.

Кватэра Андрэю спадабалася. Драўляны вялікі дом з белымі аканіцамі, бярозы пад вокнамі, ціхая вуліца. А ў хаце ўсё застаўлена кветкамі: у гаршчках, вёдрах, нейкіх скрынках. Уразіў эпіфеліум-дзекабрыст: разлапістыя галінкі, падобныя на клешні рака, усыпаныя фіялетава-ружовымі прадаўгаватымі, нібы аўтаматныя патроны, бутонамі. «Дзекабрыста» Андрэй ведаў: у снежні звычайна расцвітаў у ягонай мінскай прыёмнай.

— А што гэта за кветка? — яго зацікавіў вазон, які нагадваў суцэльны букет малінава-ружовых кветак. Яны высіліся над густа-зялёнай купкай лісцяў, быццам чародка мятлушак узмахнула крыламі-пялёсткамі, узляцела і застыла ў паветры.

— Гэта цыкламен, — ахвотна тлумачыла Дар'я Трафімаўна. — Радзіма кветкі — Грэцыя. Там цыкламены растуць на скалах. А гэта азалія, або рададэндран, — гаспадыня паказала на куст кветак, які нагадваў ружовы сноп. — А гэта амарыліс. Кветкі, як грамафоны. Лісты нібы зялёныя косы. Як турэцкія крывыя ятаганы, — квола ўсміхнулася гаспадыня. — Ну, а гэта павяргоня. Герань. Яна зараз не цвіце. Кветкі ў яе буйныя, вельмі прыгожыя. Вы, пэўна, бачылі герань на падаконніках у вясковых хатах. Суквецці самых розных адценняў. Радуе вока герань...

Андрэй слухаў, прыглядаўся да сівенькай бабулі ў акулярах, з-пад тоўстых шкельцаў на свет Боскі пазіралі бляклa-сінія, палінялыя за немалы жыццёвы век вочы. Яна сама нагадвала нейкую дзівосную ўсохлую кветку, якая адцвіла, адкрасавала, але не хоча здавацца зімовай сцюжы, хоча жыць і тварыць вакол сябе прыгажосць, хоча радаваць людзей.

— Даражэнькая Дар'я Трафімаўна, вы мяне здзівілі, уразілі, узрадавалі. На дварэ — зіма, снег, халадэча. А ў вас вечназялёная вясна. Ну, ці лета. Адным словам — цуд! Дзякуй вам в ялікі за радасць!

Андрэй далікатна пацалаваў сухарлявую маленькую далонь гаспадыні. Перахапіў пагляд Паліны: у ейных цёмна-карых вачах свяцілася прыхаваная радасць, яна была ўпэўнена, што гаспадыня прыме кватаранта, што яму тут будзе добра, утульна, і яны змогуць сустракацца.

Зусім пра іншае падумаў Андрэй Сахута: сюды можна запрасіць у госці жонку, у падобным пакойчыку яны пачыналі сямейнае жыццё. Ён яшчэ раз агледзеў пакой, антураж якога дапаўнялі плеценая этажэрка з кнігамі і высокая кафляная грубка. Гэта быў асобны, бакавы пакой, які гаспадыня прапанавала Сахуту. Тут быў старадаўні круглы стол, два крэслы, высокі металічны ложак на цёмна-сініх ножках, горка падушак пад карункавым пакрывалам. Ложак быў засланы жоўта-заласцістаю капай. Для сябе Андрэй адзначыў, што ў хаце даволі холадна, хоць на дварэ мароз невялікі. Значыць, гаспадыня эканоміць паліва.

Праз дзень Андрэй прытарабаніў трактарны прычэп бярозавых, альховых і асінавых дроў, папілаваных на чурбаны. Заставалася пасячы і скласці ў вярсту. Гаспадыня, як убачыла гару дроў каля хаты, была на сёмым небе ад радасці. У першы ж выхадны Андрэй насек кучу дроў, памог гаспадыні скласці іх у вярсту. Дар'я Трафімаўна напякла дранікаў, запрасіла на вячэру кватаранта. А яшчэ быў сюрпрыз: прыйшла на вячэру Паліна. Пілі чырвонае віно, елі смачныя дранікі. Грубка дыхала ўтульнаю цеплынёю.

З маленства Сахута любіў цёплае дыханне напаленай грубкі, любіў сядзець каля адчыненых дзверцаў і пазіраць, як трапечацца, скача жывы агонь. Любіў патрэскванне сухіх дроўцаў, асабліва яловых. Калі з грубкі ці ўранні з печы выскоквала іскарка, матка звычайна казала: «О, будзе госць!» І сёння гэтая прыкмета спраўдзілася: нечакана прыйшла Паліна. У снежні дні кароткія, нібы заечы хвосцік або верабейкава дзюба, а вечары даўжэзныя. Але гэты прамільгнуў неўзаметку за цікаваю гутаркай, згадкамі пра пасляваеннае жыццё.

Потым Андрэй праводзіў госцю. На вуліцы было ціха, даволі цёпла, з неба пазірала на грэшную зямлю вялізная поўня. Як толькі адышліся ад хаты, Паліна ўскінула рукі на Андрэевы плечы і пачала горача і прагна цалаваць яго.

— Нездарма кажуць, што падчас поўні ў чалавека абвастраюцца ўсе пачуцці, — сказала яна, нібы апраўдваючыся.

— Так, найбольшая колькасць аўтааварый, розных здарэнняў адбываецца перад поўняй. Яна ўплывае на чалавека. Апошнія гады я кепска сплю, калі поўня. Раней гэтага не заўважаў. А цяпер ужо не раз пераконваўся. Бывае, да раніцы не магу заснуць.

— Я сёння таксама доўга не засну, — уздыхнула Паліна. — Усё буду думаць пра цябе. А наконт серады як ты? Зможаш?

— Пастараюся. Толькі б дажыць...

— Дажывём, мой любы, — з пяшчотнымі ноткамі ў голасе сказала Паліна, зноў прыхінулася да яго.

— Месяц набраўся поўнай сілы, мусіць, гэтак і чалавек. А потым месяц ідзе на спад і сілы чалавека слабеюць, — разважала Паліна.

З неба пільна сачыла за імі поўня.

## XVII

Марына апошнім часам упадабала адзначаць Новы год. Усёй душой ёй хацелася верыць праўдзівасці народнай прыкметы: калі весела сустрэнеш Новы год, дык увесь год будзе вясёлы і шчаслівы. Таму яна рыхтавалася да навагодняга свята з вялікім хваляваннем. У райцэнтры накупляла цацак, рознакаляровых шарыкаў, зайцоў, птушак. Зноў жа адной з прычын гэтага было тое, што ў дзяцінстве пра святочную елку-прыгажуню Марынка Сахута магла толькі марыць. І вось цяпер яе мара збылася. Але пад елку не магла яна класці падарункі для сваіх дзяцей, унукаў, — бо не мела іх. Гэта была яе незагойная рана, якая смылела заўсёды, адно прыціхла ў апошнія гады: радасць кахання прыглушыла застарэлы боль адзіноты.

Моцна ўзрушылі Марыну гібель Сырадоева, самагубства Косці Вароніна, таму гэты Новы год ёй хацелася сустрэць асабліва ўрачыста, каб у наступным годзе нічога падобнага перажыць не давялося. Вядома ж, яна сказала пра сваё жаданне мужу.

— Хвакцічаскі, ета правільна. Новы год варта сустракаць па-людску, весела. Невядома, колькі іх засталося ў нашым чысленніку, — міжволі ўздыхнуў Бравусаў. — Можа, запросім Мамуту з Юзяй? Ці, можа, да сына ў Белую Гару пойдзем. Уранні вернемся. Прагуляемся троху.

— У сына, пэўна, будзе свая кампанія. Маладыя, усе граматныя. Сучасныя. А мы з табой ужо старыя. Можа, я пагавару з Юзяй? Ці мы да іх, ці яны да нас.

— Добра. Запрашай іх. А калі яны захочуць, каб мы прыйшлі, то сходзім. Мы ўсё-ткі маладзейшыя. Кабанчыка заколем. А другога пазней. Праз пару месяцаў. Пеўніка засяку. А то яны б'юцца. Не падзеляць чубатак, — рагатнуў Бравусаў.

Апошнім часам Марына пасябравала з Юзяй і цяпер зразумела, што ў яе не засталося сяброўак. Яны ўсе павыходзілі замуж, параз'ехаліся, разляцеліся па свеце, адзінае ў яе было апірышча — бацькі і браты. Бацькоў ужо няма, брат застаўся адзін, ды і той далёка. Марына неадкладна правяла перамовы. Юзя з радасцю адгукнулася на прапанову — сустрэць Новы год разам, але запрасіла суседзяў да сябе.

Бравусаў, пачуўшы пра гэта, задаволена ўсміхнуўся:

— Ну што?! Хвакцічаскі, усё так, як я і прадбачыў.

— Ты ж у мяне мудры, — ласкава пацалавала Марына мужа, радасная ад прадчування свята.

Пасля візіту Марыны закіпела работа ў доме Мамутаў. Юзя рыхтавалася варыць халоднае, ці, як у Хатынічах казалі, — сцюдзень. Гаспадар вырашыў схадзіць на ферму, купіць там у ларку пляшку гарэлкі, высечы невялікую елачку — лес там чысцейшы ад радыяцыі. Ларок працуе толькі да абеду, таму выбраўся ў дарогу пасля сняданку, засунуў у кішэню зялёную сетку, за пояс маленькую сякерку. Пайсці заманулася паўз Бесядзь, хоць гэты шлях даўжэйшы на добрую вярсту. Калі праз вёску будзе кіламетры са тры да фермы, то паўз ракі — чатыры з гакам.

Выбраў гэты шлях таму, што даўно не меў ладнай праходкі, усё тупаў па двары, па хаце, а хацелася падыхаць свежым марозным паветрам, мабыць, і нукліды ў замерзлай зямлі сядзяць і не рыпаюцца. Ды і снегам іх прысыпала. Праўда, снегу вобмаль, затое льга ісці куды заўгодна. Сёння можна, а заўтра ўсхопіцца завея і замяце ўсе дарогі і сцежкі. А сцежак гэтых усё меней вакол вёскі: няма каму хадзіць і ездзіць.

Пасля кароткага сонечнага дня надышоў доўгі піліпаўскі вечар. Выскачыў марозік, адно на снег прырода паскупілася. Бравусаў, гладка паголены, з моцным водарам любімага «Шыпру», ішоў пад ручку з Марынаю. Цішыня панавала над вёскай, лёгка парыпваў свежы снег. Уладзімір Усцінавіч быў у добрым гуморы. Радавалася і Марына, што ідзе з мужам у госці да настаўніка, вельмі паважанага і ў Хатынічах, і ва ўсім наваколлі чалавека. Цешыла думка, што, можа, з Юзяй паспяваюць, падцягнуць пасля чаркі і мужчыны. І будзе на душы весела і ўтульна. Хай слухаюць праклятыя нукліды спевы апошніх жыхароў.

У Мамутавай хаце было цёпла, пахла хвояй, смалой-жывіцай, смажанінай, грыбамі і яшчэ нечым апетытным. Пасля дзесяці гадзін селі за стол. Выпілі па чарцы за год мінулы.

— Каб яе чорт убрыкнуў, гэтую Казу! — бязгучна засмяяўся Бравусаў. — Хвакцічаскі, колькі чаго яна нарабіла!

— Нашы нашчадкі ацэняць, што добра, а што блага, — пачаў гаспадар, але раптам крута павярнуў гаворку ў іншы бок: — Юзя, нешта нашы госці нічога не ядуць. Марына Мацвееўна, пакаштуйце халадцу, — ён падчапіў лыжкаю кавалак парэзанага на кубікі халоднага і паклаў госці на талерку.

— Ой, не клапаціцеся, Еўдакімавіч! Яшчэ да Новага года болей за гадзіну. Паспеем, — адказала Марына, кранутая ўвагай настаўніка. Халадзец ёй спадабаўся, яна пахваліла Юзю.

— Калі вару халоднае, заўсёды перажываю: ці застыне? — пачала ўдзячная Юзя, але Бравусаў зноў бязгучна засмяяўся, перапыніў:

— На дварэ мароз. Дапаможа. Любы халадзец застыне.

Мамута моўчкі слухаў, думаў пра сваё, пра хуткаплыннасць часу, пра тое, колькі яму яшчэ давядзецца сустракаць Новы год. Міжволі ўзгадаў сваю Таццяну. Ён ціха падняўся з чаркай. Застолле адразу супакоілася, заціхла ў чаканні.

— Для таго каб успомніць родных, блізкіх, ёсць іншыя дні. Гэта і Радаўніца, і Дзяды восеньскія, — ён захваляваўся, у горле нібы засеў камяк. — Давайце памянём спачылых. Тых, каго няма сянні з намі. Маю Таццяну, з якой пражылі амаль пяцьдзесят гадоў. Хай ёй будзе пухам зямля...

Падняўся і Бравусаў, услед за ім — Марына і Юзя. Мамута згледзеў, што Юзін твар спахмурнеў, але не ад шкадавання ягонай першай жонкі, хутчэй гэта незадаволенасць: гаспадар зноў намякае, што яны будуюць шчасце на чужым горы. Мамута гэта адчуў і таму сказаў:

— Дарагія Юзя, і ты, Марына, не палічыце гэта за нетактоўнасць. Ці некарэктнасць... Юзі я вельмі ўдзячны. Кінуць сталіцу і перабрацца ў зону здольны рэдка хто.

— Чаму? Вунь Марынін брат працуе ў зоне. А ў сталіцы быў вялікім начальнікам. Любоў, дарагі мой Пеця, вырашае ўсе праблемы, — заўсміхалася павесялелая Юзя.

Моўчкі выпілі, у цішыні закусвалі. Мамута разумеў, што сумны настрой не пасуе навагодняй вячэры, таму сам пачаў весяліць гасцей:

— Вось Юзя кажа, што ўсё вырашае любоў, каханне. Адзін выкладчык спытаў у студэнткі: «Як будзе будучы час ад дзеяслова кахаць?» — «Выйду замуж», — не разгубілася дзяўчына.

Гаспадара ахвотна падтрымаў Бравусаў. Бачыў нядаўна калегу, участковага, той расказаў жарт. Размаўляюць два сябры: «Ты чуў? Ваня ажаніўся з Маняй! — «Няўжо! І як яны жывуць?» — «Выдатна! Як галубкі». — «Як гэта?» — «А так: то ён праз акно вылятае, то яна...»

Усе зарагаталі, асабліва Юзя. Яна ж і падхапіла эстафету:

— Прыбягае Пятачок да Віні-Пуха: «Віні, Віні! Нам прыйшла пасылка з Афрыкі. У ёй дзесяць апельсінаў. Табе сем і мне сем». — «Як так? Іх жа ўсяго дзесяць!» — здзіўляецца Віні. «Мяне гэта не турбуе. Я сваіх сем ужо з’еў», — дадала праз смех: — Ешце, госцікі. Закусвайце. Усцінавіч, пакаштуйце грыбочкаў. Ездзілі з Пятром ажно пад Бялынкавічы. У чыстую зону.

Бравусаў ахвотна чарпануў лыжкай салёных грыбоў сабе, потым паклаў і Марыне. Але тая не спяшалася есці: разумела, што і ёй трэба нешта расказаць смешнае. Анекдотаў яна не запамінала, раней і слухаць іх не любіла, ды і ў кампаніі бывала рэдка. І ўсё ж адзін жарт прыгадала:

— Пасля вайны я доўга працавала ў бальніцы ў Саковічах. Прыходзіць аднойчы хворы дзядок. Заняў чаргу да рэгістратаркі. Гучна кашляе. Медсястра дала ўсім градуснікі, каб памераць тэмпературу. Выйшла іх забіраць, а дзядка няма. Праз тыдзень прыходзіць, вяртае градуснік: «От жа дзякуй вам! Сам паздаравеў. Жонку вылечыў і суседку».

Жарт спадабаўся, усе дружна зарагаталі, асабліва Бравусаў, бо нешта смешнае чуў ад Марыны ўпершыню.

Забрынькаў тэлефон. Апарат стаяў недалёка ад гаспадара, і той лёгка дацягнуўся да яго. Тэлефанавала дачка з Магілёва, павіншавала з Новым годам, узрадавалася, што ў бацькі госці. А потым пазваніў з Мінска Пётр, сын Юзі і Мамуты, адно прозвішча ў яго айчымава. Ён гаварыў з бацькам, потым з маці. Юзя ўвачавідкі расцвіла, слухаючы сына. Асабліва ёй пазайздросціла Марына: шчаслівая, мае дзяцей ад першага мужа, ёсць агульны сын з Мамутам, хай сабе і пазашлюбны. Ён штолета прыязджае ў Хатынічы, высокі малады падпалкоўнік. Іншыя Мамутавы дзеці пасля смерці Таццяны прыязджаюць радзей.

Стрэлкі гадзінніка няўхільна набліжаліся да дванаццаці.

## XVIII

Андрэй Сахута прыехаў у Мінск а палове дванаццатай ночы. З лёгкім чамаданчыкам выйшаў на прывакзальную плошчу. Уразіла яркае асвятленне дамоў, мноства машын, доўгі хвост чаргі на таксі. Кінуўся ў вочы вялізны плакат над фасадам дома насупраць вакзала: барадаты дзед Мароз і літары: «З Новым годам, Беларусь!» Мільганула думка: абкама няма, а наглядная агітацыя ёсць, ды на роднай мове, каб любы прыезджы адчуў, што прыехаў не абы-куды, а ў сталіцу незалежнай дзяржавы Беларусь.

А яшчэ падумалася: на ягонай вуліцы ў райцэнтры няма ніводнага ліхтара, а тут гэткая святлынь! І гаспадыня ягонай кватэры Дар'я Азарава зараз ужо спіць, бо кладзецца а дзесятай. Нават калі пакутуе ад бяссоння, дык усё роўна святла не ўключае, ляжыць, утупіўшы вочы ў цёмную столь, перабірае, нібы арэхі-лузганцы, падзеі свайго даволі доўгага жыцця.

У чаргу на таксі Андрэй не пайшоў, лепей даехаць на метро да Нямігі, а там прайсці пешкі. Каб прыехаў раней, то, мабыць, прайшоў бы пехатою да свайго дома: хацелася паглядзець на святочны горад, карцела даць ацэнку сучаснай уладзе. Міжволі прыгадаў, як у лістападзе 1961 года прыехаў з Лабанаўкі ў сталіцу — выклікалі ў ЦК камсамола на зацвярджэнне, бо яго тады абралі камсамольскім важаком раёна. Галасавала за яго на пленуме і вясковы камсорг Паліна. Ішоў тады Андрэй ад вакзала да ЦК пехатою. Была золкая, туманная раніца. У тую ноч знеслі помнік Сталіну, які велічна ўзвышаўся на Цэнтральнай плошчы.

У той год Андрэй ажаніўся, стаў бацькам. На тое лета выпаў іхні з Адай мядовы месяц. Як мудра прыдумалі людзі! Мядовы месяц у іх быў сапраўдны. Урэзаліся ў памяць гарачыя ночы на пахкім сене на ўсё жыццё. Потым гэткай першароднай радасці ўжо не было: турботы, клопаты, нараджэнне дзяцей, бясконцыя нарады і пасяджэнні, лекцыі і даклады не адпускалі ў думках нават падчас адпачынку.

Гэтыя згадкі прамільгнулі, калі Андрэй стаяў на ярка асветленай станцыі метро ў чаканні поезда. Метро ён ацаніў, як пазбавіўся персанальнай «Волгі». Забарона «маналітнай і магутнай» КПСС, а потым распад Саюза — гэтыя падзеі былы абкамаўскі ідэолаг яшчэ дасюль не мог усвядоміць і асэнсаваць... Чарнобыль перайначыў жыццё трэцяй часткі Беларусі, асабліва насельнікаў зоны, адселеных вёсак. Распад КПСС і Савецкага Саюза перайначыў, а то і зламаў лёсы мільёнаў людзей.

У радыяцыйнай зоне жыццё рухалася спрадвечным чынам, але нябачная радыяцыя, быццам непераадольная запруда, павярнула жыццёвую плынь у іншае рэчышча. І лёс Андрэя Сахуты мусіў зрабіць круты віраж, падчас якога ледзьве не выпаў «у асадак», як гаворыць сын Дзяніс. Але не зламаўся, выстаяў, мае працу, адказную пасаду, мае перспектыву зноў вярнуцца ў сталіцу.

Дабраўся дадому даволі хутка. Перад сваім пад'ездам прыпыніўся, зірнуў на вокны кватэры: ярка свяцілася вузкае акно кухні, мякка, утульна — лоджыя, на якую выходзілі дзверы спальні. «Мусіць, Надзя на кухні, а жонка чытае ці глядзіць тэлевізар», — падумаў ён. Адчыніў дзверы сваім ключом, ціха ўвайшоў, паставіў чамадан. З кухні выйшла Ада ў пярэстым халаце. Гэты халацік ён падарыў некалі ёй у дзень нараджэння. Ада ўцяпліла халат ваўнянай хусткай і ўзімку любіла апра-

наць яго. А сёння, можа, апранула знарок. Абняліся, пацалаваліся. Андрэй адчуў знаёмы водар жончыных валасоў і жаданне блізкасці адразу авалодала ім.

— Ну, як даехаў? Я ўжо зачакалася, — Ада зноў прыхінулася да яго, зноў пацалаваліся.

— Так, сапраўды ехаў доўга. Цягнік поўз, як сонны. І толькі ў прыгараднай зоне прыбавіў ходу. А то спыняўся ля кожнага слупа. Надзя, Толік спяць? Як у іх? Усё добра? Папраўіўся малы?

— Трохі кашляе. Тэмпература нармальная. А я вару халоднае. Баюся, ці застыне. Ну, мый рукі. Будзем вячэраць. А мо душ прымеш?

— Так, лепей душ. Але я хутка.

Звычайна Андрэй Сахута ўставаў рана, але ў апошні дзень года прачнуўся позна. Даў сабе паслабку, ляжаў, думаў, каму патэлефанаваць, што падарыць унуку, жонцы, дачцэ. Надзя з Толікам пераехалі да іх нядаўна, сваю кватэру здала нейкай фірме. Ада раілася з ім па тэлефоне наконт гэтага пераезду, вядома, ён пярэчыць не стаў.

— Што табе купіць, Ада? Усё-ткі Новы год, — спытаўся ён падчас сняданку.

— Ат, не тлумі галаву. Сёння што-небудзь купіць — праблема. Людзей усюды поўна. Для мяне лепшы падарунак — ты сам.

Кароткі зімовы дзень прамільгнуў неўзаметку. Параіўшыся з Надзяй, купіў унуку санкі. Пад вечар абнавілі іх: каталіся з невысокай горкі ў двары. Толік цешыўся падарункам, расчырванеўся, бы снягір, сам усцягваў саначкі на горку, адштурхоўваўся і скочваўся ўніз. Дзед Андрэй хадзіў па двары, пазіраў на асветленыя вокны дамоў, у некаторых праз шыбіны мігцелі рознакаляровыя лямпачкі на елках.

Што б ні дзеелася на свеце, якія драматычныя падзеі ні адбываліся б, Новы год прыносіць надзею на лепшае. І кожнаму хочацца верыць, што надзеі спраўдзяцца.

Увечары Андрэй глядзеў з унукам «Калыханку», потым чытаў яму казкі. Малы ўважліва слухаў, затым пачаў пазяхаць, дзед падумаў, што ўнук вось-вось засне, а той раптам спытаў:

— Дзеда, а ў тваім лесе багата елак?

— О, вельмі! Таму што лес там вялікі. Там цячэ рака Бесядзь. У вёсцы над ракою жылі твае дзяды і прадзеды.

— Дык ты ж мой дзед. А прадзед гэта хто? Ён мяне ведае?

— Мой бацька Мацвей — гэта твой прадзед. А мая маці Кацярына — у вёсцы яе клікалі Кацерай, — твая прабабка. Іх ужо няма. Яны састарэлі і памерлі. Некалі ўлетку з'ездзім на маю радзіму. Ты павінен ведаць, дзе жылі твае продкі. Там, праўда, зараз радыяцыя. Чарнобыль. Але мы яго пераможам.

— А ты бачыў радыяцыю? Яна што, уся чорная?

— Радыяцыю ўбачыць нельга. Яна ў зямлі, у вадзе. Вось, як соль ці цукар раствараецца ў вадзе, так і радыяцыя. Толькі яна шкодная для чалавека.

— Раз яна шкодная, дык навошта чалавек яе прыдумаў?

Пытанне ўразіла Андрэя Сахуту сваёй лагічнасцю. Ён пачаў тлумачыць, што з дапамогаю атамнай энергіі чалавек выпрабляе электрычнасць, інакш у кватэры было б цёмна, на вуліцах не гарэлі б ліхтары, не хадзілі

б па рэйках трамваі. Толік слухаў уважліва, хоць і не ўсё, відаць, разумеў. Раптам ён сказаў:

— Дзеда, а я не хачу паміраць. Раз нарадзіўся чалавек, дык хай жыве і жыве.

— Правільна, унучак. Мы будзем жыць. І мама твая, і бабуля. Усе будзем жыць. Насуперак усялякаму ліху.

— А ваўкі ёсць у тваім лесе, — нечакана спытаўся Толік.

— Ёсць. Але ваўкі не такія страшныя, як пра іх пішуць. Чалавека яны баяцца. У лесе багата птушак.

Андрэй заўважыў, як паступова павекі малога зліпаліся, дыханне зрабілася роўным, глыбокім. Сон змарыў малога мысляра. Ён пазіраў на ўнука і адчуў, што вочы павільгатнелі, ён гатовы заплакаць. Трывожнае пачуццё авалодала ім: што чакае ў жыцці гэтага малога чалавечка? Расце ён без бацькоўскай ласкі. «Які мярзотнік, — падумаў пра былога зяця, — кінуў такое дзіцятка. Я павінен замяніць яму бацьку. Падняць яго на крыло». А яшчэ падумалася: жыць трэба доўга, каб дачакацца праўнукаў.

Пятро і Ева прыехалі гадзіны за дзве да Новага года. Даўнія сябрукі прыдзірліва агледзелі адно аднаго, асабліва прыглядаўся Пятро: быццам шукаў адбітак радыяцыі, сляды перажытага на твары, ва ўсёй паставе. Пераканаўся, што сябар трохі схуднеў, пастарэў, зрабіўся спакайнейшы, больш стрыманы, нават гаварыць стаў павольней.

Яшчэ з большай прыдзірлівасцю аглядалі адна адну жанчыны. Асабліва прыглядалася да госці гаспадыня, бо Ева была маладзейшая ажно на шэсць гадоў. Хоць ты, галубка, і маладзейшая, падумала Ада, але пастарэла ты мацней за мяне і патаўсцела болей. Прыбавіў вагі і Пятро, той свой «мазоль», як ён выразіўся, не хаваў і не саромеўся яго.

— Ты малайцом, Андрэй. Стройны, паджары. Вось што значыць праца на свежым паветры. А я сяджу, нібы крот, над рукапісамі. Свету белага не бачу. Бруха расце, хоць і зарадку раблю. І ў басейн хаджу. Уранні па выхадных днях бегаю.

— Прыедзь да мяне на месяц. Уладкую егерам. Увачавідкі твой мазоль спадзе.

Госці распраналіся, сцішана гаманілі, бо Андрэй без залішняй дыпламатыі папярэдзіў: малы Толік заснуў. Потым селі за стол. Пілі за стары год.

— Хоць Каза і наламала дроў, але, можа, усё наладзіцца. Утрасецца, уляжацца, — Пятро агледзеў застолле, зірнуў на Андрэя, быццам прасіў дазволу сказаць тост. — Развал Саюза закрануў мільёны людзей. Правільней, зламаў лёсы мільёнаў. А закрануў усіх, як раней пісалі і гаварылі, усіх савецкіх людзей. Мы выраслі пры гэтай уладзе. Мы — ейныя дзеці, — Пятро памаўчаў, уздыхнуў. — Дарагі мой дружа Андрэй, табе, мусіць, давялося перажыць болей за ўсіх.

— Чаму болей за ўсіх? Я так не думаю, — запярэчыў Андрэй. — Давайце вып'ем за стары год.

— Не, прабач, дай мне закончыць. Я перайшоў з адной пасады на другую. Па сваёй ахвоце. Прычым цяпер маю большы аклад. А ты з высокай пасады грымнуўся на зямлю. З гэткай вышкі ды ў радыяцыйную зону. Я дакараю сябе, што не заўсёды падтрымліваў... І тут Ада Браніславаўна — малайчына. Яна забяспечыла тыл.

Ніхто не заўважыў, якім намаганнем волі прымусіла сябе не пачырванець Ада — яна лепей за ўсіх ведала, што думала пра мужа ў тыя дні пасля ГКЧП. І не толькі думала, а і казала. І не раз, і не два кідала ў твар крыўдныя, абразлівыя словы «партыйнаму балбатуну», які нічога не выслужыў у дзяржавы і партыі, мусіў ехаць у радыяцыйную зону шараговым ляснічым.

— Ну, і я іншы раз памылялася. Я была супраць, каб Андрэй ехаў у зону. Здароўе — даражэй за ўсё. Ну, але, дзякуй Богу, усё наладжваецца. У райцэнтры радыяцыі меней. І пасада салідная. Галоўны ляснічы — адзін на ўвесь раён, — з гонарам сказала Ада. — З гэтай пасады можна і ў Мінск скокнуць. І я б хацела, каб гэта адбылося як мага хутчэй.

— Не ўсё так проста, мая даражэнькая. Але будзем спадзявацца на лепшае. Ну што, як людзі кажуць: нешта ў горле драпачыць?

— Давайце вып'ем, каб надыходзячы год Малпы быў дабрэйшы, здаравейшы, шчаслівейшы, — Пятро ўзняў чарку.

— Каб усе нашы надзеі спраўдзіліся, — дадала Ева.

Андрэй прыкмеціў, як уважліва слухала Ева, калі гаварыў Пятро, як яны пераглядваліся між сабою, якая прыязнасць свяцілася ў іхніх вачах. У душы пазайздросціў сябру: той знайшоў сваю палавінку, у іх ёсць каханне і ўзаемаразуменне. «Ева, мусіць, так бы не грызла мужа, каб той апынуўся на маім месцы, — міжволі падумаў Андрэй. Заўважыў пільны позірк Ады: няўжо яна здагадваецца пра мае думкі? Не, такога быць не можа. Калі вельмі моцна кахаць чалавека, мабыць, можна сэрцам улаўліваць ход ягоных думак, ды і то не заўсёды». А яны з Адай жылі апошнім часам па інерцыі быцця, і першае выпрабаванне амаль што раскалола іхні сямейны човен.

Новы год набліжаўся. І вось ужо на экране з'явіўся коннік.

— А вось і старадаўняя літоўская Пагоня! — усхвалявана выдыхнуў Пятро. — Я да гэтага часу не магу даць веры... Ну, што гэтак лёгка даўся нам суверэнітэт. Тысячы лепшых людзей аддалі некалі свае жыцці за вольную Беларусь. А тут гэтая воля сама быццам з неба звалілася. Галоўнае цяпер, не ўпусціць яе. З Новым годам!

Гаспадары Сахуты, іхнія госці чокнуліся шампанскім, выпілі, пацалаваліся па-сяброўску. І тут жа зазваніў тэлефон: першым павіншаваў бацькоў сын Дзяніс.

— Бацька, я рады, што ты дома. Думаю, усё будзе добра.

— Дзякуй, сынок, за віншаванне. Абдымаю цябе. Прыязджайце.

Потым патэлефанавала Надзя, за ёй гаварыла Ірынка, сказала, што праз гадзіну яны могуць прыехаць. Ада чакала такога паведамлення, рыхтавалася і ўсё ж устрывожылася: ці хопіць нагатаваных страў? Але мелася ў яе іншая трывога: чаму не тэлефануе Андрэеў сябар з Камітэта па экалогіі? Ён званіў месяц таму, шкадаваў, што Андрэя няма, бо ў іх намячаецца вакансія.

— Можа, павіншуй Міхаіла? Чаго ты саромеешся? — шапнула мужу.

— Я званіў яму на працу. Перадаў сакратарцы. Ён ведае, што я дома. Пазвоніць.

— А я не чакала б, — з падтэкстам сказала Ада, маўляў, зноў упарцішся, цану сабе набіваеш, — карона не зваліцца, калі павіншуеш патрэбнага чалавека.

Раздражненне ўспыхнула ў душы Андрэя, але ён стрымаўся, нічога не сказаў жонцы, павярнуўся да Пятра, завёў гутарку пра «Пагоню», пра тое, што народ мала ведае пра нашы гістарычныя сімвалы.

— А хто пра іх гаварыў народу? Твае сябры ідэолагі? Ці мае калегі з тэлерадыё? Толькі цяпер адчулі смеласць. А то ж наш спрадвечны нацыянальны сцяг называлі паліцэйскім штандарам. Здзек з нашай гістрыі, з нашай мовы. Цяпер трэба нацыянальная ідэя, якая б з'яднала народ. З'яднала б нацыю.

— Пятро, ну ты, як на мітынгу, — пасміхнулася Ева і дадала: — Хаця, калі паразважаць, можа, і праўда, патрэбна такая ідэя.

Хітрая кабета, падумаў Андрэй, нібыта ўпікнула, а потым пахваліла, падтрымала. У маёй Ады — толькі белае і чорнае. І ніякіх нюансаў: ёсць рубель, дык ёсць, а няма, дык няма. Развагі прафесійнай фінансісткі.

— Ну і што сталічная інтэлігенцыя прапануе народу? Якую ідэю?

Ева ўлавіла іроніію ў гэтых словах, зірнула на Андрэя, нібы хацела сказаць: ну чаго ты задзіраешся?

— Не ведаю, што думае інтэлігенцыя. Я прапанаваў бы вось што. Першае — гэта самастойнасць. Якая дзяржава без суверэнітэту? Без самастойнасці? Другое — самабытнасць. Гэта наша культура, традыцыі, мова, нашы песні. Адным словам — нашы карані, — Пятро перадыхнуў, ці, можа, збіраўся з думкамі, ці даў магчымасць засвоіць пачутае. — Трэцяе — дабрабыт. Каб і паесці было што, і апрануць. І чым поле араць, і на чым па дарогах ездзіць. Ну, тут уся эканоміка. Базіс.

— Мне здаецца, правільная ідэя, — першай падтрымала госця гаспадыня. Яна якраз вярнулася з кухні, калі Пятро пачаў гаворку пра нацыянальную ідэю. — Асабліва — наконт дабрабыту. Каб быў хлеб і да хлеба. Тады і песні будуць.

— Ну і што атрымліваецца? Два «с» і «д». У Гітлера было СД, — пачаў Андрэй, але Пятро перапыніў яго.

— Ну, ты ж не блытай гарох з капустай. Гэта з іншай оперы.

— Мне здаецца, для раўнавагі трэба дадаць — духоўнасць. Перад дабрабытам. Пачакай, пачакай, — Андрэй перапыніў разгарачанага сябра. — Ты хочаш сказаць, што самабытнасць гэта ўсё ўбірае. Але гэта не зусім так. Духоўнасць спрадвеку была ўласціва нашаму народу. Іншым разам ён болей клапаціўся пра душу, чымся пра жывот. Болей думаў пра песню, чымся пра кавалак хлеба. Я таксама сёе-тое чытаў. У Максіма Гарэцкага пра гэта хараша сказана. Не памятаю дакладна: народ наш — лірнік, народ — пясняр і гэтак далей. Дык вось, тады будзе: самастойнасць, самабытнасць, духоўнасць, дабрабыт. Два «с», два «д». Гэта як некалі крытыкавалі стыль работы райкамаў. Праўда, тады пісалі і гаварылі — райкомаў. Насуперак беларускай граматыцы. Дык называлі чыноўніцкі стыль: дэ квадрат, шэ квадрат. Давай-давай, шуруй-шуруй.

— Я падтрымліваю духоўнасць. Ну, і раўнавагу. Чатыры словы, як чатыры бакі свету. Два «с», два «д». Выдатна! Усё тут сканцэнтравана, — важка прамовіла Ева, быццам толькі ад яе залежала прыняццё нацыянальнай ідэі.

— Ад імя народа. Ад імя ўсіх фінансістаў я вітаю гэтую ідэю, — з усмешкай сказала Ада. — І прапаную за гэта выпіць. А то мне крыўдна. Усё стаіць на стале. Бульба адубела. Халоднае растае. Налівай, Андрэй. Дзеці зараз прыедуць.

— Дык ты хочаш, каб мы былі п'яныя да іхняга прыезду? — рагатнуў

Пятро. — Але за гэтую ідэю варта падняць добрую чарку.

— Не п'яныя, а вясёлыя і шчаслівыя, — пачала Ада, але тут заліўся трэллю тэлефон. Яна зняла трубку і з радасцю паклікала Андрэя, бо пазнала басавіты голас Міхаіла Іосіфавіча.

Ёй вельмі карцела паслухаць, пра што будзе гаворка, але яна адчувала няёмкасць сітуацыі і неахвотна падалася да гасцей. Не стрымалася, каб не сказаць, хто тэлефануе, заінтрыгавала, маўляў, шмат залежыць ад гэтай размовы.

Калі Андрэй вярнуўся, то ўсе зірнулі на яго вельмі ўважліва. Ада спыталася:

— Ну, што ён сказаў?

— Павіншаваў з Новым годам. Пажадаў, каб наступны год я сустракаў у якасці іхняга супрацоўніка.

— Дык гэта ж выдатна! — засвяцілася ад радасці Ада, цмокнула мужа ў шчаку. — Але год — гэта зашмат. Лепей паўгода. Яшчэ лепей — адзін квартал. Бо гэтыя тры месяцы доўжыліся для мяне як тры гады.

— А што гэта за чалавек? — пацікавіўся Пятро.

Андрэй сказаў, што званіў намеснік старшыні камітэта па экалогіі, што іхні камітэт праз нейкі час будзе называцца Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, будзе пашыраны...

Пятро і Ева неўзаметку пераглянуліся: на днях яны спрачаліся, Ева з крыўдай у голасе даводзіла, што былыя партыйныя босы захапілі ўсе ключавыя пасады ў выканкамах, хапаюць ільготныя крэдыты, дзеляць вакол Мінска зямлю пад катэджы, прыватызацыю пераўтварылі ў прыхватызацыю. Пятро напачатку пярэчыў, але жонка пераканала, што ўсё сапраўды так адбываецца. І вось яшчэ адзін доказ непатапляемасці партыйных функцыянераў.

— Калі пра нешта пачынаюць гаварыць, то яно і збываецца. Экалогія выходзіць на першы план. Я б дадаў сюды экалогію душы, — задуменна сказаў Пятро.

— Так, дарагі мой дружа. Я цалкам згодны з табой, — Андрэй пільна зірнуў на сябра, падняў бакал. — За Новы год! За новае жыццё!

Андрэй Сахута, былы сакратар абкама па ідэалогіі, а цяпер галоўны ляснічы радыяцыйнага прыбяседскага лясгаса, упершыню адчуў, што яму не хочацца вяртацца ў сталіцу.

На зыходзе была першая гадзіна новага, тысяча дзевяцьсот дзевяноста другога года.

## XIX

І над роднай Бесяддзю павярнулася ноч на другі бок. Праз бухматыя хмары выблісную рудаваты ветах, у прагалінах замігцелі зоркі. Над сцішанаю заснежанаю прасторою, над вершалінамі старадрэвін імчаў пругкі марозлівы зюйд-ост — вецер з Чарнобыля. У яго калючым дыханні адчуваўся невынішчальны водар выпетралага, прамерзлага палыну.

Палыновы вецер не ведаў спакою і спачыну нават у навагоднюю ноч.

О вецер, вецер! Ты самы магутны на свеце! Ты здольны ўплішчыцца ў шчыліну, уварвацца ў прачыненую фортку. Ты можаш ахапіць палову акіяна і ўсё неба. Ты прыносіш дождж, снег і град. Ты зрываеш стрэхі, валіш электрамачты, выварочваеш з карэннем магутныя дубы, высозныя елкі, таўшчэзныя вольхі і асіны. Я ніколі не забуду відовішча, убачанае

— Вы ж ведаеце, як я буду вас чакаць, — выцерла слязу Галя.
— Прыязджайце, будзем вельмі рады! — падтрымаў Мікола.
— Прымаем, прымаем запрашэнне, дарагі! — горача сказала Любіна.
Антон поркаўся відэльцам у талерцы і маўчаў.
— Антон, ты што, заснуў? Чаго маўчыш? — здзівілася Любіна.
— Маўчу, значыцца, згодзен, — выціснуў Антон.
— Ну, тады мы будзем збірацца ў дарогу. Так, Матрона? — запытаўся Пракоп.
— Ой, а як жа, — здрыганулася Матрона, — збіраемся.
Пачалі вылазіць з-за стала. Любіна здзівілася:
— Антон, а дзе ж твая знакамітая — на пасашок?Налі сватам на дарожку.
Антон нібы прачнуўся:
— Што гэта я?.. Ледзь не забыўся. Мікола, дапамагай! Бяры чаркі, я бутэльку. Любіна, дай прыкусіць!
Матрона зноў запатрабавала:
— Садзіцца не будзем! Стоячы!
На гэты раз Антон не сказаў: «Болей улезе», а моўчкі наліў.
— За што п'ём? — спытаўся Мікола.
— За што, Антось? — перапытала Любіна.
Антон зморшчыўся:
— А халера яго ведае! За ўсё разам!
— А я вып'ю за родны дом, — ціха сказала Галя.
— За які? — спытала Матрона. — У цябе два родныя дамы цяпер.
— Родны дом бывае толькі адзін, — яшчэ цішэй удакладніла Галя.
Матрона хацела зазлаваць, але Антон перахапіў гаворку:
— П'ём моўчкі кожны за сваё! — і кульнуў чарку.
Астатнім нічога не заставалася, як выпіць. Пракоп ажывіўся:
— Антось, а аглаблёвую? Мне тады спадабалася!
— Табе хопіць, ты ў нас за рулём! — абсекла мужа Матрона.
— На гэты раз, сваток, аглаблёвай не будзе, — адказаў Антон, — аглоблі не ў той бок павернутыя.
— Не дык не, за рулём дык за рулём, — згадзіўся Пракоп. — Госць — нявольнік... ды і муж — нявольнік... Дзякуй вам, сваты, іду запрагацца.
— І вам дзякуй! — адказала Любіна. — Шчаслівай дарогі, мае дарагія!
Антон дадаў:
— Мы вас правядзём на двор.

* * *

У Пракопавай хаце адбывалася штосьці неверагоднае. На табурэтцы, пасярод пакоя, сядзела заплаканая Любіна, вакол якой карагодзілі ўзрушаныя Пракоп і Мікола. Галя стаяла ля маці, а тая то ўскоквала, то зноў садзілася.
— Мама, ты супакойся! Калі гэта адбылося? — дапытвалася Галя. — Няўжо такое можа быць?
— Як гэта магло здарыцца? — рэхам паўтараў Пракоп. — Няўжо ўвесь свет здурнеў?
— Мы ж толькі тры дні, як вярнуліся ад вас з пярэзваў, — гаварыў разгублена Мікола, — усё ж было добра...
Любіна выдыхнула:

— У нядзелю вы ад нас, а ў панядзелак ён прывёў яе...

— Каго, мама? Ой, прабач...

— Каго-каго? Які раз пытаешся? Язык не паварочваецца паўтарацъ: Матрону, сваццю... каго ж...

— Яна ж сказала, што на некалькі дзён едзе да цёткі ў Калачы, — здзівіўся Пракоп. — Цётка яе, быццам, канае...

— І што, мама, далей? — запыталася Галя. — Навошта прывёў? Што сказаў?

— А навошта прыводзяць бабу ў хату? — пытаннем на пытанне адказала Любіна. — Сказаў, што будзе жыць з Матронай...

— А цябе куды? — зноў спыталася Галя.

— Куды? Ты ж бачыш, куды. Вось тут апынулася.

— Дык сёння ж серада, а дзе ты была ад панядзелка? — здзівіўся Пракоп.

Любіна ўздыхнула:

— Схадзіла да сястры ў Вепрату, быццам пагасціць, там пабыла, а сёння да вас. А куды мне дзявацца?

— Дык ён што, цябе выгнаў, мама? — ледзь не выкрыкнула Галя.

— У каршэль не выпіхваў, але бываюць словы горшыя за любую штурханіну.

— Во дажыліся! Вой-вой! — усклікнуў Мікола.

— Умацавалі пародненасць, нічога не скажаш! — хмыкнуў Пракоп. — А яны? Што думаюць яны? Зняславіліся на ўвесь свет, як тыя старажытныя... як іх?.. Антон і Клеапарта... Цьфу!

— Божа, Божа! Як людзям у вочы глядзець? — залямантавала Галя. — Вяселле адшумела-адгуло, ганарыліся, пахваляліся, а тут такое... — Людзі, магчыма, пакуль не ведаюць, але такое не прыцярушыць, не схаваць... Само вылезе, — выдыхнула Любіна.

Раптам Галя аж падскочыла:

— Вы сядзіце тут, а я хуценька скокну дамоў! Я іх там растрыбушу!

— І я з табой! — горача падтрымаў Галю муж.

— Куды?! — рашуча спыніла іх Любіна. — Людзей пацешыць хочаце? Вядома ж: у чужой хаце б'юцца, а за вокнамі смяюцца...

— А што ж рабіць? Сядзець і чакаць? — збянтэжыўся Пракоп, потым дадаў: — Як яна магла такое зрабіць? Як? Во старая дурнота!..

— Мама, там жа карова, даіць трэба... Свінні, куры, гаспадарка, — зірнула Галя на маці.

— А я што? Карову ды свіней у прыполе забяру з сабой? Вось, у чым стаю, прыйшла.

— А мы дык з Міколам і нявесткай па чарзе карову даілі, цешыліся, што гаспадыні палёгку робім... Дурні! Падзяку чакалі ад яе... А яна? — схапіўся за галаву Пракоп. — Во! Хутка рогі вырастуць, як у той каровы!

— Я дык не ведаю, што і сказаць, — прызнаўся Мікола. — Усё гэта, як нейкі дурны сон...

— Нездарма яны, як певень і зязюля, распіналіся адно перад адным, — уздыхнуў Пракоп. — А я вушы развесіў, розуму вучыўся. Што і казаць — паразумнеў, але позна.

— Дык вось пра якія выбрыкі казаў тата! — жахнулася Галя. — Ён падрыхтоўваў нас...

— Ды чорт з ёй! — падскочыў Пракоп. — Яна так — і я так! Няхай ведае!

— А ты як, тата? — з усмешкай спытаўся Мікола.

Пракоп сумеўся.

— Як я?.. Не ведаю, сынок...

— Мама, дык што ўрэшце сказаў табе канкрэтна тата?— быццам за саломінку чаплялася Галя. — Магчыма, ты не зразумела?

— А што тут разумець? Сказаў, ідзі да дачкі, яна цябе не прагоніць. Вось я і тут...

— Умацавалі пароднenасць! — паўтарыў Пракоп. — Ха-ха! Так умацавалі, што і не ведаеш, хто каму кім даводзіцца. Была жонка, а цяпер ці свацця, ці трасца яе ведае хто... Дэзерцір! Перабежчык!

— Што мы развялі тут гаварыльню? Трэба прыйсці да нейкага рашэння, — не вытрымаў Мікола. — Гавары хоць загаварыся, а нешта трэба рабіць. Дзейнічаць!

— Магчыма, і не варта ўздымаць бучу ды цешыць людзей, — больш спакойна разважала Галя, — а сабрацца ўсім і паехаць да тых маладажонаў. І зрабіць гэта трэба цяпер, не адкладваючы, пакуль усе разам, вось...

— Калі ўжо ехаць, дык ехаць вечарком, упоцемках, каб абмінуць чужое вока, — прапанавала Любіна.

— У мяне аж свярбіць усё ўсярэдзіне паехаць цяпер, ды хоць раз у жыцці плюнуць ёй у вочы, — горача сказаў Пракоп. — Выказаць ёй усё, што заслугоўвае, каб сотаму заказала!

— Не, тата, ехаць усё ж трэба вечарам. Зараз іх, магчыма, не будзе дома, ды і сведкі ў такой справе нам не патрэбны, — супакоіў бацьку Мікола.

— Вечарам дык вечарам, — пагадзіўся Пракоп. — Баюся толькі, што да вечара я перагару, патухну... Не той запал будзе...

— Не перагарыцё! — рашуча запэўніла Галя. — Я не дам перагарэць! Я іх растрыбушу і вечарам!

— Супакойся, дачушка. Нельга супрадь роднага бацькі распаляць сябе так, — параіла Любіна.

— Бацькі?! — яшчэ больш запалілася Галя. — Які ён пасля гэтага бацька? Дзе ён, бацька?

Раптам адчыніліся дзверы, і ў хату не ўвайшоў, а ўварваўся Антон. На імгненне застыў ля парога. Галя кінулася да яго, абхапіла за шыю:

— Тата! Татачка! Што ж ты нарабіў?

Антон мякка, але рашуча выслабаніўся:

— Пачакай, дачушка, пачакай, родная!

Ён рвануўся да Любіны, якая так і сядзела на табурэтцы пасярод хаты, і бухнуўся перад ёй на калені.

— Любіначка! ЗолаткаI Прабач! Даруй! З галавой вінаваты!

Усё адбылося так нечакана і неспадзявана, што хатнія акамянелі з разяўленымі ратамі. Усталявалася напружаная цішыня.

Антон аж спужаўся гэтай аслупянеласці. Ён адарваў вочы ад жонкі і круціў галавой, як сава, пераводзячы погляд то на аднаго, то на другога. Нарэшце зноў зірнуў на жонку і жаласліва запытаўся:

— Любіначка, ну што? Золатка маё!

Любіна закрыла твар рукамі і заплакала. Галя падбегла да бацькі, паклала яму на плечы рукі:

— Што ж ты нарабіў, татачка?!

— Ой, дачушка! — павярнуў ён галаву да дачкі. — Ой, родная! Што я нарабіў?!

Любіна перастала плакаць, адкрыла твар, выцерла слёзы:

— Што ж так хутка нажыўся з новай жонкай?

— З кім?! З той грызадубкай? Яна ж мяне загрызла жыўём. Я ж дома не начаваў, спаў, як сабака, на сене. Праўду казалі — ядавітая, як мухамор!

— Ха! Пакаштаваў маіх пірагоў! Наеўся! — укалоў Пракоп свата, але той не звярнуў на гэта ўвагі.

— Любіначка! Жоначка! Прабач дурному мужыку! Паехалі дамоў! — жаласліва скавытаў Антон.

— Як жа з табой паеду, калі я звычайная жанчына... без перчыку. Я ж не жанчына, адна толькі назва, — горка ўсміхнулася Любіна.

— Цьфу на той перчык! Ён мне за два дні ўсе вочы выеў. Лепшай за цябе няма!

— А Матроначка? — паддражнівалася Любіна. — А як жа яна?

— Хто?! Тая калода? Яна і тваёй падэшвы не варта! — горача запэўніў Антон.

— Ты, сваток, не перагінай! Баба як баба, — уступіўся за жонку Пракоп. — І неблагая баба! Ды, відаць, табе не па зубах.

Антон зноў не звярнуў увагі на свата.

— Любіначка! Дачушка! — круціў ён галавой. — Калені ўжо баляць!

— Мама, тату калені баляць, — азвалася Галя.

— У мяне сэрца збалелася, душа перабэрсана, а яму калені, — з болем сказала Любіна.

— Дык і ў мяне душа, і ў мяне калені... Любіначка! Зяцёк, што ты маўчыш, быццам табе рот зашылі? Ратуйце!

— Ты не назваў яшчэ адно імя, — ціха сказала Любіна. — Калі ўжо вінавconfigцца, дык перад усімі, каго пакрыўдзіў.

— Якое імя? Каго яшчэ? — закруціў галавой Антон. — А-а, Пракоп... Ой, мае бедныя калені!..

— Не трэба, сват, перада мной вінаваціцца, — выціснуў Пракоп. — Перада мной ёсць каму вінаваціцца... Пачакаю! Адвяду душу хоць раз у жыцці. Патлы ў яе паляцяць! Няхай толькі на вочы пакажацца.

Тут адчыніліся дзверы і ў хату бачком увайшла Матрона. Ціха стала ля парога і апусціла галаву, як шкадлівае дзіця.

Пракоп кінуўся да жонкі:

— Матроначка-а!

За бацькам хіснуўся Мікола:

— Тата-а! Ты ж хоць для віду-у! — зашыкаў ён у патыліцу бацьку.

Пракоп схамянуўся, зрабіў крок назад:

— А-а! Вярнулася, валацужына чортава!

Матрона стаяла моўчкі.

— Яшчэ ж мядовы месяц не мінуў... Маладзюкі! — іграў сваю ролю Пракоп.

— Які мядовы месяц? — ціха сказала ў падлогу Матрона. — З кім мядовы месяц? З тым нахрапістым гарлапанам і дзень годам падасца...

— Я гарлапан?! — ускіпеў Антон. — Сама ядавітая кураслепіна! Тваё шчасце, што заняты — на каленях стаю перад жоначкай...

— Што-о-о! У маёй хаце! — падняла галаву Матрона. — Ды ты супраць майго Пракопіка...

— Ціха! Ці-ха! Дыспут распачалі тут! — падняў руку Пракоп. — Высвятляць спрэчкі трэба было за парогам гэтага дома. Нам нецікава!.. Ты чаго прыйшла?

Матрона вінавата зірнула на мужа:

— Прабач, Пракопік... здурнела баба. Хочаш, стану і я на калені?

— О не! Толькі не гэта! — запратэставаў Пракоп. — Ты сапсуеш усю гаману! Прыемна бачыць у маёй хаце ганарыстага асэсара ў такой цікавай позе... Шкада, што карэспандэнтаў не запрасілі...

— Не дык не, я магу і пастаяць тут, ля парога, — пагадзілася Матрона.

— Ты лепей скажы, што ў нас будзе, калі я, напрыклад, табе дарую: матрыярхат ці патрыярхат? — спытаўся Пракоп у жонкі. — Гэта для мяне важна.

Матрона замахала рукамі:

— Бог з табой, Пракопік! Будзь ужо ты матрыярхатам... і тым, другім хатам!

— Во! Чулі? — кісла зірнуў на астатніх Пракоп. — Вось хто мяне розуму вучыў... Божачкі! — зноў павярнуўся да жонкі: — Калі ўжо так перадаеш мне ўладу, буду я і матрыярхатам, і патрыярхатам, пры сведках заяўляю! Ну што, сынок, даруем ёй?

— Даруем, тата! Даруем! — горача адказаў Мікола.

Пракоп радасна кінуўся да жонкі, абняў яе:

— Матроначка! Вярнулася!

— О-ой! Мае калені! — застагнаў Антон.

— Мама, няхай тата ўжо ўстане, — папрасіла Галя.

— Мог даўно ўстаць, я яго на калені не ставіла, — згадзілася Любіна.

Антон, войкаючы, устаў, падняў за рукі з табурэткі жонку і абняў яе:

— Любіначка! Каб мой язык адсох, калі на цябе што-небудзь збрэша! Няхай на ім зверху і знізу па скуле сядзе! Каб мне праваліцца...

— Не заракайся! Я твой язык добра ведаю — не паспееш і міргнуць, як ён збрэша, — папярэдзіла мужа Любіна.

Шчаслівыя Мікола і Галя таксама абняліся. Так і стаялі ў абдымках тры шчаслівыя пары.

— Ой! — схамянулася Матрона. — У нас жа госці, Пракоп! Што ў цябе там ёсць на стол паставіць?

— Не ў мяне, а ў нас! Хутка ж ты адвыкла! — заўважыў Пракоп.

— Якія госці! — запярэчыла Любіна. — Дамоў трэба! Дасць Бог, усё гэта застанецца па-за людскімі языкамі...

— А я б і паеў што-небудзь, бо згаладаўся за гэтыя дні, — сумна сказаў Антон.

Пракоп прапанаваў:

— Во! Чым не пярэзвы! Цяпер у нашай хаце, праўда, на тры дні раней. Як ты думаеш, Матрона?

— Як скажаш, Пракопік!

— Я і на пярэзвы згодны, але як скажа Любіначка, — паціснуў плячыма Антон.

— Я ўжо сказала! — адрэзала Любіна. — Дамоў!

— Ну, тады праз тры дні, сваткі! — пагадзіўся Пракоп.

— Мама, тата, прыязджайце! — папрасіла Галя.

— Будзем чакаць! — далучыўся Мікола,

— Бог пакажа, — стрымана адказала Любіна. — Ну, развітвайся, чаго маўчыш? — звярнулася да мужа.

— Як скажаш, Любіначка. Бывайце, сваточкі!

— Дык што, без пасашковай, без аглаблёвай? — спытаўся Пракоп. — Аглоблі ж зноў павярнуліся куды трэба.

— Аніякай! — стаяла на сваім Любіна. — Бывайце здаровы!

Пракоп прапанаваў:

— Можа, падвезці... Я хуценька запрагу.

Ты яшчэ пытаешся! — горача падхапіла Матрона. — Не размазвай тут, а марш да каня!

— Што? Ты зноў?.. Не твая справа! — абсек Пракоп. — Слухай разумных людзей і маўчы!

— Маўчу! Маўчу! — зачырванелася Матрона. Любіна ад паслугі свата адмовілася.

— Дзякуй! Мы пешшу. Камусьці і мазгі праветрыць не пашкодзіць. Ужо на парозе Антон азірнуўся і сказаў:

— А ты, Матрона, як сваццяя — міравая баба, а вось як жонка... Любіна цябе абскача, яна закрунтасцей.

— Ды і ты як сват — быццам мужчына заліхвацкі, але мой Пракопік пераразаліхвасціць цябе, ён загагулісцей.

— А нам з табой, Галечка, навука! — абняў жонку Мікола.

— Век бы не ведаць такой навукі! — адказала Галя.

— Да пабачэння, сваткі!

— Да нядзелі!

— Да сустрэчы!





## Уладзімір МАЗГО

### ШЛЯХІ

«Усе шляхі вядуць да Рыма!» —
Сцвярджала мудрасць.
А твой шлях,
Што развінуўся за дзвярыма,
Ляцеў назад,
Як бумеранг,

Каб як мага хутчэй вярнуцца
Туды,
Дзе выткаўся выток,
З якім не можа размінуцца
Хадой натомлены хадок.

Дарожнай мудрасцю багаты,
Прыйшоў да думкі чалавек:
Усе шляхі
Вядуць дахаты,
Выток шануючы
Спрадвек.

### РОДНАЕ СЛОВА

Ад жыццёвых трагедый і драм
Ёсць адно ратаванне —
У слове.
Гэта слова святое,
Як храм,
Да якога прыходзім
На споведзь.

Насцеж слову
Адкрыем душу,

---

***Мазго Уладзімір Мінавіч*** *нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры для малодшага школьнага ўзросту ў выдавецтве «Юнацтва». Цяпер — вядучы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных кніг «Пад спеў крыніц», «Вершаліна», «Марафон» і інш.*

Бо яму, як сабе,
Давяраем.
Гэта слова
Вартуе мяжу
Спакон веку
Між пеклам і раем,

Адкрывае
Нязведаны свет
На шляху
Да вячыстых святыняў,
Закіпае,
Нібы першацвет,
І, як зорны сусвет,
Росна стыне.

Сакавітае,
Нібы вясна,
І прывабнае,
Быццам спакуса,
Гэта слова
У спадчыну нам
Перайшло ад дзядоў —
Беларусаў.

## МАЛАЯ РАДЗІМА

У згадках лунаю
Над роднай зямлёю,
Што ўсе называюць
Радзімай малою.

Бацькоўская хата
Світае здалёку —
Адвечны пачатак
Дарог і вытокаў.

Любімы куточак
У роднай старонцы.
Купальскі вяночак
Гайдаецца сонцам

На зэльвенскім моры
Пад плёскат Зальвянкі,
Дзе свецяцца зоры,
Як вочы ў каханкі...

Малюе абрысы
Радзіма малая
То песняй Ларысы,
То вершам Таўлая,

Царквы ля Сынковіч
Сцяной крапасною
І сцежкай, што ў змове
З юнацкай вясною...

Я памяць паклікаў —
І кажа былое:
Радзімы вялікай
Няма без малое.

## ХАЛОДНАЯ ВЯСНА

Пагрэцца
Сеў на комін
Абветраны бацян.
У сэрца
Б'ецца Нёман
Крыніцай пачуцця,
Разліўшыся на лузе
Паводкай ледзяной...
Цяплей ад думкі:
Бусел
Мяне прынёс вясной.

## КАЛЫХАНКА ГАРОДНІ

І Нёман сівы
І Каложа
Заснулі салодка
Да ранку:
Спявае
Святлана Калоша
Ім сёння
Сваю калыханку.

Дрыготка
Шапоча лістота.
Вятрыска
Нямее за гаем.

І сэрца
Палоніць пяшчота,
І сэрца,
Як птах, замірае.

Аблокі
Вальсуюць прыгожа
Са снамі
Ажно да світанку...
Спявае
Святлана Калоша
Гародні начной
Калыханку.

## МАЛАДЗІК НАД МАЛАДЗЕЧНА

Васільковае і жаўруковае,
Змоўкла неба, спавітае снамі.
Маладзік высякае падковаю
Іскры зор залацістых над намі.
Вечар роснаю свежасцю дыхае,
Што разліта ў валошкавых далях.
Выплывае мелодыя ціхая,
Як жывая крынічка, з раяля:

«Хай нашы песні служаць вечна
І гусляру, і песняру.
А маладзік над Маладзечна
Хай разгараецца ў зару.

Адзінства — вораг адзіноты —
Мінор мяняе на мажор.
Спяваюць зоркі, быццам ноты.
А маладзік — як дырыжор...»

Нібы зорны клавір, вечаровае
Расхінулася неба ўсё насцеж.
І спявае дзяўчо чарнабровае
Пра каханне сваё і пра шчасце.
Ночка ў вэлюме зорным нявесціцца —
У яе са світанкам гаворка.
А эстрада — нябесная лесвіца,
Па якой уздымаецца зорка...

## МІЦКЕВІЧ. ВОСЕНЬ. МІНСКІ СКВЕР

Раманаўская Слабада.
Як храм,
Ля Нямігі скверык
Наведаў Міцкевіч Адам —
Айчыннай духоўнасці вернік.

Застыла на міг
Слабада.
У выстылай апранасе —
Малітвамі вершы шаптаў
Прыродай расчулены
Класік.

Стамлёна
На лаўцы прысеў.

Здалося,
Здарожаны геній,
Як лісце,
Збіраў пакрысе
Рассыпаныя імгненні.

Затым —
У самоце застыў,
Бо недзе
Ў нябесным харале
Ці свечкі,
Ці, можа, лісты,
Сагрэўшы душу,
Дагаралі.

## НУЛЬ ГАДЗІН, НУЛЬ ХВІЛІН

Нуль гадзін, нуль хвілін...
Сустракаюцца суткі.
Нуль гадзін, нуль хвілін.
На табло ні мінуткі.

Нуль гадзін, нуль хвілін.
Ці канец, ці пачатак?
Нуль гадзін, нуль хвілін.
Час бяжыць без аглядак.

Нуль гадзін, нуль хвілін.
Можа, знак пазачасся?
Нуль гадзін, нуль хвілін.
Дзень яшчэ не пачаўся.

Нуль гадзін, нуль хвілін.
Таямніцы аснова.
Нуль гадзін, нуль хвілін.
Круг замкнуўся нанова...

## САРАКАПЯТКА

Мне — сорак пяць...
Трывожнай згадкай
Я расхінаю каласы,
Нібы стаіць
Саракапятка
Ля франтавое паласы.

Ідзе
Нябачнае змаганне
Навокал нас
Дабра са злом,

І час вядзе
Асэнсаванне
Ахвяраванага на злом.

Нам — сорак пяць,
А ў аднагодкаў
Чарговы гіне ідэал,
Нібыта б'е
Прамой наводкай
Саракапятка
Напавал.

## СНЯГІ

А снег
Кружыўся на Раство
І дзень,
І ноч,
І ранне...
Якое гэта хараство —
Снягоў калядаванне!..

Снягі прыносяць
На парог
Завейную крамолу
І не чакаюць —
Бачыць Бог! —
На фэст
Твайго дазволу.

Ты ім не скажаш,
Што яны
Сягоння недарэчы
Крыляюць,
Быццам бацяны,
Хаця душа —
Пярэчыць...

Снег апячэ,
Нібы агонь,
Растане
Пад абцасам,
А потым ляжа
Нам на скронь, —
Наканаваны часам.





Алесь МАСАРЭНКА

# Аповеды

## ПАКАРМІЛІ САЛДАЦІКАЎ...

— На Ахотаўцы немцы людзей нашых пастралялі — ходараўцаў. Толькі адзін з іх ацалеў — Іван Іллюхаў. А што было... Людзі завялі сваю гавяду як найглыбей у лес, каб ад немцаў ўратаваць. Былі там і Лапацуіха, Якімка і Куліна з каровамі. Дык гэтыя трое пакінулі буронак у Жалезінскім балоце і самі двору матанулі... Немцы ж глыбока ў лес не надта лезлі — дарогамі калясілі. На браневіках. А людзі астатнія з каровамі ажно за Майданам былі — гэта глыбей, у самай гушчэчы, і нашых салдат-акружэнцаў там малаком забяспечылі. Немцы злавілі колькі салдат (можа, і самі здаліся, хто іх ведае), бачаць: у біклажках — малако свежае, і давай кароў шукаць... І знайшлі — ажно ў Алёсе, урочышча такое. Палавілі пастухоў, паставілі ў гурт — і давай страляць... Куля шкрабанула Івана за бок, апякла скуру, і ён упаў... Ад спугу ўпаў. І ляжаў, стаёны, пакуль немцы й не адступіліся... Атрад іхны атабарыўся на ўзлессі, за Мішурам. Во, як конскае кладзішча. Сюды, на гэты свой стан, яны й забраных кароў прыгналі. І неяк Маркава цёлка ўцякла — дамоў прыбегла.

— Гэта тады Маркаву дачку, Еву, забілі? — спытаў я ў маці, бо даўно рупіла даведацца пра Еву. — Казалі, яна была першай красуняй на вёсцы.

— Бялянка сінявокая... Косы даўгія, тоўстыя. Няма слоў — красівая дзеўка. У Маркі й жонка такой жа красы была. Ды рана памерла. Ад сухотаў... Не ўберагглася, прастыла на падоле — дай-ка перамыць кучу бялізны ў ледзяной вадзе. Марка прабіў паніўку ў Торхвішчы, і яна там, чысцёха, у мароз пажлукчаную бялізну паласкала. І застудзілася... Ускорасці й Богу душу аддала. Так, Ева — копія маці. Ева — большая ў іх. Манька — меншая...

---

*Масарэнка Алесь Герасімавіч нарадзіўся 12 красавіка 1938 года ў вёсцы Ходарава Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. Закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў на Беларускім радыё, у газетах «Чырвоная змена» і «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Маладосць» і «Полымя», у выдавецтвах «Беларусь» і «Мастацкая літаратура», быў заснавальнікам і рэдактарам часопіса «Першацвет». Кіруе творчай суполкай «Літаратар». Аўтар кніг «На бабровых тонях», «Баргузінскае лета», «Сонца майго дня», «Пакуль не завялі кветкі».*

— І таксама ж — бялянка...

— Манька — у бацьку пайшла: паўнашчокая, лоб шырокі, круты... І вочы бацькавы — з прыжмурам, зелянкавыя... Дык слухай жа. Гэта іхная цёлка ўзбегла на двор, рыкае... Падняла трывогу. Заварушыліся людзі: што такое?! А тут якраз Іван вытыркнуўся з лесу, і немцы яго ўбачылі й затрымалі. Іллюшыха пабегла наперахоп, кінулася ахвіцэру ў ногі, забілася ў плачы... І ўпрасіла — даказала, што хлапец — яе сын, пайшоў у лес па дровы, ды спужаўся, бег двору... Бач, паверылі. Можа, другія немцы былі, не тыя, што пагубілі людзей.

— Без выкупу адпусцілі?

— Выкуп?.. Уго, столькі кароў забралі! Ды хоць бы ж на гэтым спыніліся — не, людзей панішчылі... Забілі тады й Тарасенку Мілляна. Стары ўжо быў, гадоў васьмідзесяці. І Логінішын Міша загінуў — у той дзень яму чатырнаццаць гадоў споўнілася; ён мне часта пасабляў каровы пасвіць. А Яжовіхін хлопец хадзіў па ваду, крынічка там, у балотцы... Пачуў стрэлы й выбег акурат на дзялянку, дзе людзі ўжо курчыліся, паміралі. То і яму, няшчаснаму, куля дасталася. Не стала і Лізы Ляксеевай — Сашкі Ластаўчыхі сястра. І Каця Шэндарава — матка Васіля, гэтага, што ў Хведзькі Гарбачова жыў, не ўбераглася... От іх, гаротных, немцы й пастралялі. А за што? За тое, што пакармілі салдацікаў нашых, акружэнцаў.

## ДВОЙЧЫ ВЯЗЕНЬ

— ...А ведаеш, — няспешна вёў ён свой аповед, — як толькі аб'явілі, хто хоча ехаць у Амерыку ці Англію, Анатоль тут жа і пакіраваў да карабля, узышоў на трап і спыніўся, чакае. Я — ні з месца, стаю як укопаны. Тут ён вяртаецца, бярэ мяне за руку і цягне. «Хадзем, — кажа, — на карабель, разам і далей будзем... У пекле канцлагера выжылі, то ўжо нідзе не прападзём. Не бойся — пабачым іншы свет, навучымся па-сапраўднаму жыць... Буржуямі станем!» І тут пачулася з палубы: «Адпусці дурня!.. Хай вяртаецца. Сталін яго загоніць на шахты за тое, што не пусціў сабе кулю ў сэрца — здаўся ў палон ды й выжыць яшчэ пасмеў, контра!..» Ну, у палон я не здаваўся — гаварун, відаць, палічыў мяне за былога чырвонаармейца.

— І што ж Анатоль?

— Падаўся ў Амерыку. А я — дадому... Бацькоў няма — бомба ў хату трапіла, загінулі. З імі й сястрыца, Соня. Дзесяць гадкоў было дзеўцы... Значыць, стаў абжывацца, з дарожнікамі сышоўся, працую, не крыўдзяць. Прыадзеўся збольшага. І ў канцы 46-га атрымліваю з Таронта ліст. Анатоль піша, што жыве добра, пабраўся з дачкой беларуса-эмігранта, былога настаўніка, якому ўдалося яшчэ ў 37-м перакантавацца ў замежжа, працуе будаўніком, купіў сабе кватэру... Хоць бы пра мяне падумаў, дык не — цярэбіць напрамую: «Хтосьці данёс у СД, што нібыта мы з табой узарвалі вадакачку, а гэта зрабіў той самы Сапун, нязваны госць, што прыбіўся да мяне на начлег. Помніш, ты калі зайшоў, ён узрадаваўся і ўзяўся вучыць нас падрыўной справе. Два дні вучыў. І ўсё дамагаўся, каб схаўрусаваліся з ім. А я ў ім убачыў правакатара, мы — помніш? — параіліся і адмовілі яму ў дапамозе, і ён у наступную ж ноч вадакачку адзін ухайдокаў. Карысці немцам ад той старой будыніны было мала, помпа часта ламалася. Вартаўніка немцы расстралялі адразу, у той жа дзень. Пажылы чалавек, не паліцай. Праз тыдзень нас арыштавала гестапа. Вось я і думаю ўвесь гэты

час, не магу ніяк супакоіцца, што гэта ж ён, Сапун, і падставіў нас за тое, што пaберагліся — не паверылі падлюку. Ведаў бы я тады, што ён за птушка — на парог не пусціў бы, гада...» Пісьмо не праваронілі пільныя «органы», і гэтага «крыміналу» было дастаткова, каб запраторыць мяне на дванаццаць гадоў за калючку. Трапіў у Варкуту, на шахты. Цягаў у падзямеллі ваганеткі з вугалем. Дзякуй Хрушчову — аж на цэлую ўдарную пяцігодку раней вярнуўся дадому. А так — не выжыў бы... І мне зноў давялося пачынаць усё спачатку. Упадабаў маладую ўдавіцу, муж якой рабіў шафёрам, ды нехта роўна праз тыдзень пасля вяселля забіў яго — знайшлі ў кабіне з праламаным чэрапам. Палагея, жонка мая, праз год нарадзіла блізнятак — двух хлопчыкаў, Івашку і Яшку. Ды плюс яе дзяўчына, Вярунька. Трое дзетак. А хаты сваёй няма. У жончынай маткі ў катуху малым куеўдзімся. На ўскрайку гарадка нашага, пакуль я ваганеткі цягаў у Варкуце, пабудавалі гароднінасушыльны заводзік, дзе мне якраз і пашчасціла ўладкавацца рабочым. Аклад не сказаць каб прыстойны, аднак жа паставілі ў чаргу на кватэру. І я стараўся, не пярэчыў ні чорту, ні д'яблу. Тры гады мінула, двойчы кватэры дзялілі, а мяне і раз пракацілі, і другі. Пайшоў па інстанцыях, так сказаць. І наткнуўся, ведаеце, на сына таго самага Сапуна-героя, які ўзарваў вадакачку, але не ўбярогся — следам за намі трапіў у лапы гестапаўцаў. Тыя, трэба сказаць, дакладна ведалі хто ён і што зрабіў. Яго павесілі ў пасялковым скверы, а нас, бязвінных, за тое, што вадзіліся з бандытам, выслалі ў Нямеччыну на цяжкія работы. Мы не данеслі, а нехта ж данёс. Хачу сказаць, у гестапа не трымалі дурняў, нюхачы былі пахлешчы нашых. З еўрапейскім вопытам.

— Кажаце, наткнуліся на сына... Той самы Іван Панкратавіч?

— Так. Ён быў у райкаме партыі другім сакратаром. Шышак на роўным месцы. Я паспрабаваў абмінуць яго кабінет — папёр да першага, ды сакратарка сказала, што наведвальнікаў другі прымае. Выслухаў мяне гэты малады Сапун і кажа са здзекам: «Ты бацьку майму здрадзіў, не дапамог, за што і атрымаў дванаццаць каляндарных. Будзь я Хрушчовым, ніколі б такіх, як ты здрайцаў, не мілаваў бы... Таму не спадзявайся на кватэру. Самае лепшае будзе, калі з'едзеш адсюль!»

Яшчэ год мінуў. Я так нікуды і не з'ехаў. А гэтага Сапуна-маладзёнка абралі на партканферэнцыі першым сакратаром райкама. І я зразумеў, што пры ім мне кватэры не атрымаць. Ведаўся з аднам «карчэўнікам» — рабіў чалавек на смалярні, смалу там гналі з пнёўя сасновага. Буднік яго прозвішча. Увесь час адзін жыве. На хутары. Паблізу ад смалакурні. Я — да яго, упаіў. І ён мне расстараўся толу сем шашак, узрывальнікаў даў... У Нямеччыне я з год недзе рабіў падрыўніком — прабівалі ў гарах тунель, куды мог бы хавацца ад самалётаў цэлы чыгуначны састаў. І мне лёгка было зрабіць узрывальнік. Самы зручны — ад батарэйкі... А якраз Кастрычніцкае свята на падыходзе. Чую, прызначылі ўжо дзень, калі зноў наш прафкам будзе кватэры дзяліць. Пашыранае пасяджэнне склікаюць. Як жа! Сапун, першая асоба раёна, будзе на гэтай дзяльбе.

І дзень той прыйшоў. Пачаргоўцаў шмат. Зала гудзе. Фотакар Пятрусь Лябёдка, былы партызан, сем варожых саставаў з жывой сілай і тэхнікай пусціў пад адхон, падышоў да мяне і падаў руку для павітання. Я левай з ім павітаўся, бо ў правай быў узрывальнік. І ён гэта засёк. Раз чмыхнуў носам, другі. Потым узрушана кажа: «Фу! І ў носе шкрабе, і вочы шчыпяць... Ды ты ж, Панасавіч, увесь аманалам прапах!.. Пастой-ка, Аркаша, пастой... Адыдзем, размова ёсць!» Узяў мяне ціхенька за локаць, і мы выйшлі ў калідор. Пагаварылі. Я расказаў яму ўсё як ёсць. А сам трымаю

ўзрывальнік і, чую, пальцы мае дрыжаць. Пятрусь поўнасцю пагаджаецца са мной, кажа, што я правільна ўсё прадумаў, але будзе лепей, калі ён усё ж мне дапаможа. «Зробім так, Панасавіч... Ты стой, канешне, нагатаве і назірай за мной. Старшыня райвыканкама будзе выступаць, я падыду і сфатаграфую яго за трыбунай... Ну і шапну яму тое-сёе. І калі зноў яны табе адмовяць з кватэрай, то падымай іх тут усіх у неба. Мяне, праўда, пашкадуй. Націскай на кнопку, калі выйду...» І я на поўным сур'ёзе запэўніў яго: «Не бойся, цябе пашкадую... Пачалося, хадзем у залу».

Зайшлі. Адкрыў пасяджэнне Сапун. Коратка, прывычна засяродзіў увагу прысутных на тым, што камуністычная партыя робіць усё магчымае, каб савецкі чалавек жыў мірна і шчасліва, і даў слова старшыні райвыканкама Курбёнку. Я шапнуў Петрусю: «Ідзі гавары, што хацеў яму сказаць...» І той пайшоў. Курбёнак віншаваў калектыў завода са святам, хваліў дырэкцыю за тое, што адкрылі пры заводзе дзіцячы садок, што ў сталоўцы добра і смачна кормяць. На гэтых словах Лябёдка якраз і сфатаграфаваў яго. Потым нахіліўся да Курбёнка і нешта зусім коратка сказаў яму як не ў самае вуха, зноў сфатаграфаваў і пакіраваў на выхад. Ля дзвярэй спыніўся і стаў тварам да залы. Тым часам Курбёнак закругляўся з віншаваннямі ды ўхваламі. Пасля прыўзняў тонкую папку, зусім тонкую, паказаў яе ўсім і сказаў: «Вось у гэтай папцы якраз і знаходзіцца тое галоўнае, дзеля чаго мы тут усе сабраліся. Нашы будаўнікі пастараліся ў гэтым годзе, і многія з вас, таварышы, новы год будуць сустракаць у новых кватэрах. Скажам, Аркадзь Апанасавіч Галубятка, рабочы, мае трох дзетак, жыве ў выключна цяжкіх умовах, і калі ў іх народзіцца яшчэ адно дзіця, то не будзе ложка дзе паставіць. Чалавек працуе на заводзе ці не пяты ўжо год, і добра працуе — мог бы даўно жыць ва ўласнай кватэры, але неяк так усё атрымлівалася, што яго абміналі. Да мяне такое было. Я нядаўна сюды прыехаў, і вы ведаеце, што пасада мая адказная. Дык вось, запэўніваю: буду ўсё рабіць так, каб праўда і толькі праўда ў рэшце рэшт брала верх і перамагала, каб хцівасць, двурушша і подласць не чарнілі нам душы. Дакуль савецкі чалавек, рабацяга, будзе пакутаваць? А я скажу, таварыш Галубятка — шчыры працалюб!.. Так, ён незаслужана быў намі пакрыўджаны, і мы гэта мусім прызнаць і павініцца перад ім. Дык вось, у гэтым спісе на атрыманне трохпакаёўкі стаіць яго прозвішча першым: Галубятка А.П., вуліца Пралетарская, д. 12, кв.18, трэці паверх. Маецца балкон-лоджыя...»

Не было мяне ў тым спісе пад той час, пра што потым сказаў сам Курбёнак. Першым стаяла прозвішча Прытульнай Марыі, стрыечнай сястры галоўнага ўрача райбальніцы. На заводзе яна працавала ўсяго другі год, бухгалтарам, завочна вучылася ў Мінску на эканаміста. Сям'я: муж, адно дзіцё, сястра-інвалід (вецер у галаве), якую забрала ад бацькоў, што жылі ў вёсцы, і прыпісала, каб прыглядвала за дзіцем.

— Аркадзь Апанасавіч, вы стаялі, слухалі Курбёнка і трымалі ў руцэ ўзрывальнік... А як паводзіў сябе Сапун, калі назвалі вас першым на атрыманне кватэры?

— Падняўся і пакінуў залу... Калі фотакар Лябёдка зноў пачаў фатаграфаваць Курбёнка, я выйшаў. І першае, што зрабіў, — адлучыў батарэйку ад сістэмы й выкінуў. Не помню, як апынуўся на кручы. Унізе — Сож. З узлужжа дзьме даволі-такі моцны вятрыска, паўночны. Хвалі наўкаса бягуць да берага, плюскочуць. А я ў няўцямным імпэце няспешна кідаю ў прыбярэжны вір адну шашку за другой... Зняў з сябе смерць, уф! Стаю і плачу. І тут падбягае Лябёдка — фатаграфуе мяне. І вясёлы такі, уз'юша-

ны. Пытае: «Апусцела запазуха?.. І дзякуй Богу! — Нечакана твар яго пасуровеў, беручыся чырвонымі плямкамі. — А ведаеш, Панасавіч, я дагадаўся яшчэ тое-сёе шапнуць Курбёнку... На ўсякі выпадак, каб цябе ў трэці раз не загналі на зону. Сказаў, што я ўсё выдумаў з падрывам, і Панасавіч, маўляў, нічога не ведае пра гэта». Ах, як ён усцешыў мяне, гэты мілы чалавек... Мы абняліся, патаўклі адно аднога кулакамі ў спіны, расцалаваліся і пайшлі ў рэстаран.

## ПІСЬМЫ

Міколы Тарасавіча некалішні паслужбовец Севярнёў — франтавы яшчэ, так бы мовіць, дружбан — даслаў ліст: маўляў, едзе ў госці.

Не затрымаўся. Такі й прыехаў. З Кіева.

Госць, але непажаданы, бо аднойчы далёка не па-сяброўску падставіў свайго калегу пад манастыр. Было тое адразу пасля вайны. У Польшчы. Мікола Тарасавіч завітаў у мясцовы банк і абмяняў рускія рублі на польскія злотыя — каб сяго-таго прыкупіць, бо нарадзілася малое. Па тым часе ў маладой сям'і нават ложка прыстойнага не было, а тут — і каляска трэба, і ўсякія іншыя рэчы. Рускія грошы палякі неахвотна бралі, а тых злотых, што савецкія вайскоўцы атрымлівалі ў дадатак да палучкі, не хапала на сур'ёзныя пакупкі. Пра гэты недапушчальны абмен нейкім чынам уведаў сакратар партарганізацыі сапёрнага батальёна Севярнёў. Тут жа і далажыў па ўсіх правілах вайсковага этыкету — спачатку камандзіру палкоўніку Самоціну, і затым ужо — у палітупраўленне. Вінаватага паўшчувалі-патузалі, аб'явілі партвымову — на тым і скончыліся непрыемнасці.

І вось — больш як праз сорак гадоў яны сустрэліся. Застолле. І я з імі. Хоць і трэці, ды не лішні. Яны — ветэраны, удзельнікі вайны. Я — дзіця вайны. І ад голаду пух, і страху нацярпеўся ўдосталь. Добра помню *тых* немцаў, бітых-зняверанах, якія хоць і адступалі, але ўсё яшчэ заставаліся фашыстамі — забівалі бязвінных людзей, рабавалі, палілі вёскі...

Мяне так захапіла размова, што праз нейкі час ужо не столькі Мікола Тарасавіч гаварыў з госцем сваім, колькі я, «старлей» запасу і, зрэшты, таксама сакратар партарганізацыі аднаго з батальёнаў пяхотнага палка, што і сёння ва Уруччы. Карацей, як бы падмяніў гаспадара. І, прызнацца, недарма час патраціў — мяне ўразіў эпізод з пісьмамі... Вось і мушу тут згадаць яго.

Маёру Севярнёву было даручана палітупраўленнем разабрацца і далажыць, што з сябе ўяўляе канцлагер Асвенцім. Далі машыну, шафёра і двух перакладчыкаў. Адзін добра ведаў рускую, англійскую і польскую мовы, другі — нямецкую і рускую.

Прыехалі. Убачылі такое, што і ўявіць цяжка было б. А тут — усё наяве. Людзі яшчэ ў лагеры. Іх добра кормяць, лечаць... Глядзелі за імі нашыя вайскоўцы. Ратавалі ад смерці.

Спыніліся прыезджыя ў жылым блоку — занялі невялічкі пакой. На «розгляды» ім было дадзена шэсць дзён.

...Ідуць па тэрыторыі лагера і чуюць: гучыць нейкая надта знаёмая песня. Прыслухаліся — аж гэта «Кацюша». Не па-руску спяваюць... Зайшлі ў блок. Людзей там поўна, і самых розных нацыянальнасцей: чэхі, румыны, балгары, італьянцы, французы, палякі, англічане, яўрэі...

Сталі гаварыць — не клеіцца размова. І тут адзін з іх выйшаў, павітаўся за руку з маёрам і сказаў, што ён — француз, што зараз прывядзе чалавека, які ведае некалькі моў. І прывёў. Гэта быў чэх. От з ім кантакт наладзіўся. Пайшла гаворка весялей.

Людзі пыталіся: як іх будуць адпраўляць дадому — праз Уладзівасток ці, можа, праз Адэсу альбо яшчэ як... А паляк асцярожна пацікавіўся: «Скажыце, служывы, а як мы, вясковыя палякі, будзем жыць: так, як у Расеі, з калгасамі?..»

Словам, закідалі «інспектара» пытаннямі. Былыя вязні гарэлі жаданнем хутчэй патрапіць дамоў, прасілі, каб доўга іх тут не трымалі. Нарэшце — апошняя просьба: «Ці можаце вы, таварыш маёр, пераслаць нашыя пісьмы дадому?» Ён падумаў і адказаў: «Пішыце. Толькі няхай кожны пятнаццаты напіша, бо ўсе пісьмы я не змагу ўзяць...»

На тым і разышліся.

Прайшло колькі часу, і бачыць маёр: ідзе група мужчын на чале з тым самым завадатарам-французам (да палону быў у чыне капітана на ваенным судне). І прынеслі яны пісьмаў цэлы мех. Вялікі мяшышча.

Маёр Севярнёў ажно зніякавеў, кажа французу:

— Як жа мне ўмясціць такую паклажу?..

А машына ў яго — невялічкі трафейны аўтобусік з трыма дзверцамі, такімі, як пралезці чалавеку. Узяў ён мех — ужо не адмовіш, позна! А сам думае: калі ж і як пісьмы гэтыя адпраўляць?

Вярнуліся ў палітупраўленне. Там не чакалі такой фатыгі... Клопату хапіла, бо давялося шмат якія лісты перакладаць на рускую мову. Іх пасля прачытаў не толькі Севярнёў... Арыгіналы былі ўпакаваныя ў канверты, заклееныя й адпраўлены праз Міністэрства замежных спраў адрасатам. Копіі засталіся ў маёра...

Калі б тыя пісьмы — ды мне! Ну, пэўна ж, Севярнёў не захаваў іх — недзе згубіліся. Так і сказаў. Але помніць, што пісала маладая француженка свайму каханаму: «...Нас палохалі рускімі. Казалі, што яны — тыя ж самыя мядзведзі: хапаюць жанчын, гвалтуюць, а пасля п'юць іх кроў, таму і дужыя такія, таму і марозы вялікія ім не страшныя. А на самай справе, гэта — добрыя, чулыя хлопцы. У іх цёплыя кажухі й вушанкі. Ім не трэба чужая кроў. Яны супраць фашыстаў, бо тыя якраз і п'юць чалавечую кроў... Рускія — файныя хлопцы, абыходлівыя. І як толькі я ачуняю, абавязкова закахаюся ў прыгожага рускага афіцэра і займею ад яго дзіцятка. І ты, Поль, не крыўдуй на мяне за гэта, бо цябе я таксама не перастану кахаць. Не крыўдуй... Калі недзе жывы — пастарайся расшукаць мяне. Але папярэджваю: не лякайся ад таго, што ўбачыш: у мяне на руках будзе мой русавалосы хлапчыска!»

Быў такі ліст ці не было — не праверыш. Дый пераказ гэты патыхае троху прапагандай. Але ўсё тут — да месца. Яўны факт з жыцця. Відаць жа, таму і запомніўся Севярнёву, бо лёг вечным болем на сэрца: бач, столькі часу мінула, а былы палітупраўленец, як відаць, не ачарсцвеў душою, расказвае шчыра і з досціпам, без пахвальбы пра сваю тадышнюю кемнасць-знаходлівасць.

## ВОЎЧЫ ТРАФЕЙ

1954 год. Шашою-варшаўкай гналі, скажам так, з захаду на ўсход элітны статак падцёлкаў. Непадалёк ад нашай павароткі ваўкі апрасталі

даволі-такі ладнага бычка-халмагора і тушку пакінулі чамусьці нечапанай (можа, нехта перашкодзіў, напалохаў, ці — сквапны звер не мог спыніцца на адной ахвяры, і хто-небудзь далей убачыць вось так наступнага падцёлка, распластана-нежывога).

Дзядзька Іван (рабіў рэзчыкам — падсочваў сосны), якраз і наткнуўся на свежыну. Знаходку акрыў голлем, каб не кідалася ў вочы, а сам — на веласіпед і да нас... Мы — бацька, Жэнік і я — бадай як не ўподбежкі патупацелі па дабытак. Як толькі перайшлі шашу, тут жа, крыху злева ў сосніку, убачылі лоўжык з яловага вешша. Узвалілі бычка на калёскі й прытахонілі дахаты. Сямейка немалая, нешта ж трэба есці, і аб такой спажыве ніхто з нас нават не марыў. Зрэшты, бычок няйнакш пад раніцу патрапіў на воўчыя іклы, бо яшчэ сачылася кроў, не загусцела. І — быў ён не парваны й не пакусаны, толькі горла перацята...

Нядаўна вычытаў, што мы, выходзіць, узялі на сябе вялікі грэх, бо тое, што застаецца ад воўчае трапезы, чалавеку нельга есці. Ну і ну! Гэта з чаго б такі клопат пра шэрых драпежнікаў? І чаму, калі ў сне бачыш ваўка, то і няблага: воўк — на добрае.

Урэшце, а хто ж такія ваўкалакі — людзі-пярэваратні?..

Думаю, то былі звычайныя разбойнікі: шылі з воўчых шкур адзенне ці хутчэй проста ўсю шкуру напяльвалі на сябе... Падчас аблавы са сцяжкамі (я ўдзельнічаў як загоншчык, ружжо ў мяне было самаробнае: калодка — з ракетніцы, ствол — ад дапатопнай дзедавай пістаноўкі) і нам дасталося два ваўкі, то я лупіў іх. Дык вось, у воўчую шкуру, калі зняць яе мяшком і пакуль яна свежая, можна лёгка аблачыцца — добра расцягваецца.

Менавіта ў такой «скуранцы» я і выйшаў на вуліцу. Акурат звечарэла, і на белым снезе, якім толькі што зацерушыла дарогу, «ваўкалак» яўна глядзеўся. Вулляна з Ягорыхай, суседкі, стаялі ля калодзежа з поўнымі вёдрамі ў руках і голасна размаўлялі, а калі ўбачылі мяне, тут жа пакідалі вёдры й джыганулі кожная на свой падворак.

Назаўтра прыходзілі з мамай сварыцца: як жа — я напалохаў іх, у ваўкалака абярнуўся...

Эйш, пазналі-такі, шальміцы!

## СТРАШНЫ СОН

— А ведай-ка, сон я такі бачыла... Ляжу і быдта паміраю — во-во душа мая адляціць. Я ўзрушаная ўся, нервуюся, але здавацца і не думаю: ну не паддамся ж смерці, не зацягне яна мяне ў сваю касмічную яму!

— У касмічную?.. Ой, мама, дзе вы пра такую яму чулі?

— А ці не ў радзіве.

— І што ж далей?

— А далей — смерць схапіла-такі мяне за валасы й патахоніла ў неба. А я — і так крутнуся, і гэдак. Хачу ж выбавіцца з яе кіпцюроў. Ваюю... А вецер страхотна вые-свішча — так яна быстра цягне мяне, смерць. І тут душа мая раптам заўпарцілася, ды як ірванецца — хоп! — і я за сонца ўчапілася... Смерць выпусціла мяне. І ўжо адна паляцела, без ахвяры. Тут я і ўсхапілася. І так мне, чую, лёгка стала — усё ліхое-чорнае адвярнулася, ну хоць ты песню спявай.

# СПАДАР НІХТО

*Мне і раней бацька сніўся, але — звычайна, будзённа. Гэты раз ён прыляцеў аднекуль з нябеснай верхатуры, знізіўся нада мной троху паперадзе, і нечага, як пакрыўджаны, у скрусе глядзіць на мяне і маўчыць — няйнакш папракае за тое, што я ўсё яшчэ так і не напісаў, як нас аднойчы хацеў забіць нейкі валацуга-брыдотнік...*

*— Тата! Помню я дзівака таго. Якраз, во, сяду і напішу пра нашую з ім сустрэчу, — паабяцаў я.*

*І адкладваць ужо не было як!*

Бацька толькі што вярнуўся з балота-возера і сказаў, што там бабровых сем'яў, можа, дзве недзе, а ўсіх баброў з восем будзе, а то і больш, калі з сяголеткамі. У Нёман сочыцца па вузкай канаўцы рэшта вады, што спадае з другой бабровай плаціны; першая — сыходзіцца якраз з азёрным берагам, стромым, усланым валунамі... Уражанне такое, нібы й чалавек дачыніўся да бабровага гідразбудавання.

На гэтым балоце-возеры дужа багата лазовага кустоўя. Чмурэча ўся залітая вадой, і да бабровых хатак (іх дзве) дабрацца можна толькі на лодцы. Праўда, бацька апароў у лазовай зацішы старанна замаскаваны плыток з трох бярвёнаў, але яго трэба ўдасканаліць. Зрэшты, тапор, малаток і нават пачак цвікоў у нас ёсць, і калі троху пашырыць плыток, а прамежкі між бярвёнаў замасціць альховым жардзём, дык якраз і можна будзе на гэтай «пасудзіне» штурмаваць бабровыя ўмацаванні. Калі б дзе паблізу ды вёска была — узялі б каня і лодку волакам затарабанілі сюды. А пакуль — на плыток спадзева. Праўда, ёсць і яшчэ адзін варыянт, апошні: разбіраем плаціну, закідваем канаву лавушкамі й чакаем ночы — не можа быць, каб бабры не кінуліся ўцякаць у Нёман...

Даволі хутка перарабілі плыток: апрача таго, што ён шырэйшы стаў, дык яшчэ і забочыны прыбілі, каб не скочваліся лавушкі, якіх я змог узяць з сабой толькі тры. Доўгае, з кавілкай, тым і зручнае, вясло было якраз дарэчы. Шарык сам скокнуў на плыт; бацька застаўся на беразе. І я пабраўся да блізшай бабровай харомы, якая недзе аж ці не з чатырма паверхамі, няйнакш.

Здзівіла мяне перш за ўсё тое, што пад куп'істай навіссю, збоч хаткі, быў нейкі доўгі лёх. Я пацягнуў вяслом па дне — не ўтаптанае бабрамі, тваньлівае. Пасля агледзеў, што і хатка ўсё роўна як нежылая — хады не раскаўзаныя, запарушаныя апалым лісцем, на чорна-вільготным тарфяніку не відаць бабровых палазаў... Але што гэта — чалавечы след?..

— Пустая хатка? — пачулася з берага.

— Так... І нехта босы тут быў.

— Пускай Шарыка — няхай праверыць, — бацька гаварыў сцішана, няўцерпна.

Шарык абабег хатку, пасля стаў караскацца на яе верх. І ўсё нюхае, шморгае носам — як нешта ўчуў. І не дзіўна: калі баброў няма, дык хутчэй за ўсё тут выдры абжыліся. Гэтыя нахабы рэдка дзе самі норы робяць — найбольш выкарыстоўваюць бабровыя. Я паставіў на хады лавушкі, узяў шчуп і сцярожка абышоў хатку. Глянуў на Шарыка — ён спускаўся ўжо з «верхатуры» і па-ранейшаму старанна вынюхваў як не кожнае паленца.

Бадай пошапкам гукнуў мне бацька з берага:

— Зрабі яму дзірку!

Я загнаў шчуп у бакавіну хаткі — выслізганы да бляску сталёвы прэнт прайшоў між паленцаў надзіва лёгка, да паловы схаваўся; калі я шавяльнуў ім, дык нешта там, унутры, ляснула. Усё роўна як нейкую жалезку зачапіў. І тут жа памкнуўся быў раскідаць паленцы, але яны — трэба ж, не адразу ўгледзеў — былі адно да аднаго прыбітыя цвікамі. Узяўся аберуч за гэтую «гараду» — пацягнуў на сябе, і я, выходзіць, проста-напраста *раззеўрыў* хатку: у маіх руках апынуўся круглы, увелькі з накрыўку ад бочкі, плашчак. Спадыспаду ён быў абцягнуты аўчынаю, якую — во! — нават і не пачуў, як праварснуў шчупам. Уражана кінуў бацьку:

— Хатка ў будан перароблена. Унутры — два кажухі, вядро... Кансервы нейкія і дзве гранаты нямецкія, з доўгімі ручкамі.

— Чуеш?!. Нічога там не чапай!.. Люк зачыні — і давай назад... Сляды свае зацерушы торфам.

Я ўсё так і зрабіў. Калі падплыў да берага, бацька ўхапіў дзве лавушкі, начапіў на ломік і закінуў за спіну.

— А плыт так і пакінем?

— Пакуль мы тут пыпліліся, дык, можа, нашай лодкі ўжо няма... — Бацька яўна ўстрывожаны. Узяў сабаку на ланцужок, сказаў: — Бяжым-ка, Шарык, хутчэй, а то каб не было позна. — І мне — гэтак жа ўсхвалявана, похапкам: — Ты не баўся тут — хуценька загані плыт туды ж, дзе і быў, у куст, і — бягом да лодкі.

Нёман колькі разоў забіраў то ўправа, то ўлева, і калі мы нарэшце мінулі панізоўе, — пайшлі берагі чыстыя і крутыя, пясчаныя.

...Спыніліся на начлег, праплыўшы ракою ўніз, можа, кіламетраў з пяць. Злашчаснае балота-возера, як нам здавалася, засталося далёка ззаду. Прычалілі. Лодку ўсцягнулі на бераг і прымкнулі за тоўсты дубовы корань, што выступаў з зямлі нібы знарок дзеля гэтай патрэбы.

Напяклі бульбы, з якой і даелі два селядцы, — астаткі нашага «далікатэсу», набытага яшчэ ў Стоўбцах. Я ўспароў апошнюю кансерву з ялавічынай і пакарміў сабаку.

Толькі вынес з лодкі брызентавы полаг, разаслаў і ўжо нарыхтаваўся легчы на спачын, як забрахаў Шарык. Ён — на прывязі: ланцужок зачэплены за ўторкнуты ў зямлю шчуп.

І тут да ўжо амаль прытухлага цяпельца падступіўся нізкарослы, з выразна тоўстымі нагамі мужчына. На ім — ватоўка, галіфэ з леямі, ялавыя боты. Апраткі яго добра паношаныя, боты стаптаныя. Затое на галаве красаваўся яшчэ зусім новы капялюш.

— Я за вамі паўдня назіраю...

— Палічылі за браканьераў? — стрымана спытаў бацька. — Ці якая іншая падозра? — Пры гэтым ён, быццам незнарок, ступіў нагой на тапорык, які, зрэшты, мы заўсёды трымаем паблізу, калі вось так, вечарам, сядзім ля вогнішча, босыя, сушым анучы ды порткі. Так, уначы тапорык — наша зброя...

Гэты раз нам, што ні кажы, упершыню давялося быць сведкамі таго, калі незнаёмы чалавек пачынае размову без павітання.

— Па-мойму, людзі вы добрыя, — «капялюш» як усё роўна паспяшаўся супакоіць нас, зняў напружанасць. — Дык вы, значыцца, баброў тутэйшых ловіце?

— Сашка, падкінь-ка дроў, — сказаў мне бацька. І — да прышэльца: — Правільна: ловім баброў. А вот чые яны — тутэйшыя ці якія іншыя, не нам тут пра гэта казаць. Сёння ў нас, прызнацца, пусты быў дзень. —

Дастаў папяросы, адну беламорыну прыпаліў ад вугалька — і зацягнуўся, другую — госцю ўдружыў.

— Дзякуй, — кіўнуў той, гледзячы на бацьку. — Курэц я слабы, але з вамі, думаю, не зашкодзіць і пакурыць, дый лясы патачыць, — стрымана пасміхнуўся, прысядаючы на кукішкі.

Цяпельца разгарэлася, і твар незнаёмца стаў даваца агляду: дзён колькі няголены, добра загарэлыя лоб, нос, шчокі... Знешне прыгожы мужчына. І капялюш яму пасуе. Мне чамусьці падумалася, што дзядзька гэты — няйнакш былы настаўнік. Менавіта — *былы*. Адно насцярожвалі вочы — яны ў яго нейк мітуслівa, па-воўчы паблісквалі ад агню, і нешта няўлоўна-жахлівае было ў гэтых страхотна-колкіх паблісках: адчай? нахабнасць?..

— Вы ці не сторож лугу? — эйш, стары мой даволі далікатна вядзе роспыты; гэта ён умее рабіць.

— Я ў наглядчыках ніколі не быў і не збіраюся быць. Ха-ха-ха!.. — Густыя бровы прыйшлы калыхнуліся. — Хм... Я — спадар Ніхто. Бадай што — так... Ніхто!

— А я — Герасім, — наўздзіў абыякава сказаў бацька. — З сынам, во, баброў ловім... І паедуць нашыя бабры Сібір абжываць. — Пасля дзвюх глыбокіх зацяжак зусім нечакана для мяне дадаў: — Туды ўсё людзей адусюль пёрлі, а цяпер, значыць, і да баброў дабраліся.

— Нешта ж заробіце?

— Паўсотня за бабра... Мне, аднарукаму, гэты занятак якраз па сіле.

— Дык вось, Герасім... Як там цябе па-бацьку, не ведаю...

— Андрэевіч.

— Каб ты, Герасім Андрэевіч, не інвалід быў, ды каб не бедна адзеты — патанулі б вы сёння ў Нёмане.

— Гэта чаму ж?.. — бацька кінуў недакурак на лоўжык вуголля, пад якім, у прысаку, засталося на сняданак некалькі бульбін.

— Не пытайся, бо не скажу... І помніце, хлопцы: нікога вы тут не бачылі... А за плыт — дзякуй, на ім цяпер мне зручней будзе рыбу лавіць.

— Дык, можа б, перакусілі?.. — шчыраваў далей бацька.

— А што ў вас ёсць?

— Бульба печаная — ужалела ў прысаку, самы смак... Хлеб.

— Хлеба — дайце... Пару буханак. Ад цукру і солі таксама не адмоўлюся.

— Хлеба ў нас засталося ўсяго дзве буханкі... Так і быць: адну — вам. Троху солі дамо, цукру.

Спадар Ніхто прапанаваў грошы за хлеб і цукар, але бацька адмовіўся браць. Роўна, як і ён, прыблука гэты, адмовіўся ад печанай бульбы.

## КОЛІШНЯЯ ДУРНОТА

І сёння рознай дурноты стае ў нашых газетах, але такой, як у дваццатыя гады, здаецца, ужо няма. Пытанне аб каханні мусіравалася ў той час даволі ўзмоцнена. На слыху быў нават такі жарцік: «Она любила по Смидович, а он любил по Коллонтай...»

Соф'я Мікалаеўна Смідовіч свой так званы трактат «О любви» надрукавала ў газеце «Правда» (1925 г.). І там столькі дурноты й вычварна-разбэшчанага наіву, што галава кругам ідзе нават у сённяшняга чытача.

А вось Аляксандра Міхайлаўна Калантай у часопісе «Красная новь» блудасловіла яшчэ заўзятней: «...если любовь к одному человеку в наших условиях урывает время от общественной работы, то любовь к трем отнимает в три раза больше времени».

Гэтая жанчынка была страснай паборніцай «свободной любви» — похапкам і абы з кім...

Падняўся, абтросся і далей панёсся.

## ДРУКАВАЛКА

Неяк разгаварыўся з маці і пачуў я пра вясковыя лазні, якія на Магілёўшчыне спакон веку былі ў заможных гаспадароў. Меў сваю лазню і мой прадзед, Міллян Сеяляд, чым дужа ганарыўся. Часам любіў нават павыхваляцца: маўляў, ён сярод вяскоўцаў не які там галяк-недарэка, а гаспадар! Звычайна пацяшаўся з гэтак званых незамажэнцаў, якім выпадала мыцца ў кагальнай лазні.

— Падворкам дзеда Мілляна канчалася вёска, — апавядала маці. — А ўжо за яго надзелам і была тая самая лазня, усіхная, якую вяскоўцы празвалі кагальнай. Пры азерцы стаяла, у арэшніку... І праўда, кагалам мыліся. Усяк было: мужчыны бабам спіны цёрлі, а бабы — мужчынам... Не дужа стыдаліся.

Бач, кагальная... І дзетак, відаць жа, кагальных ставала, калі галяком мужыкі й бабы тоўпіліся ў прылазніку. Вось яна, тая, абытоўлена-ўзвычаеная і збегам абставін упарадкаваная грахоўная струнка-памаўза простага чалавека. Эйш, продкі нашыя былі майстры не толькі на спеўкі ды пасядзелкі-забавы — ставала сярод іх і шчадралюбна-мілосных юрліўцаў. Пэўна ж, не без гэтага — з песні слова не выкінеш!

Праз колькі дзён канікулы мае скончыліся, і я вярнуўся ў Мінск. Бацькі прадалі гадавалага парсюка перакупшчыку Дзыйлу, цыгану, які звычайна ў святочныя дні возіць на ўласным «Масквічы» свініну ў Магілёў і прадае. Мне ад бацькоў перапала троху грошай. Вось і заманулася набыць пішучую машынку. Новых не дакупіцца — дэфіцыт. І я зайшоў у камісійную краму. Там пераважала старое ламачча айчыннай вытворчасці. Мне хацелася гэдээраўскую «Эрыку» займець, а то і якой іншай маркі, хоць і даваеннага вырабу, але каб толькі нямецкую... І мне пашанцавала. Стары, з сівымі пэйсамі акулярык якраз і падказаў, у каго можна набыць такі шэдэўр-унікум. Нават нумар тэлефона назваў. І я пазваніў. Жанчына азвалася. Галасок прыемны. Ветліва запрасіла прыехаць у розгляды.

Паехаў... Сышоў з тралейбуса. І нібы зноў пачуў яе запрашэнне: «Вось і прыязджайце. О-о, у мяне сёння такі... такі дзень! Пастарайцеся гадзіне а васемнаццатай быць... Чакаем!» Зайшоў у гастраном — купіў вялікую каробку цукерак. З ромам. Не ісці ж з пустымі рукамі на вабны галасок, ды ў такі — які там у яе *такі* дзень! Пазваніў. Адчыніла. У-у, кабетка гадоў недзе пад сорак. Чарнявая, валасы кучаравыя, доўгія, сабраныя ў касу. Вочкі запальна іскрацца. Уручыў падарунак, і яна аж зніякавела ад здзіву, у радасці гукнула мужа:

— Міцюша, займіся госцем... А я стол накрыю, — і знікла.

Да мяне выйшаў мужчына гадоў пяцідзесяці з гакам. У спартыўным касцюме, троху цеснаватым, з таго, можа, чалавек і выдаваў велічэзнагрузным, нязграбным. Яго абвіслы жывот напінаў закароткі курцік знізу, і замок-маланка, здавалася, во-во раздвоіцца, не ўтрымае напругі.

Пазнаёміліся. Ён Зміцерам Мацвеевічам назваўся. Каларытная асоба. Твар круглы, падбародка не відаць. Нос — дабрэнная вострая глюга, ноздры тоўстыя і шырокія, і з іх акруглых, акурат прасверліны, дзюрачак вытыркалі рыжыя валасяныя мяцёлкі.

Пэўна, яму не спадабалася, што я надта ўцяміўся ў яго твар, як курыца ў гузік, і разглядаю, бо нечага адразу стаў чапляцца да мяне: маўляў, Адам — імя рэдкае, і калі я надумаю жаніцца, то мушу пашукаць не інакш як Еву, толькі Еву, і тады шчасця займею поўныя штаны. Так і сказаў, пузач.

Зняў я плашчык, туфлі. Прайшлі ў залу. Зміцер Мацвеевіч адразу ж і вынес на паказ пішучую машынку. Штуковіна сапраўды ніштаватая. Малагабарытная. І ўся блішчыць, бо ніхто на ёй ніколі як след і не друкаваў. Праўда, футарал-чамаданчык пацёрты ўжо. І не дзіва — столькі гадоў прамінула з таго дня, калі начфін Сцёпкін, будучы ў паверажаным Берліне, вынес машынку з разбуранага снарадам магазіна канцтавараў і паклаў у свой «Віліс» разам з пачкамі паперы ды ўсялякай іншай драбязой. І толькі ў Мінску, ужо як вайна скончылася, агледзеў, што прыдбаная ім рэч непрыдатна для карыстання — шрыфт нельга перарабіць на рускі, кірыліцу.

Мне спадабалася машынка — цацка, адно і глядзеў бы. Але ж і я наўрад ці дам ёй рады. Праўда, аб гэтым пакуль — ні слова. А гаспадыня, Фрося Астапаўна, пахватна-рухавая, вясёлая, і тое стаўляе на стол, і гэтае. Каньяк армянскі. Ух ты — «Дзвін»! Закусь — скрылікі лімона, балычок, ікра... Колькі ўсяго ўсялякага — гурманы, аднак! Паспрабуй тут адмовіцца ад пакупкі!.. Папраўдзе, мне адно і заставалася, што захапляцца машынкай, бо сапраўды адмыслова зроблена. Скончыў я свой хваласпеў адразу, калі зразумеў, што гаспадары паверылі мне: забяру трафей, збаўлю іх ад клапот.

Зміцер Мацвеевіч так заглыбіўся ў мінулае, што ўжо не рэагаваў на жончыны заўвагі («памаўчы, не мяцель абы-што!»). Згадваў ён сваю даваенную маладосць, нават памыкаўся ўласныя вершы чытаць, але збіваўся і пачынаў наракаць на памяць. Слухаць я ўмею, і ён гэта адчуў, ацаніў.

І вось — уселіся за стол. У тарцы, злева ад мяне, — гаспадар. На процілеглым канцы стала, справа, — гаспадыня. Стол доўгі. Вядома ж, трафейны. Сталешніца з моранага дуба, і на ёй — цэлая карціна: замак шыкоўны, паўліны, яшчэ нейкія птахі. Абрусам, відаць, знарок не акрылі, затое накрухмаленыя сурвэткі пад рукамі. Шык!

— Адам, ці вам хто сказаў, ці такая моцная інтуіцыя ў вас — мае любімыя цукеркі купілі, — Фрося Астапаўна зняла каляровы матузок з каробкі й раскрыла яе. — Во, чуеш, Міцюша, — звярнулася да мужа. — Малады чалавек як ведаў, што ў мяне сёння дзень нараджэння, — пасміхнулася, паказаўшы на шчоках ямачкі. — Не-е, Адам... Не чакайце, я не скажу, колькі мне стукнула.

— Слухай-ка, хлопец, будзь у нас тут за тамаду, — сказаў ні з таго, ні з сяго Зміцер Мацвеевіч. — Вось, адкаркоўвай каньяк і разлівай... Лічы, ты ў мяне сёння не госць, а сын. А што — сын! Чаму б і не?

— Бацька знайшоўся... Супакойся! — Фрося Астапаўна строга зіркнула на мужа і падцяла пухнатыя вусны.

Я падняўся, адкаркаваў бутэльку — напоўніў чаркі. Пажадаўшы Фросі Астапаўне заўсёды квітнець ружаю гэтак жа, як і зараз квітнее, а Зміцеру Мацвеевічу — здароўя і поспехаў у напісанні новых вершаў, выпіў і запрасіў іх зрабіць тое ж самае:

— Прашу, панове!

Яны прынялі мой заклік...

Ну так. За добрым сталом і п'ецца няблага. Гадзіны не прайшло, а Зміцер Мацвеевіч, бачу, ужо гатовы — торкнуўся лбом у талерку і адключыўся, спіць. Ветэран армейскіх фінансаў аказаўся не з лёгкіх — ледзьве зацягнулі бугая ў спальню. Тут жа, пры мне, Фрося Астапаўна раздзела мужа да трусоў і майкі, замашна ўрэзала яму даланёй па мяккім месцы і ўкрыла коўдрай. Я тым часам уражана талопіў вочы на ложак — таксама трафейны. Бліскучы ўвесь, ці не пакрыты золатам. Хоць ты спытай. Але ўстрымаўся, бо не хацелася пачуць, што, маўляў, так, усё правільна: пазалочаны.

Фрося Астапаўна прапанавала памыць рукі. Завяла мяне ў прыбіральню, жартам назваўшы яе «гаваннай», бо тут быў і унітаз, белы, з пластмасавым, таксама белым, вечкам.

Яна памыла рукі, выцерла іх і перадала ўцірку мне.

— Не люблю ні пудрыцца, ні мазацца, — прынікла да люстэрка, падобнае формай на расплюшчаны круг, палюбавалася сабой і прапанавала: — Можаш і пакупацца тут. Давай, напушчу вады... Нябось, па лазнях ходзіш? А там жа — такая антысанітарыя. Не-е, грамадскія лазні я даўно зліквідавала б.

— У нашым інтэрнаце душ ёсць.

— Душ? Ну — тады, як хочаш... А мог бы й памыцца.

— Дзякуй.

— Ты не спяшайся, Адам... Мы ж яшчэ пасядзім, га?

— Нават не ведаю.

— Не ўпірайся, пасядзім! — і выйшла.

І сапраўды — уселіся за стол. У насцярозе, як двое змоўшчыкаў. Гэты раз мая талерка з відэльцам апынуліся значна бліжэй да яе прыбора. Божа, і відэльцы нямецкай работы, срэбныя. Пазнака на кожным. І тут жа ў мяне пад рукой, справа, — пляшка марачнага віна. Французскае...

Пасля дзвюх чарак — які цудоўны напой! — я намерыўся быў прыступіць да трэцяй, як, чую, Фрося Астапаўна ножкай сваёй — хоп! — наступіла на мой правы ступак. Глядзіць мне ў вочы й маўчыць. Я таксама маўчу. А потым знайшоўся-такі — як падказаў хто — бяру і паўнютка наліваю ёй чарку, і сваю наліваю з беражком. Кажу:

— На брудэршафт, Фрося Астапаўна!

Выпілі, расцалаваліся. І паколькі я ўжо не ведаў, што рабіць далей, як сябе ў такім «інтыме» паводзіць, стаў напоўніцу есці, каб потым заявіцца ў інтэрнат і не думаць пра вячэру, а хутчэй — спаць. Фрося Астапаўна спагадае — шніцэль прынесла як не на ўсю вялікую талерку, падклала вяндліны, падсунула поўны, з коптурам, сподак салаты — вядомага «аліўе». Я ўжо і раз, і другі назваў гаспадыню Астапаўнай. Яна ўхваліла мой рыцарскі парыў і просіць, каб хутчэй на Фросю пераключаўся, без Астапаўны. Паджартоўвае ды нечага ўсё шніцэль свой расхвальвае, а мне і без таго стае што ўплятаць — мяту са стала смачнечу. А шніцэль і мужанёк увамне, калі прачнецца. Языкі нашыя разгайдаліся — упыну ім няма: мы як заведзеныя аб нечым гаворым, гаворым... Выходзіла, што яна — ну проста сама багіня, і я недзе блізка да анёла, адно без крылаў. Нарэшце чую:

— Адам!.. Ты забяры *друкавалку,* калі спадабалася.

— Друкавалка?.. Гэта вы самі прыдумалі?

— Ат, неяк сказалася... Забірай. Грошай не трэба, — паднялася і як не ўподбег мітнулася на кухню. Не была там доўга — прынесла заварнік і два кубкі. — Будзем каву піць.

Кава ў меру гарачая, духмяная. З ахвотай, смакуючы, асушыў свой кубак і папрасіў дабаўкі — яшчэ паўкубка. Яна даліла. Я падзякаваў. І ўжо не спяшаўся з кавай. Можна б і развітацца — на ўсё мера ёсць. Але як быць з машынкай? Мне яна, такая, яўна не трэба. Нават бясплатна. А для іх гэта — рэліквія, памяць... Знакавая рэч з часоў вайны.

І тут Фрося Астапаўна горасна ўздыхае і шчыра прызнаецца:

— Міцюша мой бяздзетны... А мне хочацца нарадзіць... Сына... Ты разумееш, Адам, што хвалюе мяне?.. — У вачах яе нагарнуліся бліскаўкі слёз. — Паказаўся ты мне вельмі прыстойны, вельмі і, калі можаш, — стань бацькам майго дзіцяці... Сёння мы выпілі... А ў другі раз, нацвеpазе... Калі адзін аднаго дужа захочам, зблізімся — і дзіцёнак наш будзе шчаслівы... Я прашу цябе, не адмаўляйся. Нічога іншага не абяцаю, але буду табе ўдзячная ўсё жыццё.

— А як жа Зміцер Мацвеевіч?

— Пра гэта яму — ні-ні... Перашкодзіць, раўнівец страшны. А як стану цяжарная — от няхай тады й сыпле соль зайцу на хвост.

Мяне нібыта кіпенем ашпарылі — умомант апынуўся бадай што на вогнішчы: запякло да няўсцерпу, і адразу адчуў сябе нейкім дужа прыгнечаным, расчараваным, бо клопат Фросі Астапаўны мне быў зразумелы, але ў той жа час я не мог пагадзіцца з тым, каб маё кроўнае дзіця... ды не было маім. Думкі блыталіся.

— Фрося Астапаўна, а такая блізкасць — не амаральны ўчынак? — спытаў я і жахнуўся: не тое ляпнуў, занадта па-камсамольску атрымалася.

Яна не засердавала, міла ўсміхнулася. Усмешка таропкая — мільганула яснотна і знікла; поўныя вусны імкліва сышліся ў ружовы бутон, і пакуль я назіраў гэту нязвычную метамарфозу, яе журботна-пякучы пагляд працяў мне грудзі. Аж забалела там.

— Хіба ж тое амаральна, калі адзін чалавек зробіць другога шчаслівым?.. Я — жанчына, і не магу не нарадзіць... Мне трэба дзіцятка. Пустое жыццё — магіла. Дачасная магіла... Падумай, Адам. Пасля ці пазвані, а лепей — прыедзь. Добра?

— Падумаю...

І тут яна падступілася да мяне, паслабіла гальштук і расшпіліла каўнер. Дрыготкія пальцы яе рукі ласкотна крануліся майго цела, забегалі й сталі востра калоцца пазногцямі. Глыбокае дэкальтэ раскошнага халата, аздобленага дарагой вышыўкай, не хавала частых ўскалыхаў яе варухліва-плыўкіх і пульхных, наўздзіў высокіх грудзей. Ліфчыка не было... Не помню, як падышлі да канапы, засланай пярэста-рыжым, падобным на футра тыгра, пледам. Яна знячэўку таўханула мяне ў грудзі, і я ўпаў на спіну, пачуўшы яе ўсхваляваны пошапт:

— Вось так... Вось так, міленькі. Ляжы... Я выключу святло.

І я разгублена сказаў ёй:

— Мне сорамна.

— Няўжо сорамна?

— Так...

— Божа мой! Ды ты ж яшчэ хлапчук!

— Які ёсць...

— Або-о, і як жа захаваўся такі харашунчык?

— Не дапытвайцеся...

— Адзік!.. Адпусціся — даверся мне. Што ў тым непрыстойнага, калі ўсё — на добрае? Сораму тут і блізка няма... — І яшчэ нешта прамаўляла, ціха, бы шаптуха, ды я ўжо не ўдаваўся ў сэнс ейных слоў. Ляжаў, як самнамбул, гатовы ўскарабкацца на дах хмарачоса і кінуцца ў бездань мілосці. Тым часам Фрося Астапаўна стоена, бы котка, прылегла побач і нейк лёгка, адразу вылузнулася з халата, шыкоўна-шырокага, аксамітна-мяккага. Прамурлыкала мне ў твар: — Эйш, сорамна... Вот жа не стану выключаць святло. Ты сваю спакушальніцу ўсю перамацай, расцалуй, паратры на муку і ўчыні цеста, з якога занава і спячэш сабе багіню. Адам з рабра свайго каханку сабе стварыў, а ты — з мяне... Ды й так можаш любавацца. Глянь, не старая ж, не? Ягадка!.. А на сакурсніц сваіх, халастушак, не дужа зырся — «вянеркай» так і ўзнагародзіць каторая. — І зайшлася ў палкай нестрымі: — Адзя, хлопчык, я доўга чакала... Ты мне сніўся... І Бог паслаў цябе...

Словы ейныя ўскаламуцілі, узвіхрылі мяне, і я колькі часу міжволі ўслухоўваўся ў сябе, быў акурат прытоплены ў разліве пажаднай жарсці, у неспатольным нахлыне пачуццяў. Тут яна і ўзялася гэтак жа сама, звычна, як і Зміцера Мацвеевіча, распранаць мяне. Ды так старанна-распусна, што аж пасопвала. Нечакана, знячэўку ружовы туман рассеяўся, і я ўбачыў побач з сабой голую нязгрэбу, касцістую, з вузкім тазам, маленькім жывоцікам і высокім лабком з прадаўгавата-чорнай валасяной кучомкай унізе... Дарма не выключыла святло. Мяне ўраз скавала ўсяго — знерухомеў, зацяўся і думаў ужо адно пра тое, каб як лаўчэй пазбегнуць яе абдымкаў. Урэшце даволі разважна сказаў:

— Ад п'янога семя, Астапаўна, невядома хто можа нарадзіцца... Паберажэмся.

— Дурненькі... Адзік!.. Адзічак!..— гучаў яе ўзгайдана-страсны басок. — Не пакідай мяне, застанься... — І раптам — сполашны ўскрык: — А-а, чо-орт!..

— Што з вамі?!. — жахнуўся я, калі ўся яна, утрапёная, стомлена ўпала на мяне, і шыю маю мякка агарнулі яе вялікія падатныя грудзі.

Я паспяшаўся ўстаць, спешна заправіў кашулю, зацягнуў папружку, а Фрося Астапаўна нават не паварушылася — ляжала на правым баку, як я і паклаў, калі выбіраўся з-пад яе. Памацаў пульс — б'ецца ваўсю: пачашчаны, але рытмічна-роўны, збояў і блізка няма. Жывая!.. Мо прыкінулася — палохае? Свабоднай паловаю пледа акрыў яе ўсю да падбародка, апрануў пінжак і выбег у прыхожую, абуўся. Зняў з вешалкі плашчык і ўзяўся ўжо за ручку дзвярэй, як убачыў Зміцера Мацвеевіча. У трусах і майцы.

— Не спяшайся, — спакойна сказаў ён, пазяхаючы. — Хадзем на кухню, вып'ем адыходную... Пагаворым.

Я разгубіўся. Няўжо і ён прыкідваецца?.. Усё знарок падстроена, ці што? Куды я трапіў? Чамусьці падумалася пра кагальную лазню, дзе кожны, хто не прыйдзе, можа атрымаць задавальненне ўжо хоць бы ад таго, што палюбуецца на сваіх голых суседзяў... Я пабачыў такой яго жонку, а яму, як відаць, ні тут і не там.

— Фрося Астапаўна, мне падалося, у глыбокай непрытомнасці... Трэба «хуткую» выклікаць. Як вы думаеце?

— Бачыў... З ёй такое бывае... Ты вінаваты — распаліў бабу, а полымя не збіў.

— Як можна так, Зміцер Мацвеевіч?!.

— Не тушуйся... Жартую. Дзіця яна хоча. А нарадзіць не здольная, хворая... Кажа, што я ва ўсім вінаваты. А ў мяне — сын у Ленінградзе,

двух унукаў маю. Ды Фрося ў гэта не хоча верыць. А ўсё іменна так і ёсць. Я і з ёй звыкся, і з горам яе — жыву, шкадую, нябогу. Куды ёй, такой, без мяне... Ты мне даруй, што не папярэдзіў пра яе бзыкі. Не паспеў... І не думай, я зусім і не ўпіўся — гэта ж яна, чартоўка, парашку снатворнага мне ў салату падсыпала, ды я прамаргаў. — Шніцэлі — яе канёк. А сёння, бач, на салату пераключылася... Ой, што гэта я? Вылупіў свой гарбуз, стаю, — пабарабаніў пальцамі абедзвюх рук па жываце. — Пайду апрануся. Ты не збягай.

— Зміцер Мацвеевіч, а ёй сапраўды дрэнна...

— Не турбуйся. Цвярозая яна ў такім трансе не бывае. Троху паляжыць — і прыйдзе да нас на кухню. Песні пачне спяваць. У яе лірычнае сапрана, голас добра пастаўлены. У нашым палку ёй роўных не было... — Зноў пабарабаніў пальцамі рук па сваім «гарбузе», пасміхнуўся. — А ты — цвёрды арэшак, не раскалоўся. Хоць і малады.

— А хіба слабакі былі?

— І не раз... Па санаторыях калясіла. Ды ўжо гадоў з пяць будзе, як дактары забаранілі ёй такія паездкі... Пакутніца.

— Спачуваю... Прабачце за турботы. Усяго вам найлепшага! — сказаў я і хацеў ужо бегчы, але Зміцер Мацвеевіч ухапіў мяне за крысо, затрымаў.

— Стой, хлопец, стой!.. А як з машынкай?.. Адмаўляешся браць?

— Пашукаю прыгодную для працы.

— Ну, глядзі сам... Будзь здароў!

На тым і развіталіся.

Неяк выпадкова сустрэў я Фросю Астапаўну ў ЦУМе. Яна першая мяне ўбачыла і аклікнула:

— Адам!..

— Добры дзень, Фрося Астапаўна! — Я падышоў, прыўзняў яе правую руку і, калі цалаваў, міжволі зіркнуў на кончыкі пальцаў з вузкімі, як лёзы скальпеля, пазногцямі. Тыя самыя празукі, што гойсалі ў мяне па грудзях.

— Я ж, хлопча, адна цяпер, адна... — Заплакала. — У мяне вялікае гора — не стала Мацвеевіча майго... Памёр. Паўгода ўжо, як няма... Каб не кукаваць адной, пляменніцу прапісала. З Лоева. Наталля. Вучыцца на інжынера... Такая дзеўка — глянеш і адразу на ўсё забудзеш... Прыходзь, пазнаёмлю.

— Дзякуй, Фрося Астапаўна, мо як-небудзь і забягу пабачыць красуню вашую.

— Чакаем... Не цягні з візітам.

— Я ўжо сказаў: забягу!..

## НА ПЛЯЖЫ

Спёка.

Бераг прыгараднага возера.

Людзей — поўна. Гамана, смех, музыка...

І трэба ж, найбольш у вочы кідаюцца адно жанчыны — ходзяць, ляжаць, купаюцца...

Дзіўна думаць аб тым, што голымі яны выдаюць значна прыгажэйшымі, чым у адзенні, хоць бы й самым модным.

Нават ацесліва-нязграбныя, з порчамі ў стане, не выклікаюць грэблівасці. Ну, роўна ўсе яны — харашухі з харашух, павабніцы.

Чаму так?

## ПРАТЫЛЬКАЎ ГРОШЫ

Жонка дакарае мужа:

— Трэба было тады рабіць свой падворак, калі маладэй быў і гэйцаў з гармоняй па вёсках...

— Гэта калі ж — тады?

— Калі хату Копілісе ўкрадні ад мяне рубіў.

— Якраз і не ўкрадні... Яна аплаціла маю працу.

— І чым жа, скажы-ка ты мне, яна аплаціла?.. Штой-та не помню. Скажы, га?.

— Грашыма.

— Ну-у, ясна... Грошы тыя з Копіліхай недзе і пратылькаў... Ад цябе ж і рубля мне, як помню, лішняга не перапала.

— Рубля?.. Які ж я дурань!.. Дзякуй, што надавуміла: цяпер ты ў мяне аніводнай сотні не атрымаеш — рублямі буду адхрышчвацца... Во ажно як: рубля ёй лішняга дай! А капейку не хочаш?!.

## АСЦЯРОЖНАЯ РЫБА

Заманулася з'ездзіць парыбаліць. Падбіў на гэтую авантуру і бацьку. Апынуліся ажно на Проні. Конікам быў старэнькі наш матацыкл, або проста — «мінскач». Старэйшы Граськаў сын, Яўген, заявіцца на колькі дзён двору — матацыкл яму служыць; я нахаплюся — без матацыкла не абысціся; і Мікола — трэці сын, малодшы, таксама карыстаўся гэтым даволі зручным для вясковых дарог транспартам...

Сапраўды, так было аж пакуль мы, усе трое, не набылі сабе легкавікі.

І вось, помніцца, стары мой атайбаваўся на даволі абрывістым беражку скрай напалову падмытага дуба, які, можа, і пратрымаецца яшчэ колькі гадоў, а затым недзе падчас разводдзя абрынецца ў рэчку ўсім сваім трывалым голлем, і гэтая ціхая завоіна стане бадай запаветнай хованкай — як для акунёў ды шчупакоў, так і для тутэйшых баброў, выдраў ды норак.

Бацька хоць і з адной рукой, але ўзяўся лавіць рыбу дзвюма вудамі. На кручках — тлустыя дажджавыя чарвякі. Ну а я — са спінінгам, як заўсёды. Вуда — дапатопная прылада. І да ўсяго патрабуе цярпення: сядзі крукам, маўчы ды чакай, пакуль нейкі там акунь клюне... Такая рыбалка не па мне.

Іншая справа — спінінг: агледзеў больш-менш прыстойнае месцейка, без навіслых над вадой лазовых рагазюляў, і кідай блешню як мага далей ад берага, і абавязкова пад траўку, у якой, пэўна ж, стоены, замёр шчупак: вычэквае, падбірае зручны момант для нападу...

Мне давялося двойчы лезці ў раку і адчэпліваць якар — вельмі ж не хацелася пакідаць самаробную блешню (з латуннай, яшчэ даваеннага вырабу гаўбічнай гільзы) у падводным карчэўі, якога так шмат на Проні.

Невялікага шчупёнка ўсё ж пашчасціла падцяць. У бацькі — пуста. І ён кажа мне:

— Акушкі малыя ўвесь мой чарвяковы запас пажэрлі.

— Куды ж вялікія падзеліся?

— Вялікіх тут брэднем выхалошчваюць.

— А мне здаецца, што нявопытнага вудара рыба здалёк чуе... Мы прыйшлі, нашумелі — вялікая рыба тут жа і зацялася. Нябось, асцярожнічае: прышэльцы на беразе, няйнакш браканьеры са свету, могуць і зарад шпурнуць, то лепей дзе ў бабровай завоіне ліха перачакаць.

— I праўда, — пасміхнуўся бацька. — Ну як гэта мы забылі назваць?.. Так! Свая рыба сваіх рыбакоў не баіцца.

## НА ЗОЛКУ

Сож...

Я недзе акурат на золку быў ужо тут, на рацэ. Сонца толькі пачало выкочвацца з-за лясное грады. Яго зырка-халодныя водбліскі там-сям пярэсцілі мройную брынь вады.

Вялікі вір пры высокім беразе — на гэтым баку, а крыху ўлева, на процілеглым, — адпесак, і добра відаць, як там на мелкаводдзі жыруе шчупак. I адзін усплёск, і другі... Бруйна-дробныя хвалі лена ўскочваюцца на пакаты ўзвышак пясчанай выспы, бяруцца празрыстай плёнкай і нейкі час зіхотка ільсняцца, наўкруг рассыпаючы кволыя сонечныя зайчыкі.

Пазіцыя ў мяне даволі зручная, каб кідаць блешню наўскаса плыні. Шчупак убачыць «спажыву» і паспрабуе напасці.

Акурат гэтак і атрымалася — заглынуў-такі, не прамінуў... Цягну!

Добра, што спусціўся да вады: прыбярэжны адхон спадзісты, з горкай жаўцяку. I завалок я шчупачыну ажно за гэты жаўцяк, дзе вірлавокі бэйтух, вагой не менш за чатыры кілаграмы, раптам сарваўся з якара і стаў гоцаць так, што падскокваў бадай ці не на метр...

Пінжак я трымаў ва ўгіне локця левай рукі і тут жа кінуўся на шчупака — акрыў, ашчарэпіў як мае быць. А шчупачына зноў — як ско-окне!.. I так хвастом пялёгнуў мне па твары, што аж уваччу стала цёмна.

Дзе ж хто вытрымае такое! Я ўзлаваўся і ўмомант, сам не помню калі, супакоіў бітліўца: зламаў яму хрыбет...

Што значыць паляўнічы азарт!

## ПУСТОЕ МЕСЦА

Дождж аніяк не можа ўшчукнуць — ліе ці не трэція суткі без супачыну... А грымоты-бліскавіцы якія!

Пярун запаліў стог. I той дашчэнту згарэў... Кажуць, запаленае маланкай гарыць хутка, затушыць такі агонь амаль немагчыма. Смеху варта — гэта хто ж калі тушыў ахопленае полымем сена!

Дык вось, згарэлы стог быў ужо трэці па ліку на гэтым, Богам праклятым месцы, дзе, калі верыць знаўцам народных прымхаў, нельга ні стог ставіць, ні тым больш хату. Тут дрэва пасадзі — і яго абавязкова ўхайдокае пярун.

Паглядзець — даволі зручны пагорачак, сухі. I ці не таму падчас сенакосу людзі, затлумленыя працай, забывалі на тое, што гэтая мясцінка небяспечная і мусіць спакон веку заставацца не занятай...

Забывалі — і Бог караў іх, ператвараючы плён калектыўнай працы ў горку лёгкага попелу, які праз дзень-два, высахлы на сонцы, развейваўся дападным ветрам па ўсім лугавым абшары.

Дзед Палікар, па мянушцы Торлік, неяк прылюдна паўшчуваў мясцовага вертыкальшыка:

— На гэтым святым месцы толькі царква магла б ацалець... Я вушы пратрубіў старшыні: кажу-кажу, а ён, анціхрыст, і ў вус не дзьме — царква богаадступніку не патрэбна.

Пёкла Чыркуха, недзе гадоў на пяць старэйшая за Палікара, якому перавалiла ўжо за восемдзесят, падтрымала размову:

— Чыстую праўду Торлік кажа... Пупліку гэтаму, недавярку, трэ было адмалку баяцца Бога. Бацькаў грэх перайшоў на сына. Анягож. Я добра помню нашага першага старшыню — бацьку гэтага, сённяшняга Пупліка. У-у, той ужо такім камандзёрам быў — не падступіцца: рэвольвер у кішэні насіў... Даў каманду — і царкву за тыдзень разабралі: бач, заманулася яму школу з тых бярвёнаў зрубіць, ды бабы не пусцілі мужчын сваіх на дурную работу. Той Пуплік, папраўдзе, анічагенька не ўмеў рабіць, бо толькі й камандаваў: гэтага — раскулачыць, а таго і зусім выслаць... Так бярвёны й струхлелі пад дажджамі-снягамі.

## БАЖКІ-ЗАВАДАТАРЫ

У якую партыю ці рэлігію ты ні кінуўся б — паўсюль цябе чакае шэраг абмежаванняў, якія мусіш без агаворак выконваць, з чаго, зрэшты, і будзеш мець для сябе такія-сякія паблажкі й выгоды.

Але ж няпроста ўвесь час трымацца некім вызначаных абавязкаў, бо ў табе недзе на самым сподзе сумлення неўпрыкмет, паволі пачынаюць узгарацца нязгода і пратэст: з нечым сваім, блізкім і звыклым, трэба ці развітвацца назаўсёды, ці затойвацца і быць нібыта з імі, а ў той жа час, як ні дзіўна, заставацца самім сабой, і пры гэтым так сябе паводзіць, каб у абраным коле так званых аднадумцаў ты глядзеўся бясспрэчна «сваім», і крый Бог — не такім, якім табе самому хочацца быць. Скрытнюгам будзеш, хлусам-утойшчыкам — яны цябе, *такога,* усё роўна некалі выбракуюць і расквітаюцца, паколькі двурушных не церпяць, бо самі адно і жывуць з падману.

Дык вось, архіважны галоўны твой козыр — калі ты, дзе б цябе ні насіла, якой бы веры ні трымаўся, застаешся сам сабою, думаеш і вырашаеш свае праблемы без дарадцаў збоку, самастойна. Былі б усе такія, то куды падзеліся б сённяшнія акрыялыя царкоўнікі й нуворышы ад уладных структур, якія ўсялякімі праўдамі й няпраўдамі запаўзлі па халуйскіх спінах на Сёмае Неба Дастатку і жывуць там, як у Бога запазухай.

На працягу шматлікіх стагоддзяў вылучаў просты чалавек — і працягвае вылучаць! — з апантанай дагодлівасцю з ліку сваіх супляменнікаў бажкоў-завадатараў, уславуляючы іх, усемагутных і літасцівых, пакланяючыся ім, але як толькі ўсумніцца ў іх чалавечнасці, адчуўшы прадажнасць іхнюю, тут жа і ўсчынаецца жорсткая барацьба...

Нарэшце ўладны трон займае новы вылучэнец, напачатку добры й справядлівы, але — зноў жа — да пары яго зорнай.







# АЛЯКСЕЙ КОРШАК

Капыль у маім жыцці, можна сказаць, горад-сваяк не ў першай, вядома, стрэчы. А сваяк таму, што адсюль пачыналася самая першая старонка маёй працоўнай біяграфіі. У 1961 годзе пасля заканчэння сярэдняй школы я паступіў на філфак Белдзяржуніверсітэта. Тыя, хто не меў працоўнага стажу, мусілі цягам году набываць яго, навучаючыся пры гэтым завочна. Прыдумшчыкаў ад адукацыі хапала заўсёды. Так я трапіў у рэдакцыю райгазеты «Калгаснік Капыльшчыны». Вось там упершыню і адкрыў для сябе паэта-франтавіка Аляксея Коршака. Пра яго лёс і творчасць расказаў мне супрацоўнік рэдакцыі Усевалад Гурыновіч.

Я хадзіў па тых самых гарыстых вулачках, якія памяталі яго даваенныя крокі, думаў пра нешта сваё, але вобраз бачыў ягоны. Светлы, крыху ўсмешлівы твар, як і на здымку ў кнізе «Мы іх не забудзем». Было нават крыху і юнацкага гонару: я ж таксама, як і ён, друкую свае першыя вершы ў тым самым «Калгасніку Капыльшчыны». А па-сапраўднаму пазнаёміўся з творчасцю Аляксея Коршака толькі праз два гады, калі выйшла з друку пасмяротная кніга яго вершаў «Апаленыя пялёсткі» (1963).

Кнігу рыхтаваў сам аўтар яшчэ студэнтам. І назву адшукаў адпаведную, юнацкую, вясновую — «Пялёсткі». Слова «апаленыя» дадала вайна.

У таго, хто памірае маладым, вядома ж, не бывае старасці. Але хіба гэта суцяшэнне нам, жывым?! Ён, Аляксей Коршак, для нашчадкаў нашых таксама застанецца назаўсёды ў сваім маладым, дваццаціпяцігадовым узросце. Ён змагаўся і аддаў сваё жыццё за Перамогу. Сёння яго вершы чытаюцца як клятва:

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май.

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
Што я ў бітве лёг
За прыгожы родны край азёрны,
За вясну ў палёх.

Ёсць у гэтых радках адчувальны акорд развітання. А між тым гучаць яны даволі жыццесцвярджальна.

Пры жыцці Аляксей Коршак друкаваўся даволі мала. Не любіў, як сцвярджаюць сябры, абіваць парогі рэдакцый. Больш чытаў іншых, каму зайздросціў, у каго можна было павучыцца. Найбольш блізкім па духу для сябе лічыў Максіма Багдановіча.

Паэт ішоў па жыцці, адкрываючы ў ім шмат прыгожага і непаўторнага. Як сапраўдны лірык меў уражлівую і чуллівую душу. У адным з вершаў без прытвору празнаваўся:

Таварыш мой, вялікае ёсць шчасце
Быць сябрам сонца, песні і вясны.

На жаль, шчасця гэтага паэту было адпушчана мала. Вайна пакліча яго на суровыя франтавыя выпрабаванні проста з аўдыторыі. Студэнцкі сябра паэта Мікола Аўрамчык потым будзе прыгадваць: «Звычайна Аляксей хадзіў на перапынках па калідоры, трымаючы рукі ў кішэнях свайго карычневага пінжака, шырока раскінуўшы крыссе. Калі я ўспамінаю гэтую звычку Коршака, ён мне чамусьці здаецца птахам-падлеткам, які прабуе свае крылы перад узлётам.

Сваёй начытанасцю і эрудыцыяй Аляксей вылучаўся сярод усіх нас. Ён амаль ніколі не рыхтаваўся да экзаменаў, хоць вучыўся добра. Затое кожны дзень яго можна было сустрэць у кнігарні. Цэлымі гадзінамі ён праседжваў у цэнтральнай бібліятэцы».

Падсумак з яго франтавымі вершамі, як і ў большасці паэтаў-франтавікоў, недзе страчаны на дарогах вайны. Але некаторыя радкі ўсё ж дайшлі да нас, і сёння ўражваюць сэрцы сваёй суровай праўдай. Іх, «апаленых пялёсткаў», вядома, магло быць куды больш. Звернемся тут да слоў земляка паэта Сцяпана Александровіча: «Неяк у канцы 1944 года я атрымаў салдацкі трохкутнік з характэрным почыркам дарагога сябра. Аляксей пытаўся, ці праўда, што памёр К. Чорны, прасіў прыслаць беларускія газеты і часопісы. Я паслаў яму «Звязду» з некралогам, два нумары часопіса «Беларусь». Потым я меў яшчэ некалькі лістоў. У апошнім ён паведамляў, што прышлє новыя вершы, вось толькі не хапае часу перапісаць. Пра баі Аляксей пісаў неяк скупа, як некалі пра экзамены ў інстытуце, якія адрывалі ад прызвычаенага ходу студэнцкага жыцця.

Але абяцаных вершаў я не дачакаўся... У сэрца закрадвалася трывога за лёс Аляксея, а потым дайшла да мяне сумная вестка. Хтосьці з яго землякоў напісаў дамоў, што смелага разведчыка Аляксея Коршака падкасіў нямецкі аўтаматчык. Было гэта 27 лютага 1945 года ва Усходняй Прусіі, недалёка ад паселішча Ласлейндорф. Аляксею Коршаку ішоў тады дваццаць пяты год».

«От і ўсё», — хочацца паўтарыць услед за паэтам і тут жа згадаць яго іншыя словы:

Трэба мець такое сэрца ў грудзях,
У якім мясціўся б цэлы свет.

Ён меў такое сэрца. Там мясцілася ўсё: і любоў, і гнеў, і светлы ўспамін юнацкага кахання, і тое «песень звонкае бярэмя», якое засталося нам у спадчыну.

***Падрыхтоўка да друку***
***і ўступнае слова Казіміра Камейшы.***

## ПАРАНЕНЫ

От і ўсё. За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Нада мной шуміць ракіта кволая,
Пада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлая
Злой тугі жарства.

Бачу неба сіняе і блізкае
У астатні раз.
Меншыцца яно, маланкай бліскае,
Пачарнела ўраз.

Дзесьці плача кнігаўка... Ці маці...
Мама, бліжай сядзь.
Хочу глянуць, хоць крыху абняці —
Галавы не ўзняць.

Што ж ты не прытулішся, матуля?
На мяне хоць глянь,
Гіне сын героем твой ад кулі,
Каб квітнела рань.

Што з табою? Плачаш? З воч блакіту
Цэлы лівень слёз.

.........................

Я расплюшчыў вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.

Плача кнігаўка ўгары, як маці
Па дачцы ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
Не шкадуй мяне.

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май,

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
Што я ў бітве лёг
За прыгожы родны край азёрны,
За вясну ў палёх.

*1942 г.*

## ПАЭТУ

Трэба мець такое сэрца ў грудзях,
У якім мясціўся б цэлы свет:
І снягамі высыпаны студзень,
І маёвы бэзу сіні цвет,

Восеньскія жудасныя ночы,
Спевы салаўіныя вясны...
Нават дзён крывавых прывід змрочны,
Нават нашыя надзеі й сны.

Кожная травінка і усмешка
Месца адшукае сабе хай...
Толькі, ідучы жыццёвай сцежкай,
У няволю сэрца не прадай.

Як дзяціны ўсмех, хай чыстым будзе...
І калі сапраўдны ты паэт,
Трэба мець такое сэрца ў грудзях,
У якім мясціўся б цэлы свет.

*1942 г.*

* * *

О, бедны народ мой! О, край мой радзімы!
І чым угнявіў ты свой лёс?
Плывуць саламяныя вёскі за дымам
У шэрую далеч нябёс.

Па полі, па хатах, між лоз і сасонкаў
Крывавыя кроплі расы...
Бяздомная маці над мёртвым дзіцёнкам
Ірве на сабе валасы.

Бы кроўю, ўсцілае людскія магілы
Лістоты асенняе медзь...
О сэрца, якою ўладаеш ты сілай,
Што гэтулькі можаш цярпець!

Гляджу навакол з ледзяною тугою,
І ў сэрцы адчаю уздым...
За край мой, заліты нявіннай крывёю,
Пракляцце чужынцам ліхім.

*1943 г.*







Андрэй ФЕДАРЭНКА

# СЕЧКА-4

## *Эсэ*

### 1

Можна марыць пабудаваць дом, можна адчуваць у сабе талент дойліда, архітэктара, — але калі ты будзеш блытаць «пілу з напільнікам» (як кандыдат у лаўрэаты Нобелеўскай прэміі пісьменнік-філосаф З. Меражкоўскі), сякеру з секачом, малаток з малаткарняю, дык, само сабою, мара гэтая ніколі не здзейсніцца.

Каб пабудаваць дом, хату, хлеў ці нават сабачую будку або звычайную шпакоўню, трэба ведаць, як карыстацца самымі элементарнымі прыладамі працы: сякераю, рубанкам, малатком, цвікамі і г.д.

Тое самае ў літаратуры. Можна мець багаты жыццёвы вопыт, можна вывучацца ў розных універсітэтах, можна пакутаваць душою — словам, адчуваць у сабе ўсе неабходныя для пісьменніцкага рамяства атрыбуты. Але вось жа! — чамусьці не атрымоўваецца, не тое што прыгожы архітэктурна-літаратурны палац, а нават касабокая, прымітыўная «сабачая будка». Прычына адна — няведанне, як карыстацца прыладамі працы. У нашым «пісьменніцкім» выпадку гэта мова. І як цясляр, сталяр, будаўнік валодае сякерай, рубанкам, кельмаю, так і пісьменнік павінен старацца да аўтаматызму авалодаць моваю.

Пасля арміі давялося мне працаваць нейкі час у вясковай, багатай на кнігі бібліятэцы. Быў ужо сякі-такі жыццёвы вопыт, была начытанасць, было неадольнае жаданне «выйсці на людзі» з якім-небудзь, хоць і малюсенькім, мастацкім творам...

І разам з тым нават прыблізна не ўяўлялася, як гэта робіцца. («З чаго пачаць?!» — адчайна ўсклікваў у адным са сваіх ранніх вершаў А. Сыс.)

Канечне, у чалавека ёсць лёс. Ёсць над ім Бог, які апякуецца, каб чалавек пайшоў менавіта такім, і ніякім іншым шляхам. Бо нездарма ж у хвіліны найбольшых душэўных пакутаў выкалупнуўся з паліцы не першы,

---

***Федарэнка Андрэй Міхайлавіч*** *нарадзіўся 1964 г. у в. Бярозаўка на Мазыршчыне, скончыў Мазырскі політэхнікум і Мінскі інстытут культуры, працаваў у часопісе «Полымя». Цяпер — у часопісе «Маладосць» і на кінастудыі «Беларусьфільм». Аўтар чатырох кніг прозы. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа за кнігу «Смута» (1995 г).*

а менавіта другі том Яна Скрыгана. І, канечне, нездарма адкрыўся на «Думках аб мове», «Чарах слова», «Майстэрні»...

Адчуванне было, нібыта мяне ўзялі за руку і вывелі з цёмнай, непралазнай глушэчы, дзе я безнадзейна блукаў, на сонечную паляну, адкуль ужо рукой падаць і да жаданай, цупкай дарогі.

## 2

*«Кожны народ павінен аберагаць сваю мову больш, чым граніцы, бо мова — галоўная яго абарона, куды больш моцная, чымся ўсе яго цытадэлі».*

**(Ірландскі вучоны Дэві)**

У снежні 1986 года ў новым тады Доме творчасці «Іслач» адбываўся першы пасля «Каралішчавічаў» семінар маладых літаратараў.

Гэта было штосьці незвычайнае. Дзесяткі выдатных пісьменнікаў, жывых класікаў, вядомых нам раней толькі па школьных ды універсітэцкіх падручніках... В. Быкаў, І. Шамякін, П. Панчанка, Н. Гілевіч, І. Чыгрынаў, Б. Сачанка, Г. Далідовіч, С. Грахоўскі, І. Навуменка... І іх можна бачыць, можна атрымаць ад іх аўтограф, можна нават, калі пашэнціць, пачуць з іх вуснаў ацэнку і сваёй творчасці!

У фае — не праціснуцца. На сталах поўным ходам распрадаюцца беларускія кнігі. Найдаўжэўшая чарга туды, дзе творы В. Быкава. Прыткнуўся ў самы канец той чаргі і я... Але тут на суседнім стале ўвагу маю прыцягнуў прыгожы двухтомнік у супервокладцы. Ян Скрыган. Кнігі толькі-толькі выйшлі. І якія ж дарагія! Больш за пяцёрку. Усе мае студэнцкія зберажэнні разам з кашальком. Наўрад ці, прызнаюся шчыра, купіў бы іх, каб раптам спінаю не адчуў на сабе нечы пагляд. Паварочваюся — каля сцяны... мой кумір уласнай персонаю! Такога ж, як я, невысокага росту, стаіць і назірае за мной праз акуляры. Цяпер, калі прайшло амаль дваццаць гадоў, я магу памыляцца, але тады падаліся мне ў тым позірку і просьба, і надзея, і гонар, што хтосьці можа цікавіцца не адным Быкавым, а яшчэ і такім дарагім двухтомнікам...

Канечне, усе сумненні разам адпалі. Я ўзяў кнігі і пачаў расплачвацца.

— Вы праўда збіраецеся купляць? — сказаў Ян Аляксеевіч. — Мо вы чыталі мяне раней?

— Чытаў, і даўно вас вельмі люблю.

Прыязная ўсмешка знікла з яго твару.

— Як гэта «люблю»? — суха спытаў Скрыган. — Можа, вы хацелі сказаць, «даўно люблю вашую творчасць»?

Вось тут і даляцеў да мяне, як да Ю. Алешы некалі, «гук невядомага інструмента», якім карысталіся тыя, для нас ужо легендарныя, пісьменнікі страшэнна далёкіх 20-х. Перада мною стаяў чалавек з іншага свету, з ім нельга было гаварыць так, як мы, пачынаючыя літаратары, адзін з адным гаварылі. Я зразумеў, што значыла для яго нават адно-адзінае няправільна, нязграбна ўжытае слова. Дзевятнаццаць год пакут, арыштаў, допытаў!.. Міжволі зразумееш цану Слова, якое можа выратаваць, а можа, і безнадзейна загубіць.

Я зрабіў чарговае глупства — пачаў апраўдвацца.

— Прабачце, Іван Аляксеевіч, я не зусім добра ведаю родную мову...

— Як так?!

— Бачыце, я родам з Мазыршчыны, у нас іншае маўленне, і лексіка...

— Няўжо такая кепская мова? — яшчэ больш строга спытаў Скрыган. — А ваш зямляк Мележ як пісаў на ёй?

Я не ведаў, куды падзецца ад сораму. Я думаў, чалавек будзе рады, што вось купілі такую дарагую яго кнігу, і за гэта прапусціць міма вушэй любую недарэчнасць, тым больш нявінны моўны «ляп»...

Вядома ж, тонкі псіхолаг Іван Аляксеевіч выдатна зразумеў сітуацыю:

— Хадземце да мяне ў пакой. Падпішу кнігі. І дайце, калі ласка, пачытаць штосьці сваё.

## 3

Назаўтра раніцаю ў сталоўцы Ян Аляксеевіч аддаў мне апавяданне. Акрамя рукапісу ў папцы яшчэ ляжаў ліст.

— Насупраць аднаго слова я нават паставіў плюсік, — сказаў ён. — Вось гэтае — «выдаўжыўшы» ногі. Ніколі раней такога не чуў. А казалі, кепская мова...

Апавяданне ўсё спрэс было пакрэслена алоўкам — які халодны душ пасля «маладосцеўскай» пахвальбы! І нічога ўжо нельга паправіць — вось-вось павінен выйсці часопіс менавіта з гэтым апавяданнем.

У вялікім, на цэлую старонку, напісаным дробным, вельмі выразным і прыгожым каліграфічным почыркам пісьме было амаль усё тое, што я чытаў у «Майстэрні», у «Чарах слова», у «Думках аб мове», у «Ненадрукованых апавяданнях»... Усё тое, што, як думалася раней, я завочна засвоіў на «пяць». Аказваецца, мала тэорыі, трэба практыка і практыка... Плюс упартасць.

Ян Скрыган цалкам справядліва адзначаў расцягнутасць апавядання, слабы дынамізм, рыхлую кампазіцыю, невыразнасць галоўнага героя... «І потым: няма такой думкі, такой з'явы, такога эпізоду, якія нельга было б выказаць на 6 — 7 старонках. Тады навошта Вам для таго ж самага спатрэбілася ажно 16 старонак?..»

(Ліст той, запабягаючы наперад, падчас летніх канікулаў, калі нашыя інтэрнатаўскія пакоі засяляліся абітурыентамі, укралі — укралі разам з падпісаным двухтомнікам, куды яно было ўкладзена, разам з новымі румынскімі туфлямі, разам з масіўным залатым пярсцёнкам, які я знайшоў на вуліцы і збіраўся прадаць цыганам на Батанічнай... У шафе валяліся толькі дзве супервокладкі. Ніякіх іншых кніг больш не ўзялі, а было іх у пакоі каля паўсотні, і з аўтографамі таксама.)

У той жа дзень разглядалі нашыя апавяданні. «Прэзідыум» на сцэне занялі вядомыя пісьменнікі. Мы, пачаткоўцы — у зале. Хаця мушу сказаць, што слова «пачаткоўцы» не дужа нас характарызавала. Публіка там сабралася яшчэ тая. Крыўдна, непрыемна было слухаць, як некаторыя маладыя (ніхто з іх так і не застаўся потым у літаратуры) нападалі чамусьці менавіта на Яна Скрыгана.

— Колькі можна насіцца з гэтай моваю! Мова — другаснае! Задача для нас цяпер — вярнуць чытачоў, якіх вы, старэйшыя, паспяхова ад сябе адвярнулі! Змест, сюжэт — вось галоўнае! Твор павінен быць нацыянальны па форме і нацыяналістычны па змесце! (Так дазвалялася ўжо тады гаварыць.)

Ян Аляксеевіч раз за разам мусіў падымацца і адказваць на падобныя закіды і рэплікі. Ён выглядаў разгубленым. Няўжо ж! Тлумачыць будучым пісьменнікам такія рэчы, як неабходнасць валодання моваю!

Нехта, здаецца, Яўген Лецка, назваў маё прозвішча. Ян Аляксеевіч ажывіўся.

— А тут якраз адваротная сітуацыя. Нібыта і мову ведае, нібыта і сюжэт стараецца выбудаваць... Але колькі ж лішноты! З шаснаццаці старонак там варта пакінуць максімум шэсць...

— Я згодзен, згодзен! — закрычаў я з залы, спалохаўшыся, што зараз пачнецца публічны разбор, ці, лепш сказаць, разнос, як у «Ненадрукаваных апавяданнях». — Я ўсё зразумеў, папраўлю!

— А вы не спяшайцеся, — марудна азваўся Уладзімір Дамашэвіч. — Вы вельмі лёгка з усім і з усімі згаджаецеся. — І да Скрыгана: — Апавяданне чытаецца натуральна?

— Чытаецца натуральна.

— Дык навошта рэзаць?

Ізноў паляцелі з'едлівыя рэплікі з залы — ужо ў маю абарону... Ян Аляксеевіч сумеўся.

— А пісьменнік будзе, — сказаў ён крыху недарэчы. — Добры пісьменнік! (Прашу прабачэння за нясціпласць, але менавіта гэтыя словы прагучалі.)

З самымі супрацьлеглымі думкамі, з поўнай кашай у галаве вяртаўся я з семінара. Не тое, што мая вера ў праваты любімага пісьменніка пахіснулася — не, проста паралельна ўзнікла яшчэ адна, я назваў бы яе — «дамашэвіцкая» вера... А самае галоўнае, прыкра было, што не скарыстаў моманту, не сказаў Яну Аляксеевічу тых слоў, якія павінен быў сказаць, не пакланіўся яму, не падзякаваў за «кніжную» навуку, не выпіў з ім, урэшце, «па сто грам»... Мо калі б я расказаў яму хоць кароценька пра сваё жыццё, пра тое, што менавіта ў яго творах знайшоў для сябе паратунак — мо ўсё інакш склалася б? А цяпер у яго памяці я застануся адным з тых крыкуноў з залы; цяпер ён мяне, мабыць, увогуле не стане чытаць.

## 4

Другая сустрэча адбылася гадоў праз шэсць, на нейкай вечарыне ў Доме літаратара. Я, малады, шчаслівы, крыху п'яны, трымаючы за руку каханую дзяўчыну, прабіраўся між крэслаў, шукаючы, дзе сесці. Раптам мяне паклікалі... Ян Скрыган. Ані не змяніўся знешне. Смяецца.

— Ян Аляксеевіч?! Няўжо вы помніце мяне? Які я рады!

— Я таксама вельмі ***рад*** (і тут паправіў!), што вы незлапомны.

— Ян Аляксеевіч, дарагі...

— Я рэгулярна сачу за вашымі поспехамі ў друку...

— Ды якія яшчэ «поспехі»! — перабіў я і, каб змяніць тэму, прызнаўся: — А ведаеце, я не збярог ні кніг з аўтографамі, ні ліста... Укралі!

— Праўда? Як хацелася б, каб у нас у жыцці былі толькі такія страты. Для пісьменніка найвышэйшы гонар, калі яго кнігу крадуць ці не здаюць у бібліятэку... Што да ліста — дык мо яно і добра? Што ён прапаў? Мо ў тым якісь сімвал?

— Дык шкада вельмі...

— Не шк***а***да, а шк***о***да, — смеючыся, ізноў папраўў Скрыган. — А я напішу вам новы!

Не напісаў. Праз год яго не стала. І я ўжо ніколі не даведаюся, як ацаніў бы ён, скажам, аповесць «Нічые», дзе я «ўрываюся ў чужыя палесціны» — апісваю любыя яго сэрцу Слуцк і Случчыну...

У яго апавяданне «Дакументальная рэвізія», а ў мяне раман «Рэвізія»... Галоўны герой рамана — Трухановіч, а родная вёска Яна Скрыгана — Труханавічы...

### 5

Увогуле, хацелася б крыху паразважаць на тэму пісьменніцкіх «пераклічак».

Адкуль бярэцца, адкуль узнікае гэтая нябачная духоўная сувязь паміж самымі рознымі літаратарамі, аддаленымі адзін ад аднога пакаленнямі, стагоддзямі — у часе, і тысячамі, дзесяткамі тысяч кіламетраў — у прасторы? Няўжо праўда, што існуе нейкае пятае вымярэнне, дзе думкі могуць матэрыялізоўвацца і жыць самі па сабе, незалежна ад таго, хто іх спарадзіў? І калі хоць выпадкова, хоць на кароценькі міг у тое вымярэнне патрапіць, дык...

Ці прасцей усё? Ці проста некалі, недзе, ад кагосьці штосьці пачуў, убачыў, прачытаў, запомніў — а потым забыўся і цяпер выдаеш як уласнае?

Была ў мяне некалі аповесць «Такое кароткае лета». Назва ўзялася вядома адкуль — з прыпеву папулярнай у тыя гады «папсовай» песні. За што я і быў пакараны. Многія наракалі: маўляў, толькі пачынаеш чытаць, так мелодыя трывала, навязліва засядае ў галаве і ўвесь тэкст ідзе пад рэфрэн песенькі, бы пад стук малатка за сцяною. Паэт Мікола Мятліцкі зрабіў наступнае: паківаў мне пальцам і сказаў:

— Асцярожней з загалоўкамі, хлопцы! У Раісы Баравіковай ёсць верш — «Такое кароткае лета»!

Як?! — хацеў усклікнуць я. Але не ўсклікнуў. А толькі задумаўся. Мала верагодна, каб Раіса Баравікова «пазычыла» радок з той самай крыніцы, што і я. Хутчэй наадварот: аўтары песні ў яе «пазычылі». Тады чаму толькі радок, а не ўвесь верш? Ці, можа, ёсць яшчэ нехта трэці (пяты, дзесяты...), хто нашмат раней прамовіў гэтыя прыгожыя словы — «такое кароткае лета» — і яны перайшлі ў сваё пятае вымярэнне, і зажылі аўтаномна, і могуць наведваць цяпер галовы новых гаспадароў, не пытаючы дазволу ў ранейшых?..

Спатрэбілася паўтара года, каб зразумець, што непакоіць мяне ў прыпеве цудоўнай песні на словы Р. Казаковай:

Переходы, перегрузки,
***Долгий путь домой,***
Вспоминай меня без грусти,
Ненаглядный мой.

Дык гэта ж… назва апошняй прыжыццёвай кнігі светлай памяці Васіля Уладзіміравіча Быкава! Не верыце? Калі ласка: В. Быкаў. ***Доўгая дарога дадому***. ГА БТ «Кніга», Мн. 2002.

У Івана Антонавіча Брыля кніга мініяцюраў называецца «Праблíскі», а ў выдавецтве «Посредник» у 1895 годзе выходзіў зборнік «Проблески»...

Уладзімір Уладзіміравіч Набокаў (які пакінуў даследчыкам сваёй творчасці столькі загадак, што ста пакаленням не разгадаць), з'едліва заўважае:

«...Лёгкі зрух у спектры значэнняў замяняе «Унесенных ветром» (украдзеных з «Цінары» Доўтана) на «Отброшенные розы» (украдзеныя з таго ж верша)...»

У такім разе адкажыце мне: хто б цяпер ведаў пра таго Доўтана з яго «Цінараю» (што гэта ўвогуле за слова такое?), каб не геніяльны раман М. Мітчэл?

## 6

Таксама лепш цытаваць па-руску: прымаўка «Одним миром мазаны». «Миро» — духмяны алей, які варыцца патрыярхам раз у чатыры гады і, звараны, дадаецца па меры неабходнасці ў старыя... Гэта так, для даведкі. Цікава іншае: «миро» слова запазычанае (з грэцкай) і «метро» запазычанае (з французскай). Тады чаму ў першым выпадку мы смела скланяем, а ў другім — не? Чаму б нам не прыслухацца да таго ж Івана Аляксеевіча Скрыгана, які сорак гадоў назад пісаў:

«Усё трымаем у чужаземных такія словы, як «паліто», «піяніна», «кіно», бо не дазваляем іх скланяць, а ў народзе іх усё роўна скланяюць...»

Добра, хопіць. Згодзен з вамі. Усё гэта так неістотна! Вакол бушуюць цыклоны, цунамі, на сонцы выбухі, магнітныя буры, ідуць лакальныя войны, грымяць тэракты, свет перапоўнены катаклізмамі... А мы, купка пісьмен-нікаў, знайшлі праблему: скланяць ці не скланяць слова «метро»!

Успамінаецца эпізод з аповесці Мапасана «На вадзе», пераказаны, дарэчы, Іванам Буніным у сваім апошнім апавяданні «Бернар».

«Чысціні на яхце ён (Бернар) пільнаваўся да таго, што не цярпеў нават кропелькі вады на якой-небудзь меднай частцы...»

«Ды якая карысць чалавецтву, — пытаецца ўжо Бунін, — магла быць у тым, каб Бернар адразу ж кідаўся выціраць тую кроплю? А вось ён выціраў яе. Навошта, чаму?»

«Мы гэтага не ведаем. Але мы павінны ведаць, што ўсё у гэтым незразумелым для нас свеце мае нейкі сэнс, нейкі высокі Божы намер, скіраваны на тое, каб у гэтым свеце стала хоць крышку лепш».

***Мінск, 2005 г.***



## ГАМЕР

# АДЫСЕЯ

## З песні дзевятай

### *Сустрэча з кіклопам Паліфемам*

Вечарам ён падышоў са сваёй гожарунай атарай.
Сытую, спрытна яе загнаў да шырокай пячоры,
Цалкам усю — не пакінуў нікога ў высокім дзядзінцы,
Ці адчуваў што наперад, ці бог падказаў яму гэтак.
Потым ён камень вялізны падняў, уваход заваліў ім,
Тут жа прысеў і даіў тых авечак і коз міркатлівых,
Спрэс па чарзе, і да кожнае маткі падсунуў малое.
А як управіўся ўвішна ён са сваёю работай,
Зноў схапіў двух сярод нас — спажыў іх сабе на вячэру.
Тут да кіклопа бліжэй падышоў я і гэтак прамовіў,
Кубак драўляны трымаючы з цёмным віном напашэве:
«Выпі, кіклопе, віна, чалавечага мяса пад'еўшы,
Каб ты уведаў, якое пітво мы хавалі на нашым
Судне. Табе яго вёз у ахвяру, каб меў ты спагаду:
Выслаў дадому мяне. Але ты ўсё лютуеш нязносна.
Нелюдзь, і як жа пазней да цябе завітае хто-небудзь
З многіх людзей, калі ты заахвоціўся жыць не па праўдзе?»
Так я сказаў. І, узяўшы, ён выпіў. Усцешыўся страшна,
Слодыч п'ючы. І другі мець яму нецярпелася кубак.
«Дай мне яшчэ, будзь ласкавы, віна ды імя сваё ты мне
Зараз скажы, каб я даў падарунак табе на пацеху,
Бо і кіклопам зямля хлебадайная дорыць віно ўсцяж
З гронак буйных, што ад Дзеўсавых лівеняў наўкол сакаўнеюць.
Гэта ж тваё — дык амбросія, чыста нектар адмысловы!»
Так ён сказаў. І падаў я віна зноў іскрыстага кубак.
Тройчы падносіў яму, і тройчы з дурноты ён выпіў.
А як віно ўжо кіклопу розум даволі зацьміла,
Тойчас з салодкімі словамі я да яго адазваўся:
«Хочаш ты ведаць, кіклопе, імя маё слаўнае? Зараз
Я назаву яго. Ты ж мне гасцінец давай — абяцаў жа!

---

***Клышка Анатоль Канстанцінавіч** нарадзіўся 16 красавіка 1935 года ў вёсцы Данейкі Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя», на кінастудыі «Беларусьфільм», у Інстытуце педагогікі Міністэрства асветы БССР, у выдавецтве «Юнацтва».*

*Аўтар кнігі крытычных артыкулаў «Права на верш», больш за дзесятак падручнікаў і дапаможнікаў для школы, многіх кніг для дзяцей. Пераствaрыў з нямецкай мовы на беларускую сатырычна-гумарыстычную аповесць «Шыльдбюргеры», пераклаў са старагрэцкай «Пастушыную аповесць пра Дафніса і Хлою» Лонга і Чатырохевангелле.*

Зваць мяне проста — Ніхто, гэтым імем Ніхто называлі
Маці і бацька, і гэтак мяне ўсе таварышы клічуць».
Так я сказаў, а ён тут жа з бязлітасным сэрцам адпрэчыў:
«Самым апошнім Ніхто з сяброў сваіх з'едзены будзе,
Іх жа я з'ем сама перш. Вось такі для цябе мой гасцінец».
Так ён сказаў, пахіснуўся, на спіну ўпаў, павярнуўшы
Тоўстую шыю набок, і адразу сон усёўладны
Тут жа адолеў яго. А з горла з віном выплывалі
Мяса людскога кавалкі, — віна перапіўшы, рыгаў ён.
Кол я тады засунуў у кучу гарачых вуголляў,
Каб распаліўся, а словамі тут жа адвагі паддаў я
Усім спадарожнікам, — толькі б не ўцёк з іх каторы са страху.
А як аліўкавы кол неўзабаве пачаў разгарацца,
Хоць і сыры быў, заняўся агнём, заірдзеўся жахліва,
Я яго бліжай з агню падцягнуў да кіклопа, наўкола
Сталі сябры мае. Бог натхніў іх вялікай адвагай.
Кол той аліўкавы, дружна хапіўшы, яны і ўвагналі
Вострым канцом у вока кіклопу. Я, зверху налёгшы,
Стаў ім круціць, як у бэльцы якой карабельнай цесля
Круціць свой свердзел, а іншыя знізу круціць памагаюць,
Пасы абапал узяўшы, і свердзел віруе няспынна.
Так мы распаленым вострым канцом круцілі кіклопу
Вока, і кроў гарачым струменем яго залівала.
Полымя ўраз апаліла наўкола бровы і вейкі,
Лопнуў сам яблык, і ўжо ад агню зашыпеў корань вока.
Нібы каваль, што сякеру вялікую ці тую ж скоблю
Суне гарачымі ў холад вады, а яны ў гартаванні
Моцна шыпяць, — і трываласць сваю набірае жалеза, —
Так і вока ў яго пад калом тым ураз зашыпела.
Страшна і моцна завыў ён — выццём адказала пячора.
Мы ўсе ў спалоху пабеглі. А волат імгненна вырваў
З вока аліўкавы кол, заліты густою крывёю,
Тут жа рукамі адкінуў яго ад сябе — у шаленстве —
Голасам моцным паклікаў кіклопаў, якія ў суседстве
Побач жылі па пячорах у скалах, абвеяных ветрам.
Чуючы крык, яны адусюль пазбягаліся спешна,
Перад пячорай пасталі і запыталіся, што з ім:
«Што за такая напасць, Паліфеме? Навошта крычыш ты
У амбрасійную ноч і салодкі нам сон адбіраеш?
Ці хто са смертных гвалтоўна авечак тваіх выганяе,
Ці хто падступствам ці сілай самога цябе забівае?»
Ім жа з пячоры ў адказ закрычаў Паліфем найдужэйшы:
«Любыя, чуйце! Ніхто мяне сілай не губіць, тут хітрасць!»
Тут жа ад іх у адказ паляцелі крылатыя словы:
«Што ж, як адзін ты і гвалту ніхто над табою не чыніць,
Хто ж уратуе цябе ад хваробы вялікага Дзеўса?
Лепей маліся ты бацьку — уладару Пасейдону!»
Гэтак сказаўшы, пайшлі; маё ж рассмяялася сэрца,
Як падманулі яго імя маё, трапная хітрасць.
Енчыў тым часам кіклоп, заходзіўся ў курчах ад болю,
Камень, аднак жа, рукамі намацаў, адсунуў ад выйсця,
Сам каля выйсця рассеўся, рукі шырока расставіў,

Каб прылавіць, калі хто з нас хацеў бы з авечкамі вымкнуць.
Вось якім дурнем мяне мець у думках сваіх спадзяваўся!
Я ж тут абдумваць пачаў, як найлепей з усім разабрацца,
Каб паратунак знайсці для таварышаў любых
І для сябе. Усялякія планы снаваў і падступствы,
Бо пра жыццё тут ішло, а вялікае ліха — ўжо блізка.
Вось жа якая найлепшаю мне паказалася рада:
Там навакол было шмат бараноў, мажных, густарунных,
Гожых, вялікіх — на выбар, з фіялкава-цёмнаю воўнай.
Іх я пацíху звязаў адмысловаю віткай з лазы той,
Дзе спаў звычайна кіклоп, пачвара, што грэбаваў правам.
Трох бараноў браў, — сярэдні з іх нёс пад сабой чалавека,
А два другія з абодвух бакоў яго прыкрывалі.
Кожная тройка нясла аднаго чалавека. А сам я...
Быў у пячоры баран з усяе чарады найдужэйшы,
Я і ўхапіўся за карак, пад пузам кудлатым стаіўся
Лежачы, рукі свае запусціўшы ў цудоўную воўну,
І вытрывала вісеў так, поўны нязломнага духу.
Гэтак чакалі мы, цяжка ўздыхаючы, боскую Эас.
Ледзь заяснела з імглы ружапраменная Эас.
Тут жа самцы з чарады шуганулі да выйсця на пашу,
Маткі ж, а іх не даілі, у стойлах трывожна бляялі,
Вымі набраклі у іх. Гаспадар, страшна церпячы з болю
Лютага, спіны ва ўсіх бараноў паасобку абмацваў,
Што паўз яго прабягалі. Ён, блазан, зусім не заўважыў,
Што́ пад грудзьмі бараноў густарунных было падвязана.
Самым апошнім з атары падходзіў да выйсця баран мой,
Воўну сваю несучы і мяне, заглыблёнага ў думкі.
Спіну абмацаў яму і сказаў Паліфем шматмагутны:
«Мілы бàране, чаму ж ты апошнім выходзіш з пячоры
Сёння? Ніколі даўней не ішоў за авечкамі ззаду.
Першым ты бег, каб паскубсці мяккія кветкі на лузе,
Шпаркімі крокамі; першы ты сходзіў да плыні рачное,
Першым і з пашы заўсёды спяшаўся вярнуцца ў кашару
Вечарам. Сёння ж ты самы апошні! Напэўна, шкадуеш
Гаспадаровае вока, што выпек дашчэнту зламыснік
Разам з ліхімі сябрамі, віном перш зацьміўшы мне розум.
Гэты Ніхто! Аднак я скажу: не ўцячэ ён ад згубы!
Меў бы ты розум, як я, і быў бы адораны мовай,
Ты мне б сказаў, дзе ад гневу майго ён схаваўся.
Я яго вобземлю бразнуў бы так, што скрозь бы пячору
Мозгам ягоным апырскаў, — тады б маё сэрца палёгку
Мела б ад гэтых пакут, што нікчэмны Ніхто нарабіў мне».
Гэтак сказаўшы, ураз адпусціў барана ён за дзверы.
І, калі зводдаль ужо мы былі ад пячоры, дзядзінца,
Перш адпусціў барана я, пасля і сяброў паадвязваў.
Хутка пагналі мы ўсёй грамадой танканогіх тлустых авечак,
З розных бакоў іх у статак збіралі, пакуль не прыгналі
На карабель. Таварышы любыя радасна стрэлі
Нас, ацалелых, — па тых жа, хто згінуў, наўзрыд галасілі.
Болей я, кожнаму з іх варухнуўшы брывом, не дазволіў
Плакаць, а ўраз загадаў ім усіх пышнарунных авечак

Кідаць на борт як хутчэй і адплыць салёнай вадою.
На карабель яны хутка ўзышлі, да ўключын прыселі
Следам адзін за адным і ляснулі вёсламі мора сівое.
І, калі досыць адплыў, але мог дасягнуць яшчэ крыкам,
Здзекліва я на ўвесь голас тады пракрычаў Паліфему:
«Ну, што, кіклопе? Не безабаронны быў той, у каго ты
Зжор у глыбокай пячоры сяброў, упэўнены ў сіле.
Гэта цябе і павінна было напаткаць за злачынства,
Злыдзень, які не баяўся гасцей у сваім нават доме
Жэрці! З табою вось так паквітаўся сам Дзеўс і багі ўсе».
Так я сказаў, і яго яшчэ большая злосць ахапіла.
Верх ад высокай гары адарваўшы ў шалёным запале,
Кінуў яго перад самым якраз караблём чарнаносым
[Ледзь у стырно не патрапіла тая каменная глыба].
Мора адскочыла ўраз пад цяжарам скалы, што ўпала,
Хваля зваротная несла імкліва назад нас на сушу.
З мора магутным прылівам судна прыбіла на бераг.
Шост даўжэзны тады хапіў я імгненна аберуч
І адпіхнуў карабель, таварышам кінуў каманду,
[Каб паналеглі на вёслы, як хочуць унікнуць няшчасця],
Знак даючы галавой. І, налёгшы, яны веславалі.
А як ужо ў два разы, чым раней, аддаліліся ў мора,
Зноў я памкнуўся крычаць да кіклопа. Сябры ж, абступіўшы,
Тут жа мяне напярэймы спынялі зычлівай гаворкай:
«Дзёрзкі! Навошта цяпер з дзікуном ты ўздумаў дражніцца?
Кінуў ён глыбу ў мора, пагнаўшы назад карабель наш
Проста на сушу, мы думалі нават, што там і загінем.
І, калі голас ён нейчы пачуе ці слова якое,
Голавы нам разнясе і ўсе карабельныя бэлькі,
Кінуўшы востравугольныя глыбы, — тут сіл не забракне».
Гэтак казалі, але не пачула зухвалае сэрца,
І яшчэ раз да кіклопа я крыкнуў з разгневаным духам:
«Гэй ты, кіклопе, калі хто са смертных людзей запытае,
Хто так ганебна цябе асляпіў, яму адкажы ты:
Выпаліў вока табе Адысей, гарадоў руйнавальнік,
Сын Лаэртаў, што мае свой дом на скалістай Ітацы».
Так я сказаў, і ў адказ мне пачуліся енкат і словы:
«Ліха мне! Вось і збылося старое багоў вешчаванне.
Быў тут адзін варажбіт, прыгожы сабою, вялікі
Тэлем, Эўрымія сын, у вяшчунстве ні з кім незраўнаны,
Так ён, вяшчуючы тут у кіклопаў, і састарэўся.
Ён мне якраз і прарочыў, што ўсё гэта спраўдзіцца калісь,
Што непазбежна я страчу свой зрок ад рук Адысея.
Я і чакаў увесь час чалавека вялікага, гожага стану,
Што завітае да нас, ахінуты, напэўна, вялікаю сілай.
Сёння ж зусім неўспадзеўкі малы і нікчэмны слабак тут
Вока пазбавіў мяне, віном перш зацьміўшы мне розум.
Едзь жа сюды, Адысей, каб табе я мог даць падарунак
І папрасіць Землятруса дазволіць праезд твой дадому,
Я ж яго сын, і ён ганарыцца папраўдзе быць маім бацькам.
Ён мяне вылечыць сам, як захоча, бо ніхто іншы
Ні са шчаслівых багоў, ні са смертнага люду не зможа».

Так ён сказаў, і я тут жа ў адказ яму хутка прамовіў:
«О, каб я мог так пазбавіць цябе і жыцця, і дыхання
І запраторыць туды, у падземны прытулак Аіда,
Як гэта праўда, што вока твайго Землятрус не загоіць!»
Так я сказаў, і пачаў ён тады ўладару Пасейдону
Модлы ўзносіць, прасцёршы рукі дзве да зорнага неба:
«Ты мяне ўчуй, Пасейдоне, гайданец зямлі чарнагрывы!
Як сапраўды я твой сын і ты горды быць маім бацькам,
Дай, каб не трапіў дамоў Адысей, гарадоў руйнавальнік
[Сын Лаэртаў, што мае свой дом на скалістай Ітацы]!
А калі хоча ўжо доля, каб ён сваіх блізкіх убачыў
І увайшоў у свой добра збудаваны дом, у край свой,
То хай ён вернецца позна і ў горы, па страце ўсіх мараплаўцаў,
І на чужым караблі, а дома нядолю застане!»
Так ён казаў і маліўся, і слухаў яго Чарнагрывы.
Зноў ён хапіў у запале цяпер яшчэ большую глыбу
І, размахнуўшыся ёю, напружыўшы ўсе свае сілы,
Кінуў пабліз карабля чарнаносага, трохі ўжо ззаду,
Ледзь у карму не патрапіла тая каменная глыба.
Мора адскочыла ўраз пад цяжарам скалы, што ўпала,
Хваля наперад нясла карабель і прыбіла на бераг.
Там і на востраў прыйшлі, дзе заставалася рэшта нашых
Іншых з трывалаю палубай суднаў, з сябрамі,
Што, тут чакаючы нас, зажурыўшыся, вокал сядзелі.
Сушы дасягшы, мы свой карабель на пясок усцягнулі,
Самі ўсе з радасцю выйшлі на бераг шумлівага мора.
Статак кіклопа сагнаўшы з полага судна, пароўну
Мы між сабой падзялілі — без долі ніхто не застаўся.
Мне ж барана дадалі сябры ў нагалённіках гожых,
Дзелячы гэтую жыўнасць. І на ўзбярэжжы ў ахвяру
Я чарнахмарнаму Дзеўсу Краніду, што ўсім уладарыць,
Тут барановыя сцёгны спаліў. Не прыняў Дзеўс ахвяры,
Бо ўжо задумаў усе караблі з трывалаю палубай нашы
Разам з маімі сябрамі адданымі знішчыць дарэшты.
Так мы тады цэлы дзень аж да захаду сонца сядзелі,
Раскашаваліся мясам, салодкім вінам запівалі.
Хутка і сонца зайшло, і цемра начная настала.
Мы ўсе тады паўкладаліся спаць на беразе мора.
Ледзь заяснела з імглы ружапраменная Эас,
Я пабудзіў мараплаўцаў і ім загадаў неадкладна
Тут жа на борт узысці і ўсе паадвязваць прычалы.
На карабель яны ўскочылі хутка, да ўключын прыселі
Следам адзін за адным іляснулі вёсламі хвалі.
З месца таго мы далей паплылі з замаркочаным сэрцам,
Рады: ад смерці ўцяклі, ды сяброў сваіх страцілі мілых.

*Са старагрэцкай пераклаў Анатоль Клышка.*






# ПОЛЫМЯ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ



**Уладзімір ЦАЛКО,**

Старшыня Камітэта па праблемах
вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС
пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь

# З ТРЫВОГАЙ ЗА ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

**Споўнілася дзевятнаццатая гадавіна чарнобыльскай атамнай катастрофы. Адзін з красавіцкіх дзён далёкага 1986-га стаў апошнім днём спакойнага чалавечага жыцця — дачарнобыльскага. 26 красавіка і для нашай краіны пачаўся адлік постчарнобыльскай эры. Усе гэтыя гады беларускі народ лечыць параненую душу — вядзецца будаўніцтва новага жылля, праводзяцца работы па рэабілітацыі забруджаных тэрыторый. У змаганні з Чарнобылем — нанесеным ім уронам — паядналіся вучоныя, медыкі і дзяржаўнікі. Тысячы нашых суайчыннікаў раздзялілі лёс чарнобыльскіх выгнаннікаў, сотні ўдзельнікаў ліквідацыі самай жахотнай катастрофы XX стагоддзя знайшлі ўжо спачын на кладах, не выстаяўшы перад грознымі чарнобыльскімі наступствамі. Дзесяткі юных беларусаў, народжаных пасля чарнобыльскай катастрофы, спаткаліся з няўцешным медыцынскім дыягназам — рак шчытападобнай залозы. Тысячы дзяцей Беларусі з пацярпелых раёнаў праходзяць штогод планавае аздараўленне ў медыцынскіх установах краіны, блізкага і далёкага замежжа.**

**Мы жывём у коле постчарнобыльскіх праблем, ведаючы, што толькі належнае іх вырашэнне зробіць жыццё сучасных і будучых пакаленняў насельнікаў нашай зямлі па-годнаму чалавечым.**

**Ці ўсё магчымае робіць Беларусь, каб па-дзяржаўнаму мудра і клопатна размінуцца з пагрозай усіх магчымых наступстваў ядзернай катастрофы?**

**З многімі пытаннямі гэтага кшталту рэдакцыя часопіса «Полымя» звярнулася да старшыні Камітэта па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Рыгоравіча Цалко.**

*— Паважаны Уладзімір Рыгоравіч, ужо не першая дзяржаўная чарнобыльская праграма працуе на будучыню Беларусі. Што вы можаце сказаць аб выкананні бягучай?*

Мерапрыемствы, запланаваныя на 2004 год Дзяржаўнай праграмай па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 2001 — 2005 гады і на перыяд да 2010 года, у цэлым па рэспубліцы выкананы. Галоўнае, што праграма мела нармальнае фінансаванне: з рэспубліканскага бюджэту на ажыццяўленне мерапрыемстваў праграмы было выдзелена 431,1 мільярда рублёў. Больш таго, у канцы года мы атрымалі нават дадатковыя сродкі (44,8 мільярда рублёў) для далейшай рэалізацыі запланаваных праграмай мерапрыемстваў.

Так, у 2001 — 2004 гадах мы ўжо амаль закончылі перасяленне грамадзян, таму большую колькасць грашовых сродкаў можна было накіраваць на правя-

дзенне мерапрыемстваў па забеспячэнні радыяцыйнай абароны пацярпелага насельніцтва і ахоўных мер у аграпрамысловым комплексе. Калі ў 1999 — 2000 гадах на гэтыя мэты выдзялялася не больш за 7 працэнтаў ад агульнага фінансавання дзяржаўнай праграмы, то ў 2001 — 2002 гадах было выдзелена ўдвая больш, у 2003 годзе — 17 працэнтаў, а ў 2004 годзе ўкладзена звыш 85 мільярдаў рублёў. Дзякуючы гэтаму ўпершыню ўдалося поўнасцю забяспечыць пастаўку фосфарных і калійных удабрэнняў, неабходных для зніжэння паступлення радыенуклідаў у сельскагаспадарчую прадукцыю. Работы па змяншэнні павышанай кіслотнасці глебы шляхам вапнавання ў асобных забруджаных радыенуклідамі раёнах у 2004 годзе таксама выкананы ў адпаведнасці з гадавым планам і з улікам ліквідацыі адставання ў мінулыя гады.

Аб эфектыўнасці рэалізацыі ў 2001 — 2004 гадах ахоўных мер у аграпрамысловым комплексе можна меркаваць па тым, што аб'ём атрыманага ў грамадскім сектары малака і мяса абмежаванага выкарыстання знізіўся за гэтыя чатыры гады ў некалькі разоў. Не так хутка, як хацелася б, але ўсё ж няўхільна скарачаецца і колькасць населеных пунктаў, дзе яшчэ атрымліваюць «бруднае» малако на асабістых падвор'ях. Істотна знізіліся за гэтыя гады і сярэднія канцэнтрацыі радыенуклідаў у малацэ. Усё гэта дасягнута ў выніку стварэння ў 2001 — 2004 гадах культурных кармавых сенажацей на плошчы звыш 32 тысяч гектараў, падкормкі азотнымі ўдабрэннямі культурных паш для асабістай жывёлы, якая праводзіцца з 2003 года. Асноўныя задачы ў будучым бачацца ў неабходнасці падтрымання ўрадлівасці глеб як асноўнага бар'ера на шляху радыенуклідаў у прадукцыю і ажыццяўлення далейшых мерапрыемстваў па зніжэнні страт гаспадарак з-за розніцы цэн на харчовае і фуражнае збожжа ў сувязі з утрыманнем стронцыю-90.

Хочацца сказаць добрыя словы ў адрас тых арганізацый, якія многа зрабілі для вырашэння чарнобыльскіх праблем у першыя гады рэалізацыі гэтай дзяржаўнай праграмы.

У першую чаргу трэба назваць Інстытут глебазнаўства і аграхіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (дырэктар Іосіф Міхайлавіч Багдзевіч). Устаноў выкананы даследаванні, вынікі якіх пакладзены ў аснову дакументаў па вядзенні сельскай гаспадаркі ва ўмовах радыеактыўнага забруджання. У іх ліку рэкамендацыі па вядзенні аграпрамысловай вытворчасці і па вытворчасці прадуктаў харчавання на прысядзібных участках, забруджаных радыенуклідамі. Выкананне гэтых рэкамендацый дазволіла за апошнія пяць гадоў знізіць у грамадскім сектары ў 5,5 раза вытворчасць малака з перавышэннем дапушчальнага ўтрымання цэзію-137, у прыватным сектары — у 1,7 раза, вяртанне жывёлы з мясакамбінатаў — у 2 разы. Радуе, што інстытут знайшоў магчымасці для працягвання работ па дзяржаўнай праграме шляхам арганізацыі тэрытарыяльнага аддзела ў Гомелі.

Інстытутам радыеэкалагічных праблем Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (дырэктар Уладзімір Уладзіміравіч Скурат) распрацавана шмат арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў і дакументаў для забеспячэння радыяцыйна-экалагічнай бяспекі сацыяльных і гаспадарчых аб'ектаў. У 2004 годзе ўзгоднены і зацверджаны рэспубліканскія кантрольныя ўзроўні радыеактыўнага забруджання паверхні будынкаў, збудаванняў, канструкцый, будматэрыялаў, абсталявання, кантрольныя ўзроўні радыеактыўнага забруджання для прыняцця рашэння аб правядзенні дэзактывацыйных работ, кантрольны ўзровень забруджання цэзіем-137 грунту для рэкультывацыі тэрыторый, на якіх праводзіцца дэзактывацыя. У цяперашні час гэтыя работы, якія маюць важнае значэнне, на жаль, замарожаны. Кіраўніцтва Камчарнобыля і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі павінна знайсці магчымасць для іх аднаўлення.

З 2002 года пачата рэалізацыя навукова абгрунтаваных праграм пераспецыялізацыі найбольш забруджаных радыенуклідамі гаспадарак Гомельскай вобласці, а з 2003 года — Магілёўскай вобласці. Усяго на правядзенне пераспецыялізацыі Камчарнобыль накіраваў 17,3 мільярда рублёў. Аднак у сувязі з недас-

татковасцю фінансавых сродкаў далёка не ўсё запланаванае ў 2002 — 2004 гадах удалося ажыццявіць. Гэта работа будзе выконвацца ў бягучым годзе, і нейкая яе частка — нават у 2006 годзе. Сёння мы, па сутнасці, ужо можам аналізаваць першыя вынікі пераспецыялізацыі, меркаваць па іх аб выніковасці ўкладзеных дзяржаўных сродкаў. Тым больш што на парадку дня — распрацоўка новых праграм пераспецыялізацыі. У адпаведнасці з даручэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь уся гэта работа павінна завяршыцца ў 2007 годзе.

*— Ці ўдасканальваецца сістэма кантролю за якасцю харчовых прадуктаў і сельскагаспадарчай прадукцыі, і як ён праводзіцца?*

Што датычыцца ўдасканалення сістэмы радыяцыйнага кантролю харчовых прадуктаў, сельскагаспадарчай і іншай прадукцыі, сыравіны, то тут мясцовымі цэнтрамі радыяцыйнага кантролю назапашаны немалы станоўчы вопыт. Правядзенне aпeратыўнага радыяцыйнага кантролю непасрэдна ў населеных пунктах добра сказваецца на сацыяльна-псіхалагічным клімаце, дае магчымасць кантраляваць любыя віды прадуктаў харчавання, робіць непатрэбнымі зацяжныя паездкі ў раённыя радыелагічныя службы. Ды і давяраюць гэтаму кантролю людзі больш, бо вымярэнні праводзяць мясцовыя работнікі.

У 2004 годзе эксплуатацыя ўсіх мясцовых цэнтраў радыяцыйнага кантролю была даручана Інстытуту радыялогіі. Наспела неабходнасць ажыццявіць удакладненне рэспубліканскіх дапушчальных узроўняў утрымання радыенуклідаў у харчовых прадуктах — такая прапанова прагучала ў мінулым годзе на чацвёртай Рэспубліканскай нарадзе па праблемах радыяцыйнага кантролю. Для гэтага ў нас створаны як эканамічная, так і матэрыяльная перадумовы. Аднак нельга разглядаць гэта пытанне толькі як збліжэнне з патрабаваннямі нарматыўных дакументаў іншых краін, і ў першую чаргу Расіі. Трэба зыходзіць з рэальнай неабходнасці кантралявання тых або іншых аб'ектаў, а таксама патрэбна ўзгадненне з новай рэдакцыяй Палажэння аб кантролі радыеактыўнага забруджання ў Беларусі, распрацоўка якога, на жаль, зацягваецца.

Вялікая ўвага ўдзялялася забеспячэнню сістэмы радыяцыйнага кантролю прыборамі. Да таго ж павышанай увагі патрабуе і аснашчэнне ветэрынарнай службы прыборамі прыжыццёвай радыеметрыі жывёлы. Многія з іх вычарпалі свой рэсурс.

Працягвалася абнаўленне карт радыяцыйнага становішча: рэспубліканская надрукавана ў 2001 і 2004 гадах, а карты радыяцыйнага становішча на тэрыторыях Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей — у 2003 і 2004 гадах. Доўга і цяжка ішло абнаўленне Пераліку населеных пунктаў і аб'ектаў, якія знаходзяцца ў зонах радыеактыўнага забруджання. Нагадаю, што ён пераглядваўся ў 2002 і 2004 гадах. Нягледзячы на тое, што гэты дакумент быў прыняты Саветам Міністраў ужо ў чацвёртай рэдакцыі, даводзіцца звяртаць увагу на няведанне чарнобыльскага заканадаўства кіраўнікамі мясцовых органаў улады.

Асаблівае значэнне надавалася забеспячэнню ўтрымання зон адчужэння і адсялення. За гэты ўчастак нясуць адказнасць адміністрацыя зон адчужэння і адсялення і Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Адной з задач адміністрацыі зон адчужэння і адсялення на бліжэйшы час з'яўляецца павышэнне каардынуючай ролі ў планаванні ўсіх спецыяльных работ у зоне адсялення, у першую чаргу ў планаванні ў цесным узаемадзеянні з мясцовымі органамі кіравання захавання ў магільнікі адселеных вёсак і аб'ектаў, зыходзячы пры гэтым з патрабавання аптымізацыі затрат на ўтрыманне зоны адсялення.

Ужо сама назва адміністрацыі гаворыць пра тое, што гэта структура павінна стаць, акрамя ўсяго іншага, цэнтрам збору звестак аб жыццядзейнасці людзей, якія пражываюць на тэрыторыі зоны адсялення, і праблемах, з якімі судакранаюцца тыя, хто добраахвотна застаўся на землях з надзвычайнай радыяцыйнай небяспекай. Сёння мы маем патрэбу ў сістэмным аналізе на гэтых тэрыторыях эканамічных і сацыяльна-псіхалагічных праблем і характэрных тэндэнцый у першую чаргу ў сувязі з неабходнасцю рэалізацыі дзяржаўнай ідэалогіі, якая патра-

бує дакладных уяўленняў аб «экстрэмальнай» групе нашых грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пражываюць на тэрыторыях адчужэння і адсялення, а таксама папаўняюць гэты цяпер ужо далёка не аднародны склад насельніцтва. Толькі дакладнае ўяўленне пра тое, што цяпер адбываецца ў зоне, дазволіць нам распрацаваць меры своечасовага ўздзеяння на развіццё сітуацыі, прыняць правільныя, у тым ліку і палітычныя, рашэнні.

*— Палескі радыелагічны запаведнік — тэрыторыя «зоны». Які яго сягоняшні і заўтрашні лёс?*

Што датычыцца Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка — буйнейшага структурнага падраздзялення Камчарнобыля, унікальнай і спецыфічнай арганізацыі, аналагаў якой няма ў свеце, патрэбна сказаць, што неабходна падняць на новы якасны ўзровень яго як прафесійную, так і гаспадарчую дзейнасць. Між іншым, за кошт пазабюджэтных сродкаў стан спраў тут выпраўлены быць не можа. Не лішнім уяўляецца стварэнне спецыяльнага фонду дапамогі гэтай установе з прыцягненнем сродкаў замежных і айчынных інвестараў для фінансавання праектаў самай разнастайнай накіраванасці. Неабходна вызначыць магчымыя напрамкі інвестыцый, распрацаваць бізнес-планы, правесці вялікую агітацыйную работу. Гэты зачын павінен стаць базісам для вызначэння задач запаведніка на чарговы перыяд рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, гэта значыць на 2006 — 2010 гады.

*— Абарона інтарэсаў пацярпелых людзей і пацярпелых тэрыторый, як вядома, галоўнае ў працы вашага камітэта. Што робіцца сягоння ў гэтым кірунку?*

Сапраўды, самай галоўнай для нас па-ранейшаму застаецца абарона інтарэсаў пацярпелых людзей і тэрыторый. Значная частка бюджэтных сродкаў — 304,4 мільярда рублёў — выкарыстана на фінансаванне расходаў, звязаных з выплатай чарнобыльскіх дапамог, арганізацыяй харчавання і аздараўленнем дзяцей.

Сёння ўзяты курс на пераасэнсаванне сацыяльнай дапамогі, бо яе сэнс не ў тым, каб цешыць людзей беспамернымі, а таму міфічнымі льготамі і кампенсацыямі. У рэшце рэшт і казна ў нас не бяздонная, ды і ўсё бясплатнае яшчэ нікому і ніколі не ішло на карысць. Таму і курс узяты на стварэнне ў пацярпелых раёнах такіх умоў, каб людзі тут маглі нармальна жыць, поўнасцю рэалізавацца і самі падняць свой дабрабыт. Дзяржава, зразумела, павінна дапамагчы ім у гэтым, невыпадкова акцэнт сёння робіцца на падняцці эканомікі забруджаных радыенуклідамі рэгіёнаў, каб яны сталі самафінансаванымі.

Варта сказаць асобна аб неабходнасці далейшых сумесных намаганняў Камчарнобыля і райвыканкамаў у пытаннях забеспячэння грамадзян жыллём. Нас не задавальняе колькасць спецыяльна пабудаванага жылля, а таксама абурае тое, што паміж уводам у эксплуатацыю дома і магчымасцю рэальнага засялення кватэр праходзяць тры-чатыры месяцы і больш. У асноўным гэта датычыцца Гомельскай вобласці, дзе такія выпадкі далёка не адзінкавыя. Нямала пытанняў узнікала ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях і пры засяленні спецыяльна пабудаванага жылля спецыялістамі, дзе, акрамя ўсяго, яно выкарыстоўвалася не для прыцягнення новых высокакваліфікаваных кадраў, якіх так не хапае ў забруджаных радыенуклідамі раёнах, а для паляпшэння жыллёвых умоў тых, хто дзесяткі гадоў там жыве і працуе. Працягваецца заганная практыка будаўніцтва жылля для спецыялістаў не непасрэдна ў месцах іх работы, а ў раённых цэнтрах, што спрыяе не замацаванню, а адтоку маладых кадраў з вёскі. Відавочна прамое ігнараванне райвыканкамамі даручэнняў Кіраўніка дзяржавы аб развіцці сельскіх населеных пунктаў. Нярэдкія выпадкі, калі спецыяльна пабудаванае жыллё мае большую плошчу, чым прадугледжана законам, або яго ўзвядзенне ператвараецца ў даўгабуд. У Мінскай вобласці, наадварот, пры размеркаванні жылля асобам, якія сталі інвалідамі з прычыны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у шэрагу выпадкаў парушалася іх права на атрыманне дадатковай плошчы ў выглядзе асобнага пакоя або 15 квадратных метраў агульнай плошчы жылога памяшкання. Прыцесненай у сваіх правах аказалася кожная пятая сям'я інвалідаў.

І яшчэ адзін прыклад. У 2003 годзе падраздзяленні «Белэнерга» Гродзенскай вобласці самавольна адмянілі льготу па аплаце за электраэнергію сем'ям, аднак захавалі яе толькі за інвалідам. На шматлікія звароты наконт гэтага рэакцыі мясцовых улад не адбылося. У 2004 годзе вопыт гродзенскіх энергетыкаў пачалі ўкараняць у Гомельскай і Мінскай абласцях. І ў чарговы раз мясцовыя ўлады захоўваюць маўчанне або абмяжоўваюцца тэлефоннымі званкамі, пісьмамі ў Камчарнобыль — дайце, маўляў, растлумачэнне.

Падчас наведвання чарнобыльскіх рэгіёнаў мне не раз даводзілася чуць ад людзей: адносіны да чарнобыльскай праблемы заўважна змяніліся. Даводзіцца ўдакладняць, што змянілася, і прыводзіць лічбы і факты, якія пераконваюць у тым, што сацыяльная палітыка дзяржавы ў адносінах да забруджаных радыяцыяй раёнаў не толькі не змяняецца, але, наадварот, узмацняецца. Вось і ў 2001 — 2004 гадах у гэтых раёнах і ў пасёлках перасяленцаў было ўведзена ў эксплуатацыю 1617 кватэр агульнай плошчай больш за 100 тысяч квадратных метраў, пабудавана агульнаадукацыйных школ на 1627 вучнёўскіх месцаў, дашкольных устаноў — на 35 месцаў, амбулаторый і паліклінік — на 390 наведанняў у змену, стацыянараў — на 480 ложкаў.

У цэлым за 2001 — 2004 гады на фінансаванне аб'ектаў, якія будуюцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, накіраваных на рэалізацыю Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, выдзелена 190,5 мільярда рублёў, у тым ліку ў 2004 годзе — 52,7 мільярда рублёў. Асвоена 175 мільярдаў рублёў, у тым ліку ў 2004 годзе — 47,8 мільярда рублёў. Уведзены ў эксплуатацыю ўсе запланаваныя чарнобыльскія аб'екты. Поўнасцю забяспечаны і ўвод аб'ектаў, пабудаваных у адпаведнасці з прэзідэнцкай праграмай «Дзеці Беларусі» (падпраграма «Дзеці Чарнобыля»). У бягучым годзе для яе паспяховага завяршэння нам патрэбна ўвесці ў эксплуатацыю спальныя карпусы ў дзіцячых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтрах «Колас», «Ветразь», «Лясная паляна», пабудаваць дзве школы ў «Світанку» і «Пралесцы», лячэбныя карпусы ў цэнтрах «Жамчужына», «Ветразь» і «Пціч», 38-кватэрны жылы дом у дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры «Ждановічы».

*— Газіфікацыя Палесся. У апошнія гады гэтыя словы сталі дамінуючымі ў свядомасці нашых людзей. Што ўжо зроблена ў гэтым напрамку?*

У 2004 годзе датэрмінова (з выкананнем задання на 119 працэнтаў) выканана ўрадавая Праграма газіфікацыі ў 2001 — 2005 гадах індывідуальных жылых дамоў у забруджаных радыенуклідамі раёнах. Замест запланаваных 8376 жылых дамоў газіфікавана 9974. Ужо распрацавана такая ж праграма на 2005 — 2007 гады, у якой прадугледжваецца будаўніцтва газавых сетак нізкага і сярэдняга ціску агульнай працягласцю больш за 300 кіламетраў і газіфікацыя каля 12 тысяч жылых дамоў. Фінансаванне гэтай праграмы будзе ажыццяўляцца як за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, так і за кошт інавацыйнага фонду Міністэрства энергетыкі.

*— Медыцынская рэабілітацыя пацярпелага насельніцтва. Як сягоння вырашаецца гэта пытанне?*

Адно толькі тое, што ў цэнтры ўвагі Кіраўніка дзяржавы, які наведаў у красавіку 2004 года Гомельшчыну, была медыцынская рэабілітацыя пацярпелага насельніцтва, гаворыць пра многае. У рэспубліцы ў гэтым напрамку рэалізуецца цэлая сістэма мер: пад спецыяльным медыцынскім наглядам знаходзіцца больш за 1,5 мільёна чалавек, з іх звыш 330 тысяч — дзеці. З 1998 года не маюць тэндэнцыі росту і на 15 працэнтаў ніжэй рэспубліканскіх паказчыкаў першасныя захворванні пацярпелых дзяцей. Зменшылася і на працягу апошніх гадоў не перавышае 16 — 18 працэнтаў сярод іх група хранічна хворых. Разам з тым, паводле даных на пачатак 2004 года, узровень захворвання злаякаснымі ўтварэннямі сярод хранічна хворых дзяцей павялічыўся і склаў 13,9 выпадка на 100 тысяч дзіцячага насельніцтва. З 2001 года ў 3,5 раза павялічыліся захворванні пацярпелага насельніцтва на рак шчытападобнай залозы, больш чым у два

разы — захворванні дабраякаснымі новаўтварэннямі. Вострай праблемай застаюцца захворванні эндакрыннай сістэмы, колькасць якіх на забруджаных тэрыторыях на 20 працэнтаў вышэй, чым у сярэднім па рэспубліцы.

Так, медыцынскае абслугоўванне насельніцтва забруджаных радыенуклідамі рэгіёнаў вельмі ўскладняецца з-за нізкай укамплектаванасці медыцынскімі кадрамі: у Брэсцкай вобласці — на 69 працэнтаў, у Гомельскай — на 64 працэнты, а ў Магілёўскай — на 57 працэнтаў. Не зусім эфектыўнае, калі меркаваць па згаданай статыстыцы, і санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне. На працягу 2004 года яго атрымалі каля 398 тысяч чалавек, у тым ліку 335 тысяч дзяцей. Толькі 40 працэнтаў іх праходзілі аздараўленне ў здраўніцах, якія маюць статус дзіцячых. Да гэтага часу не вырашана пытанне бясплатнага праезду дзяцей да месцаў аздараўлення і назад. Камчарнобылем быў падрыхтаваны праект указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб увядзенні гэтай меры, якую, на наш погляд, трэба разглядаць як меру не толькі медыцынскай, але і сацыяльнай абароны, на што, аднак, да гэтай пары не атрымана згода Міністэрства фінансаў і Камітэта дзяржаўнага кантролю.

Прыкладам дзіцячых санаторна-курортных арганізацый, створаных для прыёму арганізаваных груп дзяцей, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы, з'яўляюцца дзіцячыя рэабілітацыйна-аздараўленчыя цэнтры. Цяпер у гэту сістэму ўваходзіць дзевяць падобных здраўніц, якія разлічаны разам на 2600 месцаў. Толькі ў 2004 годзе ў іх прайшлі паўнацэннае санаторна-курортнае лячэнне або аздараўленне каля 33 тысяч дзяцей, або 14 працэнтаў ад агульнага ліку дзяцей, якія прайшлі аздараўленне ў рэспубліцы. Мала? Але ў 1994 годзе, калі былі адкрыты першыя цэнтры «Надзея» і «Пціч», гэты лік складаў 0,1 працэнта.

У цяперашні час вядзецца работа па перападпарадкаванні дзіцячых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў абласным выканаўчым камітэтам. Адзначу, што змена ўласніка зусім не азначае змены напрамку іх дзейнасці. Разам з дакументамі па перадачы Камчарнобыль падрыхтаваў праект рашэння ўрада, якое накіравана на забеспячэнне паўнацэннай дзейнасці цэнтраў у адпаведнасці з іх мэтавым прызначэннем, гэта значыць на забеспячэнне доўгатэрміновых гарантый выканання Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» у частцы арганізацыі санаторна-курортнага лячэння або аздараўлення дзяцей. Камчарнобыль як каардынатар дзейнасці па пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы зацікаўлены ў тым, каб цэнтры і надалей выкарыстоўваліся на поўную магутнасць для аздараўлення дзяцей, якія пражываюць у раёнах радыяцыйнага забруджання. Для гэтага ў іх створаны ўсе ўмовы. Мы спадзяёмся на ўзаемаразуменне і канструктыўнае супрацоўніцтва ў гэтым напрамку з аблвыканкамамі. Хачу падкрэсліць, што будучыя перамены, гэта значыць рэфармаванне, яшчэ больш узмацняюць каардынуючую, кантралюючую і кансультатыўную ролю ў рабоце з дзіцячымі цэнтрамі аддзела аздараўлення камітэта.

*— Наколькі сур'ёзным з'яўляецца рэфармаванне ў галіне навуковага забеспячэння праграмы?*

Паказальна, што з праблемамі рэфармавання, змены прыярытэтаў першым судакрануўся раздзел навуковага забеспячэння Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Гэтыя працэсы адбываліся ў 2002 — 2003 гадах і праходзілі даволі хваравіта. Нагадаю два ключавыя моманты. Па-першае, у мэтах выканання даручэнняў Кіраўніка дзяржавы ўсе галаўныя арганізацыі па навуковым забеспячэнні праграмы, а іх у выніку ўзбуйнення тэматыкі работ засталося тры, былі размешчаны ў Гомелі. Па-другое, механізмы арганізацыі навуковых даследаванняў былі таксама істотна зменены. Мэта рэфармавання — павышэнне эфектыўнасці навуковых даследаванняў і, што асабліва важна, практычнай аддачы ад іх.

2004 год быў першым поўным годам работы ў новых умовах. Засталіся ў мінулым арганізацыйныя цяжкасці, аказаліся ў асноўным вырашанымі фінан-

савыя і кадравыя пытанні і ўжо ўключаны новыя механізмы арганізацыі навуковых даследаванняў. Ці дасягнута галоўная мэта — стопрацэнтная практычная выніковасць работ? На жаль, адназначнага адказу на гэта пытанне даць нельга, хоць па асобных напрамках ёсць зрухі.

Лепш за другіх у гэтым плане выглядае работа Інстытута радыялогіі (дырэктар Агеец Уладзімір Юльянавіч). Заданні, якія выконваюцца інстытутам, у цэлым шырока ўкараняюцца ў практыку, прыносяць значны эканамічны эфект. Сумарная эфектыўнасць ад укаранення распрацовак інстытута толькі за 2003 год склала 1,26 мільярда рублёў. У мінулым годзе былі дасягнуты яшчэ больш высокія паказчыкі — звыш 4,4 мільярда рублёў пры аб'ёме фінансавання 1,7 мільярда рублёў. Адной з самых прыярытэтных задач Інстытута радыялогіі на бліжэйшы перыяд з'яўляецца аналіз эфектыўнасці ўсіх ахоўных мерапрыемстваў, якія праводзіліся, і перспектывы іх удасканалення. Найбольш эфектыўныя напрамкі дзейнасці інстытута — распрацоўка і навуковае суправаджэнне праграм змянення спецыялізацыі і праграм развіцця канкрэтных гаспадарак Гомельскай вобласці. Нядрэнна ў гэтым плане выглядае работа Магілёўскага (дырэктар Цыбулька Мікалай Мікалаевіч) і Брэсцкага (дырэктар Судас Аляксандр Сцяпанавіч) філіялаў інстытута.

Аднак у Камчарнобыля маюцца і прэтэнзіі да работы Інстытута радыялогіі. Ёсць падставы лічыць, што асноўны цяжар работы нясе зусім невялікая група супрацоўнікаў. У выніку — значныя непрадукцыйныя фінансавыя затраты. Структура і склад інстытута павінны быць неадкладна аптымізаваны. Камчарнобылем у 2004 годзе неаднаразова давалася адпаведнае даручэнне, але не было выканана. Мы лічым, што сістэму матэрыяльнага заахвочвання неабходна пераарыентаваць на карысць тых вучоных, якія найбольш актыўна і якасна працуюць. Па-ранейшаму самая актуальная задача — падрыхтоўка новых навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі.

Застарэлая хвароба інстытута — нізкая якасць нарматыўных і іншых дакументаў, прадуктаў навуковай дзейнасці. Гэта з цяжкасцю паддаецца разуменню, бо работы вучоных — навуковыя публікацыі — заўсёды былі ўзорам дакладнага, лагічнага і выразнага выкладання думак. Цяпер нярэдкія выпадкі, калі ў камітэт на зацвярджэнне паступаюць дакументы з масай памылак. У поўнай меры гэты недахоп праявіўся і ў даручаным інстытуту дакуменце асаблівай важнасці, я маю на ўвазе канцэпцыю новай дзяржаўнай праграмы.

*— Адбылося перамяшчэнне ў Гомель Інстытута радыебіялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Як гэта адбілася на працы яго калектыву?*

Інстытут радыебіялогіі Нацыянальнай акадэміі навук аказаўся ў найбольш складанай сітуацыі. Яго пераезд у Гомель патрабаваў ад кіраўніцтва (акадэмік Яўген Фёдаравіч Канапля) і супрацоўнікаў значных намаганняў, асабістай мужнасці. Трэба аддаць належнае інстытуту: нягледзячы на значныя цяжкасці, у 2004 годзе вырашаны ўсе задачы, пастаўленыя ў дзяржаўнай праграме. Так, гэтым інстытутам распрацаваны і з нарастаючымі тэмпамі ўкараняюцца тэхналогіі вытворчасці хлебабулачных і малочных вырабаў з лячэбна-прафілактычнымі ўласцівасцямі, а таксама распрацаваны адзіныя тэхналогіі вядзення аграпрамысловай вытворчасці ва ўмовах радыеактыўнага забруджання.

У сваю чаргу Камчарнобыль аказваў і будзе аказваць інстытуту матэрыяльную падтрымку для ўладкавання на новым месцы. Аднак, на нашу думку, Інстытут радыебіялогіі выстаўляе многія патрабаванні ў сувязі з цяжкасцямі фінансавання фундаментальнай часткі даследаванняў. Трэба прызнаць, што без глыбокай тэарэтычнай базы не будзе і практычных распрацовак. Але фундаментальныя даследаванні, у тым ліку і па ўздзеянні радыяцыі на біялагічныя аб'екты, прэрагатыва Нацыянальнай акадэміі навук. Камчарнобыль не можа ў поўнай меры ацаніць значнасць такіх работ, а значыць, не ў стане займацца пытаннямі іх аналізу і планавання. Менавіта таму мы заўсёды раімся з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі па такіх прынцыповых пытаннях, як доўгатэрміновае

прагназаванне і выпрацоўка стратэгіі дзеянняў. У той жа час мы абавязаны фінансаваць толькі тыя распрацоўкі, якія маюць непасрэдны выхад на практычнае вырашэнне чарнобыльскіх праблем. Думаю, у самы бліжэйшы час нам трэба ўзгадніць пазіцыі па гэтым пытанні з кіраўніцтвам Нацыянальнай акадэміі навук і разам знайсці аптымальнае рашэнне па фінансаванні работ інстытута.

Ёсць і другая праблема, якая патрабуе вырашэння. На наш погляд, некаторыя распрацоўкі інстытута аказваюцца незапатрабаванымі ў сілу ведамаснай раз'яднанасці. Дырэктар інстытута абсалютна справядліва падымае пытанне аб тым, што, з аднаго боку, з'яўляецца ўсё больш новых даных аб біялагічных эфектах малых доз, з другога ж — медыцына да гэтага часу не мае выразнага адказу на пытанне аб уплыве доз апрамянення на здароўе пацярпелага насельніцтва, хоць пры гэтым настойліва сцвярджаецца неабходнасць прыняцця далейшых мер па яго паляпшэнні. Асноўная прычына такой супярэчлівай сітуацыі ў тым, што радыяцыйная медыцына і спецыялісты-радыебіёлагі, якія займаюцца даследаваннем эфектаў малых доз, не аб'ядналі намаганняў у раскрыцці гэтага важнейшага пытання. Выпраўленне такога становішча — прыярытэтная задача Міжведамаснага каардынацыйнага савета пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Перад Інстытутам радыебіялогіі пастаўлены практычныя задачы, вырашэнне якіх з'яўляецца важным для Камчарнобыля і адпавядае магчымасцям інстытута. У першую чаргу гэта вырашэнне праблем Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, гэта значыць вывучэнне біялагічнай разнастайнасці ў зонах адчужэння і адсялення, распрацоўка нарматыўных дакументаў і рэкамендацый па рэгуляванні колькасці асноўных відаў жывёл з улікам патрабаванняў бяспекі прылеглых тэрыторый.

*— Дозавы маніторынг і ацэнка стану здароўя людзей, якія жывуць у пацярпелых раёнах. Як вырашаецца праблема?*

Напрамак даследаванняў па дозавым маніторынгу і ацэнцы стану здароўя таксама перажыў цяжкія часы ў сувязі з рэарганізацыяй Навукова-даследчага клінічнага інстытута радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі і стварэннем Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра радыяцыйнай медыцыны і экалогіі чалавека (дырэктар Элеанора Кузьмінічна Капітонава). Тым не менш у выкананні заданняў сур'ёзных зрываў не было допушчана.

Што асабліва трэба адзначыць, дык гэта стварэнне каталогаў назапашаных за ўвесь пасляаварыйны перыяд доз апрамянення ўсіх абласцей Беларусі і тырэадазіметрычную пашпартызацыю населеных пунктаў, якія падпалі пад уздзеянне радыенуклідаў ёду ў ранні перыяд аварыі. Атрыманыя матэрыялы з'яўляюцца асновай для выдзялення груп павышанай радыяцыйнай рызыкі і аптымізацыі сістэмы дыспансерызацыі насельніцтва.

Для медыцынскай практыкі прапанаваны ўдасканаленыя метады дыягностыкі і лячэння захворванняў, а таксама рэабілітацыі хворых. Сусветнае прызнанне атрымалі метады комплекснага лячэння хворых на радыяцыйна-індуцыраваны рак шчытападобнай залозы, якія дазволілі рэзка скараціць смяротнасць.

Разам з тым мы маем і шэраг сур'ёзных праблем. Так, па віне распрацоўшчыкаў неапраўдана зацягнулася работа па стварэнні Каталога гадавых эфектыўных доз апрамянення, які неабходны для падрыхтоўкі новай пастановы Савета Міністраў аб аднясенні населеных пунктаў да зон радыеактыўнага забруджання. Патрабуюцца вялікія намаганні кіраўніцтва Камчарнобыля, Міністэрства аховы здароўя, Нацыянальнай камісіі Беларусі па радыяцыйнай абароне, каб выйсці з тупіковай сітуацыі.

Да гэтай пары не падрыхтавана новае Палажэнне аб кантролі радыеактыўнага забруджання. Яго распрацоўшчыкі практычна самаўхіліліся ад выканання гэтай работы. Таму ў адпаведнасці з патрабаваннямі Кіраўніка дзяржавы аб недапушчальнасці беспакаранага невыканання заданняў Камчарнобыль настаяў на вяртанні 15 мільёнаў рублёў, выдзеленых на гэта заданне.

Хачу паўтарыцца, але гэта вельмі важна: да гэтага часу мы не маем аб'ектыўнай інфармацыі аб уплыве доз апрамянення на здароўе пацярпелага насельніцтва, хоць сродкаў на вырашэнне гэтага пытання было выдзелена нямала. Упэўнены, што яго вырашэнне трэба шукаць сумесна з Нацыянальнай акадэміяй навук. Заклікаю да гэтага і Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр радыяцыйнай медыцыны і экалогіі чалавека, і прадстаўнікоў Міністэрства аховы здароўя.

Намаганнямі беларускіх вучоных і вытворцаў наладжаны не толькі распрацоўка, але і масавы выпуск прыбораў для вымярэння і кантролю радыеактыўных выпрамяненняў. Па распрацоўках раздзела «Радыяцыйная бяспека» і дзвюх папярэдніх навукова-тэхнічных праграм (1802-р і «Радыеэкалогія») у апошні час выпушчана прыбораў на агульную суму звыш 4 мільёнаў долараў. Асабліва хачу вылучыць прадпрыемства «Атамтэх», галоўнага вытворцу прыбораў, і Навукова-даследчы інстытут ядзерных праблем — галаўную арганізацыю па праграме. Плённа працавалі вучоныя Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Інстытута фізікі НАН Беларусі, Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага універсітэта імя А. Д. Сахарава, размешчанага ў г. Мінску, і прадпрыемства «Палімайстар».

У выніку склаўся эфектыўны ланцужок: вышэйшая навучальная ўстанова — навукова-даследчы інстытут — вытворчасць. Іх узаемадзеянне здольна забяспечваць генерацыю новых ідэй, узнаўленне кадраў унікальных спецыялістаў і асваенне ў найменшыя тэрміны масавага выпуску новай прадукцыі. Фактычна ў рэспубліцы створана новая галіна — ядзерна-фізічнага прыборабудавання, якая працуе на ўзроўні сусветных стандартаў. Дастаткова сказаць, што патэнты на асобныя распрацоўкі (напрыклад, на дазіметр, сумешчаны з ручным гадзіннікам) закупляюцца нават Японіяй — прызнаным сусветным лідэрам у электроннай прамысловасці.

Усе выпушчаныя прыборы пастаўляюцца на экспарт — у Расію і іншыя краіны СНД, Аўстрыю, Вялікабрытанію, Францыю, Італію, Германію, Іспанію, ЗША, Тайвань, Кітай — або выкарыстоўваюцца ў Беларусі як імпартазамяшчальная прадукцыя. Доля экспартных паставак складае 75 — 80 працэнтаў у агульным аб'ёме.

Пры аб'ёме продажу прыбораў на суму звыш 4 мільёнаў долараў за чатыры няпоўныя гады адпаведныя затраты на навуковыя распрацоўкі склалі менш за 900 мільёнаў рублёў. У выніку дасягнуты адзін з лепшых у рэспубліцы паказчыкаў эфектыўнасці ў межах навукова-тэхнічных праграм.

Камчарнобыль закупляе за кошт сродкаў Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і Праграмы сумеснай дзейнасці ў рамках Саюзнай дзяржавы створаныя прыборы для абсталявання арганізацый, якія ўдзельнічаюць у пераадоленні наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Цяпер праграма «Радыяцыйная бяспека» расфарміравана, аднак некаторыя прыборы распрацоўваюцца ў межах асобных навукова-тэхнічных праектаў. Гэты напрамак работы нам вельмі важна захаваць.

*— Расійска-беларускія чарнобыльскія кантакты. Які сягоння плён мы маем ад іх?*

Праграма сумеснай дзейнасці ў рамках Саюзнай дзяржавы змяшчае раздзел, які з'яўляецца сапраўдным падарункам для арганізацый, што ўдзельнічаюць у ёй. Размова ідзе аб магчымасці закупкі неабходнага абсталявання. Так, у 2004 годзе для Інстытута радыебіялогіі былі набыты унікальныя дарагія прыборы — апарат для высокаэфектыўнай вадкаснай храматаграфіі па цане 207 мільёнаў беларускіх рублёў і скануючы спектрафатометр коштам звыш 83 мільёнаў беларускіх рублёў, а для тэрытарыяльна-медыцынскіх аб'яднанняў Гомельскай і Магілёўскай абласцей было закуплена пяць айчынных (вытворчасці прадпрыемства «Атамтэх») лічыльнікаў выпраменьвання чалавека. У межах усёй праграмы для аснашчэння навуковых і спецыялізаваных устаноў было набыта абсталявання на суму амаль у 20 мільёнаў расійскіх рублёў.

У 2004 годзе да работы па гэтай праграме падключыўся Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр радыяцыйнай медыцыны і экалогіі чалавека. Сумесна

з расійскімі калегамі ствараецца адзіны рэгістр Беларусі і Расіі па ўсіх катэгорыях асоб, якія пацярпелі ад радыяцыйнага ўздзеяння з прычыны чарнобыльскай катастрофы. Згодна з планамі большасць распрацовак па праграме будзе ўкараняцца ўжо ў гэтым годзе.

Рэспубліканскім цэнтрам радыяцыйнага кантролю і маніторынгу навакольнага асяроддзя (начальнік Марыя Рыгораўна Гермянчук) сумесна з Федэральным інфармацыйна-аналітычным цэнтрам Расійскай ґідраметэаралагічнай службы (навукова-вытворчае аб'яднанне «Тайфун») распрацавана і ўкаранёна сістэма аналізу і прагнозу радыяцыйнага становішча. Акрамя таго, створана база даных радыяцыйнага маніторынгу аб'ектаў прыроднага асяроддзя. У дзяржаўнай установе «Беллесрад» (дырэктар Ларыса Мікалаеўна Карбановіч) створаны доследны ўзор інфармацыйнай сістэмы падтрымкі прыняцця рашэнняў па вядзенні лясной гаспадаркі на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях Беларусі і Расіі.

Даследаванні ў межах сумеснай расійска-беларускай праграмы ў адрозненне ад мінулага года выконваюцца і фінансуюцца рытмічна і ў поўным аб'ёме.

— *Міжнароднае чарнобыльскае супрацоўніцтва. Якія ў яго перспектывы і магчымасці?*

Пытанне пра міжнароднае чарнобыльскае супрацоўніцтва сёння як ніколі актуальнае, бо ад яго пастаноўкі залежыць, ці будзе такое супрацоўніцтва ці не, ці будзе хваляваць чарнобыльская тэма міжнародную супольнасць або яе звядуць на нішто.

Некалькі гадоў назад (у канцы 1990-х гадоў) міжнародныя партнёры ўжо спрабавалі зняць чарнобыльскае пытанне з парадку дня міжнароднай супольнасці. Аргументамі на карысць узмацнення такіх настрояў паслужылі закрыццё Чарнобыльскай АЭС на Украіне, адсутнасць доказаў аб відавочных уздзеяннях вынікаў чарнобыльскай аварыі на здароўе чалавека, акрамя рака шчытападобнай залозы, сур'ёзныя супярэчнасці па гэтым пытанні паміж нацыянальнымі і замежнымі вучонымі.

Калі прааналізаваць вынікі 2000 — 2004 гадоў, то можна сказаць наступнае: Камчарнобылем, Міністэрствам замежных спраў, зацікаўленымі міністэрствамі і мясцовымі ўладамі пацярпелых абласцей і раёнаў зроблены неверагодныя намаганні па аднаўленні ўвагі да чарнобыльскай праблемы і вылучэнні яе як прыярытэтнай для многіх міжнародных арганізацый і цэлых краін.

Хочацца коратка нагадаць пра новыя падыходы і нестандартныя рашэнні пры арганізацыі міжнароднага супрацоўніцтва, якія дазволілі, як кажуць многія, зрабіць немагчымае — уключыць чарнобыльскую праблематыку ў лік прыярытэтных напрамкаў дзейнасці асноўных міжнародных партнёраў. У якасці прыкладу можна назваць асобныя мерапрыемствы і дзеянні, а менавіта: правядзенне міжнародных ацэначных місій ААН, Сусветнага банка, візітаў паслоў замежных краін, двух намеснікаў генеральнага дырэктара ААН, дырэктара і намесніка дырэктара МАГАТЭ ў найбольш пацярпелыя раёны; ініцыятываванне работы Чарнобыльскага форуму пад эгідай МАГАТЭ і Міжнароднай навукова-даследчай і інфармацыйнай сеткі па Чарнобылю пад эгідай ААН; правядзенне серыі замежных інфармацыйна-асветніцкіх мерапрыемстваў у форме выставак «Да святла», «26 красавіка»; выпуск тэматычных календароў «Малююць дзеці Чарнобыля», «Спадчына чарнобыльскіх рэгіёнаў»; адкрыццё міжнароднай чарнобыльскай старонкі ў Інтэрнеце; прыняцце абноўленай рэзалюцыі ААН; падпісанне Дэкларацыі прынцыпаў новай міжнароднай праграмы CORE «Супрацоўніцтва для рэабілітацыі ўмоў жыцця ў працярпелых ад чарнобыльскай катастрофы раёнах» і пачатак яе практычнай рэалізацыі.

Гэта далёка не поўны пералік ініцыятыў, якія былі зроблены з улікам зменлівасці прыярытэтаў у арганізацыі міжнароднага постчарнобыльскага супрацоўніцтва і паступовага пераходу ад праграм гуманітарнай дапамогі да ажыццяўлення канкрэтных праектаў рэабілітацыі і ўстойлівага развіцця пацярпелых рэгіёнаў. Усе гэтыя дзеянні на дзяржаўным узроўні немагчыма разглядаць у ад-

рыве ад міжнародных намаганняў, якія пры ўважліва прадуманай каардынацыі павінны дапоўніць дзяржаўныя праграмы.

Адным з яркіх інавацыйных прыкладаў такой прадуманай каардынацыі можа служыць новая міжнародная праграма CORE «Супрацоўніцтва для рэабілітацыі», якая адобрана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 жніўня 2004 года № 1016 і зарэгістравана ў Міністэрстве эканомікі 21 верасня 2004 года за № 2/04/000132. Гэта праграма не толькі змагла аб'яднаць большасць асноўных міжнародных донараў, але і стварае магчымасці ў межах міжнародных праектаў для адраснай работы непасрэдна з найбольш пацярпелымі раёнамі і людзьмі. Новы каардынацыйны механізм праграмы дазваляе весці адкрыты, празрысты дыялог на мясцовым, нацыянальным і міжнародным узроўнях. Такі механізм дае магчымасць пазбягаць паралелізму і дубліравання ў дзеяннях міжнародных партнёраў, прыслухоўвацца да патрэб раёнаў, улічваць нацыянальныя інтарэсы і прыцягваць да работы новых міжнародных удзельнікаў.

Пры стварэнні ўмоў для развіцця гэтай праграмы, правядзенні дадатковай работы па растлумачэнні яе прынцыпаў яна магла б вельмі хутка набраць абароты і паступова распаўсюдзіць сваё дзеянне на ўсе пацярпелыя раёны Беларусі як станоўчы прыклад для дзяржаўных праграм ажыццяўлення рэабілітацыйных мерапрыемстваў з выкарыстаннем пазабюджэтных сродкаў — увядзення сістэм мікракрэдытавання, развіцця альтэрнатыўных вытворчасцей (пчалярства, ганчарства, агародніцтва, кветкаводства), у тым ліку развіцця своеасаблівага турызму «экалагічная гасціннасць» і г. д.

У краіну паступае значная колькасць гуманітарнай дапамогі. Задачай бліжэйшага будучага з'яўляецца вырашэнне пытання якаснай пераарыентацыі гэтай гуманітарнай дапамогі, каб выключыць па магчымасці дубліраванне і дабіцца яе лакалізацыі ў найбольш пацярпелых раёнах, дзе ў ёй маюць асаблівую патрэбу. Неабходна сумесна з зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання знайсці аптымальны спосаб інфармавання замежных няўрадавых арганізацый аб патрэбнасцях пацярпелага насельніцтва і змяненнях у нацыянальным заканадаўстве, якое рэгулюе гуманітарную дзейнасць.

У наш час вядзецца актыўная работа з такімі міжнароднымі арганізацыямі, як МАГАТЭ, ПРААН, АБСЕ, Швейцарскае ўпраўленне па развіцці і супрацоўніцтве, Італьянская няўрадавая арганізацыя (праект «Гумус»). Важнае месца можа заняць і сумесны праект Урада Беларусі і Сусветнага банка «Аб сацыяльна-эканамічнай рэабілітацыі пацярпелых раёнаў».

Нязменным прыярытэтам у арганізацыі міжнароднага чарнобыльскага супрацоўніцтва застаецца правядзенне масіраванай інфармацыйнай работы, але не толькі аб трагічных, цяжкіх выніках катастрофы, але і аб жыцці, якое працягваецца на гэтых тэрыторыях. Прыкладаецца нямала намаганняў для падрыхтоўкі і распаўсюджання такой інфармацыі, арганізацыі сустрэч з замежнымі партнёрамі ў Камчарнобылі і выездаў у пацярпелыя раёны.

Вялікай праблемай застаецца публікацыя вынікаў даследаванняў у вядучых замежных выданнях. Без гэтага будзе цяжка адстойваць на міжнароднай арэне пазіцыі Беларусі па пытаннях ліквідацыі чарнобыльскіх вынікаў, перш за ўсё ў дакладзе Навуковага камітэта па дзеянні атамнай радыяцыі ААН, які знаходзіцца ў стане падрыхтоўкі, і ў матэрыялах Чарнобыльскага форуму пад эгідай МАГАТЭ.

Мы спадзяёмся, што, дзякуючы дзейнасці такіх міжнародных навуковых ініцыятыў, як Чарнобыльскі форум і Міжнародная навукова-даследчая і інфармацыйная сетка па Чарнобылю пад эгідай ААН, да 2006 года складзецца адэкватная навукова абгрунтаваная карціна вынікаў катастрофы ва ўсіх сферах — медыцынскай, экалагічнай, сацыяльна-эканамічнай і іншых, што, безумоўна, будзе адлюстроўвацца на фарміраванні канкрэтнага плана міжнароднага садзейнічання найбольш пацярпелай ад Чарнобыля Беларусі.

У цяперашні час у рэспубліцы закончаны пачатковы этап міжрэгіянальнага праекта Міжнароднай навукова-даследчай і інфармацыйнай сеткі па Чарнобылю,

які называецца Працэсам шматбаковага ўдзелу і заклікалі дакладна вызначыць інфармацыйныя запатрабаванні розных слаёў і сацыяльных груп насельніцтва, пацярпелага ад чарнобыльскай катастрофы, у мэтах актыўнага ўцягнення саміх мясцовых жыхароў у розныя мерапрыемствы. Праект паралельна рэалізуецца ў трох найбольш пацярпелых краінах — Беларусі, Расіі і Украіне. Справаздача «Ацэнка інфармацыйных запатрабаванняў насельніцтва Рэспублікі Беларусь, пацярпелага ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», падрыхтаваная ў ходзе рэалізацыі пачатковай стадыі гэтага праекта, і яе прэзентацыя, якая адбылася 16 снежня 2004 года, на нашу думку, будуць спрыяць далейшай доўгатэрміновай падтрымцы на міжнародным і нацыянальным узроўнях развіцця і практычнага ўкаранення новых навуковых дасягненняў па чарнобыльскай тэматыцы. Акрамя таго, прымяненне рэкамендацый справаздачы Міжнароднай навукова-даследчай і інфармацыйнай сеткі па Чарнобылю дазволіць умацаваць шматузроўневае міжрэгіянальнае супрацоўніцтва Беларусі, Расіі і Украіны ў галіне арганізацыі інфармацыйных мерапрыемстваў па чарнобыльскіх пытаннях з шырокім удзелам навукова-даследчых устаноў, грамадскіх аб'яднанняў і пацярпелага насельніцтва.

Сур'ёзнай ідэяй уяўляецца ініцыятыва правядзення ў 2006 годзе ў Беларусі міжнароднай канферэнцыі, якая падтрымана Кіраўніком дзяржавы. Камчарнобылем сумесна з зацікаўленымі міністэрствамі падрыхтаваны ўжо праект канцэпцыі міжнароднай канферэнцыі, у аснове якой стратэгічная мэта, а менавіта — выпрацоўка ў каротка- і доўгатэрміновай перспектыве плана дзеянняў, накіраваных на аднаўленне і развіццё пацярпелых тэрыторый нашай рэспублікі.

*— У якой ступені інфармуецца сягоння насельніцтва Беларусі аб наступствах катастрофы XX стагоддзя?*

У галіне інфармавання нарэшце ўдалося ажыццявіць пераход ад разрозненых малаэфектыўных мерапрыемстваў да шырокай сістэмнай работы. У 2003 годзе інфармацыйна-аналітычным аддзелам Інстытута радыялогіі (загадчык Ігар Якаўлевіч Паплыка) была распрацавана, узгоднена з зацікаўленымі і зацверджана канцэпцыя інфармавання. Услед за ёй быў распрацаваны План мерапрыемстваў па ажыццяўленні інфармацыйнай работы з насельніцтвам на перыяд да 2005 года. Сёння ён рэалізуецца пад каардынуючым кіраўніцтвам Камчарнобыля.

Вынікі работы ў 2004 годзе, у якой згодна з планам удзельнічалі міністэрствы прыроды, аховы здароўя, сельскай гаспадаркі і харчавання, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, лясной гаспадаркі, адукацыі, працы і сацыяльнай абароны і Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, дазваляюць гаварыць аб стварэнні адзінай сістэмы інфармавання насельніцтва, якая ахоплівае не толькі рэгіянальны, але і рэспубліканскі ўзроўні. Прывяду некаторыя прыклады.

У найбольш пацярпелых раёнах створана адзінаццаць пастаянна дзеючых экспазіцый «Пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы». У падрыхтоўцы матэрыялаў для іх удзельнічалі ўсе названыя органы дзяржаўнага кіравання. Задача рэспубліканскага навукова-даследчага унітарнага прадпрыемства «Інстытут радыялогіі» і яго філіялаў — аказанне дапамогі ў стварэнні такіх экспазіцый ва ўсіх забруджаных раёнах Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей.

Зрушылася з месца праблема недахопу вучэбнай літаратуры па пытаннях бяспечнага пражывання на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях. Міністэрства адукацыі пры ўдзеле Камчарнобыля падрыхтавала да выдання вучэбны дапаможнік для настаўнікаў «Радыеэкалогія і бяспечная жыццядзейнасць ва ўмовах радыяцыйнай рызыкі». Цяпер надзвычай важна стварэнне адпаведных школьных падручнікаў.

У Гомелі за апошнія два гады праведзены тры семінары па пытаннях інфармацыйна-прапагандысцкай дзейнасці органаў дзяржаўнага кіравання, раённых Саветаў дэпутатаў і сродкаў масавай інфармацыі ў забруджаных радыенуклідамі рэгіёнах рэспублікі. Апошні семінар праводзіўся ў 2004 годзе пры ўдзеле Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Бела-

русь. Паспяхова прайшла другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Пераадоленне вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС: стан і перспектывы», якая атрымала шырокі грамадскі рэзананс.

Для інфармавання тых, хто пражывае на пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы тэрыторыях, падрыхтаваны і выдадзены 29 інструкцый, памятак, буклетаў, лістовак тыражом ад 50 да 350 экземпляраў. Усе матэрыялы даведзены да спажыўцоў, у першую чаргу перададзены ў бібліятэкі сярэдніх школ і дзіцячых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў.

У 2004 годзе ў рэспубліканскіх, абласных і раённых сродках масавай інфармацыі супрацоўнікамі Камчарнобыля і падпарадкаваных яму арганізацый апублікавана звыш 180 матэрыялаў, а таксама арганізавана 12 выступленняў па Беларускім радыё і тэлеканалах БТ, «Лад», АНТ, НТБ. Гэта значна больш, чым калі-небудзь. Асабліва плённым было супрацоўніцтва з «Народнай газетай», у Экалагічным выпуску якой апублікавана 38 палос з матэрыяламі чарнобыльскай тэматыкі, і рэдакцыйна-выдавецкай установай «Літаратура і мастацтва», дзе пабачыла свет кніга «Чарнобыльская рана». Нямала робяць сёння і літаратурна-мастацкія выданні, за што мы асабліва ўдзячныя.

Надзвычай важная задача — асваенне інфармацыйнай прасторы сусветнай сеткі Інтэрнет. У межах Праграмы сумеснай дзейнасці ў рамках Саюзнай дзяржавы створаны сайт Расійска-беларускага інфармацыйнага цэнтра, на якім размешчана сумесная база даных па чарнобыльскіх праблемах. У 2004 годзе сайт Камчарнобыля стаў пераможцам на ўсерасійскім конкурсе «Залаты сайт» у намінацыі «Дзяржава, права, органы ўлады і самакіравання», а таксама прызёрам яшчэ ў дзвюх намінацыях: «Інфармацыйныя парталы» і «Грамадскія праекты, перадвыбарныя сайты». Бясспрэчна, гэта значны поспех, але давядзецца зрабіць яшчэ больш. На гэта нас абавязвае імклівае развіццё інфармацыйных тэхналогій. Тое, што яшчэ ўчора ўспрымалася як дзіва з дзіў, на нашых вачах ператвараецца ў адзін са сродкаў масавай інфармацыі.

У цяперашні час, дзякуючы дзяржаўнай інфармацыйнай палітыцы, Інтэрнет стаў даступным ва ўсіх забруджаных радыенуклідамі раёнах рэспублікі. Замежныя партнёры актыўна дапамагаюць нам і ў стварэнні сучасных камп'ютэрных класаў у школах. Так, пры дапамозе Швейцарскага ўпраўлення па развіцці і супрацоўніцтве ў Беларусі адкрыты і падключаны да Інтэрнета кабінет у вёсцы Ігаўка. Тры школы Гомельскай вобласці працуюць сёння над стварэннем сваіх Інтэрнет-старонак.

Гэта выдатная база, але калі ўсё пусціць на самацёк, то яна ператворыцца толькі ў крыніцу забавак. Наша задача — карыстацца гэтай базай і для інфармавання, і для наладжвання камп'ютэрнай адукацыі маладога пакалення па чарнобыльскай тэматыцы.

Інстытут радыялогіі павінен стаць каардынатарам чарнобыльскай інфармацыйнай палітыкі ў Інтэрнеце, а ў супрацоўніцтве з установамі адукацыі — яшчэ і інфармацыйным і метадычным цэнтрам па падрыхтоўцы і ўкараненні ў школьнае навучанне праграм па радыяцыйнай бяспецы на аснове камп'ютэрных тэхналогій. З гэтай мэтай інстытуту дадзена даручэнне ў найкарацейшы тэрмін распрацаваць стратэгію і план практычных мерапрыемстваў у галіне інфармацыйнай работы з выкарыстаннем сучасных камп'ютэрных тэхналогій.

*— Чарнобыльская сфера мае сваю навуковую спецыфіку. Як і дзе рыхтуюцца кадры?*

Пытанне аб падрыхтоўцы кадраў заўсёды ў полі зроку Камчарнобыля. У 2001 — 2003 гадах работа па павышэнні кваліфікацыі ў сістэме радыяцыйнага кантролю была даручана Сахараўскаму універсітэту (рэктар Сямён Пятровіч Кундас). За гэты час у ім прайшлі навучанне звыш 450 спецыялістаў Міністэрства аховы здароўя, прадпрыемстваў Камчарнобыля, лясной гаспадаркі, сістэмы жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

У мінулым годзе для выканання даручэння Кіраўніка дзяржавы, накіраванага на ўмацаванне навукова-кадравага патэнцыялу пацярпелых у выніку чарно-

быльскай катастрофы рэгіёнаў, такая ж задача была пастаўлена перад Гомельскім дзяржаўным універсітэтам імя Ф. Скарыны (дэкан спецыяльнага факультэта перападрыхтоўкі кадраў Міхаіл Іванавіч Багданаў). Да гонару гамяльчан, яны ў сціснутыя тэрміны змаглі наладзіць работу і не дапусцілі значнага зніжэння ўзроўню падрыхтоўкі. На працягу года было праведзена навучанне 170 слухачоў. Усе заяўкі на падрыхтоўку спецыялістаў службаў радыяцыйнага кантролю, якія паступілі ва універсітэт, былі задаволены ў поўным аб'ёме. У 2005 годзе фінансаванне гэтага напрамку работы перадаецца ў Міністэрства адукацыі.

Павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў сістэмы радыяцыйнага кантролю не вырашае ўсіх праблем падрыхтоўкі кадраў. У сувязі з гэтым па даручэнні Камчарнобыля Інстытут радыялогіі і яго філіялы сістэматычна праводзяць навучальныя семінары для кіраўнікоў абласнога і раённых узроўняў, спецыялістаў аграпрамыслова комплексу, а таксама настаўнікаў, урачоў і іншых слаёў насельніцтва ва ўсіх найбольш забруджаных радыенуклідамі раёнах Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей. Для павышэння ўзроўню семінараў, на нашу думку, мэтазгодна прыцягваць да ўдзелу ў іх спецыялістаў Сахараўскага універсітэта, якія працуюць у яго добраабсталяваным філіяле ў г. Хойнікі. Спадзяёмся таксама на дапамогу гэтага універсітэта ў пытаннях камп'ютэрнай адукацыі, у тым ліку дыстанцыйнай.

Вырашэнне складаных задач па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якія стаяць перад Камчарнобылем і падпарадкаванымі яму арганізацыямі, патрабуе пастаяннага ўдасканалення арганізацыйнай работы. Згодна з планамграфікам, кіруючыя кадры Камчарнобыля штогадова павышаюць кваліфікацыю ў Інстытуце вышэйшых кіруючых кадраў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. У мэтах вызначэння аб'ектыўнай ацэнкі практычнай дзейнасці кадраў, узроўню іх прафесійнай падрыхтоўкі, прававой культуры і службовай перспектывы ў 2005 годзе плануецца правядзенне атэстацыі ў межах праграмы «Кадры», зацверджанай у снежні 2004 года на пасяджэнні калегіі Камчарнобыля.

*— Як праходзіць рэфармаванне Камчарнобыля як дзяржаўнай структуры?*

На сённяшні дзень на апарат Камчарнобыля ў выніку неаднаразовага яго рэфармавання ў мэтах павышэння аператыўнасці, дзейснасці кіравання, па сутнасці, легла двайная нагрузка, паколькі задачы з году ў год застаюцца напружанымі, а колькасць работнікаў зменшылася ўдвая.

У адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта краіны па прапановах Урада аб далейшым удасканаленні рэфармавання Камчарнобыля як органа дзяржаўнага кіравання шэраг напрамкаў дзейнасці па пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы перадаецца профільным дзяржаўным органам з агульным аб'ёмам фінансавання 78,6 мільярда рублёў. Гэта прывядзе да скарачэння штатнай колькасці работнікаў сістэмы Камчарнобыля на 45 працэнтаў, а яго цэнтральнага апарату на 20 працэнтаў. Менавіта таму мы павінны самаўдасканальвацца, шукаць новыя стылявыя і арганізацыйныя падыходы.

Цэнтр практычных дзеянняў, на нашу думку, неабходна максімальна прыблізіць да месцаў іх канкрэтнага ажыццяўлення. Гэта значыць, трэба часцей праводзіць выязныя пасяджэнні калегіі, семінары і іншыя мерапрыемствы ў мэтах вучобы, актывізаваць узаемадзеянне аддзелаў Камчарнобыля з зацікаўленымі структурнымі падраздзяленнямі аблвыканкамаў і райвыканкамамі. Мы рэдка — ад выпадку да выпадку — бываем на пасяджэннях аблвыканкамаў. Выключна рэдка нас запрашаюць на пасяджэнні райвыканкамаў і сесіі райсаветаў. Менавіта таму, мяркую, аб дзейнасці Камчарнобыля ў кадраў рэгіянальнай вертыкалі складваецца невыразнае і іншы раз нават неаб'ектыўнае ўяўленне. Усё зводзіцца да ўзаемадзеяння кіраўніцтва камітэта з кіраўніцтвам абласцей і раёнаў, а не сістэмнай работы апаратаў камітэта і тэрытарыяльных органаў дзяржаўнага кіравання. І толькі на выніковых мерапрыемствах з'яўляецца магчымасць для прадукцыйных узаемных зносін і абмену інфармацыяй.

У сувязі з гэтым пошук эфектыўных форм узаемадзеяння і праца адказных работнікаў Камчарнобыля на месцах з'яўляюцца асноўнымі ў яго далейшай дзей-

насці. На гэта накіраваны зацверджаны план работы калегіі камітэта на першае паўгоддзе 2005 года, у якім запланавана правесці два выязныя пасяджэнні — у Магілёўскай і Гомельскай абласцях. Гэты план, як і ўсе астатнія, павінен быць даведзены да ведама рэгіянальнай вертыкалі. Таксама спадзяюся, што кіраўнікі абласцей і раёнаў у сваю чаргу зробяць сустрэчныя крокі па інфармаванні камітэта і стануць запрашаць яго прадстаўнікоў на мерапрыемствы, якія праводзяцца на месцах.

*— Некалькі слоў скажыце аб рабоце з паступіўшымі ў 2001 — 2004 гадах у Камчарнобыль пісьмовымі зваротамі грамадзян. Ці ўзрасла ў вашай канцылярскай папцы іх колькасць?*

Сапраўды, у 2004 годзе ў параўнанні з папярэднім на 20 працэнтаў павялічылася колькасць зваротаў грамадзян. Іх было прыкладна столькі ж, што і ў 2002 годзе. У далейшым, хутчэй за ўсё, у камітэт будзе паступаць 500 — 600 зваротаў у год. Каля 40 працэнтаў з іх традыцыйна паступае з Гомельскай вобласці. Трэба адзначыць, што Мінская вобласць і горад Мінск маюць больш праблем, чым забруджаныя ў выніку аварыі рэгіёны — Магілёўская і Брэсцкая вобласці. У асноўным звяртаюцца перасяленцы, патрэбы якіх нельга не ўлічваць. Для аператыўнага рэагавання на звароты грамадзян мэтазгодна стварыць пры Камчарнобылі грамадскую прыёмную, у якую па тэлефоне «гарачай лініі» паступалі б званкі. Усе паведамленні трэба ўзяць на ўлік і арганізаваць кантроль за ходам рэагавання на паступаючую інфармацыю. Праблема зваротаў грамадзян толькі на першы погляд здаецца прыватнай. На самай жа справе яна адлюстроўвае ступень эфектыўнасці ўзаемадзеяння ўсіх галін дзяржаўнай улады з простымі грамадзянамі, на карысць якіх гэта ўлада і працуе.

*— З прэсы вядома, што Камчарнобыль вядзе шэфства над адным з калгасных прадпрыемстваў. Як там ідуць справы?*

Наша падшэфная гаспадарка — гэта сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў «Чырвоны баец» Нараўлянскага раёна. У свой час мы нямала прыклалі сіл, каб дабіцца перазамацавання і наладзіць шэфства над гаспадаркай, размешчанай у забруджаным радыенуклідамі рэгіёне Гомельскай вобласці. Павінен вам сказаць, што дасталася нам гаспадарка не з перадавых. Патрэбны былі вялікія намаганні, каб паставіць яе на ногі. Гаспадарка ў 2004 годзе, дзякуючы сумесным дзеянням у межах праграмы пераспецыялізацыі, атрымала, тэхніку, насенне, фінансавыя сродкі на рэканструкцыю свінакомплекса на суму больш за 600 мільёнаў рублёў. Камчарнобыль і падпарадкаваныя яму арганізацыі перадалі ёй 8 адзінак транспартнай тэхнікі, мэблю, сталярныя вырабы, піламатэрыялы і іншую маёмасць, а таксама аказалі сельскагаспадарчых паслуг на суму каля 60 мільёнаў рублёў. Спецыялісты Інстытута радыялогіі распрацавалі для нашых падапечных бізнес-план развіцця прадпрыемства. У перспектыве гэты кааператыў як падшэфная гаспадарка Камчарнобыля павінен стаць паказальным для іншых суб'ектаў гаспадарання, якія працуюць над рэалізацыяй дзяржаўных праграм пераспецыялізацыі. Гэта накладае на нас дадатковую адказнасць. Дапамагаючы развіваць вытворчую сферу гаспадаркі, зыходзячы з выпрацаванай намі канцэпцыі рэабілітацыі забруджаных радыенуклідамі тэрыторый, мы не можам забываць і аб вырашэнні сацыяльных патрэбнасцей людзей, якія там працуюць. Трэба наладзіць шырокае ўзаемадзеянне і з сельскім Саветам дэпутатаў, і са школай, і з іншымі структурамі на вёсцы.

*— Якія задачы стаяць перад Камчарнобылем у 2005 годзе?*

2005 год з'яўляецца завяршальным у пяцігадовай Дзяржаўнай праграме па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Законам «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2005 год» на пераадоленне наступстваў катастрофы прадугледжана 570,9 мільярда рублёў. За кошт гэтых сродкаў будзе працягвацца работа па абароне і рэабілітацыі насельніцтва і тэрыторый, якія пацярпелі ад радыяцыйнага ўздзеяння ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Як і раней, ільвіная

доля «чарнобыльскіх» грошай (328,6 мільярда рублёў) прызначана для выплаты льгот і кампенсацый пацярпелым. У забруджаных радыенуклідамі раёнах мяркуецца ўкласці значныя сродкі ў аграпрамысловы комплекс і пераспецыялізацыю гаспадарак (105,5 мільярда рублёў), якая знаходзіцца на кантролі ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Будзе працягвацца і вырашэнне сацыяльных праблем жыхароў забруджаных радыенуклідамі рэгіёнаў — будаўніцтва дарог, падвядзенне вады і прыроднага газу, добраўпарадкаванне. Трэба будзе пабудаваць многа добротнага, зручнага жылля, каб завяршыць адсяленне людзей з населеных пунктаў, якія адносяцца да зоны наступнага адсялення, і вырашыць жыллёвыя праблемы інвалідаў-чарнобыльцаў, а таксама прыцягнуць і замацаваць такім чынам спецыялістаў у пацярпелых раёнах. Не менш складаная задача здаць у эксплуатацыю аб'екты, будаўніцтва якіх было распачата ў адпаведнасці з Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмай Рэспублікі Беларусь, і аб'ектаў, уключаных у прэзідэнцкую праграму «Дзеці Беларусі» (падпраграму «Дзеці Чарнобыля»). Усяго на гэтыя мэты плануецца накіраваць 58,9 мільярда рублёў.

Уперадзе — яшчэ больш напружаныя планы. У 2005 годзе трэба прыняць новую дзяржаўную праграму, разлічаную на 2006 — 2010 гады. Праект яе канцэпцыі ўжо распрацаваны. Надзвычай важна як мага хутчэй ліквідаваць усе недапрацоўкі і канкрэтызаваць расплыўчатыя палажэнні. Праект праграмы нацэлены на паляпшэнне здароўя і падняцце якасці жыцця пацярпелага насельніцтва, а таксама вяртанне зямель у сельскагаспадарчы абарот шляхам фінансавання мэтавых сацыяльных праграм і ажыццяўлення навукова абгрунтаваных праектаў рэабілітацыі забруджаных радыенуклідамі тэрыторый.

Пара пераадольваць стратнасць, выходзіць на расшыранае ўзнаўленне, устойліва развівацца. Для гэтага патрэбна абавязкова падмацоўваць усе навацыі і пераспецыялізацыі сур'ёзнымі навуковымі даследаваннямі па распрацоўцы аднаўленчых і адаптацыйных механізмаў сацыяльнай жыццядзейнасці і пражывання насельніцтва ў пацярпелых рэгіёнах і пабудаваных пасёлках для перасяленцаў.

Другі, не менш важны, напрамак рэабілітацыі, які трэба закласці ў новай дзяржаўнай праграме, — правядзенне для насельніцтва, якое пражывае на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях, такой інавацыйнай сацыяльнай палітыкі, якая б спрыяла эканамічнаму развіццю гэтых рэгіёнаў, стварэнню тут новых рабочых месцаў. Гэта значыць, патрэбны дзяржаўныя меры, якія стымулююць эканамічнае адраджэнне пацярпелых рэгіёнаў. На нашу думку, для іх у першую чаргу неабходна ствараць асаблівыя ўмовы эканамічнага спрыяння, скажам, ільготнае падаткаабкладанне, адкрыццё свабодных эканамічных зон, ільготнае мікракрэдытаванне. Тады адмоўныя фактары, якія выкліканы вынікамі чарнобыльскай катастрофы і негатыўна ўплываюць на развіццё эканомікі гэтых рэгіёнаў, ураўнаважацца яўнымі перавагамі ў параўнанні з іншымі раёнамі рэспублікі. Але галоўнае, што неабходна разумець і насельніцтву, і спецыялістам, і кіраўнікам на месцах, — падняць эканоміку (а значыць, і палепшыць тут сваё жыццё) немагчыма без асабістага актыўнага ўдзелу. Пераадолець інертнасць у саміх сабе, спажывецкія настроі, так званы сімптом ахвяры — самая цяжкая задача. Трэба думаць, што 2005 год стане годам сур'ёзных перамен для пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі раёнаў. І ёсць упэўненасць у тым, што сумеснымі намаганнямі мы справімся з пастаўленымі задачамі.

***Інтэрв'ю і пераклад з рускай М. Міхайлава.***







**ІВАН ШТЭЙНЕР,**
доктар філалагічных навук, прафесар,
член-карэспандэнт Міжнароднай
акадэміі навук Еўразіі

# СЛАЎЛЮ КРЫНІЦУ, З ЯКОЙ ПІЎ ВАДУ

З чаго складаецца імідж навучальнай установы, яе ўспрыняцце ў навуковым і культурным свеце, нарэшце, вядомасць і слава? Са старажытных сценаў, што перажылі стагоддзі і былі сведкамі векавой эвалюцыі чалавецтва? Са змрочных скляпенняў бібліятэк і кніжных сховішчаў, дзе захоўваюцца фаліянты ў пергаментна-драўляных вокладках? З пустынна-гулкіх аўдыторый, што памятаюць рэха крокаў шматлікіх пакаленняў вандроўнікаў у краіну ведаў? Ці, наадварот, з ультрасучасных карпусоў са шкла і бетону з навейшай электронікай, лазерамі і камп'ютэрамі? А можа, слава універсітэта — сівыя (і не вельмі) акадэмікі і прафесары (у мантыях і без іх), пра якіх так любяць апавядаць вясёлыя гісторыі і анекдоты? Хто яго ведае! Відаць, і з першага, і з другога, і з трэцяга. Але, хутчэй за ўсё, сапраўдную славу Alma Mater прыносяць яе выпускнікі. Так, наўрад ці вылучаўся чым-небудзь сярод сярэднявечных універсітэтаў той, што знаходзіўся ў італійскім горадзе Падуя. Але менавіта ён стаў сусветна вядомым, бо тут вучыліся тыя, хто спыніў сонца і закруціў зямлю (Г. Галілей), а потым разам адправіў іх у сусветны кругабег (М. Капернік), хто нёс сонца маладзіковае асветы людзям паспалітым (Ф. Скарына). Вось чаму іх імёны з пашанай згадваюць і ў самой Італіі, і ў Польшчы, і на Беларусі — а гэта значыць, і ва ўсім свеце.

Па-сапраўднаму пра вышэйшую навучальную ўстанову пачынаюць гаварыць толькі тады, калі ў ёй складваюцца пэўныя традыцыі і навуковыя школы. Калі ж гаворка заходзіць пра галоўную ВНУ Палесся, Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны, то ў першую чаргу згадваецца славутая алгебраічная школа на чале з членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, прафесарам Шамятковым Л. А., творчыя дасягненні якой добра вядомы не толькі на Беларусі, але ў Еўропе і ЗША. Таму зразумела, чаму нашы матэматыкі і фізікі частыя госці ў найбольш прэстыжных універсітэтах Старога і Новага свету, а іхнія працы сталі адметнай візітоўкай нашых поспехаў і дасягненняў.

Разам з тым традыцыйнае саперніцтва *фізікаў* і *лірыкаў*, сутнасць якога больш паэтычна і не менш дакладна ўвасоблена ў класічнай прытчы пра васількі і жыта, у сценах ГДУ вырашаецца не менш дакладна і паэтычна — васількі ў жыце, хлеб і песня, краса і спажытак...

Ці не таму значныя поспехі маюць і нашы лірыкі, што дазваляе павесці гаворку аб сапраўднай гомельскай школе ў нацыянальнай літаратуры. (Маецца на ўвазе творчая дзейнасць толькі непасрэдна звязаных з універсітэтам мастакоў слова, вось чаму мы не будзем гаварыць пра «івангард» беларускай прозы — славутых Івана Мележа, Івана Навуменку, а таксама не менш слынных Андрэя Ма-

каёнка, Анатоля Грачанікава, Віктара Казько, якія, на жаль, не былі нашымі студэнтамі.

Зараджэнне універсітэцкай школы прыгожага пісьменства практычна супадае са станаўленнем нашай Alma Mater.

Ля іх вытокаў стаялі маладыя паэты Леанід Гаўрылаў, Мікола Сурначоў, Васіль Корнеў, чые светлыя ўваходзіны ў краіну паэзіі абарвала вайна. Яны назаўсёды засталіся ў нашай памяці і беларускай паэзіі зусім маладзенькімі, як і іх юнацкія творы.



*Новы корпус ГДУ імя Ф. Скарыны.*

Усяго дваццаць тры гады пражыў на белым свеце Леанід Гаўрылаў, які загінуў на самым пачатку вайны. Заўчасная смерць не дала маладому хлопцу на ўсю магутнасць разгарнуць паэтычныя крылы. А гэтыя крылы, як лічыць яго аднакурснік К. Кірэенка, былі для высокага і шырокага палёту. Аб гэтым і сведчаць творы — магчыма, часам недасканалыя, але такія шчырыя, адкрытыя. Здарылася так, што на паэтычным шляху Л. Гаўрылава не было пачатковага этапу. Уваходзіны так і засталіся спадчынай. Але і па гэтых творах мы бачым, якога паэта ад нас забрала вайна.

Жыццё, смерць і бессмяротнасць маладога воіна звязаны і з подзвігам яго маці, якая ў невыносных умовах захавала на ўласных грудзях сшытачак з творамі сына і яго сціплы здымак, тым самым уратаваўшы яго голас ад векавога забыцця. Маці дала творам сына другое жыццё, дзякуючы яе мацярынскай любасці і веры мы сёння можам ізноў пачуць пранікнёныя вершы яе сына.

Доля Міколы Сурначова была болей спагаднай, калі так можна сказаць: лёс яму адмераў амаль дваццаць восем гадоў. І загінуў ён за два тыдні да Перамогі, не дайшоўшы да Берліна роўна 8 кіламетраў. Якраз там знаходзіцца брацкая магіла, што прыняла навекі маладога хлопца з Прысожжа. А сваю долю паэт прадказаў яшчэ ў 1941 годзе, на Заходнім фронце, у славутым вершы «У стоптаным жыце». Прадчуванне ўласнага лёсу пад пяром паэта становіцца велічным прадказаннем трагедыі ўсяго пакалення, якому ніколі ўжо не ехаць «да блізкага гаю, да роднага дому». Цяпер ніводная славянская анталогія ваеннай паэзіі ўжо не можа абысціся без славутай балады М. Сурначова. Невыпадкова сам аўтар «Василия Теркина» перастварыў яе на рускую мову і трагедыйныя радкі твора загучалі ў суладдзі з вядомымі радкамі «Его зарыли в шар земной».



*Стары корпус ГДУ імя Ф. Скарыны.*

Вайна стала вызначальнай і ў паэзіі Кастуся Кірэенкі. Тонкі лірык на пачатку свайго творчага шляху, які зайздросціў летняму дажджу, што мае права вольна дакрануцца да рукі каханай, першы свой паэтычны зборнік цалкам прысвячае гераічным будням воіна. Для паэта галоўным становіцца не ўвасабленне прыгажосці краявідаў роднага Палесся, а ўслаўленне подзвігу радавога салдата, які абараняе родны край і сваё светлае заўтра.



*Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка і рэктар універсітэта Б. В. Бокуць.*

Толькі ў апошнія гады жыцця, будучы ўжо прызнаным майстрам, лаўрэатам Дзяржаўных прэмій, Кастусь Кірэенка на новым этапе звяртаецца да асэнсавання класічных праблем быцця, рэзка мяняючы змест сваіх твораў. Паэт спасцігае, што веліч чалавечай душы раскрываецца не толькі ў экстрэмальных сітуацыях. Рэальныя чалавечыя трагедыі (адчуванне сваёй нявечнасці на зямлі, самотнае каханне) даюць не менш значныя і велічныя вехі існавання ў гэтым свеце.

Своеасаблівым сімвалам паэтаў-франтавікоў стаў лёс Паўлюка Пранузы. Атрымаўшы дыплом настаўніка ў першыя дні вайны, ён пайшоў не дзяцей вучыць, а іх бараніць. Малады артылерыст-зенітчык усе чатыры гады вайны быў на пярэднім краі. За ўсіх сваіх палеглых сяброў дайшоў да Берліна і распісаўся на Рэйхстагу. А пасля вайны ўсё аддаваў дзецям — да выхаду на пенсію працаваў настаўнікам. І быў Паэтам. Цудоўнае ўвасабленне памкненняў гераічнага і летуценнага пакалення!

Якраз згаданыя выпускнікі-франтавікі і прынеслі сапраўдную заслужаную славу Гомельскаму педінстытуту як школы паэтаў. Іх творчы вопыт у спалучэнні з юнацкай няўрымслівасцю, рамантычнай захопленасцю, падчас нават экзальтаванасцю і суровай, бязлітаснай праўдай вайны стаў вызначальным для ўсёй паэтычнай генерацыі, бо менавіта яны ўпершыню паяднаді на практыцы штык і пяро, заплаціўшы за гэтыя спробы сваёй крывёю і нават жыццём. Ці не таму іх творчая спадчына непадзельная — яна стала па сутнасці інтрадукцыяй, уступам да той велічнай калектыўнай балады мужнасці і адвагі, якая праз некаторы час паведае ўсяму свету аб мужнасці і нескаронасці беларусаў. І невыпадкова, што праз пэўны час жыццёвы і творчы вопыт паэзіі, агнём абпаленай, на новым узроўні згадаюць пісьменнікі-эпікі, у тым ліку і тыя, што прыйдуць у сцены галоўнай навучальнай установы роднага Палесся.

Сапраўды, яе студэнтамі адразу пасля таго, як сціхлі грымоты навалы, сталі М. Даніленка, А. Капусцін, народны пісьменнік Іван Пятровіч Шамякін. Якраз у гэты час ён, будучы студэнтам-завочнікам Гомельскага педінстытута, днём вучыў дзетак, а вечарамі ў халаднаватай хаціне пачынаў пісаць свае першыя раманы. Праўда, праз некаторы час ён патрапіць у ВПШ, бо пераедзе ў Мінск, але першыя ўрокі творчасці спазнаў усё ж такі ў сценах нашай Alma Mater. Новае пакаленне, у адрозненне ад папярэднікаў, было больш схільным да прозы. Гэта тлумачыцца хутчэй за ўсё тым, што яму патрэбна было выказацца за ўсіх сваіх равеснікаў, якія не дайшлі да светлай Перамогі. Хаця, канешне, у сценах, якія памяталі гулкія галасы сваіх таленавітых выхаванцаў, не магло заціхнуць паэтычнае слова. Магчыма, паэты проста не заявілі аб сабе так магутна, як згаданыя вышэй празаікі. Хаця мажлівасці для гэтага былі. Цікавыя замалёўкі роднай пры-

роды пакінуў Алесь Хведар, дзеткам прысвяцілі свае першыя кнігі Нічыпар Парукаў і Станіслаў Кацуба, згадкі якога пра родны куточак могуць упрыгожыць любую анталогію.

Цікавай старонкай паэтычнага летапісу інстытута стала творчасць студэнтаў 50-х — канца 60-х гадоў. Аб сваім родным Сожы, Палессі, пра салаўіныя ночы юнацтва, студэнцкі інтэрнат пялі Васіль Клімянкоў, Васіль Патапенка. Тонкімі лірыкамі зарэкамендавалі сябе Аляксей Саснок, Уладзімір Беліч, Людміла Грыгаровіч, споведзь якой так і хочацца працытаваць:

А ці бачылі вы беларускае неба,
А ці знаеце вы беларускі наш бор?
Ці адчулі вы водар жытнёвага хлеба,
Ці адчулі хоць раз вы, як пахне чабор?

Найбольш яскрава гэтыя пошукі ўвасоблены ў паэзіі Алега Маісеенкі. Кароткімі байкамі змагаўся з рознымі недахопамі Васіль Дружкоў, з сатырычнымі вершамі выступіў Уладзімір Казелец, балады роднаму Гомсельмашу, мірнай стваральнай працы прысвячаў Міхаіл Буткевіч. Гэта была паэзія пакалення, мары і надзеі якога ўвасобіліся ў звонкіх радках:

Мы ў змаганнях раслі,
Мы ў паходах сталелі,
Каб усцяж на зямлі
Толькі краскі алелі.

Амаль ніхто з іх не стаў прафесійным паэтам, але любоў да слова спрыяла пошукам самога сябе, дапамагла ім стаць сапраўднымі людзьмі.

Магчыма, гэта і выпадковасць, але новы ўзлёт творчай актыўнасці студэнцтва прыпадае якраз на той час, калі на базе педінстытута ствараўся універсітэт. Змены закранулі самыя разнастайныя сферы яго жыцця. Выраслі новыя карпусы, у сцены якіх увайшлі і новыя творчыя асобы, пачынаючы ад рэктара Б. В. Бокуця, таленавітага фізіка, які, нягледзячы на выразную спецыфіку прафесіі, а можа, што болей верагодна, дзякуючы ёй, надзвычай захапляўся роднай мовай і прыгажосцю паэтычнага слова. Спрыяў гэтай высакароднай справе і тагачасны першы прарэктар, а потым рэктар, цяпер Ганаровы рэктар Л. А. Шамяткоў, натура, адораная не толькі талентам вучонага, але і тонкім эстэтычным пачуццём, любоўю да мастацтва ва ўсіх яго праявах. З гэтага часу частымі гасцямі ў ГДУ сталі пісьменнікі, у тым ліку і народныя, паўнаводна бруілася «Крынічка» — літаб'яднанне пры кафедры беларускай літаратуры, якой пачаў кіраваць паэт у душы прафесар Мікола Грынчык. Шмат карыснага для гэтай вялікай справы зрабіла шматтыражка «Гомельскі універсітэт», творчы калектыў якой здолеў паяднаць вакол сябе цікавую таленавітую моладзь. А яе было надзвычай многа — на кожным курсе падавалі сур'ёзныя надзеі па некалькі здольных паэтаў. Іменна ў гэты час вельмі хораша заявілі пра сябе Таіса Мельчанка, Ніна Шклярава, Рыгор Андрэявец, Алесь Дуброўскі, Станіслаў Крупенька, Міхась Башлакоў, Віктар Ярац, Віктар Стрыжак... Прычым амбіцыі і творчы патэнцыял большасці аўтараў не абмяжоўваўся толькі маштабамі універсітэта. Іх агульныя «Уваходзіны» (а менавіта так сімвалічна назваў свой першы зборнік В. Ярац) сталі па сутнасці прадвесцем уваходзін у вялікую літаратуру новай паэтычнай генерацыі. Так яно і павінна было быць — сонца заўсёды прачынаецца на ўсходзе, а *Беларусь з Палесся пачынаецца.* Усе паэты вылецелі з бацькоўскіх хат і назаўсёды захавалі ў сэрцах удзячнасць сваёй маленькай радзіме. Яны нават і свае першыя зборнікі называлі зусім проста: «Мая вёска» (Н. Шклярава), «Вясковая песня», «Бацькоўскі дом» (Т. Мельчанка), «Касавіца» (М. Башлакоў), «Даннік» (В. Стрыжак). Яны з замілаванасцю згадвалі свой «Начны паром» (М. Башлакоў), «Дняпроўскі бакен» (В. Ярац) і, урэшце, дні свае залатыя. Па сут-

насці, была складзена адметная паэтычная анталогія краявідаў Палесся, яго някідкай, на першы погляд, але такой захапляльнай прыроды. Найбольш яскрава ўсё гэта ўвасоблена ў паэзіі Міхася Башлакова, які маляўніча і экспрэсіўна заявіў сябе песняром роднага краю. Чытач не мог не захапіцца павольна-зажуранай Прыпяццю, веліччу Дняпра-Славуціча, сівымі туманамі непрыкметнай на першы погляд Убараці, цудоўнымі акварэльнымі замалёўкамі палескіх лугоў, бароў, славутага Цар-дуба. Подыхам сапраўднай замілаванасці прыгажосцю сусвету з яго такімі рэальнымі і ў той жа час выключна таямнічымі аспектамі існавання прасякнута пастэльная, акварэльная лірыка Віктара Яраца. Па-жаночы шчырай, безабароннай, напеўнай і мілагучнай уяўлялася паэзія Т. Мельчанкі і Н. Шкляравай. Па-новаму спасцігнуць скарбы народнай паэтыкі спрабавалі А. Лозка і А. Дуброўскі.

Але не толькі эмацыянальнасцю, непасрэднасцю, захопленасцю і замілаванасцю вылучаліся нашы лірыкі. Праз кроплю ўбачыць сусвет, узважыць «Міг і Вечнасць» (зборнік Н. Шкляравай), зазірнуць у твары далёкіх прашчураў, адчуць непарыўнасць яднання ўсіх пакаленняў, што прайшлі па гэтай зямлі, — вось лейтматыў іх творчых пошукаў.

Новы этап паэтычнай гісторыі універсітэта звязаны з імем Анатоля Сыса, асобы таленавітай, шчодра адоранай, няўрымслівай, падчас непрадказальнай. Яго кіпучая энергія не заўсёды знаходзіла адэкватны выхад, што, як вядома, уласціва амаль усім творчым натурам. Пачаўшы са з'едлівых пародый на М. Башлакова, У.Верамейчыка, іншых гомельскіх паэтаў, ён праходзіць складаную эвалюцыю, паклаўшы пачатак свайму адметнаму шляху.

Пасляваеннае пакаленне нашых таленавітых выпускнікоў, вылецеўшы з роднага універсітэта, нібы тыя птушачкі, у неабсяжную сінечу жыцця, асядалі ўсё ж такі на роднай Гомельшчыне. Яны станавіліся здольнымі педагогамі, выдатнікамі народнай асветы, журналістамі раёнак, супрацоўнікамі абласнога радыё і тэлебачання, кіраўнікамі самых разнастайных устаноў. А якраз з часоў А. Сыса найбольш таленавітыя і ўпартыя, як некалі Дзюма і Бальзак — Парыж, Гогаль — Пецярбург, Крашэўскі — Варшаву, выправілі штурмаваць Мінск, здабываючы менавіта ўжо там славу і прызнанне. Можа, яны і мелі рацыю — на тыя часы ў сталіцы былі рэдакцыі практычна ўсіх літаратурна-мастацкіх газет і часопісаў, усе выдавецтвы і культурныя цэнтры. Тым болей, што ехалі яны зусім не правінцыяламі — амбіцыі і спадзяванні былі немаленькімі. І ў значнай ступені яны рэалізаваліся. Менавіта нашы выпускнікі былі сярод заснавальнікаў таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», якое кінула выклік традыцыям застою, заспакаення, халтуры ў літаратуры. Па-рознаму можна ацэньваць дзейнасць згаданага аб'яднання, але, самае галоўнае, яно ўскалыхнула спакойную плынь літаратурнага і культурнага жыцця рэспублікі. І гэта была не проста чарговая змена пакаленняў, не чарговае рушэнне аўтарытэтаў, бяздумная барацьба па тыпе — «у рожкі са старымі». Маладыя неслі сапраўды новае — і светабачанне, і светаўспрыняцце, і яго ўвасабленне. Яскравы прыклад: удумёны, засяроджаны Эдуард Акулін, які наважыўся паўтарыць подзвіг Максіма Багдановіча. Адштурхоўваючыся ад славутага «Санета» вялікага кніжніка, ён прыўнёс у нашу паэзію акрапаэму, а потым, як прыступкі лесвіцы, па якой уздымалася еўрапейскае краснае слова, згадаў віланэль, рытурнэль, канцону, ронда, трыялет, тэрцыны і іншыя класічныя формы, якіх так нам яшчэ не стае. Пачаўшы з універсітэцкай самадзейнасці, дзе ці не ўпершыню ў краіне загучалі рытмы беларускага року, той самы Э. Акулін стаў не толькі пранікнёным лірыкам, але і слынным бардам, лаўрэатам многіх фестываляў аўтарскай песні. І ён не застаўся адзінокі. Хутка ўсе пачулі і належна ацанілі захапляльны голас Вальжыны Цярэшчанкі, якая, увабраўшы традыцыі спеўнай Гомельшчыны, пералажыла на матыў сваёй душы класічныя радкі айчыннай паэзіі. Не згубіліся на гэтым фоне і яе ўласныя песні.



*Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін на літаратурнай сустрэчы ў сценах роднага універсітэта.*

Прызнаным бардам лічыцца цяпер і Андрэй Мельнікаў, пераможца многіх хіт-парадаў. Цікавыя аўтарскія музычныя праграмы Уладзіміра Каленчыкава і Святаслава Крупенькі здольны зацікавіць любую аўдыторыю. Зямля ў нас такая — болей нічога і не скажаш.

А згадаем нашых паэтэс. Надзеяй новай паэзіі называюць Ларысу Раманаву, аб творчай манеры якой некаторыя крытыкі сцвярджаюць, што яна не піша, а быццам выдыхае свае вершы. Разам з тым яна імкнецца спалучыць выяўленчую палітру лірыкі з аўрай матэрыялізаваных помнікаў Сярэднявечча, сярод якіх працуе ў сценах музея. Шчырую споведзь складанай, таямнічай душы жанчыны, што далучаецца да шматфарбнага, супярэчлівага, грознага сусвету, уяўляе сабой лірыка Вольгі Куртаніч. Вачыма філосафа, які вызначае вартасць існавання, сутнасць часу і нашага яго ўспрыняцця, глянула на свет Ірына Багдановіч. Класічныя біблейскія матывы арганічна ўвайшлі ў яе мастацкую галактыку, дзякуючы чаму ўспрымаюцца не як даніна модзе, а як вынік натуральнай эвалюцыі ў напрамку стварэння сапраўднай філасофскай паэзіі.

Завяршаючы гаворку пра слаўны гомельскі «дэсант», трэба згадаць і арыгінальнага Анатоля Казлова, які здолеў у сваіх творах паяднаць у адзінае цэлае фантастычнае і рэальнае, штодзённы побыт і містыку.

Але пакінем будучым гісторыкам літаратуры разгадваць феномен «гомельскай школы». Тым болей, што работы гэтай ім хопіць на доўгія гады, і пачатак таму пакладзены. Успомнім той новы струмень, што прыўнеслі нашы выпускнікі і ў плынь айчыннага літаратуразнаўства. Адным з галоўных даследчыкаў скарбаў вуснай паэтычнай творчасці лічыцца доктар навук, прафесар К. П. Кабашнікаў (выпускнік 1951 г.); з часоў заснавання універсітэта сапраўдным лідэрам літаратуразнаўчай навукі быў светлай памяці прафесар Мікола Грынчык, імя якога з павагай

успамінаюць яго вучні, што складаюць цяпер аснову літаратуразнаўчых кафедраў. Згаданая паэтэса Ірына Багдановіч працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, яна — адзін з найбольш перспектыўных гісторыкаў літаратуры, аўтар цікавых манаграфій, зараз завяршае работу над доктарскай. Плённа працуюць з маладымі літаратарамі Анатоль Казлоў — рэдактар газеты творчай інтэлігенцыі «Літаратура і мастацтва», Вольга Куртаніч — супрацоўніца рэдакцыі часопіса «Нёман», намеснік рэдактара часопіса «Дзеяслоў», намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Эдуард Акулін. Цікава заявілі пра сябе І. Афанасьеў, В. Шынкарэнка, Зм. Мамачкін, Н. Капшай, С. Ханеня, Ю. Сальнікава, кнігі і артыкулы якіх добра вядомы спецыялістам і чытачам.

Але навука аб літаратуры — гэта не толькі сур'ёзнае раскладванне па палічках вартасцей і недахопаў твораў канкрэтнага аўтара. Падчас лёгкая іронія замяняе знішчальны артыкул. Таму складванне традыцый лічыцца завершаным толькі тады, калі ў межах школы складваецца і сапраўдная парадыйная традыцыя. Гэта сведчыць аб тым, што ёсць пэўны матэрыял для гаворкі і ёсць людзі, здольныя яе павесці.

У цэлым варта сказаць, што зямля Гомельшчыны — унікальная, спеўная, меладыйная, паэтычная. Тут гучалі радкі несмяротных «Словаў» Кірылы Тураўскага яшчэ ў XII стагоддзі. І гэтая зямля нараджала і яшчэ народзіць не адно пакаленне талентаў, якім здабываць асвету ў сценах галоўнай навучальнай установы Палесся — Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. Невыпадкова два гады назад выйшаў калектыўны зборнік студэнтаў філалагічнага факультэта. Тагачасныя першакурснікі сабралі не проста свае вершы, замалёўкі, імпрэсіі, а сваё юнацкае ўспрыняцце свету на пераломе тысячагоддзяў і не пабаяліся з ім выйсці да людзей. І паспяхова. Гэты прыклад не адзіны. У бліжэйшы час убачыць свет чарговы зборнік студэнцкай паэзіі.

Высока-высока ў небе над бясконцымі шляхамі Гомельшчыны кружацца белыя буслы. І гэта добрая прыкмета.





**Таццяна ДЗЯРАБІНА,**

вядучы навуковы супрацоўнік Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, кандыдат біялагічных навук

# ПРЫРОДЫ ВЕЧНАЙ ЧАРАВАННЕ

Няма цяпер у Беларусі прыроднага куточка больш унікальнага, цікавага, шматабяцальнага і ў той жа час сваім лёсам настолькі трагічнага, чым Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Шырокамаштабны незапланаваны эксперымент на прыродзе, вялізны вузел найцікавейшых (з пункту погляду пазнання) аспектаў і праблем, невычэрпныя магчымасці радыеэкалагічных, заалагічных, генетычных, прыродаахоўных даследаванняў. Тут табе і змяненні ў відавых суадносінах і колькасці жывёл на ўгоддзях рознага тыпу пад уплывам створанага спецыфічнага комплексу экалагічных умоў, і працэсы аднаўлення парушаных чалавекам біяцэнозаў. А таксама выключнае па прасторавых і часавых параметрах уздзеянне радыяцыйнага фактару на жывёльны свет. Акрамя таго, заманлівая і ўжо цалкам выяўная сваёй рэальнасцю перспектыва выкарыстання тэрыторыі запаведніка ў якасці рэзервата для рэдкіх, антрапагенна ўразлівых і унікальных відаў фауны Беларусі. А гэта азначае неабходнасць распрацоўкі пытанняў удасканалення і канкрэтызацыі метадаў захавання біяразнастайнасці.

У запаведніку не толькі падтрымліваецца адносна высокая шчыльнасць большасці фонавых відаў звяроў і птушак, але і адбываецца павелічэнне колькасці відаў, занесеных у Чырвоную кнігу рэспублікі. Склаліся унікальныя магчымасці для аднаўлення папуляцый тых відаў жывёл, якія ў найбольшай ступені церпяць ад антрапагеннага фактара і з гэтай прычыны сталі рэдкімі, знікаючымі. Гэта датычыцца, у першую чаргу, буйных драпежных птушак, барсука, рысі. На думку арнітолагаў, тэрыторыя запаведніка становіцца адным з буйнейшых у еўрапейскім маштабе рэзерватам дзённых драпежных птушак. Усё часцей паведамляюць аб сустрэчах з нашай паўночнай пантэрай — рыссю. Значыць, яна ў запаведніку не выпадковы або часовы імігрант. І ўжо зусім стала для нас нечаканай вестка аб не раз убачаных слядах мядзведзя. Прысутнасць мядзведзя — яўная прыкмета таго, што, магчыма, тут склаліся экалагічныя ўмовы, якія адпавядаюць патрэбнасцям пражывання гэтага буйнога драпежніка.

Асобна неабходна сказаць пра барсука, якому строгі ахоўны рэжым тэрыторыі, як ніякаму іншаму зверу, павінен пайсці на карысць. Нягледзячы на тое, што ў рэспубліцы паляванне на барсука забаронена з 1978 года і ён занесены ў Чырвоную кнігу яшчэ ў першым яе выданні (1981), прынятыя меры не далі станоўчых вынікаў. Але ж асаблівасці яго экалогіі (усёеднасць, скрыты начны лад жыцця, асенне-зімовая спячка) усяляк спрыяюць павелічэнню гэтага віда ў прыродзе. Колькасць барсука ў рэспубліцы скарацілася да паграгажальных памераў, у тым ліку і на запаведных тэрыторыях. Барсучыны тлушч, якому прыпісваюць асаблівыя лекавыя ўласцівасці, карыстаецца вялікім попытам у насельніцтва і таму здаўна служыць



прычынай няспыннага знішчэння гэтага звера чалавекам. Шырока распаўсюджанае ў адносінах да барсука бязлітаснае і непакаранае браканьерства — сур'ёзная пагроза для далейшага існавання ў лясных куточках Беларусі гэтага своеасаблівага, дзіўнага па сваёй экалогіі і цікавага ў многіх адносінах звера.

Якая ж у запаведніку сітуацыя з барсуком, які ў любых умовах застаецца жаданай здабычай браканьера? Праходзячы па сваіх лясных маршрутах, з асаблівым задавальненнем усё часцей адзначаю сляды знаходжання барсука: шматлікія пакопкі на лясной паляне — пошукі дажджавых чарвякоў, лічынак жукоў, карэньчыкаў і цыбулін раслін. На пясчаным пагорку — шыракалапы з вострымі кіпцюрамі след, падобны больш за ўсё на мядзведжы ў мініяцюры, ускрай лужынкі — толькі ўмяціна ад задняй ступні, якая нагадвае след босай ножкі дзіцяці.





Аднак пасіўна чакаць і назіраць — гэтага сёння для захавання і павелічэння колькасці барсука ў запаведніку яўна недастаткова. Таму вырашылі дзейнічаць — распрацавалі праграму работ па арганізацыі і правядзенні біяманіторынгу пасяленняў барсука. Праграма прадугледжвае паэтапнае правядзенне работ, якія ўключаюць у сябе збор першаснага матэрыялу пра барсукоў, правядзенне ўліку колькасці, картаграфаванне месцаў размяшчэння нораў, пашпартызацыю кожнага пасялення і перадачу іх пад ахову лясніцтвам, на тэрыторыі якіх яны знаходзяцца. Усё гэта для пастаяннага ўліку і кантролю стану пасяленняў. Няхай у нашым запаведніку з кожным годам слядоў барсука будзе больш, а магчымасць паназіраць за ім сярод белага дня надараецца ўсё часцей. Там, дзе на барсука не палююць і мала непакояць, актыўным ён бывае і днём.

У цяперашні час роля запаведных тэрыторый з радыеактыўным забруджаннем у падтрыманні біяразнастайнасці жывёльнага свету становіцца ўсё больш заўважнай. Гэтыя станоўчыя тэндэнцыі характэрны для Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, украінскай зоны адчужэння, Усходне-Уральскага запаведніка на тэрыторыі «ўральскага радыеактыўнага следу» ў Чэлябінскай вобласці. Усяго толькі два фактары абумоўліваюць у гэтым выпадку прыцягальнасць такіх тэрыторый — дзейсны ахоўны рэжым, які ў цэлым значна больш строгі, чым у пераважнай большасці запаведнікаў, і зняцце ўсіх відаў антрапагеннай нагрузкі. Менавіта гэтыя другасныя фактары з'явіліся прычынай тых змяненняў у відавых суадносінах, колькасці і біятапічным размеркаванні жывёл на тэрыторыі Палескага запаведніка, якія так ярка выявіліся ў першыя гады пасля аварыі і працягваюць уплываць на фарміраванне фауны Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка і яе структуру, што, безумоўна, павінна адбіцца ў будучым і на стане фауны Беларусі.

На асаблівым прывілеяваным становішчы ў запаведніку зубры. Колькасць іх дасягнула сарака трох асобін, у гэтым годзе і прыплод парадаваў — шэсць цялят. Гэта ўжо ўнеслі свой уклад жывёлы, народжаныя на тэрыторыі запаведніка. Але хацелася б пачуць думку генетыкаў наконт вынікаў пражывання зуброў на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. Бо тыя плюсы, якія даюць ахоўны рэжым запаведніка і добрая натуральная кармавая база, не з'яўляюцца гарантам таго, што з зубром у далейшым будзе ўсё добра. І, магчыма, той факт, што зубр на тэрыторыі запаведніка



з'яўляецца аб'ектам хранічнага ўздзеяння іянізуючага выпраменьвання, і будзе вырашальным у лёсе мікрапапуляцыі. Калі адкінуць магчымы фактар рызыкі для яе генатыпа, можна сцвярджаць, што ўмовы, якія склаліся ў запаведніку, вельмі прыдатныя для стварэння ўстойлівай прыроднай папуляцыі зуброў, і не адной.

Увесь мінулы год работы па зубру вяліся па Праграме біяманіторынгу за станам палескай мікрапапуляцыі зуброў. І вынікі атрыманы значныя: устаноўлены межы асноўнага раёна пражывання, выяўлены новыя ўчасткі знаходжання зуброў у выніку іх натуральнага рассялення, удакладнены даныя па полаўзроставай структуры. Гэта важныя працаёмкія пытанні, якія маюць вялікую практычную значнасць для ажыццяўлення радыеэкалагічнага і біялагічнага маніторынгу, высвятлення перспектыў павелічэння колькасці і вызначэння аптымальнай шчыльнасці зуброў на тэрыторыі запаведніка.

Раён пражывання зуброў. Гэта толькі на першы погляд усё вельмі проста: тут яны пасуцца, а там яны адпачываюць. І толькі сістэматычныя назіранні дазваляюць раскрыць дзіўную па сваёй гарманічнасці мазаічную карціну іх прасторавага размеркавання, кожны фрагмент якой старанна падагнаны да другіх і адыгрывае сваю пэўную важную ролю. Стойлы, лежкі, пясчаныя купальні, часальні, сцежкі, месцы вадапою — усё гэта неад'емныя, істотныя элементы абжытай зубрамі прасторы, выразныя паказчыкі актыўнага і шматгадовага выкарыстання імі тэрыторыі. І звязаны яны са стварэннем камфортных умоў пражывання — паляпшэннем умоў адпачынку, перамяшчэння, пазбягання насякомых, догляду за целам.

Давайце пабываем на адным з такіх участкаў. Невялікі па плошчы чысты грабняк змяняецца змешанымі лісцвянымі насаджэннямі з густым падлескам з брызгліны, свідзіны, рабіны, черомхі, у нізінцы — алешнік з зараснікамі крапівы, балотным разнатраўем, воддаль — пятачок хвойніку-жардняку на пясчанай глебе. Такая рэзка выяўленая мазаічнасць біятопаў вельмі даспадобы зубрам. Я мяркую аб гэтым па красамоўных прыкметах актыўнага выкарыстання імі ўчастка. Вось таму люблю бываць тут у любы час года: усесціся на высокі пень з адпаліраваным да бляску бокам (гэта часалка зуброў), падлічыць іх лежні, раскіданыя вялікімі круглявымі плямамі па грабняку, па натаптанай імі шырокай сцежцы прайсці да сасонніка, што прадзімаецца ветрам (тут яны ратуюцца ад кравасосных насякомых). Калі з боку поля рушыць уздоўж узлеску, то ўзнікне поўная ўпэўненасць, што прагульваецеся ў алеі з кустоў, падстрыжаных рукой умелага садоўніка. Кусты — гэта дрэўцы граба, якія прынялі густую кусцістую форму з-за пастаяннага абшчыпвання зубрамі іх голек. Вось такія тут садоўнікі!

Я хаджу па сцежках, пратаптаных не чалавекам, і мне падабаецца, што ў лесе гаспадараць звяры (яны нават змянілі рытм сваёй сутачнай актыўнасці), а я тут — на правах госця. Далёка ўперадзе перабягае, не спяшаючыся, дарогу вялікі-вялікі пацук. Вачам сваім не веру, хапаюся за бінокль. Дык вось які пацу-

чыны профіль можа быць у выдры, якая выскачыла сярод белага дня прама з вады. Якраз цяпер і становіцца зразумелым, адкуль бяруцца байкі пра вялізных пацукоў мутантаў, якія з'явіліся пасля Чарнобыля.

Ягады, грыбы, паляванне, рыбалка — усё цяпер трэба шукаць у другім месцы. Цяжка ўявіць жыхароў Палесся без гэтых неад'емных атрыбутаў іх мінулага жыцця. Помню, як цяжка далася мне мая першая грыбная восень у запаведніку. Якія россыпы лісічак і любімых чорных груздоў! Ад аднаго толькі выгляду рэльефных, крамяных баравічкоў часціла сэрца. Уся натура заўзятага грыбніка пратэставала супраць гэтай надзвычайнай супярэчнасці: грыбоў — процьма, а браць — надзвычай неразумна. Я хадзіла ад аднаго грыба да другога і цяжка ўздыхала. Цяпер я ўжо змірылася і кожную восень толькі любуюся імі вачамі староннята чалавека, без чутага азарту. І на душы пры гэтым, далібог, як у вылегчанага ў росквіце сіл ката. Час ад часу я зразаю грыбы і здаю іх на аналіз. Лічбы заўсёды вельмі высокія па ўсім запаведніку. Вось зялёнкі, сабраныя недалёка ад Бабчына, — 101 060 Бк/кг сырой масы, гэта значыць перавышаюць дапушчальны ўзровень (РДУ-99) у 273 разы, асеннія маслякі — у 108 разоў, белы грыб — у 36 — 127 разоў, грыб парасонік — у 25 разоў. Далей можна не працягваць.

Не раз пісалі пра «азвярэлую» ў чарнобыльскіх лясах фауну, усялякіх мутантаў. Мы ж назіраем тут заканамерныя, знешне звычайныя, прыродныя з'явы, і адсутнасць чалавека з усім комплексам яго ўплыву на прыроду дазваляе праявіцца жыццёвай палітры фарбаў больш ярка і насычана, магчыма, больш узаемазвязана і гарманічна, што ў некаторай ступені стварае бачнасць пэўнага экалагічнага дабрабыту. А можа, за гэтай бачнасцю ўжо стаяць працэсы кампенсацыі і актыўнага прыстасавання згуртаванняў. Менавіта ў такім аспекце хацелася б разглядаць і вывучаць праблему аддаленых вынікаў аварыі.

Асноўны ж аб'ём навуковых даследаванняў першапачаткова быў прысвечаны вырашэнню бягучых практычных пытанняў: канцэнтрацыя радыенуклідаў у аб'ектах навакольнага асяроддзя, асаблівасці іх размеркавання і міграцыі ў харчовых ланцугах натуральных экасістэм. Тады як аб заканамернасцях біялагічнага ўздзеяння радыелагічнага фактару на прыродныя папуляцыі і рэакцыі ў адказ на яго да гэтай пары вядома вельмі мала. Ужо «наступае на пяты» амерыцый-241, доўгажывучы альфа/гама-выпраменьвальнік, прадукт распаду ізатопа плутонію-241, у параўнанні з якім ён з'яўляецца біялагічна і радыетаксічна больш небяспечным. Самыя высокія ўзроўні забруджання ім, па прагнозах спецыялістаў, будуць рэгістравацца ў 2060 годзе ў 30-кіламетровай зоне Чарнобыльскай АЭС. Як адзначаюць нашы ўкраінскія калегі, на забруджаных тэрыторыях ён ужо фактычна стаў і працяглы час будзе заставацца асноўным дозаўтваральнікам сярод ізатопаў трансуранавых элементаў.

Чалавечых трагедый і скалечаных чарнобыльскай аварыяй лёсаў я не кранулася, але яны заўсёды нябачна лунаюць над намі на гэтай тэрыторыі.

*Пераклад з рускай М. Міхайлава.*
*Фота аўтара.*







Янка СІПАКОЎ

# НАШЫ ХАТЫ

I вось тое, пра што мы так доўга марылі і што, не лічачыся ні з чым, настойліва набліжалі, нарэшце, збылося!

Над хатаю, над комінам, на якім яшчэ не паспела абсохнуць гліна, гэтак ужо жытлова завіўся першы дымок. Як прыемна ён пах!

Ёсць дымок — значыць, у новай хаце з'явілася душа — печка.

Есць печка — значыць, у нашай хаце пасялілася жыццё.

Пасялілася не на дзень, не на год, а на ўвесь наш век — назаўсёды.

Мы не будавалі сабе, як паўночныя людзі, іглу-хату са снегу, бо ведалі, што прыйдзе вясна і яна растане.

У нас не было пераносных чумаў, бо мы вельмі аселы народ і вельмі любім раз і назаўсёды абранае месца: як пабудаваўся — дык навечна! Які там чум і нашта ён нам, качэўнік?!

Мы лясныя людзі, у нас вельмі многа дрэў, таму свае хаты беларусы спрадвек будавалі толькі з дрэва. У асноўным з сасны і з елкі. Крыху дадавалі дуба — дубовыя бярвенні ішлі ў нас на падруб, клаліся на зноў жа ўкапаныя ў зямлю дубовыя штандары, былі першымі вянцамі нашых хат. Дуб стагоддзямі не гніе, а наша хата павінна стаяць вечна.

Мы ведалі: у нашай хаце будзем жыць мы, нашы дзеці, нашы ўнукі, а то — і дай Бог чутае ды ўбачыць! — нашы праўнукі.

Таму заканчэнне будаўніцтва новай хаты заўсёды было найвялікшым святам для ўсіх. На ўлазіны мы апраналіся ў самае чыстае адзенне — як на Вялікдзень.

Радаваліся новай хаце не толькі мы, людзі, а і ўсё, што жыло побач з намі, — куры, цяляты, ягняты, парасяты. Быццам і яны ведалі, што ўзімку, як прыціснуць маразы, наша хата і для іх стане такой жа гасціннай і ўтульнай, як і для нас. Няхай сабе ў падпечны, няхай сабе ў парозе, але ж ім будзе цёпла і ўлежна ўсю зіму.

У нашых хатах спрадвек жылі калыскі і лаўкі, цвыркуны і качэргі, сталы і кросны, збанкі і цэбры, жорны і абразы. Ходзікі жылі, скацёркі жылі, абрусы жылі, ручнікі жылі — імі мы прыбіраем сваіх багоў.

І Багі заўсёды жылі ў нашых хатах.

Здаралася, пра нас нехта гаварыў: усё ў іх шэрае — і хаты, і палі, і адзенне. Мусіць, яны ніколі не бачылі нас у святы, бо якраз тады чысціню і бель нашай вопраткі немагчыма было не заўважыць — яна аж слепіць вочы. А працоўная наша вопратка, канечне ж, шэрая — хто ж гэта працаваць будзе прыбраны, як на свята?

Пэўна ж, і палі нашы незычліўцы бачылі тады, калі зямля адпачывае. Тады яна, і праўда, шэрая. А якая яна смарагдавая ўвесну і якая залацістая ад зерня ўвосень, калі мы жнём!

Нашы хаты мы самі бачым не вачыма, а сэрцам. Таму яны ніколі не бываюць для нас шэрыя. Яны заўсёды радуюць душу. І тады, калі, толькі што дабудаваныя, сасновыя, чысценькія, светлыя, жоўценькія, як жаўток, радасна пахнуць смалою і, нібы даспелыя яблыкі, наскрозь свецяцца на сонцы; і тады, калі ўпрыгожаныя разьбою — вільчыкі, франтоны, ліштвы на вокнах, вуглы хат здаюцца музейнымі экспанатамі, тады, калі ўжо аздобленыя мастацкаю шалёўкаю, пафарбаваныя ў вясёлыя і прыемныя колеры, нашы хаты аж прыўзнімаюцца на падмурках, каб паказаць сябе як найлепей.

Найперш, вядома ж, для нас — ежа, але адразу ж за ёю — хата.

Якою ж доўгаю, як мара, заўсёды была ў нас дарога да сваёй хаты! Спачатку мы ўважліва прыглядаліся, выбіраючы месца для будаўніцтва хаты. Назіралі, разважалі, думалі: дзе, у якім месцы паставіць сабе жытло.

Беларус ніколі не ставіў хату там, дзе расце асот ці конскае шчаўе.

Ведаў, што там сыра, блізка грунтовая вада. Раніцою назіраў за расою — калі яна густая аж да цемнаты, там можна капаць калодзеж, але ніколі нельга рубіць хату: згніе! Ужо і выбраўшы месца, клаў дошку на некалькі дзён: калі пад ёю завяліся макрыцы — дрэннае месца, калі мурашы — смела стаўляй хату. Тут будзеце жыць і ты, і яна, хата.

Лічылася, што цёплым месцам для хаты будзе тое, дзе любяць ляжаць авечкі.

Мы баяліся памыліцца месцам для аселішча. Былі ўпэўнены, што нельга будавацца на дарозе, на скрыжаванні дарог, на месцы лазні — там уся нечысць, насупраць варот — увесь набытак будзе знікаць з дому; на падмурку старога дома.

Скрыжаванняў закінутых шляхоў мы асабліва баяліся. Верылі, што там перасякаюцца дарогі мёртвых і жывых, там, зачараваныя перакрыжаваннем, блукаюць, не ведаючы, як выбрацца, злыдні, і нячыстая сіла будзе штоноч галёкаць пад вокнамі.

Там мы ставілі крыжы і капліцы, а свае хаты адносілі ад іх як мага далей.

Шчаслівымі для будаўніцтва хаты ў нас лічыліся мясціны, дзе любілі сяліцца жывыя істоты, — павукі, шэршні, пчолы, мурашы. Гэта адпавядала нашым старажытным уяўленням пра сімвалы дабраты і шчасця.

А як прыдзірліва і з якім шанаваннем выбіралі мы дрэвы, якія мусяць стаць сценамі нашай хаты!

На будаўніцтва мы не бралі дрэў з густымі лапамі — дзеці самі па сабе, без прычыны будуць набіваць сабе гузакі ў хаце.

Адкідалі і тое дрэва, якое ссечанае, завісала на другім, — калі яго пакласці ў зруб, то ў сям'і ўвесь час будзе калатнеча.

Мы ведалі, што сячы дрэвы на хату можна толькі зімою — снежань, студзень і люты, але найлепш — у студзені: усе сокі з дрэва ўжо адышлі ў карэнне, і хата з такіх дрэў будзе стаяць як найдаўжэй. Навозіш на хату дрэў, ссечаных у іншы час, калі сокі яшчэ не ўгаманіліся ці пайшлі ўжо ўгару, тваё жыллё хутка спарахнее і згніе.

Часцей за ўсё мы сваю хату рабілі самі. Рубіў гаспадар. Калі не ставала сваіх сіл — клікалі талаку, дапамогу; калі не ўмелі самі зрабіць абсаду — вокны, дзверы ці печку, — прасілі таго, у каго гэта атрымлівалася лепей як у нас.

Але ж свае хаты мы рубілі самі. Бо цеслямі, дойлідамі былі мы ўсе — умелі зацясаць любы вугал, выбраць у бервяне такі цёплы шнар, паз, што на яго і мох класці не трэба — будзе цёпла і так.

Хаты яшчэ не было, а мы ўжо бачылі яе!

Бо перад гэтым доўга думалі, якая яна будзе? Проста адна хата, зруб без сенцаў, уваход у яе — адразу ж са двара. Ці потым мы дабудуем да яе сенцы, а затым яшчэ да сянец прыбудуем ляцён-трысцен, у якім можна жыць улетку. А можа, мы адразу возьмемся рубіць пяцісценку, — прасторную хату, за якую потым будуць трымацца і сенцы, і камора, і варывенька, і клець. Бо і камора, і варывенька, і клець — гэта ж таксама хата. Амбар, клуня, павець — зноў жа хата. А хля-

вы? Не, хлявы, сенніцы — гаспадарчыя пабудовы. Хоць яны і ўваходзяць у круглы вянковы двор, якія ў нас любілі будаваць на Віцебшчыне, Міншчыне, Магілёўшчыне ды Гомельшчыне, але ж тое ўжо не хата. Гэтак жа, як вынесеныя за вянок гумно, еўня, лазня.

А якія вуглы будуць у нашай хаце — у чашку, у просты замок, у каню ці ў чысты вугал?

А якой будзе наша столь? Скляпеністая ці звычайная, плоская?

Скляпеністую мы рабілі даўней, а плоскую, з выструганых дошак сцелем на моцныя бэлькі і сёння.

А страха? Якую выбраць? На стаяках — на козлах, на дзядках, на чапёлках, на крыжах ці на сошках? На кроквах ці ўвогуле закотам?

А як яе крыць? Рабіць двухсхільную, трохсхільную, чатыросхільную ці з усечанымі франтонамі — залобкам або прычолкам.

Мы амаль не ставілі сваю хату на зямлю. На поўначы, на Віцебшчыне, дзе вельмі шмат камення, пад вуглы хаты мы клалі валуны; на поўдні, на Палессі, дзе шмат лясоў, укопвалі дубовыя калоды ці смалістыя карчы — штандары. Мы заўсёды падымалі сваю хату над зямлёй і, як казалі нашы дзедзічы, ставілі яе «на стулы». А каб у хаце было цяплей, каб не задзьмуваў пад сцены вецер, насыпалі прызбу.

Але такія хаты мы пачалі рубіць ужо значна пазней.

А напачатку, калі мы называліся яшчэ не беларусамі, а неандэртальцамі, мы жылі ў норах, ямах ад паваленых дрэў, у пячорах, у зямлянках. Гэта было ў раннім палеаліце, 300 тысяч гадоў назад. У мусцьверскую культурна-гістарычную эпоху неандэртальцы пакінулі свае сляды каля цяперашніх нашых вёсак Свяцілавічы Веткаўскага, Абідавічы Быхаўскага і Падлужжа Чачэрскага раёнаў.

А поўнае засяленне тэрыторый Беларусі адбылося ў мезаліце, прыкладна 10 тысяч гадоў назад, калі мы ўжо зваліся краманьёнцамі.

Паселішчы Юравічы і Бердыж добра сведчаць, якімі тады былі нашы хаты. Бердыжская стаянка — самае старажытнае і найбольш даследаванае паселішча на тэрыторыі Беларусі. Тут знойдзены рэшткі чатырох паўзямлянак і пяці гаспадарчых ям, якім звыш 25 тысяч гадоў.

Бердыжская хата была зроблена з укапаных касцей маманта і стаяла на падмурку з чарапоў. А сцены Юравіцкіх хат збудаваны са складзеных адна на адну трубчастых касцей буйных жывёл і акружаны валунамі.

Нашы хаты тады мелі і шатрападобныя стрэхі — на кроквы з рэбраў жывёл, якія былі злучаны з дапамогаю пазванкоў з жэрдкамі, мы ўсцягвалі цяжкія скуры буйных жывёлін, уключаючы маманта... Цікава, колькі ж яна важыла, тая мамантава шкура — наша даўняя страха?

А пасярод гэтых хат ужо абавязкова было агнішча. Раскладалі мы агонь і ў сваіх часовых жытлах — буданах, рэшткі якіх знойдзены ва ўрочышчы Грэнск на Чачэршчыне.

У неаліце і бронзавым веку мы закопваліся ў зямлю — каля возера Літвін у Калінкавіцкім раёне і ля вёскі Добры Двор у Баранавіцкім раёне знойдзены нашы жытлы, укапаныя ў зямлю. А каля паселішча Сасонка выяўлена жыллё, у якім конусападобны дах трымаўся на слупах.

Жалезны век характэрны тым, што нашы жытлы сталі больш разнастайныя: паўзямлянкі слупавой канструкцыі з печамі-каменкамі, невялікія наземныя хаты зрубнай канструкцыі, а пасля і вялікія пабудовы з некалькімі жылымі памяшканнямі.

Мы нарэшце выбраліся з зямлі на паверхню!

Наша хата — дачка зямлянкі і сястра будана.

А як выглядалі нашы хаты ў XIII стагоддзі, мы можам самі ўвачавідкі ўбачыць у археалагічным музеі «Бярэсце» ў Брэсцкай крэпасці, на гістарычным Валынскім умацаванні.

Археолага Пятра Лысенку называюць чалавекам, які адкрыў беларускую драўляную Трою. Ён раскапаў і даследаваў старажытны беларускі горад Бярэсце, які заснаваны яшчэ дрыгавічамі, добра захаваўся, дамогся яго кансервацыі і адкрыцця там музея.

Археалагічныя даследаванні выявілі 224 жылыя і гаспадарчыя пабудовы, насцілы са шчапаных дошак трох вуліц, вымашчаныя двары і нават платы, якія захаваліся.

У музеі відаць, што тады мы свае хаты будавалі на адзінаццаць - дванаццаць вянкоў, ставілі іх да вуліцы глухімі сценамі, рубілі ў просты вугал, пакрывалі дашчаным дахам, а вільчык упрыгожвалі нават какошынай — «курыцай», якой завяршалі хату.

Тыя, старажытныя, вокны ў хатах нам бы сёння не спадабаліся — яны праразаліся ўсяго толькі на адно бервяно высока пад столлю. Ды і гэтае акенца, калі было холадна, мы прыкрывалі дошчачкай.

Апрача Бярэсця, культурны пласт археолагамі даследаваны і ў іншых старажытных гарадах — у Віцебску выяўлена 170, у Мінску — 130, у Полацку 70, у Гродне, Слуцку, Слоніме каля 50 розных пабудоў, палавіна з якіх жытло, хаты...

А мы ж тым часам ужо закончылі будаваць сваю хату і збіраемся рабіць улазіны, уваходзіны, наваселле. Гэта для нас не толькі свята, але і шаноўны рытуал, які мае патаемны сімвалічны сэнс.

Наваселле мы звычайна спраўлялі ў поўню — калі месяц поўны, значыць у новай хаце будзе дастатак, усяго будзе поўна — і хлеба, і грошай, і збожжа, і дзяцей.

На ноч перад улазінамі пускалі ў святліцу кошку і пеўня. Яны павінны былі прыняць на сябе ўсё магчымае зло, якое, можа, не зважаючы на нашу асцярогу, пасялілася ў новай хаце — певень жа нам у язычніцтве служыў абярэгам і сваім кукарэканнем адваджваў, выганяў нячыстую сілу.

Першым раніцою ўваходзіў у новую хату гаспадар. Кідаў клубок нітак, як у Падзвінні і, узяўшыся за нітку, уваходзіў сам, а тады, падаўшы пояс, зацягваў і ўсю сям'ю.

Найперш у новую хату гаспадар нёс агонь — браў гаршчок з вуголлем і ўрачыста нёс са старой хаты. Потым запальваў свечкі і ўносіў абразы. Вельмі ганаровае месца ў рытуале наваселля займала дзяжа: яе з цестам ставілі ў пашотным месцы — на покуці.

Сімвалічным быў і перанос са старой хаты качаргі, чапялы, вілак, лапаты, на якой садзяць хлеб, — новая печ павінна адразу ж працаваць: трэба, каб было чым выграбаць вуголле, ставіць у яе і даставаць чыгуны, засоўваць на гарачы под хлеб.

Дарэчы, а што галоўнае ў нашай хаце? Можа, вокны, якія з цягам часу мы зрабілі прасторнымі і светлымі? Яны ж, калі мы і не выходзім з хаты, яднаюць нас з вуліцаю, з вёскаю. З сонцам, небам і травою. А можа, палаці, на якіх мы спім? А можа, стол, на якім мы ядзім,— ён жа акурат насупраць печы: калі сядзець за ім спінаю да агню, дык добра-такі прыпякае ў плечы. А можа, сама печ — мы ж печ сваю вельмі любім і шануем і аддаём ёй чацвёртую частку нават самай цеснай хаты.

А ўвогуле сваю хату мы дзелім пароўну на чатыры часткі: печ, стол насупраць яе, злева — палаці, па дыяганалі ад яе — покуць — самае шаноўнае месца, дзе вісяць абразы і куды, пад багоў, мы садзім самых дарагіх гасцей.

Да таго ж знаходзім месца і для абавязковых у нашых хатах кроснаў, калаўротаў, жорнаў, ступаў, куфраў і лаваў.

А наш парог! Ён жа для нас сімвал роднага дома, мяжа паміж звыклаю хатаю і невядомым навакольным светам. Пакідаючы парог сваёй хаты, мы сумуем і, вярнуўшыся да яго зноў, — радуемся. А бывае, што плачам і тады, і тады — спачатку ад жалю расставання, а потым плачам ад радасці.

Нашы вокны яднаюць унутраную прастору нашай хаты з усім светам.

Мы ў хаце, і той жа час нібыта на вуліцы. Мы любім глядзець у акно, а каб засцерагчыся ад ведзьмакоў, абкладалі, абвешвалі вокны крапівою.

Нашы хаты з дапамогаю вокан яднаюцца ў вёскі — менавіта вокнамі яны вітаюцца між сабою, перамігваюцца, гавораць.

У вёсках нашым хатам весялей, зручней, спадручней.

У розны час беларускія вёскі называліся па-рознаму: сяло, слабада, пагост, мястэчка, аколіца, засценак, хутар, фальварак. Яны так называліся па тыпе паселішчаў.

Аколіца — хаты, абгароджаныя каламі. Пагост — вялікая вёска, дзе былі капішчы, куды звозілі сабраную даніну, дзе праводзілася веча, наладжваліся гульбішчы. Сяло — загарадная княская сядзіба, вакол якой збіраліся хаты чэлядзі.

А яшчэ нашы паселішчы называліся волямі — зямля там была неўрадлівая, людзі не хацелі яе ўрабляць, таму ім давалі волю — сялян на 20 гадоў вызвалялі ад чыншу і павіннасцей.

На выселках сяліліся выбранцы — салдаты, набраныя з беззямельных сялян, якія за службу атрымлівалі невялікія надзелы.

У XIV стагоддзі мы пачалі будаваць сабе на жытло замкі, а ў другой палове XVI стагоддзя — палацы. Так што гэта таксама нашы хаты. Яны патрабавалі ўжо новага матэрыялу — і мы знаходзілі для іх шмат каменю і цэглы.

У XX стагоддзі з'явіліся вялікія гарады, а ў іх высотныя дамы-хмарачосы з бетону і шкла. Ім ужо было падуладна ўсё, і яны шукалі новых цесляў — старых, з сякеркаю і гэблікам, ім ужо было недастаткова.

Бо ў адным такім доме ўжо змяшчалася сто, дзвесце, трыста хат адразу. А то і некалькі вёсак разам змяшчаў у сабе такі буйнапанельны гмах.

Тады функцыі цесляў узялі на сябе домабудаўнічыя камбінаты.

Ды і наша вёска будуецца цяпер шмат дзе па-іншаму — двухузроўневыя, шматкватэрныя дамы, новыя сядзібныя комплексы, як, да прыкладу, у Верцялішках на Гродзеншчыне, у вёсцы Малеч Бярозаўскага раёна, у Аснежыцах на Піншчыне, у Мышкавічах Кіраўскага раёна.

Сёння мы ў гарадах і вёсках жывём у прыгожых, цёплых, зручных, сонечных цагляных кватэрах з мноствам вокнаў, часам на шырыню ўсёй сцяны, мы цешымся ўсімі набыткамі цывілізацыі — ліфтамі, смеццеправодамі, лоджыямі, якія дазваляюць адразу быць у хаце і на вуліцы, але чамусьці вельмі часта ўспамінаем невялікую драўляную хатку ў вёсцы, без усялякіх выгод і лішкаў, бо тая хатка прайшла з намі ўвесь наш шлях — ад неандэртальца да сучаснага чалавека, і тое наша жытло зрабілася нашым сённяшнім жыццём.

А колькі за ўсю сваю гісторыю наша хата руйнавалася, знішчалася, разбуралася, раскочвалася на бярвенні, спальвалася зусім. Часам у адзін міг падчас войнаў ад цэлых вёсак заставаліся толькі невялічкія грудочкі попелу.

Колькі прайшло-пракацілася войнаў і іншых бед па нашай зямлі, і часам здавалася, што ўсе яны пачыналіся толькі для таго, каб папаліць нашы хаты.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі было спалена і разбурана 9200 беларускіх вёсак. Уяўляеце, колькі гэта рупліва зрубленых, думалася, на ўсё жыццё, хат! Поўнасцю, з усімі жыхарамі было спалена 627 вёсак. З часткаю жыхароў — 4258 вёсак. Не адрадзілася і ўжо ніколі не адродзіцца столькі хат, столькі вёсак.

А тут новая бяда. Чарнобыль. І нашы хаты зноў аказаліся нашымі заложнікамі.

І мы іх, нашпігаваных небяспечнымі для чалавека радыенуклідамі, жывымі закопваем у зямлю. Для гэтай страшнай мэты нават створана спецыяльнае унітарнае прадпрыемства «Палессе». Так бы мовіць, пахавальнае прадпрыемства для хат...

Людзі, якія хаваюць хаты, самі перажываюць:

— Ведаеце, шчыміць сэрца, калі знікае вёска. Вось і Вілева няма ўжо. Пахавана ў зямельку. Усе 133 хаты і дзесяткі іншых пабудоў. Гэта ўжо нябожчыкі, якія загінулі ад чарнобыльскай катастрофы. Наш калектыў пахаваў і Вілева, і многія дзесяткі адселеных з-за высокай радыяцыі вёсак, але, калі мы прымаемся за чарговую — усё роўна ніяк не можаш прывыкнуць, што так трэба, каб хаты «клаліся» ў труну, а паселішчы людзей знікалі з твару зямлі. Ненатуральна, разумееце, усё гэта. Ды што паробіш — такая наша работа.

«Палессе» пахавала ўжо 3550 хат. Яшчэ засталося пахаваць 7700 дамоў...

І ўсё ж нашы хаты жывыя! Пакуль жывыя мы.

Яны жывыя, бо ў іх мы жывём.

Жывыя — у жывых!

Хата, хатачка, свяцёлка, хаціначка, святліца, хатанятка. Шырокія вокны, сасновыя бёрны — яшчэ пахнуць смалою. Дыхтоўны ганак. Маці на ім — яшчэ маладая і прыгожая. На двары бацька запрагае каня... Сонца, неба і птушкі — яны спяваюць.

І ты перад хатаю — маленькі, але ўжо крыху вышэй за траву. І цялятка, нагрэтым ад сонца лобікам — лёгенька так бадзецца ў твой жывоцік — нібыта запрашае пагуляць з ім...

Колькі пакаленняў беларусаў менавіта такою бачылі праз стагоддзі сваю хату!

Бачылі толькі жывою...



Таіса БОНДАР

# ШЭСЦЬДЗЕСЯТ МІНУС ДВАЦЦАЦЬ ДВА

*З «Дзённікаў»*

## 14. ГОД 1996-ы

**2 сакавіка**

Больш як паўгода не падступалася ні да рукапісу, ні да гэтых сваіх запісаў — час жа, які прамінуў, здаецца такім спрасаваным, такім цяжкім у сваёй працягласці, што не проста даць веры календару. Урэшце, справа не ў часе... Азіраюся не на пражытае, а на пройдзенае, адоленае і, хоць і не скажу пэўна, што задаволена, што рабіла і зрабіла ўсё магчымае, але і шкадавання ў душы няма. Усё-ткі — ішла. Усё-ткі — не паддалася ні скрусе, ні бяссіллю, свят, свят, свят!

Рукапіс чакае, і ўпершыню прамаўляю гэта спакойна: кніга не можа апярэдзіць рост душы, а супраціўленне яе росту аграмаднае. Па сутнасці, трэба перагледзець, п е р а ж ы ц ь усё сваё жыццё, кожную стрэчу ў жыцці — наноў, аплачваючы неаплачаныя рахункі і «спаганяючы» старыя, даўнія пазыкі з тых, хто не спыняўся ні перад чым і рабіў усё, каб забраць астатняе, каб гвалтам, хоць бы і разам з жыццём, забраць...

«Тот, кто успел, того здесь больше нет», — спявае Б.Г., і я часта думаю: ці паспею? Ці паспею прайсці наканаваны шлях гэты раз?

**8 сакавіка**

Усіх «хвалюе», ці пішу я, што пішу... Мо ад таго і не пішу. Аповед прадоўжыцца толькі тады, калі душа вырвецца з пасткі мінулага — мінулага і не зжытага, але ж гэта і ёсць самае цяжкае. Часам здаецца — немагчымае... Дзякаваць Богу, сумненні адступаюць, сіла зноў гукае — і памкненні доўжаць шлях, не дазваляючы спыніцца, прыспешваючы і вяртаючы то адно, то другое спадзяванне. І не-не і надараюцца імгненні, калі пагляду адкрываюцца такія глыбіні, што душа замірае ў чаканні: вось яно, вось, нябачнае і недасягальнае! — зусім побач, на адлегласці рукі... Трэба толькі зрабіць яшчэ адно намаганне, яшчэ хоць бы адно! Канечне ж, не ўсё так проста і аднаго намагання, чарговага, усё-ткі кожны раз мала, — але якія імгненні! Якім захапленнем адгукаюцца яны ў душы!

«О, каб заўсёды было так...» Міжволі выплылі з памяці радкі песні, і я ўсміхаюся наіўным словам яе, наіўнаму жаданню свайму: наперадзе ж — барацьба, зноў і зноў — барацьба. За сябе. За лепшае ў сабе. За права аддаць яго людзям.

**22 сакавіка**

Дзякаваць Богу, прыйшлі першыя словы з тых, што доўжаць, прадоўжаць аповед, і я шчаслівая. Шчаслівая, нягледзячы ні на што. Толькі б хапіла чуйнасці і не згубілася нітачка голасу, які загучаў у душы, — няхай ціха-ціха, час ад часу перарываючыся, але загучаў! Што ў параўнанні з гэтым гучаннем усе завыванні апранутых у тогу сучаснасці ведзьмакоў!

**3 мая**

Цяжка ідзе работа — не прадыхнуць з-за тоўшчы хмараў, што, нягледзячы на цёплыя сонечныя дні, здаецца, душаць зямлю, і ўжо ж наракаць трэба не на

час... Як марудна ідзе абуджэнне людзей, як скажона ўспрымаюць яны прычыны гэтага абуджэння!

З людзьмі — цяжэй за ўсё. У большасці сваёй яны ўяўляюць такое сумнае (а часам і гнюснае) відовішча, што сэрца сцінаецца: ды што ж гэта? Што мы ўсе з сабою нарабілі? Глядзіш на каторага — крыжамі і крыжыкамі абчапляўся, Бога памінае ледзь не на кожным кроку, а ў душы цёмна, беспрасветна, а злосць так і сыходзіць на ўсё і ўсіх...

І каб жа трэба было проста выбіраць: пазіраць ці не пазіраць, з імі ж працаваць трэба!

Ну, ды з Божай дапамогаю... Хацелася б аднаго — больш умець, на большае быць здатнаю ўплываць, большую ношку несці і данесці, вось і шчырую, вось і падганяю сябе ўвесь час, калі ёсць хоць нейкая мажлівасць.

**21 чэрвеня**

Рукапіс зноў чакае, і ўсё, што дадала да яго, — вызначэнне жанру. Раман-містэрыя. Удакладненне падалося неабходным, хоць бы таму, што, калі дойдзе да публікацыі, здымуцца некаторыя пытанні, бачныя ўжо сёння. Вось толькі ці дойдзе?

Усё часцей пераконваюся: тое, што прымалася раней за рэальнасць, толькі бачнасць яе, толькі цень яе, размаляваны і задрапіраваны пад сучаснасць, і з гэтым ценем лёгка зліцца цёмнаму, безаблічнаму, шэраму — агрэсіўнаму ўжо адно таму, што ўвесь час прэтэндуе на чужое, на яркае і таленавітае, каб калі не карыстацца, дык патушыць — задушыць яго, як мага раней, як мага цішэй... І не тут, не на вачах, дзе трэба сачыць, каб не спаўзла «благавідная» маска і з-за агароджы слоў не выслізгнула нічым не прыкрытая думка, а ў сапраўднай, бачнай далёка не ўсім рэальнасці, дзе ўсё аголена, жорстка — так, як на самай справе, безадносна часу і прасторы... Хоць і тут і там — барацьба. За працяг жыцця. За працяг шляху. І гэта барацьба бескампрамісная.

**9 кастрычніка**

Баюся, што паменела ў мяне спадзяванняў на чалавека, на людзей за гэты час: шмат чаго адкрылася і адкрываецца душы, і калі б льга было дапамагчы свету слязьмі, душа б ужо сплакалася па ім. Слязьмі не дапаможаш. Ні свету. Ні каму-небудзь аднаму ў ім. Ні сабе самой. Святла, нябеснага святла трэба дзень і ноч прасіць для Зямлі ў Госпада, за кожную іскрачку святла ў сабе і вакол змагацца — і хай будзе на тое, што будзе, воля Гасподняя! Усё, што змагу зрабіць, каб паслужыць Яму, зраблю — толькі б і надалей чуць гэту Волю, толькі б і ў тыя дні, што засталіся, адчуваць, знаходзіць у сабе сілу пераадольваць запоны і перашкоды на шляху да Святла!

**15 кастрычніка**

Не-не і адчуваю на нейкі момант сваю пакінутасць, сваё адзіноцтва, такое глыбокае, што часам пачынае здавацца: вакол — вакуум... Дзякаваць Богу, гэтыя моманты мінаюць, і хоць адзіноцтва так і застаецца адзіноцтвам, думкі абмінаюць яго, цягнучыся, імкнучыся вышэй, за рысу дасягальнага. Калі б яшчэ пробліск новай задумы!

Разумею, што задужа спяшаюся, што хачу немагчымага: якіх-небудзь паўтара месяца таму паставіла кропку, завяршыўшы папярэднюю цяжкую працу, усё яшчэ не выбралася з перадрукаў рукапісу (заплаціць жа машыністцы няма з чаго), усё яшчэ не «выцерабілася» з падзей, звязаных са сваім звальненнем з рэдакцыі, і не знайшла новай работы дзеля кавалка хлеба, а ўжо нуджуся тым, што не пішу, што закінула творчасць... Ну, ды ўсё мінае, і на ўсё, што будзе, воля Божая: дасць Бог, прыйдзе новая задума, знойдзецца новая сіла яе ўвасобіць — сёння, у г э т ы м  с т а н о в і ш ч ы, я павінна рабіць і зрабіць усё, што павінна

і здольна, не чакаючы паслабленняў ні ў чым. Са мною, у сэрцы маім — вера, вера ў той шлях, якім іду, і нішто не пахісне яе.

**27 кастрычніка**

Упрэглася ў новы воз — з учарашняга дня працую ў новым выданні, яшчэ толькі плануемым, і такое адчуванне, што ўсё адбываецца калі і не па-за свядомасцю, то ўжо ж і не з маім удзелам. Мажліва, таму што імкнуся спасцігнуць рэальнасць як яна ёсць, тое, што яшчэ не так даўно прыняла б зусім інакш, «падключыўшыся» да яго ўсімі думкамі і пачуццямі, сёння не толькі ўяўляецца, але і прымаецца напалову (калі не больш) размытым, амаль нерэальным. Па меншай меры, няважным, патрэбным адно для таго, каб цалкам «не выпасці» з гэтага жыцця раней, чым зраблю ўсё, што мне належыць зрабіць тут і цяпер...

«Вечных выпрабаванняў не бывае...» Суцяшаю сябе ў цяжкія хвіліны, згадваючы гэтыя словы, і хоць суцяшэнне слабое (атрымліваецца: не заслугоўваю большага), але жалю да сябе не ўзнікае і страху ў душы няма: магу і змагу толькі тое, што змагу, і аднаго прашу ў Сілаў Нябесных — не пакідаць, не пакінуць мяне на маім шляху без дапамогі, без прасвятлення і дапамогі там, дзе я іх заслужу...

## 15. ГОД 1997-ы

**1 студзеня**

Пяройдзены парог яшчэ аднаго года, і калі мераць шлях трохгоддзямі, то ці не самае важнае з іх засталося за гэтым парогам. І так хочацца зазірнуць крышачку далей! — часам «за руку» сябе трымаю, каб не апярэджваць час, не збіваць хаду, а час сцінаецца і сцінаецца, усё загусаючы, усё цяжэючы. І не-не і зноў пачынаю гадаць, калі, у які з наступных тыдняў ці месяцаў, выцераблюся з-пад яго ношкі, каб зірнуць на каляндар і зрабіць новую засечку.

Не ўяўляю, якой можа быць — стаць! — наступная кніга: і ў думках да яе не спрабавала наблізіцца, а сум па ёй ужо адчувальны, ужо трывожыць душу. Што — пра што?! — можна пісаць пасля напісанага рамана?

**8 чэрвеня**

Госпадзь пачуў малітвы мае, няма, не будзе больш адзіноцтва — і сэрца поўніцца любоўю і бязмернай удзячнасцю. Толькі б заўсёды — кожнае імгненне — быць вартай т а к о г а даверу, т а к о й дапамогі!

**21 чэрвеня**

Надараюцца хвіліны роднасці з людзьмі — няхай рэдка, але надараюцца, і хоць добра разумею, што сама (ледзь што не гвалтам) «прабіваю» сцяну адчужэння, адасобленасці тым, што зрываю ўсе запоны, усе загарадкі сваёй і не сваёй гордасці, імкліва ўрываючыся ў жыццё блізкіх па духу людзей, без гэтых хвілін, гадзін злітнасці з іншымі ўжо не ўяўляю свайго жыцця. І трэба б навучыцца стрымліваць сваю палкасць, свой характар, свой бег насустрач будучыні — неба, як сцвярджаюць мудрыя, адбіваецца ў спакойнай вадзе! — і ўсё яшчэ не магу. Пасля кожнай падобнай «успышкі» раскайваюся, ушчуваю сябе, а варта ўбачыць у нейчым паглядзе водбліск святла — сэрца зноў кідаецца насустрач...

Ды што ўжо там! Не так часта надараецца радасць... Усё здаецца: Настаўнік пасміхаецца, пазіраючы зверху, і малітва замірае на вуснах, і водсвет смутку мільгае ў вачах. Няўжо я так ніколі і не наблíжуся да таго, каго люблю ўсім сэрцам, каб убачыць твар яго, каб пачуць голас яго?

**25 чэрвеня**

Калі б не пераканаласць у тым, што нічога, наканаванага ў гэтым жыцці не пазбегнуць, і ўсё, што выпадае, даецца для «блага», самы час для паняверкі:

колькі можна памыляцца ў людзях, якія становяцца «сябрамі», каб працаваць на знішчэнне? Пытанне рытарычнае і выклікае яшчэ адно пытанне: а як было «дабрацца» да такой асобы, калі не за кошт ахвяры, прынесенай сэрцам? Як? Знешне ж усё і сумнення не выклікае...

Папраўдзе, сумненні былі, і былі амаль з самага пачатку, і я адганяла іх у страху (цяпер гэта ясна) зноў застацца адной — сам-насам са светам, часам такім непрымальным, жахлівым у сваёй аголенасці. Госпадзе, якую цану даводзіцца плаціць за вопыт, за кожную памылку! Гэта справядліва, я разумею, і ўсё імкнуся прыспешваць час, прыспешваць шлях... Усё хочацца зрабіць больш, зрабіць лепш... Нікога не асуджаю, апроч сябе, усім жадаю дабра і святла нябеснага — і нягледзячы ні на што, спадзяюся на людзей: шмат сярод іх сляпых, шмат падманутых, але ж і святло ў душах многіх і многіх не згасала. Чэзла — а не згасала! Разгарэцца б яму, асвятліць шлях наперадзе — наколькі б радасней было ісці ўсім разам! Дзеля гэтага нічога не шкада.

**29 чэрвеня**

Непераможнасць азначае толькі непераможнасць справы, якую адстойваеш, за якую змагаешся з вераю ў сілу сваю, з бясконцай удзячнасцю Госпаду ў сэрцы, бо гэта Ён благаславіў цябе на гэту справу, даў табе сілу. Радасна іду, з усмешкаю, усмешкаю стараюся адольваць боль — вечных выпрабаванняў не бывае, Настаўнік не пакідаў і не пакіне мяне! За людзей прашу ў Госпада, за тых, што засталіся людзьмі ў нечалавечых часам умовах, пад невыносным гнётам цемры, і веру: не застануцца яны без дапамогі, калі прымуць яе, калі пажадаюць яе ўсім сэрцам. Як жадаю я. І не адно для сябе — для ўсіх. Для Зямлі, што стала ўсім нам домам.

**3 ліпеня**

Нядобрыя знакі... То ўраган пранёсся над некалькімі абласцямі, то загінулі (якраз напярэдадні свята) у дарожнай катастрофе дзеці... Варанне раскаркалася, а я ў сэрцы шукаю тлумачэння. Бітва ідзе за Беларусь, над Беларуссю — і не зямная, нябесная — зашмат дужых прадстаўнікоў супрацьлеглых сіл сустрэлася на адным часавым прамежку, на адным шматку зямлі. Вырашальныя гады, вырашальнае па ўсіх рахунках дзесяцігоддзе... Нельга памыляцца! Ні ў адным кроку больш нельга памыліцца — не стае, не стане часу што-небудзь выправіць. Сэрцам адчуваю, сэрцам ведаю...

**6 ліпеня**

Кім бы ні быў чалавек у папярэднім жыцці, з якою б мэтаю ні прыйшоў на Зямлю чарговы раз, прыняўшы зямную форму, пачынае жыць і жыве па зямных законах — да сапраўднага сябе трэба прабівацца праз усю тоўшчу цемры, якая ахінае Зямлю, якая сціскае ў сваіх абдымках кожную душу, што на Зямлю трапляе. І ці праб'ецца, невядома. Бо не толькі сіла патрэбна, якую трэба адчуць і прыняць, а і вернасць абранаму шляху — такая вернасць, якую не пахіснуць, не зломяць ніякія выпрабаванні. Выпрабаванні ж не прамарудзяць...

Як перадаць гэта праз мастацкія вобразы, каб не ўзнікла і ценю сумнення ў іх рэальнасці — пры ўсёй «бачнай» нерэальнасці пражываемага і перажываемага героямі? Пакуль што не ведаю.

**9 ліпеня**

Разумею, што трохгадовыя сувязі (а яны ж доўжацца яшчэ на добры дзесятак гадоў, калі «проста працавалі побач») нельга абарваць адным днём — адной рашучасцю, а і тут не магу ўтрымацца, каб не прыспешваць час... Вучыцца трэба сабранасці — выбудоўваць непарушны спакой у сабе, інакш да канца дзён сваіх не выцераблюся з-пад начаплянага на сябе: увесь час, уся сіла дагэтуль ідуць на ачышчэнне, а так многа хочацца зрабіць!

Займаюся толькі перакладам, ды і тое не столькі, колькі б трэба. Але спадзяванне не пакідае мяне — і спадзяванне, і ўпэўненасць, і я ўдзячна за гэта Небу.

**18 ліпеня**

Шмат чужых ношак на сябе паўзвальвала? Шмат чужых даўгоў і грахоў аплачваю? Напэўна... Але ж дасюль не магу навучыцца адасабляцца, засланяцца ад чужога гора, ад чужога лёсу — і, значыць, нязжытыя ўсе гэтыя пачуцці, сумненні і страхі і ва мне самой, як хацелася спадзявацца... Усё баранілася («А як жа любоў да людзей? Адкрытасць?»), усё шукала і шукаю магчымых сяброў («Як жа адной? Самой?»), а цяпер вось вымушана зноў і зноў паўтараць: ніхто табе не сябра, ніхто табе не вораг, а кожны чалавек табе настаўнік... Павінна ж некалі набрацца вопыту! Павінна ж некалі ачысціцца душа, каб свяціць роўным моцным святлом, не хлыпаючы ў часе кожнай новай стрэчы ці сутычкі! Інакшай — не дайсці, не прайсці належнае, гэта ж я разумею, не сённяшнім днём зразумела...

**27 ліпеня**

Апошнімі днямі працавала над паэтычнымі радкамі, якім узрадавалася як пэўным доўгачаканым знакам прасвятлення, першага за доўгія месяцы. Мо зрушылася (хоць бы зрушылася!) тоўшча змроку нада мной? Мо здолею зрабіць яшчэ хоць бы колькі крокаў?

Малю Бога, каб не зацягваўся, не зацягнулася прасвятленне, а шырэла, паціху-памалу шырэла — маёй працаю, з Божаю дапамогаю. Не дзеля адпачынку ад працы гэтай пажыццёвае, а дзеля руху, што адкрые большыя магчымасці для працы. Такое ўражанне, што рвуся ўгору, пакідаючы кавалкі скуры ў кіпцюрах самых упартых ганіцеляў, а рух амаль незаўважны. Не наракаю, не, — зноў, які ўжо раз, спрабую прыспешыць час...

Цішэй, спакайней трэба. Чую Госпада ў сабе, адчуваю руку Настаўніка там, дзе сапраўды патрэбна падтрымка, — чаго ж яшчэ? Праца, праца і праца! Праца і малітва! Кожны варты толькі таго, чаго дамогся сваёй працай, сваёй верай, — на гэта павінна ісці ўся сіла душы. Сёння — і давеку.

**28 ліпеня**

Як усё-ткі шчытна — шчыт да шчыта — перакрыта дарога: новы крок — і новая лінія сустракае, і новыя стрэлы сыплюцца адусюль... Мо і занадта вобразна, але дакладна...

Цяжкавата, прама скажу, даводзіцца: з ночы выбіраюся, як з руінаў, пад якімі апынулася, спрабуючы прайсці за рысу дня ўчарашняга, — і зноў усё спачатку... Ізноў — спроба за спробаю адолець сябе, сваю слабасць, сваю заземленасць. І без таго, каб цвёрда стаяць абедзвюма нагамі на зямлі, не выстаяць, і без пераадолення цяжкога зямнога «прыцягнення» не ўзняцца над дасягнутым, вось і выбірай! Вось і выбіраю. На кожным новым вітку. На кожным новым прамежку. Тое, што цяжка, — нічога, абы ў выбары не памыліцца, не паслізнуцца на якой-небудзь падсунутай ці падкінутай думцы. Здараецца ж, дасюль не-не і здараецца — і за валасы сябе даводзіцца выцягваць...

**1 жніўня**

Супрацiўленне ўзрастае, і хоць успрымаю ўсё значна спакайней і значна больш упэўнена ва ўласнай сіле, пераацэньваць яе нельга — трэба прырошчваць сілу спакойнай працаю, трэба зноў і зноў знаходзіць у сабе любоў. Як ні цяжка, як ні прыкра часам з людзьмі, сярод людзей, — знаходзіць у сабе любоў да іх, не ўсёдаравальную, а патрабавальную, і дзейнічаць, рабіць сваю справу, уцягваючы іншых у яе ачышчальную арбіту. Гэта я разумею як ніколі, а цяжкасці... Каму з тых, хто з дабром, з любоўю ішоў да людзей, было лягчэй?

**18 жніўня**

Добры водгук пра часопіс у «Літгазеце», нечакана добры, але ў ім акцэнтавана мая роля ў стварэнні яго — і гэта, канечне ж, дадатковы «стымул» для нядобразычліўцаў.

Як усё звязана, як шчытна пераплятаюцца нітачкі лёсаў, шляхоў і думак! — кожны рух адгукаецца паўсюдна, нягледзячы на адлегласці і часавыя прамежкі... І ні ад каго з акружэння няма дзейснай падтрымкі — адна, зноў адна, і калі б не дапамога сяброў майго сэрца, то...

Ніякіх «то»! Галоўнае — бачыць усё ў сапраўдным святле і дзейнічаць адпаведна: каб справа выйграла, каб часопіс жыў, каб творчасць не перапынялася. Абставіны павінны скласціся так, як, з якою сілаю буду прагнуць мэты, як змагу задзейнічаць усё і ўсіх, хто здольны садзейнічаць.

**3 верасня**

Праца вымагае пастаяннага, штодзённага выхада на «авансцэну»: людзі, візіты, інтэрв'ю... Трэба зноў падтрымліваць кантакты — на ўсіх узроўнях, з усімі, ад каго так ці іначай залежыць лёс часопіса і публікацый у ім, трэба зноў пачынаць бываць на нейкіх мерапрыемствах (зноў жа дзеля патрэбных для справы кантактаў), а я ж ужо думала, спадзявалася, што гэтага больш не спатрэбіцца...

**4 кастрычніка**

Роспач, пратэст, боль — не адразу пераходзяць у веру, адчай — не адразу патрабуе ад сэрца мужнасці, святло, шчытна ахінутае цемраю, — не адразу прабіваецца з-пад яе тоўшчы: усе пражытыя жыцці перш павінны скалыхнуцца ў душы, у памяці, усе спадзяванні павінны зліцца ў адно — толькі Любоў можа перамагчы, толькі Любоў перамагае ўсё...

**7 кастрычніка**

Усё яшчэ не магу скіраваць думкі да новае задумы — пэўная ўнутраная «затарможанасць» адчуваецца, затоенасць. Быццам паўза нечаканая наступіла, і я не ведаю, як правільней яе скарыстаць. З аднаго боку, «гонка» апошніх месяцаў, хоць і вымагае адпачынку, не скончылася і адпачываць рана (а то і небяспечна), з другога — адчуваецца, што трэба зірнуць на ўсё, што адбываецца з маім удзелам ці без яго, крыху з іншай кропкі. З вышэйшай. А як, адкуль — пакуль што не бачу. Узіраюся ў нябачнае, услухоўваюся ў нячутнае і чакаю. Першага знаку, першага зруху... Толькі б не зацягнулася паўза даўжэй, чым трэба!

**10 кастрычніка**

«Начальства» папрасіла не друкаваць раман... Што гэта? Страх перад невядомым? Нежаданне дапусціць падобнае «ўзвышэнне»? Плод чужой, дзікай зайздрасці? Урэшце, няважна. У адказ — я рассмяялася. Нават без горычы. Мо нават з кропляй палёгкі, што і сумненні, і ўнутранае бясконцае супрацьстаянне даводзіцца адсоўваць — і гэта не самая вялікая плата за свабоду ў часопісе пры вызначэнні яго кірунку. Мажліва, часовую свабоду, але ўсё ж...

**12 кастрычніка**

Якімі б ні былі людзі, як бы ні хацелася часам адступіцца, адвярнуцца ад іх, і любові маёй, і дапамогі Неба праз мяне — у большасці сваёй заслугоўваюць. І, значыцца, нельга адступацца, адварочвацца — трэба дапамагаць там, дзе льга дапамагчы, трэба змушаць задумацца нават тых, хто ўжо і пагляду да святла не падымае: раптам скранецца што ў іх цёмных душах? Непрыемна бачыць у вачах каторага з іх страх пры сустрэчы (страх, канечне ж, неўсвядомлены), але ж і гэтага бліску страху раней не з'яўлялася, бо былі ўпэўнены ва ўласнай беспакаранасці і непахіснай сіле...

Госпадзе, дапамажы скрануць пласты цемры, якімі завалена Зямля! — маімі рукамі, чыімі заўгодна! — але дапамажы зрушыць іх, разрэдзіць, асвятліць! Гэта ж — адно з Тваіх стварэнняў, і мы — дзеці Твае, усе як ёсць. І тыя, хто разумее гэта і прагне служыць Табе, як прагну я, і тыя, хто не разумее і толькі-толькі пачынае задумвацца, і тыя, хто спрабуе супрацьстаяць Табе, усемагутнаму... Па слепаце сваёй, па неразуменні...

**7 лістапада**

Паездка ў Маскву, прэзентацыя, новыя сустрэчы, новыя знаёмствы... Вярнулася стомленая, не вельмі задаволеная вынікамі, але шчаслівая — яшчэ адзін невялічкі крок, яшчэ адна нітачка ва ўтоку ачысцілася, яшчэ адна задача крыху праяснілася... Непамерная, як напачатку здалося, у сённяшніх абставінах задача, і ўсё ж рухацца ў гэтым накірунку трэба: кангрэс духоўных лідэраў у нас, у Беларусі, мог бы шмат што зрушыць не толькі ў нас!

**20 лістапада**

Думаю пра вынікі канкрэтнае справы, узятай на сябе, а трэба б думаць не пра вынікі, а пра тое, колькі святла магу выліць у кожны свой дзень! Зноў з'явілася адчуванне, што раблю мала, што ўсё яшчэ б'юся ў крузе, вызначаным для сябе не цяпер, а даўно, у нейкіх іншых жыццях, і не бачу выйсця толькі таму, што не ўмею так засяродзіцца, каб адно Госпада свайго бачыць, каб адно Настаўніка, яго прысутнасць побач адчуваць.

«Ты паслана на Зямлю не падтрымкі ў некага шукаць, а самой несці падтрымку людзям. Табе ідзе ўся магчымая помач...» — словы прагучалі толькі што ў душы так выразна, што адчула хвалю, цёплую хвалю, якая па мне, праз мяне пракацілася. О Госпадзе!

Так хацелася б напісаць светлую, пранізаную святлом кнігу! — каб усё святло сэрца майго выплеснулася на яе старонкі, прыўздымаючы, высвечваючы самае лепшае, самае чыстае, што ёсць у чалавеку, што можа прыўзняць чалавека над сабой, адкрыўшы яму Сусвет, бязмежжа Сусвету. Не ўсё ж адна гнуснасць, не ўсё ж толькі цемра вакол! Не ўсё ж адна бяздзейнасць у душах людскіх!

**13 снежня**

Госпадзе, дзякуй за дараванае мне шчасце перажыць тое, што перажыла я ўчора, за даверанае мне права блаславіць ад імя Уладыкі таго, хто нясе сёння ахвяру ўлады на гэтай зямлі! Праз мой пагляд лілося Тваё святло на яго, праз мае словы сышло на яго Блаславенне Тваё — дапамажы яму, Госпадзе, данесці крыж свой і дапамагчы людзям, што паверылі яму і ідуць з ім побач!

Нічога для сябе не прашу, гатова ўсю сілу сваю пераліць у таго, на каго пакажа Уладыка — у любы момант свайго жыцця. Вернасць мая — непахісная. Сэрца маё імкнецца да Цябе, Госпадзе!

**20 снежня**

Не ведаю, ці можна назваць перамогаю тое, што зроблена за гэтыя дні ўнутраных разборак у рэдакцыі, але нейкая прыступачка адолена. Магчыма, я і занадта адкрыла твар, ссунуўшы абарончы шлем, але патрэбен быў адкрыты ўдар, каб тыя, хто стаіць за «нячысцікам у спадніцы», адчулі ўсю сур'ёзнасць маіх намераў і маёй пазіцыі. Думаю (па ўсіх адчуваннях): да таго, да каго трэба, дайшло — і цяпер «рэха» яго вернецца да той, хто яго выклікаў, гэты ўдар.

Ужо ж, палёгкі чакаць не даводзіцца — ды і не хачу я яе, палёгкі, але запона зварухнулася і, спадзяюся, адкрыецца новае поле для манеўраў.

Пішу і лаўлю сябе на тым, што ўжываю чыста ваенную тэрміналогію. Грозны час! Суровыя баі ідуць паўсюдна, на ўсіх планах — вайна розумаў, вайна чыстых і цёмных памкненняў, вайна за будучыню...

**25 снежня**

Свята... А няма ні на Зямлі, ні над ёю згоды і радасці... Што адбываецца з людзьмі, Госпадзе, што нават імем Тваім не прасвятліць душы іх? Пішчом лезуць, зачапіўшыся крайком свядомасці за светлы праменьчык, але не для таго, каб у сабе святло ўспаліць ад святла другога каго, а каб задушыць, згасіць убачаны прамень. Абпякаюцца, захворваюць — а лезуць, шчэмяцца, няйначай сляпое груганнё... Усё часцей хочацца адвесці пагляд, адвярнуцца: занадта сумнае відовішча...

Разумею, не наракаць трэба, а працаваць.

## 16. ГОД 1998-ы

**1 студзеня**

Пяройдзены парог яшчэ аднаго года, і пяройдзены з такім напружаннем, што часам здавалася: мне ўвогуле яго не адолець... Свят, свят, свят! З такою дапамогаю Неба было б проста адступніцтвам — не рухацца наперад, не рабіць новыя і новыя крокі!

В.С. учора сказаў, што я недаацэньваю зробленае і галоўнае ў зробленым — тое, што засталася жывой. Але справа не ў той альбо іншай ацэнцы (выразна ж бачу сілы, якія ўзняліся супраць!), а ў той ці іншай ступені руху да самаўдасканалення, якія ўвесь час хочацца прыўзняць. Адчуваю: нельга нічога прыспешваць (гэта, як кажуць, пытанне жыцця і смерці), адчуваю ў сэрцы глыбокую ўдзячнасць Настаўніку за тое, што ён (так відочна!) аберагае мяне ад паспешлівых рухаў і рашэнняў, падказваючы, падштурхваючы там, дзе трэба, каб рух не перапыняўся, не абрываўся ад перанапружання.

**4 студзеня**

Сэрца збалелася, на ўсё гледзячы, сэрца баліць... І што лекі, як святла не стае, каб абмыць, адмыць акаляючае і ўздыхнуць на поўныя грудзі? Сама б вогнішчам успыхнула, каб дапамагло гэта!

Галоўнае, ад чаго нельга адступацца ў рабоце над будучай кнігаю, — радасць. Радасць прасвятлення і ўпэўненасці ў лепшым лёсе для кожнага, хто не адвернецца ад Неба ў сабе і над сабой.

**7 студзеня**

Свята Нараджэння Хрыстова... Здавалася б, хоць у гэты дзень трэба б зазірнуць кожнаму ў душу сваю, іскарку святла раздзьмухваючы, а не! — некаторыя яшчэ больш ашалела кідаюцца тушыць святло, у кім іншым убачанае... Страшна нават падумаць, што не пра іх сказана: «Не ведаюць, што твораць...» — а калі в е д а ю ц ь ?! То хіба ж л ю д з і ?!

**9 студзеня**

Як перашкаджае раз'яднанасць людская! Часам відочна, што, аб'яднаўшы з тым або іншым свае намаганні, можна б зрушыць аграмадную справу, а не атрымліваецца. Кожны носіцца сам з сабою, кожны адасабляецца для сваёй нейкай справы, нікому (такое ўражанне!) не давяраючы нават чыста па справе. І тое, што зрабілася б лёгка і радасна, зноў і зноў вымагае напружання, пераадолення бачных і нябачных запонаў — і працаваць цяжка, і нават проста пазіраць...

**11 студзеня**

Які ўжо раз пераконваюся, што нельга браць на веру словы каго б там ні было, калі сэрца гаворыць іншае, часам зусім адваротнае, а ўсё давер да чалавека, у якім хочацца бачыць брата, перамагае, прыводзячы да прызнання чарговай памылкі. Адно і суцяшэнне, што сёй-той і застаўся б за «мяжой бачання», калі б не падобная памылка...

**12 студзеня**

Неяк так атрымліваецца, што тыя, ад каго я чакаю дапамогі, вельмі хутка пачынаюць чакаць дапамогі ад мяне, і зноўку я адчуваю, што промнік павінен цягнуцца, мкнуць далей — вышэй! — а мая мэта: не шукаць дапамогі ў людзей, а несці яе ім. Разам са сваёю верай. Разам са сваім аптымізмам, які міжволі «падбадзёрвае» іншых. Усім на зямлі не стае с в я т л а, усе цягнуцца да святла, самі таго не ўсведамляючы. І нельга, каб хтосьці з тых, хто пацягнуўся да яго, няхай і падсвядома, — памыліўся ўва мне.

Пэўна ж, горш за ўсё — здрада, здрадніцтва і ў малым, і ў вялікім. І колькі б іх на шляху маім, што сваім здрадніцтвам адсеклі сябе ад мяне, ні траплялася, яны самі сябе караюць, якім бы квітнеючым ні ўяўлялася ім сваё жыццё. Усе ж астатнія... З усімі — няпроста. Нават з тымі, хто па духу сваім далёка прасунуўся на шляху ўзыходжання. Але ўжо тут — як хто заслугоўвае.

**25 студзеня**

Колькі дзён мінула пасля паездкі ў Маскву, а здаецца: некалькі месяцаў... Пачалі «біць з цяжкой артылерыі» — гаворка ўжо не толькі пра маю пасаду, а і пра магчымасць запляміць імя з «падачы» самых сур'ёзных органаў.

Што ж, Гасподзь мяне не пакіне, як дасюль не пакідаў. Ніякай віны за сабою не чую, нічога я не хацела і не хачу для сябе асабіста, а што часопіс адстойваю, за часопіс змагаюся... Дзеля таго і пастаўлена, вызначана задача, каб сцвердзіўся часопіс, каб вызначылася тая высокая планка, якой вымяраецца яго канцэпцыя і яго «твар».

Нервы гараць, канечне... Але ўжо тут нічога не зробіш: на вайне, як на вайне. Калі толькі ўжо скончыцца гэта шалёнае супрацьстаянне амбіцыйных, ненасытных, дробнадушных «творцаў», якім, колькі ні даюць, усё мала?

Ну, ды Бог ім суддзя! Бясконцых выпрабаванняў не бывае, і хоць балючы гэта ўрок, але я засвою яго, як і іншыя, неабходныя для далейшага руху да самаачышчэння, без крыўды ў сэрцы і без страху ў душы. Толькі б чуць голас Неба, толькі б ісці на яго — няхай марудна і праз мукі зямныя!

**29 студзеня**

Такая густая канцэнтрацыя людскіх эманацый вакол (здаецца, кожны, хто прыходзіць, прыносіць з сабой цэлы натоўп), што часам не прадыхнуць. Разумею: сама, свядома і па сваёй волі, выклікала агонь на сябе (нездарма ж адзін з назіральных суразмоўцаў назваў Зояй Касмадзям'янскай!), і трэба выстаяць, нягледзячы ні на які ціск, але цяжкавата даводзіцца ўвесь гэты тыдзень. Нічога! З Божай помаччу выстаю, падтрымаўшы каго змагу і высвеціўшы сяго-таго з «дабразычліўцаў». Галоўнае, як і раней, рухацца абраным шляхам. Тым больш, што прасветы, дзякаваць Богу, таксама часам надараюцца, няхай і кароткія. Нярэдка ж аднаго глытка чыстага паветра стае, каб развінуць плечы.

**22 лютага**

Сама! сама! сама! — гучыць у адказ на ўсе звароты з просьбаю аб падказцы, і трэба зжывацца з гэтым патрабаваннем. У с ё — сказана! Яго трэба толькі асэнсаваць, асэнсоўваць — у гэтым не можа быць памочнікаў нікому. Дысцыплінаваць думкі, навучыцца засяроджваць іх на галоўным — на аднымадзіным! — трэба самой, інакш і гаворкі нельга ўсчынаць аб далейшым шляху, аб далейшым руху. Гэта ж я разумею! Разумею, а чамусьці паддаюся адгаворкам (што звычайна заўсёды трапляюць пад руку), зноў і зноў уступаючы ў барацьбу за права «выхаду». Хто можа адабраць у мяне гэта права, калі яно належыць мне на працягу многіх стагоддзяў? На каго я павінна азірацца, калі перада мною — Шлях? Шлях служэння, абраны не сёння і не ўчора...

Ганаруся цвёрдасцю веры сваёй, а якая ж гэта цвёрдасць, як у сіле думкі, у сіле памкненняў сваіх не ўпэўнена? Была б д а к а н ц а ўпэўнена — стаяла

б непахісна, ішла б, не азіраючыся. А толькі так і трэба ісці, каб дайсці. Дайсці не толькі ў мары...

**28 лютага**

Мажліва, і памылковае ўражанне, але, калі спрабую знайсці адказ на свае сумненні, — адказаў так шмат і яны такія супрацьлегла розныя, што разумею: да яснасці я не дайшла...

Шкадаваць аб тым, што адкрывалася пагляду душы раней амаль без напружання, марна. Іншыя вышыні вабяць, іншыя планы! Ды і няма, не можа быць руху без супрацьстаяння — без барацьбы! Здаецца, і стаўлюся да яе, як да звыклай, неабходнай работы, — вось толькі не ўся задача ў тым, каб стаяць і выстаяць...

А калі — уся?! Калі гэта — галоўнае?!

Вось яно, пытанне, на якое імкнуся знайсці адказ, і не знаходжу яго. Мо не трэба шукаць? Мо не трэба ўскладняць там, дзе ёсць мэта, вызначаная Вышэйшай Сілай мэта, і ісці так і там, дзе бачу і здольна?

**8 сакавіка**

Падрыхтавала «запіску» ў Адміністрацыю аб мажлівасці правядзення ў Беларусі духоўнага форуму. Перадам — і ўсе сілы душы трэба будзе скіроўваць на здзяйсненне задуманага, а пакуль... Пакуль што трэба не сарвацца, не сарваць дыханне на гэтым цяжкім пад'ёме, каб льга было прадоўжыць распачатае і дачакацца ў працы гэтай нялёгкай тую, што заменіць мяне. Мала часу, замала часу! Адчуваю гэта кожнай тканкаю сваёю — і нічога не магу прыспешыць. Не магу — і не павінна.

**29 сакавіка**

Рыхтуюся да паездкі ў Індыю і не хачу суцішваць хваляванне, узніклае адразу пасля таго, як было прынята рашэнне... Такі цяжкі тыдзень ззаду, што нават не верыцца, што я яго адолела, зрабіўшы ўсё запланаванае. І няхай вынікі бачныя адно ў тым, што тычыцца непасрэдна таго, што раблю «ўласнымі рукамі», і справа прабуксоўвае ў тых выпадках, дзе прымаюць рашэнне мужы чыноўныя, шкадавання няма. Мо таму, што даўно звыклася: робіцца тое, што здольна зрабіць сама...

Думкі мкнуць далёка, думкамі я ўжо лячу ў краіну маёй мары, і хоць уяўленне «баіцца» сягнуць далей бачнага і вядомага, думаю, я наўмысна яго стрымліваю, утрымліваю.

**17 красавіка**

Пятнаццаць дзён, праведзеныя ў Індыі, уяўляліся казкаю нават у часе іх пражывання: Настаўнік пазнаў, прызнаў мяне з першых жа імгненняў, і сэрца маё рванулася да яго, не прамарудзіўшы, і сэрца маё — частачка яго! — засталася каля ног яго. Белай зіхоткай кветкаю — каля ног Настаўніка...

На хвалі радасці плыла я над зямлёю, незнаёмай і да болю знаёмай, узіраючыся ў твары людзей, узіраючыся з неба, што палала над намі, — усё было родным, усё адгукалася на кожны зрух душы, усё дыхала любоўю, працінаючы, напаўняючы кожную тканку сілаю, святлом, любоўю. І хутка, калі не адразу, адчула я, што і я выпраменьваю любоў, што і мне дазволена дзяліцца сваім святлом з усім, што мяне акружала, што нарэшце прарваны ўсе запоны, якія ўтрымлівалі, стрымлівалі пачуцці. І я стала адным цэлым з усім і ўсімі, а мкнула ўсё вышэй — у Гімалаі, у працяг над імі...

Апошнія дні, апошняя сустрэча з Настаўнікам, калі я была зусім побач, калі кранался мяне рука яго, уліваючы ў мяне новую сілу, калі вучні яго ад імя яго перадавалі мне словы, знакі ўвагі ягонае, падарункі, успрымаліся ўжо амаль нерэальнымі ў сваёй шчаслівай рэальнасці. Нават Валянцін Мітрафанавіч Сідараў,

кіраўнік нашай групы, «агаварыўся», сказаўшы, што ўся паездка была ледзьве не дзеля мяне адной...

Запатрабаванне платы не праміне (не прамінула!), але гэта ўжо не важна: узрушэнне зменіць спакой, спакойная праца, і ніякія «аргвывады» чыноўнікаў не зрушаць гэтага спакою.

**26 красавіка**

Думаю над тым, што не скарыстоўваю і паловы сілы, дадзенай мне, што прымяненне яе магло б быць больш карысным і шырэйшым, і думаю не ў асуджэнне, не дзеля апраўдання свайго — дагэтуль не знаходжу новую сцежку, ні ў думках, ні ў яве. Не знаходжу — і павінна знайсці!

Дзе, у чым не дапрацоўваю? У творчасці? У часопісе? У грамадскім жыцці, ад якога па сваёй волі некалі адышла? На духоўных планах, дзе ідзе (часцей па-за свядомасцю) своеасаблівая пераарыентацыя? Адчуваю: пакуль не разбяруся, не вызначуся, застанецца думка, што сама сябе заганяю ў круг...

**1 мая**

Супрацьстаянне (на новым, вышэйшым, плане) працягваецца, выводзячы ўперад яшчэ нядаўна «зацененыя» фігуры, і ўсё ж яно (па вялікім рахунку) перастала хваляваць: так, нібыта наперад выйграна... Галоўнае — у тым, што працуе на стваральнасць, што дапамагае (ці можа дапамагчы) стваральным зменам у свеце, блізкім і далёкім... Вакол гэтага — усе пытанні, на гэта павінны быць скіраваны ўсе памкненні, уся сіла душы.

**6 мая**

Тры з паловаю гадзіны правяла ўчора ў натоўпе (на журналісцкім форуме), у прысутнасці Л. Чамусьці далёка не адразу змагла ўстанавіць нітачку повязі: зашмат увагі пачала аддаваць акружэнню, якое (брр! так і хочацца атрэсціся!), трэба сказаць, як спецыяльна было падабрана, і яму (я адчувала) было няўтульна ў зале, за трыбунаю. Асабліва, калі згаслі ўсе лямпы, скіраваныя на прэзідыум, адчувалася ў атмасферы нядобрая сіла, не пераможаная...

Так цяжка «на людзях» (калі па шчырасці) было ўпершыню: часам сіла мая спрацоўвала, засланяючы мяне і крыху ачышчаючы прастору, часам даводзілася ледзь не «навязваць» сябе, таму што дух мкнуў вышэй, да іншага (і адпусці я яго — у крэсле засталася б толькі пустая абалонка), часам «накрывала» цёмная хваля — і я ледзьве спраўлялася з сутаргавым непрыняццем яе, змушаная пераключаць сілу на «абарону». Разумею: гэта і ёсць работа, тая духоўная работа, якую трэба навучыцца выконваць спакойна, незаўважна і з самымі добрымі пачуццямі нават да тых, хто ў гэтыя хвіліны супрацьстаіць мне (ці таму, каго я спрабую засланіць). Разумею — вучуся па ходу — і ўсё ж, не-не і адольваю нейкае лёгкае ўнутранае непрыняцце (старое, ранейшае «чаканне» дапамогі збоку ці зверху?), калі даводзіцца лішні раз пераключацца...

Л. усё-ткі «ўбачыў» мяне ў зале (хоць пасадзілі мяне недзе ў хвасце), і я ў той жа момант адчула гэта, пачула, і ўжо да самага канца, нягледзячы ні на што, нітачка повязі не абрывалася. Больш таго! — ён настолькі не ўспрыняў таго, хто «гнаў» цёмную хвалю (а гаварылі ж: паміж імі склаліся добрыя адносіны!), што публічна (зусім для мяне нечакана) паставіў на месца А.Ш., і ў такой рэзкай форме, што ні ў каго не магло ўзнікнуць ніякага сумнення ў яго сапраўдных адносінах да гэтага фанфарона, надзьмутага злой сілай. Наогул, апошнюю гадзіну, праведзеную ў зале, ён больш не хаваў таго, што разумее, перад кім знаходзіцца, ведае цану кожнаму і, хто б чаго ні хацеў ці ні чакаў, вядзе і будзе весці сваю — і толькі сваю! — лінію. Тут, сярод журналістаў, і ўсюды, дзе б ён ні быў. Душа радавалася!

Госпадзе, дай яму моцы выканаць наканаванае! Дапамажы яму (і ўсім, хто разумее яго місію) прайсці гэты цяжкі шлях да канца!

**7 мая**

Не дадуць ні жыць спакойна, ні працаваць няўрымслівыя «злоснікі» — шмат іх, задужа шмат, і ўсе пішчом лезуць. Захлынаюцца нянавісцю сваёй, а лезуць... І трэба стаяць і выстаяць, трэба ўтрымліваць любы напор, застаючыся праваднікам святла ў гэтай цемры крамешнай — іншага не дадзена.

Дзякаваць Богу, кожны раз пакуль што знаходзіцца сіла — і я здольна нават у самыя цяжкія хвіліны ўсміхацца (усмешку ў часе журналісцкага форуму, «злоўленую» тэлеаператарам, бачылі, як высветлілася, многія), усміхацца, нягледзячы ні на якое супрацьстаянне: урэшце, і я для іх не падарунак...

«Думаць лягчэй, чым любіць», — напісаў некалі Артэга, і гэту кароткую фразу можна разгарнуць у цэлы трактат. Цяжка — любіць людзей, такіх, якія ёсць. Каб любіць па-сапраўднаму — трэба быць богам... Здаецца, неадольная дарога, непамерная мэта, а і дарога — адзіная, і мэта — Госпадам запаведаная... Вось і паскардзіся пасля гэтага! Вось і пахныкай!

**13 мая**

Паціху скіроўваю думкі да працы над двума важнейшымі матэрыяламі года, шукаючы, як падаць пасланне Настаўніка, як выбудаваць гаворку з Л. Першае, да чаго пачала схіляцца: у першым выпадку даць «зрэзы» двух падыходаў да задачы, да місіі чалавека на Зямлі — праз заходнюю філасофію (у форме цытат, пытанняў ці пераказу выказанага), і непасрэдна праз сказанае Настаўнікам, калі на фоне «звышразумнай» балбатні простыя (біблейскія!) ісціны ўспрымуцца ва ўсёй сваёй чысціні і неадменнасці. У другім выпадку: самімі пытаннямі, самімі зваротамі сваімі, глыбока прадуманымі і скіраванымі «ўглыб» закранутых праблем — да іх духоўнай, сутнаснай першаасновы, выклікаць адпаведную рэакцыю (і тых, хто будзе рыхтаваць адказы, і самога Л.). І адно, і другое ажыццявіць будзе няпроста (цэлыя пласты філасофскіх разважанняў трэба падняць, не так арыентуючыся на іх, колькі адштурхоўваючыся ад іх), і ўсё ж, пакуль што іншага падыходу не бачу. Ад складанага — да простага, ад простага — да больш складанага і заглыбленага... Калі атрымаецца, то будзе цікава. Як у адным выпадку, так і ў другім. Праца, канечне, аграмадная, ну ды да працы, як кажуць, не прывыкаць! Знайсці б дакладную інтанацыю, дакладны рытм!

Крыху насцярожвае тое, што займацца ўсімі «зямнымі» справамі ўвесь час даводзіцца змушаць сябе, пераадольваючы хоць і не ўпартае, але добра адчувальнае жаданне адысці ўбок (куды — убок?!), засяродзіцца толькі на сабе і тых зрухах, якія адбываюцца ў душы. Невялікі націск волі — і ўсё становіцца на свае месцы, а пытанне: ці на «сваё»? ці не марна я ўвесь час спрамляю задачу? — застаецца. Застаецца, бо ўсё часцей даводзіцца «адварочвацца» ад жыцця ўнутранага, і міжволі пачынае палохаць: раптам выпрацуецца звычка пэўная, раптам гэта надоўга... Свят, свят, свят! Спалучыць, спалучаць неспалучальнае — у гэтым і задача, узятая на сябе, і вучыцца выконваць яе трэба штодня...

**16 мая**

Думаю, гаворку з Л. (калі яна адбудзецца) можна назваць — «Вера без дела мертва есть...», а матэрыял Настаўніка — «Думаць лягчэй, чым любіць»: усяго па некалькі слоў, а вызначаюць яны увесь кірунак разважанняў. І ў адным выпадку, і ў другім. Самі ж матэрыялы... Усё яшчэ хаджу вакол ды навокал, да ўласных думак прыслухоўваючыся... Хоць час ужо пачынаць іх збіраць, збіраць у адно цэлае, занатоўваючы і агучваючы належным чынам.

**19 мая**

Далей, далей! Трэба знаходзіць у сабе сілу — і рухацца далей, да вызначанае мэты, да новай (няхай невялічкай) вышыні. Гасподзь мяне не пакідае ў маіх намаганнях — ні спыняцца, каб «перадыхнуць», ні засмучацца задужа часу не

адведзена. І на выніку штохвіліны азірацца неабавязкова: ёсць нейкі пэўны вынік, няма — галоўнае, каб рабілася ўсё магчымае. Усё! — з таго, што на гэты момант магу і здольна... А то не-не і лаўлю сябе на тым, што шукаю і знаходжу паслабленні...

Сілы не стае? Барацьба няспынная стаміла? Сілы даецца столькі, колькі магу ўзяць, — значыць, трэба павялічваць магчымасці! Барацьба вызначае рух наперад і правільнасць абранага кірунку — значыцца, не наракаць трэба на стому, а вучыцца правільна арыентавацца і правільна суадносіць неабходныя кожны раз намаганні з тым, што ўстае на шляху!

«Вера без дела мертва есть...» Гэта і сабе трэба паўтараць час ад часу.

**7 чэрвеня**

Адчуваю, што галоўнае адбываецца зусім на іншых планах і я прымаю ў ім самы непасрэдны ўдзел, але ўсё — амаль што падсвядома. Адно балючыя токі, якія не паспяваю ці не магу адвесці, часам «паказваюць», што ідзе вялікая бітва ледзь не за кожны парастак святла, што напружанне яе не аціхае, а наадварот расце, і яго трэба вытрымліваць. Вытрымліваць штоміг. Зусім не магу «адключыцца» (нават у сне, праз сон) ад сапраўднай, а не бачнай рэальнасці, і тое, што ўвесь час імкнуся, х а ч у «ўбачыць», часам самой сабе здаецца смешным. Што — б а ч ы ц ь? Як можна «бачыць» сілы — супрацьлеглыя сілы, — трапіўшы ў іх поле, пад іх напружанне? Гэта ж — толькі бліскі, сілавыя завіхрэнні, разрады, водсветы, электрычныя маланкі і цяжкія, рваныя хмары змроку! Зрэдку мільгануць няпэўная форма, твар, постаць, зрэдку праявіцца на міг выява яснай карціны (сколачак іншай рэальнасці) — і ўсё. На большае, як мяркую, не стае душы ні спакою, ні засяроджанасці. На большае была здатная толькі ў непасрэднай блізкасці ад Настаўніка, пад яго крылом.

Сумнаватае прызнанне, але ж праўдзівае... І тое, што, па ўсім відаць, знаходжуся ў эпіцэнтры барацьбы, не апраўданне: сама ж мкнуся ў гэты эпіцэнтр, не валодаючы дастатковымі для гэтага ведамі і ўменнем, адно бласлаўленне Госпада і падтрымка Настаўніка часам дапамагаюць. Дзе ж тут абысціся без шышакоў і пакусаў?!

Не гэта хвалюе — іншае: рухацца трэба па шляху абраным, хутчэй бы трэба рухацца...

**9 чэрвеня**

Канечне, было б занадта добра (штосьці блізкае да цуду), калі б пасля ўсіх маіх адкрытых заяў пра свой светапогляд, пасля адкрытага выступлення ў падтрымку Л. мяне падтрымалі тыя, што пры ўладзе сёння, ці, тым больш, тыя, што адносяць сябе да апазіцыі. І не здзіўляюся я, назіраючы за сваімі амаль што бясплоднымі намаганнямі прабіць сцяну непрыняцця (менавіта непрыняцця, а не неразумення, бо ўсе, каму трэба разумець, разумеюць), не здзіўляюся, а засмучаюся. Міжволі. Таму што ўсё яшчэ не пазбавілася ад залежнасці ў сваім чаканні нейкага бачнага выніку.

**14 чэрвеня**

Такое адчуванне, што дух «замкнёны» ў нябачных межах, кармічна вызначаных, а я замест таго каб «працярэбліваць» праход, кідаюся з боку ў бок, па крузе, уздоўж акрэсленай лініі: трэба запыніцца, хоць на нейкі час спыніць гэтую тузаніну (якая, канечне ж, знешне амаль ніяк не праяўляецца) і аддыхацца. Інакш — ці «разаб'ю» лоб, ці змушана буду «сысці з дыстанцыі»... Свят, свят, свят! Барані Божа!

Ніякіх перашкодаў, знешніх, бытавых, для больш інтэнсіўнай, мэтанакіраванай духоўнай работы, дзякаваць Небу, няма, усе перашкоды — ува мне самой, і на што я магу скардзіцца, як не раблю і сотай частачкі таго, што павінна і здоль-

на пры большай засяроджанасці? Аб якой дапамозе прасіць, як увесь час іду на бясконцыя паслабленні сабе ўчарашняй? Той мяне, учарашняй, ужо няма — усё на фізічным плане павінна быць падпарадкавана духу, інакш пра якую духоўную работу можна гаварыць?

Ніхто не патрабуе ад мяне поўнай аскезы, але ўсё, што перашкаджае засяродзіцца на малітве, павінна быць «адсечана», адпрэчана. Як непатрэбнае. Як шкоднае, і не толькі для мяне самой.

**17 чэрвеня**

Нешта я перастала радавацца перашкодам! Нават уявіць цяжка, што раптам бы стала «ціха», — гэта азначала б толькі адно: ні я, ні сіла мая нікога больш не цікавяць. І — н і ч о г а  і н ш а г а. Так што самы час — у барабаны біць, бо галава гудам гудзе ад напружаных токаў, ад іх схлістак: не заўсёды магу адвесці іх хоць крыху, змушаная зноў і зноў кідацца ў бой, а скардзіцца няма на што. Значыцца, так трэба. Не сабе, дык каму іншаму шлях расчышчаю... І хоць і ўсміхаюся на тое, што пішу, крышачку пацвельваючы сябе, але ўсміхаюся адкрыта, без усялякіх прыкідак у дачыненні да пражываемага ці заўтрашняга дня. Дасць Бог дзень, дасць Бог ежу... Так сцвярджае старая прымаўка.

**19 чэрвеня**

Нікога я не асуджаю за выбар, некалі ці апошнім часам зроблены, але, калі хтосьці пасягае на мой шлях, жадаючы павярнуць яго ў свой бок або знішчыць, я магу (і абавязана, бо на мяне ўскладзены пэўныя спадзяванні настаўнікаў) супрацьстаяць гэтаму гвалту, выставіць абарончы шчыт і «адмахнуцца» ад самых настырных. Так што няхай не крыўдуюць, калі што...

**22 чэрвеня**

Правільнасць прынятага рашэння так або іначай адразу пацвярджаецца: некалькі кароткіх праяў рэальнасці, некалькі высокіх «пробліскаў»... Сэрца зноў не ўтрымаць у грудзях — яно рвецца да Настаўніка.

Госпадзе, якая я шчаслівая ў сваёй любові да Цябе! Якая шчаслівая ў адчуванні Тваёй любові! Знаходзячыся між людзей, я ведаю, якое гэта рэдкае шчасце, і ўдзячнасці маёй няма мяжы... Госпадзе, гімнам Табе пачынаю свой дзень, гімнам Табе яго завяршаю — і так хацела б, каб словы, мной вымаўленыя, паўтарала за мной уся Зямля: мо і ўратаваў бы Ты яе і ўсіх, хто (часта па слепаце сваёй) яе губіць...

**24 чэрвеня**

Самае цяжкое — не чакаць выніку, не імкнуцца ўвесь час «убачыць» самым крайком свядомасці адчувальнае: мне здаецца, што якраз гэтыя мае ўпартыя (валявыя) спадзяванні перашкаджаюць свабодна, лёгка адключацца ад рэальнасці, пераходзячы (без усякага намагання з майго боку) у іншую, вышэйшую... Пачынаю разумець, што якраз «воля» часцей за ўсё, задужа ўмешваючыся, перашкаджае, і «віной» таму — практыка барацьбы, якую даводзілася (і цяпер даводзіцца!) весці за сябе і сваё месца ў гэтым Божым свеце.

Што ж, калі пачынаю разумець, то трэба пачынаць мяняць падыходы да ўсяго, чым хачу ці змушана займацца: пэўны прамежак шляху пройдзены, мяняецца задача, павінны памяняцца і шляхі дасягнення новай задачы. Неяк па-іншаму трэба б... Яшчэ не ведаю, як. Яшчэ нават у думках не магу акрэсліць, што і як адкрыецца за новым паваротам, а блізкасць нейкага павароту прадбачу, прадчуваю...

**27 чэрвеня**

Усім нутром адчуваю набліжэнне новага, вельмі адказнага этапу зямнога жыцця — і так хацела б аказацца на вышыні задачы! Нельга памыліцца. Нельга

памыляцца надалей ні ў чым: кожная (нават самая малая) памылка можа абярнуцца катастрофай, і не страх дыктуе гэтыя радкі, а разуменне адказнасці. Яшчэ і кроку наступнага не бачу, не тое што шляху, а груз адказнасці адчуваю...

**28 чэрвеня**

Слабы чалавек, не адухоўлены высокаю мэтаю, па прыродзе сваёй слабы... І ніколі нельга сказаць, дапамагла каму ці не здолела... Не ўсё можна і трэба рабіць самой, трэба здолець натхніць, умацаваць духам таго, хто на сваім месцы можа зрушыць справу і дапаможа вырашыць неабходную задачу. І, здаецца (як толькі што), удыхнула ў суразмоўніка штосьці ад сябе, ад свайго, а вось ці надоўга, ці стане «атрыманага» на ўвесь той час, які запатрабуе справа, сказаць цяжка. Далей жа — давядзецца яму самому рухацца і рухаць тое, за што ўзяўся.

**29 чэрвеня**

Новы рабочы тыдзень запатрабуе новых намаганняў, хоць усё, безумоўна, скіравана на галоўнае — усё, падуладнае духу майму. Трэба паспрабаваць «выбудаваць» будучыя падзеі так, такім чынам, каб яны прайшлі як мага больш прыбліжана да патрэбнага — прыгадаць што якое з далёкага вопыту (калі быў ён) і паспрабаваць...

Дагэтуль, у асноўным, творчасць, творчыя задачы вырашаліся ў накірунку мінулага, апісваючы якое, быццам «выцягвала» сябе з яго бездані. Час, відаць, канчаткова «адвярнуцца» ад таго, што было, і скіраваць духоўны позірк у «будучае» — куды толькі змагу ім дацягнуцца, спрабуючы штосьці прадбачыць, штосьці прадухіліць, калі хоць у якой-небудзь ступені магчыма, сілаю памкнення свайго, сілаю любві.

Пішу, адчуваючы трымценне ў душы: ці не занадта смела, ці не занадта самаўпэўнена? Але ж так было запаведана: стукайцеся — і адчыняць вам...

**30 чэрвеня**

Такое адчуванне, што ўсе магчымыя крокі насустрач чыноўнікам зроблены, — на жаль, ніводны з іх не выклікаў зваротнага руху, за якім праглядвалася б жаданне не тое што дапамагчы, а хоць бы адысціся ўбок. Што ж. Надалей не варта шукаць ніякай апоры і падтрымкі з іх боку — ні ў чым. Што змагу — тое змагу. Сама, з дапамогаю тых, хто, жадаючы або не жадаючы, а проста адпрацоўваючы заробак, дапамагаюць...

Разлічвала на большае? Ёсць жа яшчэ творчасць! Трэба ставіць большыя творчыя задачы — і друкавацца, выходзіць да людзей там, дзе магчыма. Думаць, звяртацца да Неба, пісаць...

**11 ліпеня**

Адзін дзень змяняецца другім, другі — трэцім... Адзінае, што раблю, — займаюся ангельскай моваю ды чытаю па вечарах, перачытваючы «Лісты М.» і звяртаючы ўвагу на раней не заўважаныя ў іх дэталі і нюансы. Няма, усё яшчэ няма раўнавагі ўва мне — і гэта адчуваць часам балюча, хоць разумею, што «балючасць» якраз і сведчыць пра недастатковасць умення ці патрэбных намаганняў. І марна наракаць з гэтае прычыны. Часам увогуле думаю, што мяне не толькі тут, на зямлі, утрымліваюць ад залішне яўнага выхаду на «арэну», але і «зверху» прытрымліваюць, ашчаджаючы, ратуючы ад магчымага «устранения» тымі, хто, нават губляючы сваю моц, не збіраецца саступаць уладу... Не тут, на «гэтай пляміне гразі», ідзе барацьба і вырашаюцца глабальныя пытанні, якія закранаюць будучыню чалавецтва, а на іншых, значна больш высокіх, чым магу ўсвядоміць, планах — і свядома ці (няхай нават так!) падсвядома трэба скіроўваць усе свае намаганні, усю сваю энергію туды.

Як? Сэрцам! Праз сэрца, якое памятае кірунак і Таго, да Каго імкне. Праз творчасць і тыя вібрацыі, што ідуць у такія хвіліны «зверху». Праз бязмоўнае, бясслоўнае памкненне да Настаўніка, да Госпада! У часе малітвы, і ў любую хвіліну жыцця...

**17 ліпеня**

Яшчэ адна маленькая перамога: адным з заснавальнікаў часопіса становіцца Міжнародны Савет па культурным супрацоўніцтве краін СНГ. Карысці (у плане матэрыяльным), відаць, будзе няшмат (калі ўвогуле будзе), але ў плане атрымання маральнай, духоўнай падтрымкі ўсёй супольнасці (нягледзячы ні на што!) гэты крок патрэбны. Як бы ўжо там хто з «дужых свету гэтага» да ўжо зробленага ў часопісе і да таго, што яшчэ будзе зроблена, ні ставіўся, промнікі святла ўсё-ткі пацягнуцца да мяне (нябачна) адусюль. Па той сцяне, якую даводзіцца «ламаць», мяркуючы, — справа, якую раблю, варта ўсіх маіх намаганняў і шышакоў.

**18 ліпеня**

Прыйшла да думкі, што трэба пісаць артыкул у наступны нумар, які будзе прысвечаны 200-годдзю А. Міцкевіча, — у рубрыку «Ніць Арыядны». Узяць, як ключ да ўсяго артыкула, сваё колішняе выступленне ў «Рэспубліцы» і развіць, пашырыць яго, ператварыўшы ў філасофскае разважанне аб значэнні месца нараджэння той альбо іншай асобы (месца і часу) — яно ніколі не бывае выпадковым, яно «магнетызуе» творцу, для якога (заўсёды!) абарваць повязі з роднай зямлёю — азначае парваць усе повязі з духоўным светам, асудзіўшы сябе на душэўныя пакуты і творчае бясплоддзе. Каго ні ўзяць з гісторыі — лёс паварочваўся менавіта так... Усё тая ж легенда пра Антэя...

Так, так! Калі ўзнікне пытанне пра аўтарства, аб тым, што занадта часта... Паставіць псеўданім, у крайнім выпадку... Але пісаць трэба! І нагода добрая, і ніхто мяне не вызваляў ад гэтага майго абавязку — звяртацца да людзей наўпрост, даводзячы ім праўду (тыя крышталікі яе, якімі сама валодаю) пра духоўныя карані нашы, пра шлях вяртання да сябе сапраўдных.

Так, так! Мне дадзена трыбуна (пакуль дадзена!), і грэх не выкарыстоўваць яе ў поўнай меры, тут дзвюх думак быць не можа. І калі раней, ведучы барацьбу за часопіс і сваё месца ў ім, было крыху не да таго, далей трэба дзейнічаць у творчым плане больш актыўна. Пераклады — добра, але гэта — ускоснае, як кажуць. Тое ж, пра што думаю, чым жыву, да чаго імкнуся, — за мяне ніхто не скажа, не напіша. З гэтага трэба сыходзіць, і толькі з гэтага!

**20 ліпеня**

Два выхадныя праседзела, рыхтуючы выступленне для сустрэчы з Л. (хоць яшчэ невядома пэўна, ці адбудзецца гэта сустрэча), і цяпер пасміхаюся: ужо можна і не выступаць, бо столькі перадумана, пералапачана ў думках, што неабавязкова і агучваць... Не, не, калі будзе нагода, трэба яе абавязкова выкарыстаць: неяк жа трэба набліжацца, пакуль ёсць меркаванне, што трэба...

Як усё-ткі імкліва прамінаюць дні! Лета перавалiла на другую палову, а я так ніводнага разу і не выбралася на прыроду: адна думка пра тое, «якая» прырода акружае горад і яго дачныя паселішчы, гоніць усякае жаданне выязджаць. Урэшце, сёлета была паездка ў Індыю і, як мінімум, на год гэтага павінна хапіць. Калі ж улічваць магчымасць праглядваць касету з запісам, то і надаўжэй. А там, дасць Бог...

**22 ліпеня**

«Но будьте предостережены, мой друг, что это не последнее из ваших испытаний. Не я их создаю, но вы сами своей борьбой за свет против темных влияний

мира...» Вось і яшчэ адзін адказ на пытанне «чаму і калі», дадзены ў «Лістах М.», і стала крыху спакайней на душы. Ва ўсякім разе, я цяпер не буду думаць, што гэта з-за «набраных» на сябе грахоў і неаплачаных даўгоў, прыцягваецца ўсё тое, што прыцягваецца, — ідзе барацьба, я не ўхіляюся ад яе, часам нават выклікаючы агонь на сябе, і гэта ў тым часе і тым месцы, дзе знаходжуся, нармальна. Магчыма, адзіна магчымае...

Трэба рабіць усё, нічога не адкладваючы, і ўсё ж не прыспешваць ні падзеі, ні рашэнні, якія залежаць ад іншых людзей, іначай (як ужо неаднойчы пераконвалася) карысці вялікай не будзе, калі ўвогуле будзе... Скачкамі рухацца можна, але, сучаснай мовай кажучы, нерэнтабельна. Толькі разважлівыя, упэўненыя крокі (крок за крокам!) набліжаюць да Ісціны, ці ж не гэта мне гаворыцца штодня?

**26 ліпеня**

Не сабрацца з думкамі — не ачысціць для іх прастору паміж хваляў злосці, злоснага непрыняцця шляху, якім іду, якім спрабую ісці ва ўсіх на вачах: трапіла, трэба сказаць, дакладна ў тое месца, што чакала мяне і было для мяне запаведана, і ў кампаніі тых, хто, калі іх не «высвеціць», не адну спіцу ў коле прагрэсу зламалі б яшчэ, людскімі душамі дарогу да ўлады сабе мосцячы. «Здалёк» папрыходзілі, усе разам сабраліся ў пэўным часе, даўно, як цяпер разумею, мяне запрыкмеціўшы, і цяпер шчытна — шчыт да шчыта — вакол тоўпяцца, то па адным, то купкамі кідаючыся на кожны «рух» мой...

Часам так усё выразна «бачу» ментальна, што хоць карціну малюй! Праўда, гнусненькая атрымалася б карціна, ды і не маляваць трэба, а размалёўваць і сціраць — там, дзе льга сцерці. Каб хто невідушчы не паслізнуўся. Каб хто слабейшы не ўграз у ліпкіх абяцаннях іхніх.

**1 жніўня**

Пераглядала магчымае выступленне на нарадзе ў Л., калі яна адбудзецца, думала пра яго, спрабавала сустрэцца... Цяжка яму даводзіцца, абклалі з усіх бакоў так, што ўжо не пра «павуціну» трэба весці гаворку, а пра тоўстыя краты, якія меч не бярэ... Шкада, што мала чым магу дапамагчы, хоць і стараюся: зграя ганіцелей адна і тая ж, ціск розны, а яшчэ ж і недавер з яго боку — дарэчы, добра зразумелы. І я ж працягваю ставіць пытанне: хто? Ці той, за каго прымаю?

Пэўная помач ад мяне ідзе, адчуваю, але, напэўна, яна магла б быць і больш значнаю. Дапускаю гэта ў думках — быццам шлях для яе працярэбліваю наперад, калі раптам з'явіцца магчымасць крыху большая. Галоўнае: нічога не прыспешваць, хоць і спрабаваць — зноў і зноў! — прабіцца ментальна, прычыніцца духам. Усё, што залежыць ад мяне, павінна быць зроблена. Насупор усім перашкодам. Дзеля агульнае справы.

**8 жніўня**

Не ілюзіі, а веды, не здагадкі, а бачанне павінны кіраваць усімі маімі ўчынкамі і дзеяннямі: сярод людзей жыву, да іх прыйшла, з імі павінна працаваць, да іх свядомасці прадзірацца, нягледзячы ні на што. Можа, і не мець вялікіх спадзяванняў на кожнага, але і памыліцца — «перадаць» — не баяцца. Ні адзін гран энергіі не знікае бясследна, калі і не пераўтвараючы таго, што патрабуе пераўтварэння, то ўсё ж застаючыся зернеткам у цёмнай глебе душы да яе абуджэння. Тыя, хто не прыме яго ці, тым больш, паспрабуе знішчыць, самі сябе караюць — клопат пра тое не мой. Мой — «вырошчваць» святло ў сабе і раздаваць, аддаваць яго тым, хто не зусім безнадзейны... Галоўнае — не чакаць імгненнага выніку, не задумвацца пра ўдзячнасць ці няўдзячнасць людскую. Не заўсёды я магу ўсвядоміць да канца тыя зрухі ў людзях, якія адбываюцца ў маёй прысутнасці (у «прысутнасці» сілы, якая ідзе праз мяне), але такія зрухі (да

чаго б яны ні вялі) проста неабходныя, бо міжволі змушаюць кожнага рабіць выбар. Няпросты выбар, згодна. Ды ніхто ж ні за каго (сёння ці заўтра) гэты выбар не зробіць. Так што...

Так што і мне даводзіцца штодня рабіць пэўны выбар паміж магчымым і *магчымым*. Немагчымага няма! — а вось выбар паміж дзвюма магчымасцямі — не заўсёды лёгкі.

**16 жніўня**

Яшчэ колькі постацей выйшлі з ценю на прыёме з нагоды свята Індыі, і карысць пэўная (пры ўсіх складанасцях), відаць жа, будзе. Дзіўлюся аднаму: як паступова, ашчаджаючы мяне, падводзяць мяне да таго ці іншага са злоснікаў. І калі раней (часцей за ўсё) я адчувала ў стрэчаным пэўную сувязь са мной асабіста (у тым ці іншым жыцці), то цяпер, у большасці выпадкаў, стрэчамі «кіруе» справа, да тых, хто «патрэбен», выводзіць сам шлях. І гэта не можа не радаваць: мо ўсё-ткі трошачкі «падрасла»? Мо адолела яшчэ адну невялічкую прыступку?

**22 жніўня**

Вянок з церняў... Церні, што ўспыхваюць яркай каронай, распадаюцца, ператвараючыся ў крылы і ўзносячы... Дзве розныя карціны, звязаныя са з'яўленнем у капліцы Хрыста — не там і не так, як было наяве, і ўсё ж даволі выразна ў сваёй невыразнасці... Не спрабую нічога вытлумачваць, да болю ў сэрцы адчуваю патрэбу ў хвілінах поўнай засяроджанасці. Хоць зрэдку. Іначай не адолець перашкодаў, што ўстаюць і ўстаюць на шляху. Іначай не будзе руху наперад і памкненні так і застануцца памкненнямі.

**29 жніўня**

Не ўсё атрымліваецца? Дык навошта быў бы патрэбен мой прыход, каб усё аказалася простым і лёгка пераадольным? У такім гадзюшніку і смяротныя ўкусы надараюцца, не тое што... Не дзівіцца трэба, душой нямеючы пры кожнай здрадзе таго, на каго паспрабавала ўскласці чарговую спадзеўку, а спакойна асэнсоўваць, які наступны крок выведзе на патрэбнае рашэнне. Выбар заўсёды ёсць, выйсце заўжды непадалёку...

Калі суджана было, каб тут і цяпер, напрыканцы двух тысячагоддзяў хрысціянства, схліснуліся — сышліся ўсе тыя, хто так або іначай апынуўся пры яго ўзнікненні (па той ці па гэты бок), то кожны павінен выявіцца да канца, і, мажліва, пры маёй дапамозе. Сябе — не выключаю: і я падуладная агульнаму закону, і ў мяне ёсць што зжываць і пераадольваць, і ўсё ж мэта майго прыходу паціху-патроху высвятляецца. Мажліва, сумненняў было б больш, калі б (ледзь не штодня) не атрымлівала пацвярджэнняў чыста зямных — на зямным плане, а так... А так — трэба быць вартай пастаўленай Настаўнікамі мэты, трэба ўсё рабіць, каб выканаць узятую на сябе місію. З Божай помаччу — выканаць, каб шлях прадоўжыўся.

**30 жніўня**

Для таго, каб не ўгразнуць у самапапроках (не атрымліваецца шмат з таго, што трэба зрабіць тут і цяпер), змушаю сябе азірнуцца на жыццёвы шлях Бл.: з сіламі, даступнымі ёй, з прамою падтрымкаю Настаўнікаў, не ўсё і яна здолела, акружаная тымі, хто не разумеў яе шляху і поперак кідаўся, не разумеючы... Не дзеля апраўдання, не ў пошуку апраўдання азіраюся на яе, а ў пошуку раўнавагі душэўнае: не павінны вынікі маёй працы (якімі б яны ні былі, калі ўсё магчымае зроблена), выбіваць мяне з каляіны, выклікаючы апатыю і смутак. Не павінны! Якраз жа гэтага і прагнуць тыя, хто перашкаджае...

Радавацца трэба перашкодам, а не засмучацца — радавацца і радасцю пераадольваць іх. Як бы іначай быў бачны, заўважны рух мой?

**3 верасня**

Якім будзе наступны твор, трэба думаць — кірунак работы, мяркую, вызначыўся яшчэ на пачатку года: чалавек п а в і н е н «выйсці» са шкарлупіны сваёй асобы, п а в і н е н імкнуцца спазнаць сябе сапраўднага, каб уразумець, убачыць шлях удасканальвання — шлях д у х у . І ніякае маралізатарства тут не дапаможа, нічые заклікі нічога ў душы не скрануць, калі не «зачэпіць» душу лёс — твой уласны ці твайго героя, супераҗыванне якога можа скрануць тое нябачнае, што засланяе ўнутраны позірк...

**13 верасня**

Так і не прыйшла да пэўнай думкі, трэба ці не трэба было ўчора ехаць на Наваградскае свята, якое, канечне ж, святам паэзіі не стала (і не можа стаць пры сённяшніх адносінах да літаратуры). Хоць, калі паехала, то — трэба было. Усё ж, яшчэ сёе-тое трапіла на вочы, яшчэ сёй-той са знаёмцаў «выйшаў», як кажуць, напрамую, зазірнуўшы (а то і адвёўшы позірк) мне ў твар. І справа, відаць, не ў тым, магу ці не магу я штосьці ( у чымсьці ці ў кімсьці) змяніць, а ў тым, ці бачнае, ці адчувальнае тое святло, якое нясу ў сабе воляю Госпада ўсім — і тым, хто бачыць і адчувае, і тым, хто падыходзіць, прыцягнуты інстынктыўным рухам. Калі ўсталёўваецца вакол мяне мір (хоць бы ў тыя хвіліны, якія доўжыцца стрэча), то ў нечым (хоць бы ў самым малым!) задача выканана, — так гавораць мудрыя. І, азіраючыся на ўчарашні дзень, варта прызнаць, што здолела не дапусціць у сэрца раздражнення, хоць было нямала правакацыйных момантаў. Большага, на жаль, не змагла. І адзін Гасподзь ведае, навошта спатрэбілася мая прысутнасць на гэтым свяце!

**24 верасня**

Тое, што адбываецца ў эканамічнай і фінансавай сферы ў Расіі і ў нас, калі задумацца, носіць ледзь не катастрафічны характар. І калі падыходзіць да гэтага з зямной пазіцыі, рукі ні на што не падымуцца (магчыма, якраз разуменне с в а ё й пазіцыі дапамагае заставацца бадзёрай і дзейснай) — трэба б рабіць больш, на большае ўплываць — на ўсё магчымае, а рамкі, абмежаванні трымаюць. Не мне меркаваць, канечне, — даецца па сіле... Большай сілы прагну — не прашу, а ўсім сэрцам прагну!

**29 верасня**

Рознахуткасныя плыні часу то змешваюцца, зблытваючы ўсе ўяўленні, то рухаюцца незалежна адна ад аднае — і даводзіцца «сцягваць» іх кірункі, каб зусім не выпасці з рэальнасці. Напружанне такое, што нават радавацца выхаду нумара са словам Настаўніка і пачаткам свайго рамана-містэрыі ў поўную меру не магу. Тым больш, што даручанае мне — даручанае Б.! — выканаць не магу, так і не перамогшы супраціўленне чыноўнікаў. Рукі не апускаю, збіраюся змагацца да канца — і ўсё ж, не ўплываць на настрой падобная хада падзей не можа.

**15 кастрычніка**

«Мы ўсе — пасланнікі Неба...» назвала я падборку вершаў, і шчасце ведаць гэта, адчуваць (а то і «бачыць»!) — ні з чым не параўнальнае. Ні з чым! Толькі б быць вартаю любові, мне пададзенай, толькі б зрабіць усё, што запаведана мне зрабіць тут і сёння!

**21 кастрычніка**

Ва ўчарашнім нумары глухаапазіцыйнай «Свабоды» выступіў вядомы іудзейскі «палеміст» і, блытаючыся ў цытатах (канечне ж, «передернутых») з майго артыкула і з выступлення Л., пырскаў слінаю і даводзіў публіцы, што ёй прапа-

нуецца «лямка» новай ідэалогіі — і прапануецца мною (на кожны абзац, з невялікімі варыяцыямі, часам не аднойчы ўзгадвалася маё імя). Рада, што і ценю пачуцця абурэння не мільганула ў душы, — сёння ж пасміхаюся: упершыню мяне так ушчытную «ставяць» побач з Л., і хто?! Пра такога не скажаш: сляпы злоснік — свядома і не сённяшнім днём абраная пазіцыя, свядомы праваднік не сёння задзейнічанай разбуральнай сілы... Ну, ды Бог ім суддзя! Спатрэбіцца даць адпор — не прамаруджу, і ценю страху або сумнення не мільгане...

На сёння — задача вызначана, і галоўнае — не даваць, не даць «збіць» сябе з абранага кірунку ніводнай з сілаў, скіраваных супраць. Жыццё само расстаўляе кропкі — там і тады, калі трэба. Сабакі брэшуць, а караван ідзе! — гэта мудрасць пацвярджалася на ўсім працягу гісторыі неаднойчы.

**26 кастрычніка**

Час падціскае, змушаючы канцэнтравацца на галоўным, — уважлівей трэба ставіцца да здароўя, і да акружэння свайго, бо ніхто нічога за мяне не зробіць тут, а перадаць хоць бы частку нагрузкі няма каму. Значыць, трымацца, трымацца, трымацца! — з Божай помаччу ўпраўлюся, калі не буду адхіляцца ад абранага кірунку. Задача ж (па крайняй меры, бліжэйшая) ясная, сілу трэба знаходзіць — таму, чаго не ўмею, вучыцца. І ніякіх апраўданняў быць не можа...

**31 кастрычніка**

Пра віртуальную вайну, больш небяспечную, чым усе іншыя, якая ідзе цяпер у свеце, гаварыў перад тэлевізійнай камерай дэпутат ад ЛДПР, нехта Мітрафанаў, і гаварыў не толькі адкрыта, але і пераканана. І тое, што гэта не выклікала роўна ніякай рэакцыі ні з аднаго боку (быццам не чуў ніхто), толькі пацвярджае ім сказанае. Любую «утку» кідаюцца абсмоктваць усім журналісцкім корпусам, а тут — такое, і каб водгук адзіны! каб водгук ад каго! О, ужо гэта вечна прадажная інтэлектуальная «эліта»! — ужо ж не сярод іх трэба шукаць чыстых і адданых справе Божай людзей. Гавару не з гневам, а з горыччу...

**6 лістапада**

Заканчваецца адпачынак, і адно, што вызначылася, — кірунак працы на самы бліжэйшы час. Не так і мала, калі ўзгадаць, што праца гэта распачалася, асвятляючы добры прамежак шляху наперадзе. І ў астатнім (у галоўным!) трэба так: не разважаць, а дзейнічаць, не наракаць на ўласную слабасць, а рабіць новыя і новыя спробы, новыя і новыя крокі. Шлях доўжыцца, калі ім ідзеш. Дзверы адчыняюцца таму, хто пастукае. Любое пачынанне трэба даводзіць да канца, нават калі рух ледзьве ўспрымаецца.

**7 лістапада**

Упершыню стала ясна ўсведамляць, што нават пра тых, хто дзейнічае супраць мяне дзень і ноч, нястомна і мэтаскіравана, не магу думаць — не думаю! — як пра ворагаў. Два-тры монстры сярод гэтага «статка буйвалаў» вылучаюцца, канечне, але ўсе яны, скаваныя ў зле, часам беспрасветна «цёмныя» ў сваіх намерах, зжываюць узятае на сябе не сёння, не сённяшнім днём, і мы, па ўсім відаць, не маглі размінуцца. Наўрад ці каму з іх я дапамагу (ды і не ўскладваў на мяне ніхто такой задачы), але зрушыць штосьці ў іх цёмных душах, у іх думках пра наступныя часы (хоць бы ў адносінах да іх жа саміх) магу і павінна. Тое, што ўсімі думкамі яны «прывязаны» да мяне, да майго шляху (у сваім ганенні), ужо штосьці зрушвае, мяняе...

Не варта імкнуцца апярэджваць падзеі — усе, каму належыць выйсці «на мяне», выйдуць. Рана ці позна. Так было дагэтуль, так будзе і надалей, калі мой рух не запыніцца.

**11 лістапада**

Не ведаю, ці завершана эпапея з інтэрв'ю, але звярстаны тэкст (магчымае з таго, што было прапанавана) перададзены «наверх» і — адкрывае першы нумар наступнага года (дваццаць пяты!). Вядома, калі б я с а м а гутарыла, матэрыял быў бы іншы. Мяркую, больш значны. Але, дасць Бог, і гэта публікацыя нейкім чынам зблізіць нас, адкрываючы (няхай у больш аддаленай перспектыве) магчымасць для сапраўднае стрэчы.

Сёння — апошні дзень адпачынку, і калі б не напісаныя вершы (недзе каля двух дзесяткаў), то і пахваліцца не было б чым. Адпачыць, канечне ж, не атрымалася (праўда, я і не разлічвала асабліва!), да шмат чаго з запланаванага ледзьве падступілася, мо толькі акрэсліўшы тое, што трэба зрабіць.

**13 лістапада**

Пасля даволі доўгай паўзы перамовілася сёння з Валянцінам Мітрафанавічам, і адчула яго радасць, яго радаснае ўзрушэнне: усё-ткі зблізіліся, зрадніліся мы за прамінулыя паўтара года (неяк і незаўважна нібыта). І няхай рэдка (як сёння) прарываюцца гэтыя ноткі ў гаворцы, такія моманты дарагога каштуюць. Вакол жа — бурнае мора людскіх страсцей, цёмных, а то і даволі гнусных ва ўсёй сваёй злосці і нястрыманасці, але і сярод іх даводзіцца шукаць, пракладваць сцяжынку, да якой маглі б цягнуцца тыя, хто прагне святла ў гэтым змроку.

**16 лістапада**

Усё ў большай ступені адчуваю, што «акружана» жанчынамі, ці тымі, хто ў іх абліччах прыйшоў гэты раз: адсюль і тая жорсткасць, з якой кожны раз сутыкаюся, і тая неадступнасць у зле, прыкрытая хлуснёй і размовамі аб вечным... Магчыма, сіла кожнай з іх раскрываецца паступова і не адразу, бо трэба ж, каб гэта адпавядала тым працэсам, што ўва мне адбываюцца, той сіле, што ўва мне спее. «Магіня» — толькі адна з іх круга, кіпцюры ж у кожнае і вострыя, і атрутныя. Здаецца, і не памылялася «да канца» ні ў адной з іх, а ўсё ж і супрацьстаянне сапраўднае адчула толькі цяпер, апошнім часам. Калі «сышліся» яны ў адзіным парыве, утварыўшы «круг».

Што ж, ніводны з іх выпадаў я не справакавала, не выклікала — на кожны іх выпад знойдзецца, з Божай дапамогаю, належны шчыт. Ні кроплі страху, ні грана сумнення ў душы!

Вось ужо праўду кажуць, што толькі жанчына бывае сапраўды вялікай як у дабрыні, так і ў зле. З аднаго боку, Белыя Сёстры Расіі, вядомыя і невядомыя, з другога — вечныя жрыцы чорнай магіі, што імкнуцца ўсё зацягнуць-завесіць чорнай павуцінаю... Госпадзе, павінна ж штосьці карэнным чынам мяняцца ў вялікую эпоху Маці Свету! Дапамажы нам!

**21 лістапада**

Як жа развінаецца душа ў тыя хвіліны, калі адчувае, што яшчэ адна прыступачка адолена. Цана, заплачаная за гэта, не мае значэння: вось яна, падборка вершаў «Усе мы — пасланнікі Неба...», перада мною, і, перачытаўшы вершы, я не хаваю радасці (мо ўпершыню за доўгія месяцы). Цэласная падборка. Няхай адкрытая (што не магло не выклікаць «шквалу»), няхай «занадта сур'ёзная», але і цяпер бы я не памяняла ніводнага слова, ніводнай страфы. І заключныя радкі («Жывём, і ў гэтым простым цудзе і сэнс, і мэта, і адказ») вянчаюць старонку годна і на той ноце, якая знойдзе водгук.

**23 лістапада**

Паэзія, паэзія... Пра задуму новай празаічнай кнігі, да якой меркавала падступіцца, і не ўзгадваю! Няхай нячаста, але прыходзяць вершы, і ўдзячнасці ма-

ёй няма мяжы — музыка ж ажывае ў душы, музыка ж гучыць ува мне і вакол у такія хвіліны! І ўсё астатняе адступае, знікае, каб вярнуцца ў нейкім іншым асвятленні. І самае цяжкае, самае яшчэ нядаўна складанае ўспрымаецца як простае, патрабуючы меншых высілкаў.

Найбольш чыстая мая малітва — у вершах.

**25 лістапада**

Думка пра новую паездку, пра новую сустрэчу з Настаўнікам запала ў сэрца, напаўняючы яго цяплом, і, канечне ж, не важна, калі яна адбудзецца — да Новага года ці ўжо пасля. Яна абавязкова адбудзецца! Вось што дапаможа адольваць усе перашкоды. Трэба больш сур'ёзна заняцца мовою, трэба рухаць пераклад і паціху займацца падрыхтоўкаю... Не загадваць тэрмін, а быць гатовай ехаць у любы момант.

**1 снежня**

Прыйшло запрашэнне на паездку ў Габінд Садан. Настойлівае запрашэнне. Больш як на месяц — да 30 студзеня, і Валянцін Мітрафанавіч (крыху нечакана) паставіўся да гэтага холадна. Спрабаваў астудзіць, хоць у мяне падчас гаворкі не было ніякага рашэння, і гэта не так засмуціла, як змусіла задумацца на цэлы вечар. Мажліва, апошні раз (наперадзе ніякіх заробкаў ці прыробкаў не прадбачыцца) я здолею вырашыць фінансавае пытанне самастойна — і як сёння ўранку разумею, буду вырашаць! — але спроба (хоць бы спроба) дапамагчы павінна была б зроблена і з боку масквічоў: не адно ж дзеля сябе еду... Ну, ды над гэтым і задумвацца не варта.

Настаўнік кліча — паклікаў! — і не адгукнуцца, пачаць адкладваць паездку да нейкіх «лепшых» часоў, азначала б нават не проста непаслушэнства, а глупства. Хто ведае, я к і я ч а с ы нас усіх чакаюць, і ці ёсць увогуле які-небудзь час?

**5 снежня**

Білет здолелі заказаць толькі на пятае студзеня — пасля ўсіх святаў, і на цэлыя два тыдні пазней, чым настройвалася. І тут ужо нічога не зробіш. Справы, хоць і крыху прабуксоўваючы там, дзе штосьці залежыць ад чыноўнікаў, паціху рухаюцца. Атрымала цёплы ліст ад Т.Г. — першы водгук на свой раман ад чалавека, які сэрцам зразумеў напісанае: «Роман прочла запоем, оторваться невозможно. Сколько же горя прошло через ваше сердце, своего и не своего! Человек, действительно, запутался, и женское сердце это особенно чувствует и жаждет спасения. Может быть, потому что в каждой женщине живет материнская боль за всех беспутных. И это ощущение «стены» или «паутины», которой люди себя опутали... Только женщина сможет ее распутать, с Божьей помощью. Да, если не по Богу, то по дьяволу, куда уж яснее... И эта стянутость в одно мгновение, в одну точку — или над временем и пространством, — попадание в вечность. Это тоже от сердца. Все уже есть, а человек то и притягивает из Небытия, что в нем есть, — по закону резонанса или сердечного маштаба».

Працытавала, бо пісьмо можа і згубіцца сярод папер, а думкі ўяўляюцца цікавымі.

**14 снежня**

Праваднік энергіі... Колькі і на што яе дазволена «праводзіць», павінна адчуваць сэрцам, і цяпер, пасля вяртання з Масквы, спрабую вызначыць, чаму такі вялікі расход энергіі (прыехала амаль без сіл), ці правамоцнае было маё рашэнне ехаць менавіта ў гэтыя дні, на гэты вечар. Такое адчуванне, што як у трубу ўсё выцягвала... І калі з Валянцінам Мітрафанавічам яшчэ штосьці абгаворана, абдумана разам, то наконт яго «памочніка» ўсё больш пытанняў: чаму менавіта т а к о е ў яго акружэнне? чаму (пры ўсёй яго мудрасці) расце ў ім эгацэнтрызм? чаму вы-

растае нябачная запона паміж намі, калі яму даводзіцца рабіць над сабой намаганне, каб павярнуцца да мяне «душою»? Уваходжанне ў ролю «наследника»? Жаданне першынства?

О Госпадзе! Калі ўжо ў такіх людзях, як ён, можа пачаць расці чарвяточына, то што ж пра астатніх казаць!

Спадзяюся, урок гэты раз і назаўсёды засвою. Кантраляваць трэба не толькі сітуацыю і (па мажлівасці) усіх, з кім яна звяла, а — у першую чаргу! — і тыя працэсы, што ўва мне самой адбываюцца падчас кожнае стрэчы. Аддавацца павінна тое, што аддаецца дзеля справы і аддаецца падкантрольна. Не толькі па сваёй волі, але і падкантрольна. Вось галоўнае!

**20 снежня**

Надараюцца хвіліны (як цяпер), калі ў душы жыве толькі непераможнае пачуццё радасці. Радасці, як здаецца, беспрычыннай, бо па-ранейшаму адчувальны ціск тых, хто не супакойваецца ў сваіх прэтэнзіях на духоўную ўладу, па-ранейшаму дзень пачынаецца з «ачышчэння», звыклых «расчыстак» вакол, каб льга было прадыхнуць... Ды і не хочацца шукаць прычыны гэтае радасці! Сэрца ведае адказ, не пытаючыся, і поўнае ўдзячнасці, бязгучна моліцца, імкнучыся на кліч Бязмежжа, — чаго ж яшчэ?!

**27 снежня**

Апошнія дні года... Цяжкога года, і ўсё-ткі вехавага, знакавага! — і ў маім лёсе, і ў лёсе краіны. І як да ўсяго, што адбылося і адбываецца, ні ставіцца, не прызнаць гэтага немагчыма. Усё дробязнае, другаснае асыплецца, адыдзе, а вяха на шляху застанецца — ва ўсякім разе, для тых, хто здольны бачыць і цвяроза меркаваць аб убачаным. Ацэнкі, недаацэнкі, пераацэнкі... Гэта ўсё няважна. Важна толькі тое, што зроблена, што здолелі зрабіць тыя, хто быў пасланы для здзяйсненняў, і я... Мне — за мне даручанае адказваць, за мной зробленае трымаць справаздачу перад Настаўнікамі, і падстаў, каб быць задужа задаволенай, прама скажу, малавата.

**28 снежня**

Дзіўнае адчуванне нейкай пэўнай справы, пэўнага прамежку жыцця, калі вакол — паўза. Менавіта вакол... Калі тое, якой будзе наступная задача, якім будзе і куды прадоўжыцца шлях, невядома, а ўсе запытанні душы «павісаюць у паветры»... І звязана гэта, хутчэй за ўсё, не з завяршэннем года, а з чаканай паездкай.

Мажліва, тое, што еду адна, што еду вучыцца, вызначыць ува мне і для мяне самае важнае — галоўнае! На нейкі прамежак наперадзе. І малю Бога, каб так і здарылася, каб паездка ў Індыю адбылася, спраўдзіўшы ўсе мае спадзяванні.



Юрый ШЧУКА

# «ВОЧЫ ПОЎНЫЯ ЖЫЦЦЯ...»

*(малая проза Вячаслава Адамчыка)*

Як і многія беларускія празаікі, Вячаслаў Адамчык пачаў з апавяданняў, адразу ж засведчыўшы даволі адметнае для свайго часу імкненне быць лаканічным, выбіраць герояў са знаёмага асяроддзя, крытычна ставіцца да з'яў і фактаў жыцця. Фарміраванне творчай індывідуальнасці Адамчыка супала з панаваннем у беларускай савецкай літаратуры тэорыі бесканфліктнасці, што ў пэўнай ступені стрымлівала схільнасці і магчымасці пісьменнікаў. У той жа час таленавітая моладзь шукала і знаходзіла новыя шляхі рэалізацыі мастацкіх задум, на што станоўча паўплывала атмасфера «адлігі» канца 50-х і пачатку 60-х гадоў. Што да разгортвання таленту В. Адамчыка, то ў творах ранняга перыяду празаік скіроўваў сваё творчае ўяўленне не столькі ў шырыню, колькі ў глыбіню асэнсавання сутнасці з'яў. Сам пісьменнік у сваіх «Крэсках з аўтабіяграфіі» занатаваў шчырае прызнанне: «Першыя апавяданні — былі нібы кароткі разгон, каб паверыць у сябе і набрацца адвагі і моцы». Ідэйныя пошукі пісьменніка на першым этапе творчасці былі звязаны найперш з выпрацоўкай творчага метаду і канцэпцыі чалавека, са шляхамі пазнання жыцця. Тагачасная крытыка адзначыла перавагу індывідуальна-псіхалагічнага, прыватнага зместу над сацыяльным і гістарычным, што для свайго часу выглядала самабытным і даволі наватарскім.

Крыніцай творчасці В. Адамчыка, як па яго ўласным прызнанні, так і па меркаванні даследчыкаў, стала родная яму Заходняя Беларусь. А дакладней, Наваградчына. Заходнебеларускі вясковы побыт, у якім адлюстраваліся спрадвечныя прынцыпы народнай маралі, стаў матэрыялам многіх твораў пісьменніка, што раскрываюць перад чытачамі каларытны і непаўторны свет наваградскай вёскі, дзе ў першай палове XX стагоддзя адбываліся складаныя змены шматвяковага ўкладу жыцця. Адзначаная тэма, дарэчы, была новай для пасляваеннай літаратуры, а тыя пісьменнікі, якія яе распрацоўвалі, у асноўным пісалі пра аб'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі, слаба закранаючы сацыяльна-бытавую тэматыку. Што да творчасці В. Адамчыка, то кантраст добрага і дрэннага служыць асновай канфлікту многіх твораў пісьменніка, у якіх асабліва выразна акрэсліваюцца персанажы-антыподы. Да прыкладу, гэта Рыгор Падліпскі і Алесь Макарчык з апавядання «На крыжавых дарогах», Язэп і Марцін у «Сваім чалавеку», Марцін Дзікуць і Клемус Война ў «Дзікім голубе», Косцік Манцэвіч і Пецька Жвір у «Млечным шляху».

Ужо адно з першых апавяданняў В. Адамчыка «Зоня» паказвае павышаную цікавасць аўтара да індывідуальных праяў чалавечага характару, калі праз асабістае перадаваліся складаныя жыццёвыя супярэчнасці. Такі падыход, як ужо адзначалася вышэй, быў новым у параўнанні з ранейшымі перыядамі, калі ў творах найчасцей увасабляўся сацыяльны змест, а індывідуальнае заставалася ўбаку.

---

***Шчука Юрый Аляксандравіч*** *нарадзіўся ў 1977 г. у Віцебску. Скончыў Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. М. Машэрава (1999) па спецыяльнасці «беларуская мова і літаратура». Працаваў выкладчыкам гімназіі № 2 г. Віцебска, выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава. З 2002 г. — аспірант гэтай жа кафедры, даследуе праблемы сучаснай прозы.*

У аснову «Зоні» пакладзены трагічны лёс маладога хлопца, гісторыя яго няўдалага кахання, светлага і чыстага, але разбуранага на самым пачатку. Адамчык спыняецца на моманце парабкоўства галоўнага героя твора ў Сідара Сіўтука, каб на супрацьлегласці гэтых характараў і лёсаў раскрыць глыбіню пакуты сіроцкага жыцця. Гэтаму ж спрыяе і тое, што апавяданне ідзе ад першай асобы, а імя галоўнага героя — Уладак — згадваецца толькі ў самым канцы ў чужой рэпліцы. Стыль апавядання можна назваць стрыманым, эканомным, нават скупаватым. Працягваючы тэматычныя традыцыі Францішка Багушэвіча, Кузьмы Чорнага, Адамчык унёс у паказ цяжкога дзяцінства сваё разуменне сялянскай псіхалогіі і менталітэту.

Што да апавядання «Свой чалавек», то за знешняй традыцыйнасцю тэмы і канфлікту твора аўтар «прыхоўвае» складаную душэўную барацьбу, пакутлівае асэнсаванне чалавекам свайго месца ў грамадстве. Цяжкі лёс селяніна-аднаасобніка Язэпа, які ў маладосці аддзяліўся ад бацькі, недасыпаў і недаядаў дзеля дабрабыту ўласнай гаспадаркі, нагадвае лёс Леапольда Гушкі з чорнаўскага рамана «Бацькаўшчына». Паводле ўжо названага вышэй кантрастнага прынцыпу антыподам Язэпа выступае Марцін, які калісьці ўкраў у Язэпа бурнос, а пазней быў злоўлены Язэпам на калгасным полі падчас крадзяжу жыта. Назва апавядання адносіцца да самога Язэпа, які ўсё жыццё пражыў сумленна, імкнучыся збудаваць асабістае шчасце сваёй працай; магчыма, з гэтай жа прычыны ён не адразу пагадзіўся ўступіць у калгас, сумняваючыся ў мэтазгоднасці такога кроку. Адамчык адстойвае зусім простае палажэнне: вызначальным у абліччы чалавека з'яўляюцца яго маральныя рысы, перш за ўсё дабрыня. Марцін, нягледзячы на тое, што быў калгаснікам, паказваецца ў творы злодзеем. Такі падыход пісьменніка сведчыць пра своеасаблівае асэнсаванне ім падзей калектывізацыі і звязанай з ёю ломкі чалавечай псіхалогіі: аднаасобнік В. Адамчыка ў дадзеным выпадку паказаны носьбітам агульначалавечых каштоўнасцей, а калгаснік надзелены дрэннымі якасцямі.

Тэму сялянскага жыцця працягвае і апавяданне «Кароль Нябожа» з даволі простым на першы погляд сюжэтам. Герой апавядання, калгасны конюх, з тае нагоды, што ўзімку замярзае конь, просіць брыгадзіра Восіпа прывезці ветэрынара. Але той, працягваючы «мокнуць у гарэлцы», не толькі не зрабіў гэтага, але яшчэ і абвінаваціў Караля ў несумленным выкананні абавязкаў. Канфлікт абвастраецца тым, што Кароль, не стрымаўшыся, ударыў брыгадзіра, з-за чаго быў вымушаны пакінуць працу на канюшні і ўладкавацца скупшчыкам ануч. Персанаж гэты чымсьці падобны да Марціна Дзікуця: кіруючыся спрадвечнымі ісцінамі, на якіх трымаецца людское жыццё і грамадства, герой твора заходзіць у тупік існуючых сацыяльных умоў. Сцэна прыезду нябожчыка на возе ў час вясковага свята, з якой пачынаецца твор, і апісанне трагічнай смерці Караля надаюць апавяданню своеасаблівы змрочны сімвалізм: героя апавядання зарэзалі касой, якой перад гэтым касілі жыта. Урэшце, і гэты герой В. Адамчыка паўстае хутчэй становучым персанажам: па спрадвечнай сялянскай звычцы шчыра працаваў, але стаў ахвяраю абставін. Ды і канцоўка згаданага апавядання даволі сімвалічная: абрываецца жыццё не толькі аднаго чалавека. Пад пагрозай — існаванне ўсяго грамадства, увасобленага ў вобразе жыта.

Канфлікт шчырасці і хлусні лёг і ў аснову апавядання «Млечны шлях», прысвечанага жыццю студэнцкай моладзі. Косцік Манцэвіч, студэнт-выдатнік філфака, церпіць шмат нягод праз сваё праўдалюбства: на яго абрушваюцца разнастайныя непрыемнасці пасля таго, як ён крытыкуе на сходзе бяздарнага выкладчыка Зарэку, няздольнага прачытаць лекцыю без канспекта. У выніку Косціка выключаюць з універсітэта. Каханая дзяўчына тут жа адварочваецца ад яго. Не разумеюць юнака і ў сям'і. Тым не менш Косцік не страчвае веры ў справядлівасць і едзе на цаліну, каб атрымаць станоўчую характарыстыку для аднаўлення ва універсітэце, а пасля вяртання дадому даведваецца, што ягонага крыўдзіцеля, які дамогся адлічэння хлопца, звольнілі з працы за неадпаведнасць пасадзе. Адпаведна выпрацаванай сюжэтнай лініі, у гэтым апавяданні В. Адамчыка Косціку супрацьпастаўлены яго былы аднакурснік Пецька Жвір, які, будучы слабым студэнтам, пасля заканчэння ВНУ трапіў з дапамогай Зарэкі ў аспірантуру. Лінія кахання ў тво-

ры таксама падкрэслівае складанасць, з якой праўда пракладвае сабе дарогу: Валя, дзяўчына Манцэвіча, пасля адлічэння таго з універсітэта выходзіць замуж, але шчасця не мае. Апавяданне даволі аб'ёмнае, і яго правамерна лічыць, як гэта рабіў В. Івашчанка, невялікай аповесцю. У творы адчуваецца подых новага часу і дэмакратычных змен шасцідзесятых гадоў.

Адметным стала і тое, што аснову многіх сваіх апавяданняў Вячаслаў Адамчык угрунтоўвае ўспамінамі з дзяцінства ці юнацтва, што ў выніку прыводзіць да ўзмацнення жыццёвай сітуацыі зместу, уносіць лірычны пачатак у стылістыку твораў. Свае ўласныя ўспаміны пра студэнцкае жыццё пісьменнік, да прыкладу, паклаў у аснову апавядання «Аптэка нумар тры», дзе па-мастацку роздумна пераказваюцца падзеі, калі будучы пісьменнік з трыма сябрамі-студэнтамі Жэнем, Косцем і Сенькам жыў у адным пакоі. Аднак мінуў час, і колішнія сябры развіталіся. Успаміны навеяны самім месцам, дзе знаходзіўся інтэрнат, а побач з ім аптэка. Узмацненню лірычнага настрою садзейнічае неаднаразовае паўтарэнне назвы твора ў тэксце, што стварае ўражанне чагосьці незваротна страчанага. Тая ж тэма крызісу чалавечых узаемаадносін, дэфіцыту даверу між людзьмі знайшла адлюстраванне ў апавяданні «Прыкрасць», дзе ў цэнтры — сцэна ў цягніку, калі чалавек не змог своечасова паказаць білет рэвізору, а потым яго знайшоў.

Адчуванні чалавека, які едзе дадому, з горада ў вёску, перадае апавяданне «Пах летняй травы». І ў народным жыцці, і ў прыродзе, якая ў Адамчыка выконвае функцыі не толькі фону дзеяння, але і сродку раскрыцця псіхалогіі гэтага твора, пісьменнік умее змеціць самае істотнае, тое, што непасрэдна «працуе» на раскрыццё ідэі. Улюбёны час Адамчыка, які часта паказваецца ім у творах, — восень, часцей за ўсё адлюстроўваецца ў жоўта-шэрых колерах. Прыгадаем у гэтай сувязі словы самога пісьменніка з «Крэсак з аўтабіяграфіі»: «Каб я быў мастаком і меў шчыра-балючы талент Ван Гога, я нашу вёску, зямлю і людзей маляваў бы не ў сіні, а ў шэра-жоўты колер прывялага лета, спелага жыта і нашае нішчымна-пясчанае зямлі... У нас усё шэрае: хаты, неба, бо край дажджлівы, і нават вечары — шарая гадзіна». «Пах летняй травы» адрозніваецца ад папярэдніх тым, што не мае акрэсленага сюжэта. Гаворка ідзе пра шчаслівы ўспамін чалавека, які вяртаецца на сваю «малую Радзіму». Шчырая любоў да родных мясцін выказваецца ў шчымлівым апісанні доўгачаканай сустрэчы з маці і каларытных дэталях вясковага побыту, выпісаных з глыбокім веданнем. Але перш чым трапіць на радзіму, пабачыць сваю хату і вёску, герой едзе праз беларускія мястэчкі і вёскі, прасякнутыя духам Бацькаўшчыны, назірае за людзьмі і прыродай, успамінае маленства. Усё гэта стварае непаўторны настрой далучэння чалавека да чагосьці адвечнага і таямнічага, што і стае галоўным лейтматывам апавядання. Падобныя абставіны апісваюцца і ў апавяданні «Маладзіковая нядзелька», надрукаваным у адной кнізе з апошнім раманам пісьменніка «Голас крыві брата твайго». Аднак тут зусім іншы настрой: у апавяданні апісваецца прыезд сына на пустую бацькоўскую сядзібу. Самотная атмасфера смерці і запусцення адчуваецца ўжо з першых радкоў. Успаміны героя твора пра смерць і пахаванне бацькі ствараюць уражанне, што жыццё ў беларускай вёсцы канчаецца, што яна, а разам з ёй і ўвесь народ асуджаны. Паездка ў пошуках далакопаў па наваколлі сярод зімовай ночы сімвалізуе расстанне героя не толькі з бацькам, але і з родным, з дзяцінствам, знаёмым навакольным светам. У гэтых і многіх іншых апавяданнях Адамчыка малюнкі вясковай прыроды падаюцца ў непарыўнай сувязі з жыццём і працай чалавека. Прырода на многіх старонках апавядання жыве, цячэ, змяняецца, перажывае разам з чалавекам; пейзаж можа выступаць прадметам думкі і філасофскіх роздумаў, і гэты мастацкі прыём асабліва выразна акрэсліцца пазней у эпічных творах пісьменніка.

Зрэшты, матыў сыходу былога ў творах Адамчыка гучаў і раней, асабліва ў апісаннях пакінутага дому. Прыгадаем апавяданне 1969 года «Хата», дзе аўтар выказаў горыч расставання героя твора з роднай хатай, якую ён вымушаны быў пасля смерці маці прадаць. Дарэшты адчувалася драма сялянскага свету, які ў XX стагоддзі, на жаль, пачаў сыходзіць у нябыт: паміраюць людзі, знікаюць цэлыя вёскі. Неспадкаемнасць пакаленняў, парушэнне спрадвечнага жыццёвага ўкладу, выкліканыя шырокамаштабнай урбанізацыяй Беларусі, былі тым імпуль-

сам, які, відавочна, падштурхнуў В. Адамчыка да напісання згаданых апавяданняў: будучы сынам вёскі, пісьменнік не мог абыякава ўспрымаць разбуральныя працэсы. Тым не менш, калі ў «Маладзіковай нядзельцы» пануе змрочны настрой ад немагчымасці вяртання бацькоў, то «Хата» заканчваецца аптымістычным малюнкам: зусім побач з ёй увесну ходзяць маладыя жанчыны з поўнымі вёдрамі вады. Так пісьменнікам сцверджана думка пра тое, што плынь жыцця вечная, што на месца адных людзей прыходзяць іншыя, што чалавечыя супольнасці знікаюць не назаўсёды, адно саступаючы месца наступным.

Філасофскі матыў параўнання жыцця з ракой гучыць і ў апавяданні «Жывая вада», напісаным у форме ўспамінаў пра раку маленства пісьменніка Ятранку: «Мяняліся людзі ў нашай вёсцы, мяняліся прыгаворы, а за вёскаю ўсё плыла і плыла Ятранка». Потым у раманах В. Адамчыка гэты матыў паўторыцца на фоне больш шырокай жыццёвай панарамы, у цэнтр якой будзе пастаўлены блізкі аўтару інтэлігент першага пакалення Міця Корсак. Народнае жыццё параўноўваецца з ракой з-за сваёй няспыннасці, томнасці і няўхільнасці, з якой магутная стыхія рухаецца наперад, не зважаючы на цяжкасці і страты. Форма ўспамінаў дала магчымасць апавядальніку стварыць спавядальна-даверлівую танальнасць і адметны малюнак беларускай прыроды, перадаць атмасферу часоў свайго дзяцінства. Твор вылучаецца своеасаблівым настроем — яго запаўняе ціхая і разважная супакоенасць чалавека, які знаходзіцца на беразе і глядзіць на хвалі ракі, якая на працягу многіх стагоддзяў была маўклівым сведкам падзей гісторыі.

У апавяданні «Урок арыфметыкі» гэтаксама пануе мелодыя ўспамінаў: хлопчык Мечык закаханы ў настаўніцу матэматыкі Чаславу Карлаўну Вератынскую, якая вылучалася сярод іншых вясковых настаўніц прыгажосцю і далікатнасцю. Сама манера яе паводзін была нязвыклай для пасляваенных дзяцей, стомленых за час вайны ад крыві і страху. У дзіцячай душы нарадзілася штосьці падобнае на першае каханне: успамін пра настаўніцу захаваўся ў душы на ўсё жыццё, і пры кожным вяртанні героя апавядання ў родныя мясціны ён чакаў сустрэчы з тым першым пачуццём. Нават момант бойкі Мечыка з сынам былой настаўніцы і сустрэча з ёю самой на базары, дзе яна была разам з мужам, не знішчылі ў Мечыкавай душы святло дзіцячай закаханасці. Хлопец вельмі спалохаўся, калі ўбачыў Чаславу Карлаўну з мужам-вайскоўцам на рынку ў той момант, калі падыходзіў да варажбіткі: выцягнуўшы са скрыні з «прароцтвам» шчасця сваю паперку, нават заплюшчыў вочы і пачаў марыць пра тое, як чаканае шчасце будзе здзяйсняцца.

Пісьменнікі, дзяцінства якіх прыйшлося на гады Вялікай Айчыннай вайны, прысвяцілі яе трагічным падзеям нямала старонак. І Вячаслаў Адамчык не стаў тут выключэннем, пра што сведчыць, напрыклад, апавяданне «Салодкія яблыкі», галоўны герой якога Тонік Папялішын па мянушцы Паплісты, сам таго не жадаючы, выдае паліцаям суседа, у якога быў конь. З суседскім сынам Арсенікам Тонік нават сябраваў, але страх прызнацца ў зробленым быў мацнейшы, хаця Арсенік падазраваў у здрадзе зусім не вінаватага чалавека. На тую ж тэму дзяцінства, пашчэрбленага вайной і страхам, балючага водгуку вайны ў дзіцячай душы напісана і апавяданне «Раяль з адламаным вечкам», у самой назве якога ўжо гучаў матыў надламаных лёсаў маленькіх людзей, якія за некалькі страшных гадоў спазналі забойствы, жорсткасць, існаванне ва ўмовах голаду і галечы. Лёс не менш, чым дарослых, кідае іх без шкадавання ў ліхалецце: гіне Казік, з'язджае з вёскі ўслед за сваёй каханай Гэлькай Ясь Хрышчоны.

Больш таго, вайна даволі часта разводзіла блізкіх людзей на варожыя бакі, ставала прычынай разрыву сямейных адносін. Пра гэта — апавяданне «Там, на хутары». Шляхі вайны зводзяць на хутары дзвюх жанчын: старую гаспадыню і бежанку з двума дзецьмі. Абедзвюх гераінь твора аб'ядноўвае сумны факт: сын старой і муж маладой жанчыны служаць у паліцыі. Нечакана ў хату з паліцэйскім нарадам увальваецца муж бежанкі. Пачынае разгарацца канфлікт, у выніку якога маладая жанчына адважваецца забіць мужа-паліцая, кіруючыся пры гэтым, як ні дзіўна, крытэрыямі народнай маралі. Жаночыя ўспаміны з ваеннага часу леглі ў аснову апавядання «Пагарэльцы»: вясковая жыхарка пазнае ў чалавеку, які

спыніўся з канём каля суседняй хаты, былога паліцыянта Ёду, які ў час вайны забіў яе сына Петрыка. Менавіта гэтая сустрэча і разгортвае галоўны сюжэт твора. У абодвух згаданых апавяданнях В. Адамчыка выразна праяўляецца жыццесцвярджальнае мацярынскае пачуццё, якое ў час вайны абвастраецца перажываннямі за блізкіх людзей.

Што да блізкіх подступаў пісьменніка да эпічнага пісьма, то Я. Лецка ў гэтай сувязі згадвае найперш апавяданне «Два злоты», якое даследчык лічыць кароткім канспектам раманаў «Чужая бацькаўшчына» і «Год нулявы». Гэта і на самой справе найбольш маштабнае па ахопе падзей апавяданне Адамчыка, дзе гаворыцца і пра жыццё заходніх беларусаў у складзе Польшчы, і пра ўз'яднанне з Усходняй Беларуссю, і пра пачатак вайны з немцамі. На самым пачатку твора, дарэчы, аўтар адступае ад звыклага яму восеньскага фону: пачатак падзейнасці апавядання супадае з вясновым росквітам. Але далейшы ход падзей не працягвае аптымістычны пачатак: у час вайны гіне дзед, не паспеўшы скласці печ, якая вытыркаецца сярод котлішча спаленай хаты. У пазнейшых творах гэты сімвал будзе яшчэ не раз і згаданы, і распрацаваны пісьменнікам — хата, у якой не жывуць людзі.

Не абмінае пісьменнік у сваіх апавяданнях тэму кахання, сямейнага жыцця. Напрыклад, апавяданне «Ліповы цвет» — пра сумеснае жыццё Сяргея і Рагіны. Хаця Рагіна кахае Сяргея, які ў яе другі муж, ён, нягледзячы на жончыны старанні, не надта адказвае ёй узаемнасцю. Больш таго, аднойчы, будучы на моцным падпітку, нават застаецца начаваць у Тосі, з якой разам працуе. Прахапіўшыся раніцай, герой апавядання адчувае віну і бяжыць дадому, дзе яго сустракаюць з заўсёднай радасцю. Як знак вяртання да сямейнага жыцця ў канцы твора гучыць плач дзіцяці, што сімвалізуе неабходнасць захавання сям'і. Адчуваецца, што паводзінамі абодвух герояў кіруе сумленне, якое і аддаляе Сяргея ад легкадумных жыццёвых высноў. Як і ў выпадку з папярэднім апавяданнем, тэма сямейнага разладу будзе распрацоўвацца празаікам і ў больш позніх апавяданнях, але пачатак працэсаў, пра якія ідзе гаворка, ужо быў адчувальны і ў сюжэтах першых твораў.

Завяршаючы гаворку пра першы перыяд творчасці Адамчыка-апавядальніка, варта адзначыць, што рамантычнасць, якая прасвечвае апавяданні, выклікана найперш выбарам галоўнай, скразной тэмы ўсёй яго творчасці — тэмы Радзімы. Героі Адамчыка мараць пра лепшую долю, пра шчасце сваёй зямлі, якая з-за сацыяльнай нестабільнасці церпіць шмат нягод і выпрабаванняў.

Пры чытанні кнігі «Развітальная аповесць», у якую ўвайшлі апавяданні канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, кідаецца ў вочы тое, што ў апошніх творах Адамчыка шмат недарэчных, заўчасных смерцяў. Калі ў апавяданнях з дзіцячымі ўспамінамі пра ваенны час амаль у кожным творы хтосьці гінуў ад вайсковых дзеянняў ці ад раскіданых па зямлі слядоў вайны, то ў сучасных апавяданнях людзі паміраюць ад п'янства, здзяйсняюць самагубствы. Гэты факт змушае задумацца над тым, чаму ў мірны час не знікаюць зло і жорсткасць, чаму навокал пануе смерць і заняпад. Відавочна, пры ўсёй рознасці ў ацэнцы падзей 20-х — 30-х гадоў, якім бы ні было стаўленне аўтара да падзей аб'яднання Беларусі ў 1939 годзе і сітуацыі на Беларусі падчас вайны, у маладога пісьменніка захоўваўся дастаткова моцны аптымізм, вера ў перамогу лепшага. Чалавек сталага веку на аснове свайго жыццёвага досведу ставіцца да рэчаіснасці зусім інакш, у значнай ступені скептычна, яму больш уласціва звяртацца да ўзораў мінуўшчыны, чым шукаць штосьці станоўчае ў цяперашняй рэчаіснасці, якая дэманструе найчасцей татальнае падзенне нораваў, заняпад маральных каштоўнасцей і ідэалаў. Месцамі ў апавяданнях назіраецца нейкая экзістэнцыяльная безвыходнасць, якая абумоўлівае ўсе дзеянні чалавека. Тут, прынамсі адразу ж узгадваецца Федзя з апавядання «Ці ён адзін?»: жыў чалавек, меў любімы занятак — даглядаць коней, да якіх ставіўся амаль з язычніцкай пашанай. Чалавек з канём, як вядома, у вёсцы меў асаблівае становішча, так як да яго звычайна амаль усе звярталіся па дапамогу ў зямельнай працы, за якую разлічваліся сівухай. Менавіта з гэтага і пачалася абумоўленасць трагічнага выніку жыцця героя апавядання. Неўзабаве конская стайня была ліквідавана, і ён падаўся

на базу шклатары. Параніўшы нагу на працы, на жаль, не залячыў яе, з-за чаго і памёр. Сімвалічна, што, прадчуваючы смерць, герой В. Адамчыка хадзіў на пахаванні галасіць па нябожчыках, дзе атрымліваў за «працу», натуральна, тую ж выпіўку. Тыповасць такога няўцяжнага лёсу для прадстаўнікоў Федзевага пакалення паказваецца ўжо ў назве твора, бо співанне, дакладней, спойванне сельскіх жыхароў даўно стала прычынай выраджэння вёскі, а значыць, і заняпаду беларускай нацыі. Той факт, што нармальныя мужчыны, гаспадары жыцця і прадаўжальнікі роду, дайшлі да таго, каб галашэннем на хаўтурах зарабляць на жыццё, выглядае як прадбачанне і прадчуванне нацыянальнай трагедыі.

Тая ж загана стала прычынай смерці Петрыка Невяроўскага і Змітрыка Чарнецкага з апавядання «Удава». Першы кідаецца пад цягнік, бо ў яго, п'янага, скралі ўсю зарплату. Другі памірае ад раны, нанесенай здрадлівай жонкаю. Тым не меней Адамчык не выказвае яму спачування, бо яго герой і сам не быў верны ў сямейным жыцці. Распад сям'і, яе адвечных высноў бачыцца празаіку яшчэ адным з фактараў, якія прыводзяць да заняпаду грамадства. Менавіта з-за гэтай прычыны агульны тон названых апавяданняў змрочны — мужчыны-працаўнікі, гаспадары, на плячах якіх трымаецца, па сутнасці, будучыня любой краіны, гінуць, прычым не ад вайны, а праз уласныя заганы, да якіх падштурхоўваюць людзей пэўныя грамадскія неўсталяванасці, якія адбыліся ў апошнім стагоддзі. П'янства і сямейная нявернасць толькі ўскладняюць і без гэтага цяжкую долю персанажаў Адамчыка, накладваюцца на праблемы сацыяльна-гістарычнага характару, а магчыма, і выклікаюцца імі.

Апавяданне «Вочы поўныя жыцця і страху» (1991—1992) працягвае тэму школьных і дзіцячых успамінаў пісьменніка, і цяпер ён згадвае сваю першую настаўніцу ў беларускай школцы Ізабэлу Навакоўскую, некралог па якой убачыў у газеце. Вядома, што настаўнік у Заходняй Беларусі карыстаўся асаблівай павагай, што сцвярджалася пісьменнікам яшчэ ў раннім творы «Урок арыфметыкі». Але калі ў раннім апавяданні пераважалі адно дзіцячыя ўспаміны, то зараз празаік канцэнтруе ўвагу на тым, якія былі ў далейшым лёсы вучняў. Характэрна, што практычна ні ў кога з іх не склалася нармальна жыццё: хтосьці заўчасна памёр, другі стаў ахвярай злашчаснага выпадку. Перабраўшы факты жыцця сяброў маленства ў памяці, пісьменнік заканчвае апавяданне словамі: «Чужое жыццё жыве ў нас, пакуль мы жывём, як і наша будзе жыць у памяці іншых» («Развітальная аповесць»). Як любы чалавек сталага веку, успамінаючы дзяцінства, Адамчык любіць зазіраць у «вір памяці», з якога паступова выплываюць даўнія падзеі і асобы, праступае агульны абрыс народнай гісторыі. У сістэме мастацкіх вобразаў В. Адамчыка асабліваe месца займае вобраз родных сцен, сядзібы, бацькоўскай хаты.

Прынамсі, да вобраза хаты пісьменнік звяртаецца ў апавяданні «Сцежка на расходніку» (1993). Гарыць дом Ігнася Варонкі, які ў вайну застрэліў ні ў чым не вінаватага жыхара. І ў гэтай сувязі недабудаваная хата, якая стаіць на хутары цёткі Марылі, увасабляе падманутыя надзеі і няспраўджаныя мэты, якіх чалавек так і не змог дасягнуць. Гэтаксама не рэалізаваліся і даўнія мары пра лепшую долю іншых жыхароў вёскі, якія не спраўдзіліся па прычыне ўсталявання новых парадкаў, хаця ў людзей і з'явіліся пэўныя спадзяванні на лепшае. Сама цётка Марыля жыла ў мястэчку, але ад хутара не адмаўлялася, пацвярджаючы прыказку «Век жыві — век будуйся». Хату, дарэчы, будаваў яе муж, які потым пайшоў у польскае войска, застаўся жыць у Польшчы. Урэшце зруб пачынаюць раскрадаць навакольныя жыхары, балазе цётчын сын, які пасля вайны з'ехаў у Польшчу ўслед за бацькам, наведваецца ў родныя мясціны адно толькі як спадчыннік, з намерам як хутчэй прадаць сядзібу і пабудовы. У напісаных раней на некалькі дзесяцігоддзяў «Двух злотых», дарэчы, людзей пазбаўляе дамоўкі вайна, аднак і з яе заканчэннем чамусьці не знікае людская бяздомнасць, непатрэбнасць, пакінутасць сам-насам са светам і з уласнымі праблемамі. Апавяданне «Сцежка на расходніку» ўздымае цэлы комплекс новых праблем, на першым месцы сярод якіх — праблема маральна-этычная: разбурэнне беларускага дому выклікае і заняпад маральных асноў грамады. Сыходзяць старыя, якія захоўвалі адвечныя народныя традыцыі, а новае пакаленне не імкнецца прадаўжаць іх справу, абсалютна не думаючы пра заўтрашні дзень,

пра тое, што застанецца пасля іх нашчадкам. Познім апавяданням Адамчыка ўжо не ўласцівы той аптымізм, які назіраўся ў ранніх творах, калі жыццё перамагала, нягледзячы на нягоды і перашкоды, як гэта было ў тым жа апавяданні «Хата». І гэта не толькі песімізм і безвыходнасць, якія можна растлумачыць сталым узростам аўтара. Выхадзец з заходняй вёскі не мог не разумець, што менавіта ў правінцыі, у вёсцы заключана духоўная аснова беларусаў як нацыі, што звядзенне сельскага насельніцтва, якое метадычна ажыццяўлялася ў XX стагоддзі, заканамерна вяло да знікнення беларускага этнасу. І хаця так пісалі многія пасляваенныя пісьменнікі, Адамчык бачыў гэта па-свойму, лірычна, скрозь прызму лёсаў блізкіх яму людзей, каго ведаў і памятаў з дзяцінства.

Лірычнасць душы Адамчыка, якая дадае асаблівы каларыт апавядальнаму стылю, можна адчуць і ў апавяданні «Альціст з местачковай аркестры» (1994), у якім апісваецца далучэнне дзіцяці да свету музыкі. Стары Іосіф Казіміравіч, павясковаму Юзік Тулейка, ціха-прыветны дзядзька, дырыжор даваеннага пажарнага аркестра, вучыў дзяцей музыцы, арганізаваўшы пры школе спецыяльны гурток, дзе вясковыя дзеткі спрабавалі граць на трубах ды альтах. Але пасля вайны старога арыштоўваюць за тое, што той граў на нямецкіх святах і пахаваннях. Юзік спадзяецца вярнуцца, нават пакідае інструменты сваім вучням, якіх, аднак, атрыманыя трубы прымушаюць здаць. Вярнуцца ў мястэчка герою апавядання з турмы не ўдаецца, і праз шмат год былы вучань Тулейкі пазнае свайго настаўніка, вядома, заўчасна састаранага турмою, у краме.

Такім чынам, адзначым, што да жанру апавядання Вячаслаў Адамчык звяртаўся не толькі ў ранні перыяд пробы творчага пяра, але і ў сталыя гады, ужо маючы ў літаратурным набытку тэтралогію. Апавяданне — больш мабільны жанр, які дазволіў пісьменніку хутчэй рэагаваць на тое, што яго хвалявала і цікавіла, што ён лічыў патрэбным данесці да свайго чытача. Апавяданням апошніх гадоў, аднак, ужо не ўласціва такое выразнае супрацьпастаўленне герояў і абставін, якое было ўласціва раннім творам: сучасная рэчаіснасць паказваецца пісьменнікам змрочнай і безвыходнай, а станоўчыя моманты бачацца яму адно ў абсягах мінулага. Калі ў ранняй творчасці, а часткова і ў тэтралогіі, Адамчык быў дастаткова далёкі ад ідэалізацыі мінуўшчыны, то ў сталыя гады, азіраючыся на пройдзены шлях, ён пачынае бачыць ідэал у мінулым.

Творчае наследаванне традыцый Кузьмы Чорнага, Янкі Брыля дазволіла Адамчыку не толькі раскрываць надзённыя праблемы быцця на блізкім яму матэрыяле, дакладна перадаваць пачуцці чалавека, але ў межах невялікага твора па-мастацку паглыбленага ў народнае — не прыхарошанае ці стандартна-правільнае, якое «павінна быць», а сапраўднае, рэальнае, скалечанае вайной і праведзенае ў цяжкай працы на зямлі, — жыццё. Побач з гэтым проза Адамчыка — не проста апавяданні і раманы пра вёску, а мастацкая гісторыя сельскага жыцця, створаная на аснове дасканалага ведання працэсаў яго развіцця. У творах пісьменніка многія людзі сталага веку могуць «пазнаць сябе», убачыць за літаратурнымі фактамі перажытыя імі падзеі: празаік заўсёды імкнуўся да тыповасці абставін, пра якія пішацца ў творы.

Завяршыць гаворку пра апошнія апавяданні Вячаслава Адамчыка хочацца пажаданнем самога пісьменніка, якім ён завяршыў сваю аўтабіяграфію: «Але — памажы, Божа!», бо адсутнасць веры ў грамадстве яму бачыцца не меншай бядой, чым усе астатнія палітычныя і сацыяльна-эканамічныя страты, якія давялося перанесці беларусам у XX стагоддзі. Няхай жа з Божай дапамогай у нашай беларускай хаце пацяху ўсталёўваюцца парадак і дабро, запануюць агульначалавечыя каштоўнасці, якія заўсёды сцвярджаў у сваёй творчасці Вячаслаў Уладзіміравіч Адамчык.



**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# У ПОШУКУ НОВАГА СВЕТААДЧУВАННЯ

*(пра паэзію Віктара Шніпа)*

Помню, як у канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў у нас з'явілася новая паэтычная змена: Галіна Булыка, Людміла Рублеўская, Леанід Галубовіч, Уладзімір Марук, Адам Глобус, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Емяльянаў, Ала Канапелька, Уладзімір Мазго, Алесь Пісарык, Уладзімір Сцяпан, Анатоль Сыс, Яўген Хвалей і шмат іншых. Я наўмысна ўжываю гэтае няпэўнае слова «змена», таму што асобнай генерацыяй у параўнанні, скажам, з «шасцідзесятнікамі» іх назваць цяжка: многім не ставала жыццёвага вопыту, згуртаванасці, унутранай мэтанакіраванасці. А таксама агульнасці лёсу. Аднак кожны паасобку быў безумоўна таленавіты, і не апошнім значылася імя: Віктар Шніп. Першы свой верш «Семнаццаць мне…» ён надрукаваў у жывой яшчэ тады «Чырвонай змене» 17 жніўня 1977 года, а першы зборнік «Гронка святла» ўбачыў свет у 1983 годзе. Рэцэнзенты адзначалі сувязь паэта з роднай зямлёй, прыродай, а таксама неабыякавасць да грамадскіх і агульначалавечых праблем. Раннія яго творы і кнігі сапраўды выглядалі, калі можна так сказаць, даволі прыстойна і сведчылі пра відавочныя паэтычныя здольнасці аўтара. Адметнай рысай лірыкі В. Шніпа з'яўлялася і з'яўляецца тое, што ён умее вельмі тонка спалучыць чыста апісальныя моманты (пейзажы, успаміны пра падзеі, здарэнні і г.д.) з раскрыццём унутранага свету чалавека, яго пачуццямі і перажываннямі, радасцямі і няўдачамі. Ён не інфармаваў, а выяўляў свае пачуцці, адчуванне сваёй экзістэнцыі, імкнучыся надаць ім належную меру паэтычнай асэнсаванасці.

Выходзілі зборнікі: «Пошук радасці» (1987), «Горад — утопія», «Шляхамі ветру» (1990). Крытыкі знаходзілі ў іх шчырасць і натуральнасць паэтычнага радка, і з гэтым можна было пагадзіцца. Шчырасць заўсёды кранае, і не забуду, як мяне расчуліў вось гэты вельмі асабісты верш (без назвы), прысвечаны жонцы Людміле і дачушцы Веранічцы:

Стаю пад вокнамі радзільнага дома
яшчэ не ведаю што нарадзілася
Вераніка
але мне здаецца пра гэта ведаюць
птушкі і аблокі травы і дрэвы
і яны мне гавораць пра гэта
ды я не разумею
я забыўся іхнюю мову
але ж з такімі шчаслiўцамі як сам
задзіраю нос пад вокнамі
і пакуль углядаюся услухоўваюся
запіска з добрай весткай ад жонкі
як белы голуб вылятае з акна
і цэлую вечнасць
ляціць
да мяне

Хораша — ці не праўда? Нягледзячы нават на тое, што ў вершы няма аніякіх знакаў прыпынку. Аўтар адчуў (шчырасць таксама не выключае і майстэрства), што яны толькі б заміналі шчасліваму бацьку, і інтанацыйна дакладна перадаў яго эмацыянальны стан.

В. Шніп адлюстроўвае (калі гэтае паняцце можна ўжыць у дачыненні да паэзіі) свет так, як бачыць і ўспрымае яго сам. Разам з тым паэзія пры ўсёй асабістасці лірычных перажыванняў і светаўспрымання — ніколі не была для яго прыватнай справай, а заўсёды адрасавалася шырокаму чытачу, а верш сябраваў з праўдай жыцця, жыў агульнымі турботамі і непакоем. На многіх творах адбілася пячатка перажытасці і выпакутаванасці тых ісцін, якія абвяшчаў малады аўтар. З ім пачалі лічыцца як з вядомым паэтам, здольным на сваё, незаёмнае слова.

У пачатку 90-х гадоў напісаліся радкі:

Зямля ў смецці дамы ў смецці
і магілы шаноўных грамадзян
таксама засыпаны смеццем
і я таксама ў смецці…

Магчыма, ім не ставала належнай канкрэтыкі, але ўсё ж такі не цяжка было здагадацца, пра што ідзе гаворка, і не падзяліць агульны пафас. Аднак гэтая паэзія большай часткай звернута да ідэальнага, прасякнута сумам па гарманічным, што знаходзіць увасабленне ў асацыятыўным вобразе Храма. Адна з яго кніг, якая ўбачыла свет дзесяць гадоў назад, у 1994-м, так і называлася — «На рэштках Храма». У ёй шмат мінору і рэфлексіі, нават трагізму ва ўспрыняцці тых бедаў, што абрынуліся на сучаснікаў, на народ. Крызіс духоўнасці бачыцца яму ў здрабненні чалавека, у паглынанні яго натоўпам, у сціранні індывідуальных і нацыянальных граняў, у нігілістычных адносінах да мінулага і ўнутраным разладзе. Паэт з прыкрасцю адзначае, што Беларусь знаходзіцца ў апазіцыі да самой сябе, што згублена дарога да Храма, гэта значыць, да мэты і нацыянальнай ідэі, якая для некаторых уяўляе чамусьці нават немалую небяспеку.

І сцежкі ля Храма травой зарастаюць,
Маўчыць без'языкі патрэсканы звон.
Над Храмам забытым анёлы лятаюць,
З абпаленых крыдлаў страсаючы сон.

У паэзіі В. Шніпа можна заўважыць рысы барока — спалучэнне высокага і нізкага, натуральнасці і гратэскавасці, гераічнага і трагічнага, што вельмі пераканальна выявілася ў яго любімым жанры — баладзе, у баладных вобразах старажытных замкаў і гістарычных асоб. Але галоўнай асаблівасцю і адметнасцю яго паэзіі з'яўляецца яе лірычны герой з яго вельмі сімпатычным імкненнем бачыць свет прыгожым і не прымаць хаосу, якога і ў перабудовачныя гады хапала, ды і сёння не бракуе. Паэт шукае, працуе са словам, шукае слова вобразнага, найбольш ёмістага. Нехта з філосафаў сказаў, што чалавек — гэта істота, якая ўмее тварыць сімвалы. Асабліва ўласціва яму здольнасць сімвалатварэння — вобразны свет В.Шніпа наскрозь сімвалічны. Дзеля духоўнага і эстэтычнага ўпарадкавання жыцця ён часта выкарыстоўвае збіральныя універсальна-метафарычныя вобразы — сімвалы храма, рабіны, ружы, крыжа, неба, зоркі, мора і інш., якія азначаюць для яго духоўную рэальнасць быцця.

Ён аднолькава добра валодае як свабодным, без косак-кропак, вершам, так і традыцыйным.

Пад тваімі вокнамі рабіна
Сумная, як нашая Айчына,
Сумная, бо хутка ўжо зіма.

І глядзіш ты на рабіну ветла,
Ад рабіны ў панадворку светла,
Ды чамусьці радасці няма.

Хутка ўжо сцямнее ў панадворку
І ў нябёсах Бог запаліць зорку,
І глядзець на зорку будзеш ты.

І расце ў душу тваю рабіна,
Сумная, як нашая Айчына,
Светлая, як восенню лісты…

Многае паэт часта пакідае ў падтэксце, напаўняючы радок стыхійнаю сілаю жыцця, тым, што патрабуе сама прырода рэчаў. Свядома ці несвядома ён ставіць перад сабой складаныя задачы светапогляднага, быційнага характару і не можа прымірыцца з тым, кажучы словамі У. Б. Йетса, «што не нясе ў сабе радасці». Як бы цяжка ні было, беларускі паэт, як і ірландзец У. Б. Йетс, верыць у жыццё, у будучыню, у чалавечы розум, які змагаецца з працэсамі энтрапіі, з бяспамяцтвам.

Слабасць многіх твораў нашай паэзіі апошніх гадоў у тым, што аўтары іх толькі сузіраюць і апісваюць жыццё, а не ацэньваюць яго на аснове вышэйшых чалавечых каштоўнасцей. Вынік усяго гэтага — упадак этычнай актыўнасці паэзіі, адсутнасць этычнага моманту як састаўной часткі эстэтычнага перажывання. Паэзія, ігнаруючы патрабаванні формы, працягвае блудзіць у зарасніках знешняй складанасці, цураючыся эстэтычна прадуманай прастаты, упарадкаванасці.

В. Шніп не баіцца прастаты — той, скажам, якая была ўласцівая яго настаўніку Максіму Багдановічу.

Максім Багдановіч… Максім,
Мы разам з табою ляцім
Да зорак, што светла гараць
У небе, куды не глядзяць
Самотныя людзі з акон,
Счарнелых, як лікі ікон…

Выразна гучыць у В. Шніпа багдановічаўскі радаводны матыў нацыянальнай памяці. Героі яго вершаў і балад — беларускія гістарычныя дзеячы, паэты, пісьменнікі, мастакі, якія з'яўляюцца носьбітамі духу і руху гісторыі. Ён хоча верыць услед за М. Багдановічам, які не траціў надзеі, што «яшчэ адзін народ не знікне з твару зямлі, што не змарнатравіцца бясследна велізарная псіхічная праца многіх пакаленняў і беларуская культура — стварэнне гэтай працы — устаіць супраць напору іншых сіл і плыняў». Як і М. Багдановіч, ён паслядоўна і настойліва змагаецца супраць пачуцця нацыянальнай непаўнацэннасці, комплекс якой сёння замінае многім з нас.

Сёння В. Шніп у добрай творчай форме. Я не раз быў на яго выступленнях і радаваўся той цеплыні, з якой яго сустракаюць аматары паэзіі. Яго вершы ангажаваныя і дэтэрмінаваныя сваім часам, абрысы якога можна знайсці ледзь не ў кожным творы. Ён разнастайны з тэматычнага боку: грамадзянска-публіцыстычныя матывы мяжуюць з інтымнымі, пейзажная лірыка пераходзіць у філасофскую. Добрага слова заслугоўвае інтымная лірыка В. Шніпа — цыкл санетаў «Гісторыя аднаго кахання», а таксама паасобныя вершы: «…Гэты дзень праляцеў, як страла…», «…Вось і ўсё… Цябе са мной няма…», «…Гады прайшлі, нібы прайшлі дажджы…», «…Яшчэ будуць высокія мяккія травы…» і інш., у якіх унутранае жыццё чалавека паўстае як універсальнае і ў той жа час глыбока індывідуальнае, непаўторнае. Паэту ўласцівы мяккі лірызм, далікатнасць пачуццяў, дакладны псіхалагізм, сур'ёзнасць і мілы наіў:

Яшчэ ўсё можна нам з табой змяніць
І словы нясказаныя сказаць,
І можаш ты мяне шчэ палюбіць,
Калі ўжо немагчыма пакахаць…

Думаю, што сапраўды ўсё яшчэ магчыма…

У лірыцы В. Шніпа выяўляюцца яго душэўны лад, сумленнасць і непакой, здольнасць да душэўнага судакранання з навакольным светам, з радзімай, яе лёсам.

І яшчэ адна заўвага. Творчасць В. Шніпа няблага ўпісваецца ў тое крыло сучаснага постмадэрнізму, якое смела выкарыстоўвае нацыянальныя традыцыі, абнаўляе іх і развівае далей. Гаворка ідзе пра біблейныя матывы і вобразы, пра наследаванне ўжо згаданаму М. Багдановічу, пра сувязі з Янкам Купалам, К. Сваяком і інш.

У яго ёсць і лепшыя, і горшыя вершы, а ёсць проста выдатныя. XXI стагоддзе паэт сустрэў цудоўным вершам «Беларускае мора»:

Залатымі манетамі зорак
Зноўку свеціцца неба над намі.
Неба ў нас — беларускае мора
З белакрылымі ў ім караблямі.

Адабраць у нас мора хацелі,
Наша мора адзінае ў свеце,
Каб на мора мы больш не глядзелі
І жылі па лясах, як мядзведзі.

Мы ў вяках зберaглі сваё мора,
І нас мора ад бед зберагае,
Залатымі манетамі зорак
Уначы яно нас абсыпае.

З мора нашага нехта смяецца,
Але мора ў нас ёсць, як і ўчора.
Маё цела зямлі застанецца,
А душа — пераселіцца ў мора.

У гэтым вершы, які даў назву новаму зборніку (2004 г.), увесь Віктар Шніп з яго ідэальнасцю, мройнасцю, паэтычнай сімволікай, сумам па гарманічным уладкаванні свету…

Паэт пастаянна працуе над абнаўленнем светаадчування, над вобразнасцю і формай верша, над мовай, намагаючыся вызваліць яе ад звыклага і банальнага, ад так званай абыдзённай свядомасці. Не зніжаючы этычнай актыўнасці, ён усё больш пранікаецца думкай, што каштоўнасць паэзіі не толькі ў тым, што яна адлюстроўвае супярэчнасці рэчаіснасці і паглыбляе ў чалавеку незадаволенасць жыццём, але і ў тым, што яна, так бы сказаць, пераадольвае гэтыя супярэчнасці і дапамагае духоўнаму ўпарадкаванню жыцця, выхоўвае надзею і аптымізм. Апошнім часам у паэзіі В. Шніпа ўсё больш праяўляе сябе універсальны гуманізм, які ўключае ў сваю канцэпцыю клопат пра ўсё жывое на зямлі. Паэт адпаведна адчувае сябе чалавекам, які жыве адразу ва ўсе часы. Новае светаадчуванне знаходзіць адбітак у новых вершах:

У высокіх бяздонных
                    нябёсах,
Дзе святло,
          як у маміных слёзах,
Наша вечнасць
               і наша імгненне,
Нашы зоры і нашыя цені.

І глядзім мы ў нябёсы
і знаем,
Што ў нябёсы,
як сон, адлятаем,
Але й тут застаемся,
як слёзы,
Як лісцё беларускай бярозы
Ля дарогі з Масквы
да Варшавы,
Дзе шумяць
пажаўцелыя травы
І губляюцца ў пыле і дыме,
І ты думаеш не аб Радзіме
Ды і не аб бяздонных
нябёсах,
Дзе святло, як у маміных слёзах...
Ты ідзеш да царквы, каб маліцца,
Каб душою з нябёсамі зліцца
За самотныя маміны слёзы,
Што бяздонныя,
нібы нябёсы...

Асабіста я аднашу сябе да тых, хто вышэйшай ступенню мастацкасці лічыць паэзію. Не ў сэнсе пэўнага літаратурнага жанру (вершы, паэмы і інш.), а ў сэнсе самой фенаменальнай сутнасці мастацтва як творчасці, як акта таямнічага судакранання чалавека з непазнанымі глыбінямі быцця і свядомасці. Гэтае судакрананне знаходзім і ў творчасці В. Шніпа, чыя паэзія з'явілася своеасаблівым адказам на выклік часу, а таксама доказам таго, што паэзія — вечная, што яна звязана з фундаментальнымі, родавымі ўласцівасцямі чалавека, яго асобы і характару. У лепшых творах паэта яна захоўвае высокі мастацкі ўзровень і настроенасць на пошук.







Леанід ГАЛУБОВІЧ

# РЫЦАР ПАЭЗІІ

Якраз тым днём, калі прынеслі сігнал яго пасмяротнай кніжкі «Думаць вершы...», у рэдакцыю завітала дачка майго памерлага сябра-літаратара Алеся Асташонка з рукапісам так і не выдадзенай «П'янай кнігі» і прыкладзеным да яго аповедам «Пасведчанне таленту», які ён негалосна прысвяціў свайму былому суседу па сталічным месцы жыхарства, паэту Алесю Пісьмянкову. Яшчэ гадоў пятнаццаць таму яны жылі побач, гасцявалі адзін у аднаго, дзяліліся творчымі задумамі, прагаворвалі прастору свайго далейшага лёсу. Здавалася, што маладыя таленавітыя літаратары толькі ўваходзяць у смак да гэтага, нечакана *разняволенага*, жыцця (перабудова, пачатак незалежнасці), гарызонты якога яшчэ такія далёкія і недасяжныя, што смерць і ўвогуле пакідалася за кантэкстам іх літаратурных планаў... Ці маглі яны тады, падчас сваіх сумесных гулліва-гаманкіх сустрэч, падумаць нават, што жыць ім абодвум застаецца *пароўну нядоўга*... і што — праваслаўныя — сустрэнуцца яны — ужо назаўжды — на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках...




*Мінск, «Мастацкая літаратура», 2005.*

*Што ты, лёс, галёкаеш?*
*Не прасі гадаць.*
*Пенсія — далёкая,*
*Смерці — не відаць.*

Аднак час пралятае вокамгненна. Жыццё абнаўляецца зноў і зноў. За акном буяе і раскашуе новая вясна. І яна ўжо не памятае сваёй мінулагодняй пары. Адны «цветы земли» завялі, другія толькі пачынаюць квітнець...

*Зямлёй, травой, кустамі*
*З табою некалі мы станем.*
*І будзе дождж ісці над намі,*

---

*__Галубовіч Леанід Міхайлавіч__ нарадзіўся ў 1950 годзе ў в. Вароніна Клецкага раёна. Скончыў Грыцэвіцкую СШ, Слуцкае ГПТВ-97 (электрыкаў) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. З 1969 да 1986 года працаваў на прадпрыемствах Жабінкі, Слуцка, Клецка і ў родным калгасе. Выдаў шэсць вершаваных зборнікаў і кніжку літаратурных мініяцюр. Быў штатным супрацоўнікам БТ, часопіса «Крыніца», тыднёвіка «ЛіМ». Апошнім часам — у часопісе «Полымя». Практыкуе ў жанры крытыкі.*

*І будзе снег ісці над намі,*
*І будуць воблакі над намі,*
*І будуць зоркі спець начамі,*
*Як над зямлёй, як над травой, як над кустамі...*

Ён гэта ведаў лепш за нас, бо сам быў *законнанароджаным* дзіцём гэтай, зменлівай па форме і вечнай па сутнасці, Прыроды. Ён быў рыцарам яе Сутнасці. Паэзія жыцця яснілася ў ім да самага апошняга змрочнага імгнення. Прырода ж і забрала яго да сябе, вылучыўшы момант, калі ён сам прыадчыніць фортку з уласнай задушлівасці ў яе адхланны ўсясветны *эфір*.

Бель і чысціня акалялі і вызначалі яго на ўсім жыццёвым шляху. Ад назвы вёсак (Бялынкавічы, дзе вучыўся ў школе) да назвы першай кніжачкі «Белы камень» (дарэчы, таксама ад назвы суседняй вёскі) і ўрэшце — уласнай светла-русай галавы...

Перафразуючы вядомы выраз, можна сказаць, што калі б паняцця паэта **чыстай красы** не існавала, то яго прыдумалі б спецыяльна для вызначэння літаратурнага вобраза Алеся Пісьмянкова.

Чытаць пры ім пустапарожнія рыфмаванкі мала хто адважваўся. *Яму было сорамна за іх*. Лепш было цытаваць запаветна-класічнае: М. Багдановіча, А. Куляшова, У. Сакалова, І. Шклярэўскага, Я. Смелякова...

Не раз і не два згадваючы лепшае, напісанае А. Пісьмянковым, і супастаўляючы яго з літаратурнымі здабыткамі сучаснікаў і папярэднікаў нашай літаратуры, прыходзіў да высновы, што ён, незалежна ад нашай волі, упісваецца ў *неафіцыйны* (нікім і нічым не навязаны, апроч як іх уласным жыццём і творчасцю) **класічны рад**, побач з імёнамі **Паўлюка Труса, Анатоля Сербантовіча, Міхася Стральцова, Яўгеніі Янішчыц**. Калі прыгледзецца да творчасці згаданых паэтаў (М. Стральцоў для мяне і ў прозе паэт), то нават візуальна можна заўважыць «одну связующую нить» — іх цнатлівы дух і патаемна балеснае светаадчуванне. Творчае жыццё кожнага з тут названых нагадвае мне трапятанне гарачага сэрца пад небам халоднай логікі. І ўсё ж яны ў сваёй творчасці, хоць не выходзілі за межы разумнага (нават метафарычна), але і не пакідалі чытачам акалелымі і бяздушнымі нават свае самыя зімныя і марозлівыя радкі. Згадаем хоць бы найбольш помнае, да прыкладу, у П. Труса пачатак з паэмы «Дзесяты падмурак»:

*Падаюць сняжынкі —*
*дыяменты-росы,*
*Падаюць бялюткі*
*за маім акном...*
*Расчасалі вішні*
*шоўкавыя косы*
*І ўранілі долу*
*снегавы вянок.*

Альбо ў А. Сербантовіча:

*Сняжынкі — белыя агні,*
*кусты малочныя, алеі —*
*І эталонам чысціні*
*Мая каханая бялее.*

Ці вось гэтыя радкі з М. Стральцова:

*Цень-цень, сініца! Добры дзень!*
*Жывеш? Сваім званочкам чыстым*
*Зімовым ранкам прамяністым*
*І абудзі і абнадзей!*

У Я. Янішчыц:

*Па арэшніку звонкі смех.*
*Едзем двое у лес зімовы.*
*Толькі падае ціха снег,*
*Снег блакітны*
*І снег ружовы.*

І нарэшце ў А. Пісьмянкова:

*Ты адбі мне тэлеграму,*
*Што і ў нашай старане*
*Ў ціхай вёсцы Белы Камень*
*Выпаў белы-белы снег.*

Зрэшты, гэты верш дваццацічатырохгадовага паэта хочацца працытаваць даастатку, паколькі ён *уяўляецца* мне **праграмным** да ўсёй яго творчасці:

*Вёсак многа. Ёсць другія.*
*Ў вёсках нашы карані.*
*У мяне не настальгія —*
*Проста сум па чысціні.*
*Проста сум па белым полі,*
*Па рабінавым агні,*
*Проста хочацца да болю*
*Першароднай чысціні,*
*Той, што мроіцца начамі,*
*Што з душы здымае грэх...*
*Проста ў вёсцы Белы Камень*
*Самы белы ў свеце снег.*

Калі глыбока і сур'ёзна ўчытацца і нават па-навуковаму праштудзіраваць гэтыя абсалютна класічныя радкі, нельга не аддаць належнае таленту маладога паэта. Працытуйце мне радкі яшчэ якога беларускага дваццацічатырохгадовага паэта, апроч М. Багдановіча, з такім нерукатворным, на ўзроўні падсвядомасці дакладна вывераным мастацкім паэтычным вобразам. Задача амаль немагчымая.

І яшчэ ён меў неад'емны талент на любоў. Да бацькоў, да Радзімы, да жанчыны, да сям'і, да ўсіх добрых людзей (*«Крэўную сувязь са светам адчуй, // Палюбі мураша і былінку!»*). Пра тое сведчыць і невыпадкова абраны ім назоў для сваёй, як аказалася, апошняй прыжыццёвай кніжкі — «Я не памру, пакуль люблю». Падчас здавалася, што гэткая яго *празмерная* любоў набывала паталагічныя формы (скажам, паэту было нават сорамна за свае *белыя* (чыстыя) рукі перад знаёмым вяскоўцам і г.д.), тады як *суб'екты* яго любові каналі ў яго на вачах, а кола крэўнай роднасці звужалася да яго ўласнай істоты... Таму нярэдка даходзіла да адкрытай споведзі і сентыментальнага апраўдання (у тым ліку і перад самім сабою):

*Вечарам*
*зорка ў акне,*
*ноччу*
*каханая ў сне,*
*раніцай*
*птах на бярозе*
*пакрыўдзяцца на мяне,*
*калі перайду я*
*на прозу.*

Безумоўна, што па прыродзе сваёй такая паэзія не магла быць ні пафаснай, ні трыбуннай (хоць Алесь нярэдка выступаў і ўмеў выступаць перад удзячнай аўдыторыяй, і не дзіва — такім *голасам* грэх было не «жечь сердца людей»). А між іншым, глыбокія грамадзянскія матывы «трывожным прывідам» блукалі

па шматлікіх яго радках і строфах (*«Каб у народа вырваць мову, // Ў званоў ірвалі языкі»; «Яна маўчала без званоў. // Казалі, звон зняў Іваноў»; «Вы пра прыстойнасць?// І я пра тое. // Для вас прыстойна, // Каб стаў я ў стойла»; «Каб паверыць кожны мусіў:// Будзе// Дзень// На Беларусі!»*)...

І ўсё ж, як усякі сапраўдны творца, ён быў самадастатковы і спрагнены ўласнай адзінотаю перад пытаннямі вечнасці. Адсюль і гэтая мінорная элегічнасць (*«Прачнуўся з жахам безгалосы — // Прапала музыка ў душы. // Не чую музыкі ў бярозах, // Не чую музыкі ў нябёсах, // А вы мне кажаце: «Пішы»*) і рэдкая для яго *багемная*, кажучы па-руску, «отстраненность»:

*Ад неба блізкі ці далёкі,*
*Хоць у царкве, хоць на піру —*
*Паэт заўсёды адзінокі,*
*Я гаварыў і гавару.*
*І дакараць яго не трэба —*
*Яго і так туга шкрабе:*
*Ён гаманіў нядаўна з небам,*
*А зараз слухае цябе.*

Тыя, хто ведаў А. Пісьмянкова, могуць без асаблівых намаганняў прыпомніць яго агіднае стаўленне да ўсяго цёмнага, двухаблічнага і прымхлівага і амаль *бязвольную* прыхільнасць да ўсяго чыстага, шчырага і сумленнага. Нават ягоны *сыход* з пасады галоўнага рэдактара тыднёвіка «ЛіМ» (аб чым марна марылі і яшчэ, пэўна, мараць вельмі многія з літаратараў) гаворыць пра яго асобу нашмат ясней і выразней, чым пухлыя тамы некаторых самаабвешчаных цяперашніх класікаў.

Дабрыня, спагадлівасць, інтэлігентнасць, а падчас і рэдкая для мужчын сентыментальнасць на фоне выбітнага лапідарнага стылю пісьма вылучалі яго сярод равеснікаў (а бадай, і ўсіх літаратараў-сучаснікаў) па паэтычным цэху. Сказаць, што ён быў рэалістам альбо кансерватарам можна толькі з умоўнай доляй дапушчальнасці, хоць для гэтага можна знайсці неабвержныя сцвярджэнні самога паэта:

*Зноў снег без марозу,*
*Зноў снег без марозу —*
*Зноў дзён аднастайных гурма,*
*Як постмадэрнісцкая*
*Нудная проза,*
*Дзе выйсця ў героя няма.*
......................
*Няўжо гэтак будзе бясконца?*
*Сюжэт безнадзейна завіс...*
*З марозам і сонцам,*
*З марозам і сонцам*
*Вярнуцца хачу ў рэалізм.*

Рэаліі ж, на вялікі жаль, сталіся такімі, што ад іх усведамлення захаланула б не толькі яго, мужнае, але і больш моцнае сэрца. Ці *прадчуваў* іх паэт? Пытанне нетактоўнае і правакацыйнае ў спалучэнні са словам *паэт*. Скажам без завуаліраваных намёкаў, што падсвядомы матыў прадчування заўчаснага сыходу *разліты* па ўсім кантэксце не толькі гэтай яго пасмяротнай кніжкі, а ўсёй яго творчасці ўвогуле.

*На кругі свая,*
*На свае кругі...*
*Вось дайшоў і я*
*Да сівой тугі.*
*Не заві, вярста,*
*У радзінны кут:*

*Сірата я там,*
*Сірата і... тут.*

(**Тут** можна тлумачыць — і як у горадзе, і як у сям'і, і як сярод сяброў і калег, і, нарэшце, як на гэтым свеце — *тут*...)

На гэтую небяспечную, але прыцягальную тэму мне самому не адзін раз даводзілася мець з ім гаворку. Часта папярэджваючы прадракание смерці ў творах сваіх сяброў і калег, у тым ліку і ў мяне, ён сам, як бы міжвольна, а падчас, я думаю, і свядома *гуляўся* са смерцю, выклікаючы яе, як сапраўдны значны мастак, прагнучы ўведаць ці падлеглы і ён яе выраку, як найчасцей былі падлеглыя ёй усе найбольш знаныя трагічныя Паэты, Мастакі і Творцы. Прынамсі мне так здаецца, хоць бы сыходзячы з *бяспечнай прагі* ўласных колішніх маладых і трагічных вычуванняў... Прагі спраўдзіцца Паэтам ва ўсім і дарэшты... нават у **гэтым**...

*Так ходзяць вернікі у храм,*
*Так ходзяць грэшнікі на споведзь,*
*Душы трывожную аповесць*
*Так давяраюць святарам.*
*Я ўсё часцей бываю Там.*

(Як гэтае *Там* прыцягальнае да вышэй працытаванага *Тут*?!)

Не буду безапеляцыйна сцвярджаць, як некаторыя, што ён быў маім сябрам. Скажам так, ён быў мне блізкім па духу літаратурным таварышам. Адных кампаніі збліжаюць, другіх аддаляюць. Я быў з *апошняй* катэгорыі. Адсюль — рэдкія, затое гарачыя і часта палемічныя сустрэчы-спрэчкі... Але нават крытычная сітуацыя (кароткая апублікаваная мной *зацемка*: *«Лім» — танны, «Arche» — дарагі»*) канчаткова не перасварыла і не развяла нас на розныя бакі барыкады. Зрэшты, мы заўжды трымаліся залатой сярэдзіны, цэнтра, раўнавагі. Гармоніі, калі хочаце, на чым і трымаецца любы творчы талент. У яго ж таленце сумненняў не ўзнікала ніколі і ні ў кога. Ні ў мэтраў, ні ў графаманаў, ні ў левых, ні ў правых.

*Кажуць, быў я аблашчаны доляй,*
*Хоць мой дом не мінала бяда:*
*Я па мёртвых паплакаў даволі,*
*А жывых яшчэ болей шкада.*
.......................
*Нам усім не хапае спагады,*
*І любові жывым нестае...*
*Нам адпушчана так небагата,*
*Што й грахі не замоліш свае.*

Што й казаць, ён быў рамантычным (не ў поўным сэнсе гэтага слова, а ўсё ж...) рыцарам красы і прыгажосці. **Рыцарам паэзіі**. Хоць іншым разам, у часы душэўнага раздраю, мог разрадзіцца ў дачыненні да Яе (*Музы*) і някрасаўскімі *пратэстнымі* матывамі:

*Ты кажаш: «Капрызная Муза...»*
*З каханкі*
*Служанку*
*Зрабі!*

Гэты небясспрэчны пасыл, мабыць, зняў некаторыя перасцярогі выдавецкіх рэдактараў адносна паэтычнага зместу кніжкі, паколькі ў ёй сустракаюцца і недапрацаваныя вершы-чарнавікі, якіх сам аўтар у кніжку бы не ўключыў без папярэдняй даводкі, і ўжо ж, да прыкладу, пры цытаванні ранейшых вершаў, *эміграцыю* аднаго чалавека пастараўся б не пераўтварыць у цэлы *міграцыйны* працэс (аднак жа, удзячныя выдаўцам, будзем памятаць, што ў нашым выпадку маем

амаль спадчыннае выданне)... І ўсё ж не ўтрымаюся і працытую фрагмент з эсэ А. Пісьмянкова «Жабрак»: *«Не ведаю, як каму, а мне заўсёды шкада развітвацца з уласнымі вершамі. Можа, таму і не спяшаю аддаваць іх у друк. Пакуль яны са мною, мне — не пуста, я — не жабрак».*

Мы ж сёння можам быць толькі ўдзячныя яму, атрымаўшы *ад яго* гэтую *паэтычную міласціну.*

Напрыканцы — пра яшчэ адну яго здольнасць. Алесь Пісьмянкоў умеў выбіраць сяброў і даражыць дружбай. Не без іх актыўнага і заклапочанага спрыяння адбылося выданне і гэтай цудоўнай, як па мастацкім афармленні, так і па ўнутраным змесце, кніжкі. Для тых, хто цікавіцца фармальным яе зместам, скажу, што складаецца яна з трох частак: вершаў і эсэ самога паэта, а таксама прысвячэнняў яму і ўспамінаў пра яго. Ёсць яшчэ і немалы фотаархіўны раздзел. Адным словам, шчымліва-светлая гісторыя кароткага зямнога і, я не сумняваюся, вечнага паднебнага жыцця Паэта. Алеся Пісьмянкова.

*Я кнігу ўсё-ткі напісаў,*
*Сыноў двух ясных нарадзіў —*

напамінае ён чытачам у адным з апошніх сваіх вершаў. І праўда, сыны адметныя, і тут ён не памыліўся. А вось наконт кніжак... Рыцарскае ўмаленне ў вялікім? Прага дасканаласці? Спадзеў на працяг жыцця?

Яно працягваецца, Алесь...





# МЕТРЫКА
*літаратурная*

**1190**

— гадоў назад у Салуні (Салонікі, Грэцыя) у сям'і военачальніка нарадзіўся **Мяфодзій** (815—6.04.885), славянскі асветнік, прапаведнік хрысціянства.

Разам са сваім братам Кірылам ён стаў сімвалам культурнай еднасці і самастойнасці славянства.

Мяфодзій на працягу дзесятка гадоў кіраваў вобласцю са славянскім (балгарскім) насельніцтвам. Потым быў ігуменам манастыра. У 863 годзе разам з Кірылам накіроўваецца ў Маравію на дапамогу князю Расціславу ў пашырэнні хрысціянства. Трэба зазначыць, што яшчэ перад ад'ездам Кірыла стварыў славянскую азбуку (па ўсім відаць, *глаголіцу*). Разам браты пераклалі важнейшыя рэлігійныя кнігі з грэцкай на *стараславянскую мову*. У Маравіі яны працягвалі асветніцкую і перакладчыцкую дзейнасць. У Венецыі падчас дыспуту з трохмоўнікамі, якія прызнавалі літургію і літаратуру толькі на грэцкай, лацінскай і яўрэйскай мовах, Кірыл абараніў права славян на сваю мову. У 867 годзе па выкліку Папы браты прыбылі ў Рым, дзе Кірыла цяжка захварэў і памёр, а Мяфодзій, пасвечаны ў сан епіскапа, вярнуўся ў Маравію і працягваў прапаведніцкую і перакладчыцкую дзейнасць да самай смерці. Былі створаны жыціі Кірылы і Мяфодзія. Праз жыціі і твор чарнарызца Храбра «О письменах» (перадрукаваны ў Вільні ў пачатку XVII стагоддзя) пра дзейнасць братоў добра ведалі на Беларусі яшчэ ў старажытнарускую эпоху. Назва старажытнай славянскай азбукі *кірыліца* паходзіць ад імя Кірылы.

**495**

— гадоў назад нарадзіўся **Фёдараў** Іван (масквіцін Іван Фёдаравіч; каля 1510—15.12.1583), рускі асветнік, заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і Украіне.

Месца яго нараджэння невядома. Існуе гіпотэза пра яго беларускае паходжанне зыходзячы з геральдычнай трактоўкі друкарскага знака. Мяркуецца, што вучыўся ён у Кракаўскім універсітэце. Там жа у 1532 годзе атрымаў ступень бакалаўра. Сумесна з П. Мсціслаўцам выпусціў у Маскве першую дакладна датаваную рускую друкаваную кнігу «Апостал» і два выданні «Часоўніка» годам пазней. У 1568 годзе Фёдараў і Мсціславец у мястэчку Заблудава Гродзенскага павета заснавалі Заблудаўскую друкарню, дзе выдалі «Евангелле вучыцельнае» і «Псалтыр з Часаслоўцам». Трэцюю друкарню Фёдараў заснаваў у Львове, дзе ў 1574 годзе былі надрукаваны першая ўкраінская датаваная кніга «Апостал» і першы ўсходнеславянскі падручнік «Азбука». У сваёй чацвёртай друкарні ў Астрозе на Валыні Фёдараў выдрукаваў «Храналогію» А. Рымшы і першае поўнае выданне славянскай Біблії кірылаўскага шрыфту.

Пахаваны ў Ануфрыеўскім манастыры ў Львове.

**455**

— гадоў таму ў маёнтку Пяньчын Баранавіцкага раёна ў шляхецкай сям'і нарадзіўся **Рымша** Андрэй (1550?—1599?), беларускі паэт.

Па некаторых звестках, вучыўся ў Астрожскай школе на Валыні. Там жа, як трохі вышэй упаміналася, выдаў у мясцовай друкарні князя Канстанціна (Васіля) Астрожскага (5.05.1581) свой першы вучнёўскі верш «Храналогія», у якім былі сцісла выкладзены пэўныя біблейскія падзеі, што адбываліся ў розныя месяцы года. З 1572 года быў на прыдворнай службе палявога гетмана Вялікага княства Літоўскага Крыштофа Радзівіла Перуна. Недзе гэтым часам завязаліся ў яго сяброўскія адносіны з польскімі паэтамі Я. Казаковічам і Я. Радванам. Пад іх уплывам пачаў пісаць па-польску. Прымаў удзел у аблозе Пскова войскам Стэфана Баторыя. Ужо будучы падстаростам маёнтка К. Радзівіла ў Біржах, напісаў аб'ёмную (2184 радкі) паэму на польскай мове пра вайну паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, удзельнікам якой быў і сам К. Радзівіл. Па сутнасці, гэта панегірычнае ўслаўленне свайго мецэната. Пасля гэтага ён напісаў па-беларуску вершы-панегірыкі («эпикграммы»), прысвечаныя дзяржаўным дзеячам ВКЛ — канцлеру Я. Валовічу, а таксама ўкладальніку трэцяй рэдакцыі Статута ВКЛ Л. Сапегу і навагрудскаму ваяводзе Ф. Тышкевічу, у якіх услаўляў патрыятызм і самаадданасць у абароне заваёў Вялікага княства Літоўскага.

Дакладных звестак пра смерць Рымшы Андрэя пакуль няма.

**380**

— гадоў назад нарадзіўся **Маскевіч** Багуслаў Казімір (1625—1683), беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік-мемуарыст. Паходзіў ён з заможнай шляхты. Адукацыю атрымаў у Навагрудку. У 1643 годзе быў адпраўлены айчымам на службу ў двор Б. Радзівіла. Удзельнічаў у шмат якіх вайсковых паходах і бітвах таго часу. Пісаў мемуары па-польску. Быў дэпутатам ваеннага савета Рэчы Паспалітай. На схіле дзён адышоў ад грамадскага жыцця і гаспадарыў у сваёй роднай вёсцы Сэрвач пад Навагрудкам. Выступаў як прамоўца на розных сямейных урачыстасцях. Пахаваны ў дамініканскім касцёле ў Навагрудку.

Тэксты яго мемуараў апрацаваныя А. Сайкоўскім у другой палове XVIII стагоддзя. Высокай мастацкай вартасцю яны не вызначаюцца, але з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы XVII стагоддзя.

Постаць «вучонага мужа» Б. Маскевіча выведзена ў рамане Г. Сянкевіча «Агнём і мячом».

**275**

— гадоў назад нарадзіўся **Агінскі** Міхал Казімір (1730—1800), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, пісьменнік, мецэнат.

Быў віленскім ваяводам (1764) і вялікім гетманам літоўскім (1768). Служыў у французскім войску, жыў у Пецярбургу, быў адным з кандыдатаў на трон Рэчы Паспалітай. У 1771 годзе перайшоў на бок Барскай канфедэрацыі, але яго трохтысячнае войска было разбіта войскамі А. В. Суворава пад Сталавічамі. Эміграваў. Пасля вяртання на радзіму атрымаў амністыю. Пабудаваў у Слоніме друкарню, заснаваў Слонімскі тэатр Агінскага, Слонімскую капэлу Агінскага. Па яго ж ініцыятыве і на яго сродкі пабудаваны Агінскі канал.

Аўтар музычных і літаратурных твораў. Выдаў «Гістарычныя і маральныя аповесці» (1782) і «Байкі і нябайкі» (1788).

**110**

— гадоў таму нарадзіўся **Маланка** Янка (сапр. Маразовіч Іван; 1895—1937), беларускі пісьменнік, журналіст, мастак.

Скончыў Барысаўскую гімназію. Быў на вайсковай службе. Пасля дробным служачым у заходнебеларускім мястэчку Яшуны непадалёк ад Вільні. У 1926—28 гадах быў адказным рэдактарам сатырычнага часопіса «Маланка», які выдаваўся ў Вільні падчас дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Гумарэскі, вершы і малюнкі Я. Маланкі з'яўляліся ў заходнебела-

рускіх выданнях «Беларуская доля», «Беларуская ніва», «Беларуская крыніца», «Наш голас», «Наша праўда» і інш. Сваёй уласнай кніжкі так і не выдаў. У апошнія гады адышоў ад літаратурнай і грамадскай дзейнасці. Жыў і памёр у Яшунах.

**70**

— гадоў з часу выдання (1935) літаратурна-навуковага часопіса **«Калоссе»**, які выходзіў у Вільні на беларускай мове да 1940 года. На сваіх старонках змяшчаў артыкулы па гісторыі культуры Беларусі, беларускай мовы і літаратуры, публіцыстычныя, літаратурна-крытычныя і мастацкія творы. Друкаваліся ў часопісе дзеячы КПЗБ і заходнебеларускія пісьменнікі (М. Танк, М. Васілёк, М. Машара, В. Таўлай, А. Іверс і іншыя).

## КРАСАВІК

**1**

— **100** гадоў з дня нараджэння **Асоўскага** Лешака (1905—1996), польскага мовазнаўца, славіста, даследчыка беларускай мовы.

Сваё дзяцінства і юнацтва ён правёў на Случчыне і ў Нясвіжы. Вучыўся ў Познаньскім і Кракаўскім універсітэтах. Большасць апублікаваных ім навуковых прац па славянскім мовазнаўстве былі прысвечаны дыялекталогіі, анамастыцы і гісторыі беларускай мовы. Найбольшую ўвагу аддаваў Палессю, значную частку якога аб'ездзіў і абышоў у час дыялекталагічных экспедыцый. Прасочваў сувязі Палесся з Валынню, спрабаваў вызначыць украінска-беларускую моўную мяжу.

**2**

— **75** гадоў з дня нараджэння **Гусака** Сяргея Адамавіча (1930—1969), беларускага крытыка і літаратуразнаўца.

Лічыўся перспектыўным крытыкам і літаратуразнаўцам. У 37 гадоў ужо быў абраны намеснікам дэкана філалагічнага факультэта БДУ, а ў 38 — прызначаны рэктарам Брэсцкага педагагічнага інстытута.

Выступаў з літаратуразнаўчымі навукова-метадычнымі распрацоўкамі і з літаратурнымі артыкуламі ды рэцэнзіямі адносна бягучага творчага працэсу. Быў прынцыповым і шчырым у сваім стаўленні да мастацкай літаратуры і ў самааддадзенай любові да роднага слова. За сваё кароткае жыццё выдаў адну кніжку (пра творчасць А. Кулакоўскага). Пасля смерці сябры сабралі яшчэ адну — «Пафас праўды» (1973).

**6**

— **50** гадоў назад (1955) была створана газета Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой **«Голас Радзімы»**. Да студзеня 1960 года называлася «За вяртанне на Радзіму». Выходзіць штотыдзень да гэтага часу. Шмат друкуе мастацкіх і літаратурных твораў беларускіх аўтараў. Да 1993 года пры тыднёвіку выдавалася «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы» (па 4—6 назваў штогод). Аднак цяпер *«няма таго, што раньш было»...*

**10**

— **100** гадоў з дня нараджэння **Баркоўскага** Сцяпана Андрэевіча (1905—1966), беларускага крытыка, літаратуразнаўца, этнографа.

С. Баркоўскі, на мой погляд, не так адметны як літаратар (не паспеў раскрыць свой патэнцыяльны талент), наколькі выбітны як асоба. Рана застаўшыся без бацькоў і скончыўшы школу ў Слуцку, падлеткам прымаў пасільны ўдзел

у Слуцкім паўстанні 1920 года. Пасля вучобы ў БДУ працаваў у Акадэміі навук. Актыўны крытык «Маладняка». На яго кватэры, якая была своеасаблівым «літаратурным салонам», збіралася творчая багемная моладзь таго часу (В. Сташэўскі, В. Шашалевіч, В. Каваль, В. Маракоў ды шмат хто яшчэ)...

У 1936 годзе С.Баркоўскі быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў зняволення. Гарбаціў на далёкіх усходніх прасторах былой імперыі. У 1955 годзе быў рэалібітаваны і вярнуўся ў Мінск. Даследаваў паэзію В. Маракова, А. Дудара, прозу В. Каваля. У Акадэміі навук займаўся таксама беларускай народнай вышыванкай і праблемамі этнаграфіі Беларусі XIX стагоддзя.

**12**

— **115** гадоў з дня нараджэння **Нёманскага** Янкі (сапр. Пятровіч Іван Андрэевіч; 1890—1937), беларускага празаіка, публіцыста, вучонага-эканаміста і грамадскага дзеяча.

Родам з Навагрудчыны. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1909) і пэўны час працаваў настаўнікам. Вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Петраградскага універсітэта. Служыў у царскай арміі. Рэвалюцыю сустрэў з уздымам. Ваяваў у Чырвонай Арміі. Пасля працаваў у Беларускім народным камісарыяце. Разам з Ц. Гартным выдаваў першую беларускую савецкую газету «Дзянніца» (1918—1919). На працягу 1918—20 гадоў з Я. Карскім, А. Сержпутоўскім, А. Шахматавым быў членам вольнаэканамічнага таварыства у Петраградзе. З 1921 года жыў у Мінску. Быў членам Інбелкульта і праўлення літаратурна-мастацкага аб'яднання «Полымя». З 1927—1937 — член ЦВК. Сябраваў з Янкам Купалам, Якубам Коласам і Ц. Гартным. У сакавіку 1937 быў беспадстаўна арыштаваны і ў красавіку таго ж года расстраляны. У 1957 годзе рэабілітаваны.

Пісаў апавяданні «пра жыццё працоўнага чалавека» (кніжка «На зломе», 1925). Аўтар аповесці «Партызаны» і незакончанага рамана «Драпежнікі».

**14**

— **125** гадоў з дня нараджэння **Дылы** Язэпа (Восіпа Лявонавіча; 1880—1973), беларускага празаіка, драматурга і грамадскага дзеяча.

Як літаратар значнай мастацкай спадчыны не пакінуў. Аўтар некалькіх літаратурных абразкоў і вершаў, надрукаваных у «Нашай Ніве». Змяшчаў таксама публіцыстычныя артыкулы ў газеце «Дзянніца». Напісаў некалькі п'ес гістарычнай тэматыкі, а таксама раман (незакончаны) і аповесць «Настасся Мякота» (праваобраз сённяшняй кіношнай «Анастасіі Слуцкай»). Добра знаўся з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

І ўсё ж грамадска-культурная значнасць асобы Язэпа Дылы ў беларускай нацыянальнай гісторыі куды большая. Скончыўшы Слуцкую гімназію, дзе заспеў пачуць вершы з вуснаў яшчэ жывога Альгерда Абуховіча, ён паступіў у Юр'еўскі (Тартускі) ветэрынарны інстытут, адкуль за ўдзел у антыўрадавых выступах праз тры гады быў выключаны без права далейшага паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Быў у Мінску супрацоўнікам газеты «Северо-Западный край». Пасля працаваў у выдавецтвах Пецярбурга, Казані, Масквы. Быў знаёмы з А. Купрыным, Л. Андрэевым, М. Арцыбашавым і А. Калантай. Са студзеня 1919-га — камісар працы ў Часовым рабоча-сялянскім урадзе Беларусі. У 1921—23 гг. — старшыня Цэнтрабелсаюза, а ў 1923—24 гг. — старшыня Дзяржаўнай планавай камісіі БССР, вучоны сакратар Інбелкульта. Быў дырэктарам БДТ-1 (цяпер Нацыянальны тэатр Я. Купалы). Займаў пасаду інспектара Наркамасветы БССР, быў членам ЦВК БССР.

У 1930 годзе рэпрэсаваны. Адбываў пакаранне ў Кунгуры і Саратаве да 1939 года. У 1957 годзе быў рэабілітаваны. Памёр і пахаваны ў 1973 годзе ў Саратаве.

**14**

— **120** гадоў з дня нараджэння **Рак-Міхайлоўскага** Сымона Аляксандравіча (1885—1937), беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, публіцыста і педагога.

Родам з Маладзечаншчыны. Скончыў Феадасійскі настаўніцкі інстытут. У 1914—17 быў на вайсковай службе. З 1917 года ўваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, быў членам яе ЦК, а таксама ўдзельнікам Усебеларускага з'езда 1917 года. Адзін з лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Шмат працаваў на асветнай, культурнай і адукацыйнай ніве. У Заходняй Беларусі арганізаваў Таварыства беларускай школы, заснаваў Беларускую партыю незалежных сацыялістаў, а ў 1925 годзе быў ініцыятарам стварэння Беларускай сялянска-работніцкай грамады, з 1926 года — член КПЗБ. У 1927 годзе арыштаваны польскімі ўладамі. З 1931 года працуе ў Мінску дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, з'яўляецца членам ЦВК БССР.

У 1933 годзе арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў няволі па справе «Беларускі нацыянальны цэнтр». У канцы 1937 года расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Пісаў пераважна адозвы і публіцыстычныя артыкулы нацыянальна-вызваленчага накірунку.

**14**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Пруднікава** Алеся (Аляксандра Трафімавіча; 1910—1941), беларускага паэта.

Ураджэнец Клімавіцкага раёна. Працаваў на будаўніцтве чыгункі, а пасля на будоўлях Мінска. Вучыўся на творчым аддзяленні Мінскага педагагічнага інстытута. У 1933 г. быў арыштаваны, але праз восем месяцаў вызвалены і прызваны ў рады Чырвонай Арміі. У 1938 годзе скончыў Ленінградскі настаўніцкі інстытут. Займаўся педагагічнай дзейнасцю ў Карэльскай АССР. Загінуў на самым пачатку вайны непадалёк ад свайго месца жыхарства.

Выйшла асобным выданнем паэма «Зямныя зоры»(1932). Нізка вершаў змешчана ў калектыўным зборніку «Крывёю сэрца» (1967).

**14**

— **85** гадоў з дня нараджэння **Карпюка** Аляксея Нічыпаравіча (1920—1992), беларускага празаіка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

Нарадзіўся на Беласточчыне. У Вільні скончыў два класы польскай гімназіі. У 1939—1941 гг. вучыўся ў Навагрудскім педагагічным вучылішчы. Падчас вайны быў удзельнікам партызанскага руху. Пасля вайны скончыў аддзяленне англійскай мовы Гродзенскага педагагічнага інстытута, а ў 1961 — Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. З 1965 года — сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СП БССР. Узнагароджаны ордэнамі СССР і Польшчы. Заслужаны работнік культуры БССР.

Напісаў шмат цікавых празаічных твораў. Сярод найбольш выбітных — «Данута», «Вершалінскі рай», раман «Карані». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1986) за кнігу «Сучасны канфлікт». Знаны авантурны аратар, выступленні якога стараліся не прапускаць нават вядомыя літаратурныя самотнікі. Сумленнік, нярэдка яры змагар за адно яму вядомую праўду, шчыры савецкі аптыміст... Падчас здаецца, што пераважна гэтым ён усё яшчэ і помны да цяперашняй пары.

**15**

— **85** гадоў з дня нараджэння **Ракітнага** Міколы (сапр. Новікаў Мікалай Ісакавіч; 1920—2000), беларускага празаіка.

Родам з Брагіншчыны. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў мастаком і літработнікам у газеце «Звязда». Пасля загадваў аддзелам літаратуры ў часопісе «Беларусь».

Аўтар многіх зборнікаў прозы. Апавяданні М. Ракітнага вызначаюцца як псіхалагічнай дакладнасцю і шчырасцю, так і натуралізмам і сентыментальнасцю.

**16**

— **70** гадоў з дня нараджэння (1935) **Клышкі** Анатоля Канстанцінавіча, беларускага празаіка, крытыка, перакладчыка, педагога, заслужанага работніка культуры РБ.

Нарадзіўся ён у Баранавіцкім раёне. Вучыўся ў Навагрудскім педагагічным вучылішчы. Пасля скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў у часопісе «Полымя», на «Беларусьфільме», у выдавецтве «Юнацтва», зноў жа — у часопісе «Полымя». У 1967 годзе выдаў кніжку «Права на верш», якая атрымала ў свой час даволі шырокі розгалас у прэсе і ў літаратурных колах. Даследаваў паэзію і паэтыку М. Багдановіча, М. Танка, Р. Барадуліна... Часта выступаў у перыядычным друку па актуальных праблемах літаратуры як востры і бескампрамісны палеміст. Пісаў творы для дзяцей. Але сапраўдную — не пабаюся сказаць — **славу** спадару Клышку прынесла напісанне ім у 1969 годзе беларускага «Буквара», які выдаецца па сённяшні дзень!

Таго тыражу, пэўна, хапіла б кожнаму цяперашняму грамадзяніну Беларусі. І, шчыра кажучы, тое было б не лішнім. Аўтар рускага і польскага буквароў для школ Беларусі.

Словам, калі ўлічыць, што ўсе мы былі дзецьмі і вучыліся ў школах, то каго ж нам, апроч бацькоў, памятаць як не Клышку?! Дзякуй Вам, Анатоль Канстанцінавіч! Ад усіх сённяшніх і будучых шчырых беларусаў! Здароўя і творчых здзяйсненняў!

**20**

— **65** гадоў з дня нараджэння (1940) **Мархеля** Уладзіміра Іосіфавіча, беларускага літаратуразнаўца.

Родам са Стаўбцоўскага раёна. Вучыўся ў школе імя Я. Коласа ў Мікалаеўшчыне. Працаваў малатабойцам і шахцёрам. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў настаўнікам, у газеце, у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Кандыдат філалагічных навук. Пісаў вершы. Займаўся літаратуразнаўствам. Выдаў кніжкі «Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні» (1983), «Вяшчун славы і волі» (1989), «Крыніцы памяці» (1990). Быў укладальнікам твораў В. Каратынскага і Я. Лучыны.

Пераклаў з польскай мовы вершы Янкі Купалы, У. Сыракомлі, В. Каратынскага, Я. Лучыны, Я. Каханоўскага, Л. Стафа, Ю. Тувіма, Р. Дабравольскага, Б. Драздоўскага ды іншых.

Віншуем Уладзіміра Іосіфавіча з юбілеем! Зычым здароўя і творчага плёну!

**21**

— **170** гадоў з дня нараджэння **Вуля** Ялегі Пранціша (сапр. Карафа-Корбут Элігій-Францішак Маўрыкіевіч; 9(21).4.1835—1880-я гады), беларускага паэта.

Нарадзіўся ў Віцебску ў сям'і беднага двараніна. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі. Не скончыўшы яе, працаваў пісцом у губернскай палаце дзяржаўных маёмасцей. Прымаў актыўны ўдзел у літаратурных гуртках. Творча знаходзіўся пад уплывам А. Вярыгі-Дарэўскага, Г. Марцінкевіча і свайго сябра па гімназіі К. Вераніцына (якога не так даўно пачалі афіцыйна вызнаваць як аўтара паэмы «Тарас на Парнасе»). У 1859 годзе Я. Вуль упісаў у «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага свой самы вядомы верш «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка». Гэтым творам аўтар адкрыта заяўляў пра свае дэмакратычныя настроі. Ад усёй творчасці Я. Вуля засталіся толькі два вершы (яшчэ адзін твор на польскай мове «Няновая думка»). Пры жыцці яны нідзе не друкаваліся.

Паэт актыўна ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года, за што і быў сасланы з сям'ёй у Сібір на восем гадоў пасялення. Адбыўшы тэрмін, вярнуўся ў Варшаву, дзе сумесна з В. Каратынскім і А. Плугам стварыў беларускі гурток.

М. Гарэцкі прагаворваўся, што ў Я. Вуля, апрача верша «К дудару Арцёму...», былі і іншыя беларускія творы. На жаль, да гэтай пары інфармацыя не знайшла свайго пацвярджэння.

## 23

— **65** гадоў з дня нараджэння (1940) **Казько** Віктара Апанасавіча, беларускага пісьменніка.

Нарадзіўся ён у Калінкавічах. Пасля таго як падчас вайны загінула маці, выхоўваўся ў дзіцячых дамах. Вучыўся ў Кемераўскім горным індустрыяльным тэхнікуме. Працаваў у шахце, у геолагаразведцы, у рэдакцыях газет. У 1970 годзе завочна скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага і ў 1971 годзе вярнуўся на Беларусь. Працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Советская Белоруссия», часопісе «Нёман». Два гады быў сакратаром СП БССР. У складзе беларускай дэлегацыі ўдзельнічаў у сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтра з 1989 года. Выступае ў друку з 1962 года. Напачатку пісаў па-руску. З 1978 года піша на роднай мове. Мае ў сваім набытку шмат цудоўных твораў. Пачынаючы з аўтабіяграфічнай аповесці «Суд у Слабадзе» і сваімі пазнейшымі творамі, такімі, як «Неруш», «Хроніка дзетдомаўскага сада», «Бунт незапатрабаванага праху», зарэкамендаваў сябе адным з найбольш таленавітых і выбітных творцаў сучаснай беларускай літаратуры. Філасофія натуралізму, псіхалогія несумяшчальнасці інтэлектуальнай асобы ў электаральным соцыуме, актуальнасць пытанняў духоўнага рэнесансу ў жыцці сучаснага чалавека — вось тыя камяні, на якіх асноўваецца зруб мастацкага плёну пісьменніка Віктар Казько.

Ён — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола і Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа.

Віктар Апанасавіч і сёння актыўна заяўляе пра сябе ў літаратуры і грамадскім жыцці краіны. Віншуем яго з юбілеем, жадаем здароўя, творчых удач і здзяйснення задуманага!

*Аўтар рубрыкі Леанід Галубовіч.*



*Паважаныя чытачы!*

*Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», якая выпускае часопіс «Полымя», з-за аб'ектыўных прычын не пастаўляе свае выданні ў кіёскі і магазіны УП «Белсаюздрук» у абласцях. Таму раім чытачам і аўтарам афармляць падпіску ў паштовых аддзяленнях сувязі. А падпісныя цэны на «Полымя» наступныя:*

***індывідуальная (індэкс — 74985) на 1 месяц — 3200 руб., на 3 месяцы — 9600 руб.; ведамасная (індэкс — 00141) на 1 месяц — 4200 руб., на 3 месяцы – 12600 руб.; льготная (індэкс – 00727) на 1 месяц – 3500, на 6 месяцаў — 21000 руб.***

*У Мінску часопіс «Полымя» можна купіць як у кіёсках, так і ў магазінах УП «Мінгарсаюздрук». Нерэалізаваныя праз кіёскі і магазіны горада выданні пасля двух месяцаў з даты выхаду перадаюцца ў магазіны па наступных адрасах:*
*№ 3 — пр. Ф.Скарыны, 76, тэл. 232-46-23;*
*№ 8 — вул.Сурганава, 40, тэл. 232-45-10;*
*№ 15 — вул. М.Танка, 16, тэл. 284-31-06;*
*№ 18 — падземны пераход на пл. Перамогі, тэл.284-31-06*

*Нагадаем, што ў выпадку неабходнасці ўдакладніць наяўнасць патрэбных вам нумароў часопіса ў гандлёвых прадпрыемствах УП «Мінгарсаюздрук» або заказаць іх можна зноў жа праз магазін № 18 (тэл. 284-31-06) ці праз дыспетчара «Мінгарсаюздруку».*

**Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.**

*e-mail: minsk@lim.by*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

---

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 30.03.05 г. Фармат 70x1081/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 19,19. Тыраж 3274 экз. Зак. 656.

---

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

*Работнікі рэдакцыі армейскай газеты «Савецкі патрыёт» 4-й арміі. У другім радзе другі справа — Пімен Панчанка. 1945 г.*



*Пімен Панчанка (злева) з франтавым сябрам. Паўночна-Заходні фронт. 1942 г.*



*Максім Танк і Пімен Панчанка. 1942 г.*

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 00141

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

Пятро Прыходзька
Паўлюк Прануза
Вершы

Васіль Шабалтас
ДУШАГУБ
Аповесць

А. Каваленя, У. Лемяшонак
КРЫНІЦА ПАМЯЦІ НАРОДНАЙ
«Круглы стол» часопіса і Інстытута гісторыі Акадэміі навук

У другім паўгоддзі ў «Полымі» будуць апублікаваныя дзённікі народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068